

# ПОЛЫМЯ

*ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ*
*І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС*

**2** (1012)

*ЛЮТЫ*

**Выдаецца**
**са снежня 1922 года**



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ВЫДАВЕЦКІ ДОМ «ЗВЯЗДА»

Мінск 2014

## *ЗМЕСТ*





ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб’яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



## Віктар ГАРДЗЕЙ

# ПАДУЧАЯ ЗОРКА

***Нашто ж на зямлі***
***Сваркі і звадкі, боль і горыч,***
***Калі ўсе мы разам ляцім***
***Да зор?***
Максім БАГДАНОВІЧ

**1**

Гасцей Зямлі, шчасліўцаў лёсу,
Не здзівіць нас, ужо старых,
Сярод сусветнага хаосу
Падучай зоркі яркі штрых.

Зусім не знак якісь прарочы —
Страла агністая тырчком.
Душа чужая апаўночы
Ляціць, мінаючы свой дом.

Над крутаярам ці над кручай,
Што позірк выхапіць наўзгад,
Імгненне зоркаю падучай
Свяціцца сіні далягляд.

---

***Гардзей Віктар Канстанцінавіч*** *нарадзіўся 19 жніўня 1946 года ў вёсцы Малыя Круговічы Ганцавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1984). Працаваў у часопісах «Беларусь», «Родная прырода», «Маладосць», «Полымя», «Вожык», у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Цяпер — у газеце «Літаратура і мастацтва».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Касавіца» (1975), «Верасное палясоўе» (1978), «Засевак Радзімы» (1983), «Незабудкі азёр» (1985), «Узрушэнне» (1988), «Дзікая пчала» (1994), «Зялёныя дажджы» (1997), «Межань» (1999), «Трыадзінства» (2010), кніг прозы «Дом з блакітнымі аканіцамі» (1984), «Карані вечнага дрэва» (1988), «Уратуй ад нячыстага» (1992), трылогіі «Аселіца ў басейне Чорнага мора» (2000), рамана «Бедна басота» (2003), шматлікіх паэтычных кніжак для дзяцей.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа (1994), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2008).*

Сярод пакліканых і званых
Апошні ўзбліск — і змрок гусцей.
А колькі дум неспадзяваных,
Сяброў праводзячы з гасцей.

**2**

Іду ў самоце, а над полем
Шчыруе месяц малады.
Пакліканым — і хлеб з куколем,
Пазваным — салады-мяды.

Сябе не звязваў нейкай клятвай
І жыць бадзягам не прывык.
Знайсці б шаўца — сашчэпіць дратвай
«Разяўлены» мой чаравік.

Дзе толькі ні насілі ногі,
А верад ставіў іх праўцом.
Бадзягу і начлег убогі:
Як зморыць сон, — хоць пад кустом.

**3**

Ляжыш, туманамі акрыты,
Мядовых трункаў і не жджы,
Лепш думай пра метэарыты
І метэорныя дажджы.

Мана хіба, што Леаніды
Не вернуцца ўжо на Зямлю?
То метэоры, то баліды —
Прыблудных, іх я не люблю.

**4**

Тут не ўгадаць: ці лёс быў горкі,
Ці проста шчасце абышло,
Але ў падучай гэтай зоркі
Зусім не цьмянае святло.

Вядома, што ў начы туманнай
Душа няхрышчанай ляціць.
Гукні яе Іванам, Ганнай
Ды не забудзь перахрысціць.

Вунь зорка далячынь рассекла,
І, на здзіўленне злыбядзе,
Душа мінае браму пекла —
У райскіх шатах упадзе.

Ратуе ўсё ж імя жывое,
Няважна — Ганна ці Іван.

Няхрышчаных, між тым, не двое —
Бясконца свеціцца туман.

**5**

Цяплынь трымае лесу полаг,
І зорыць неба між галін.
Трывожны бляск, агністы сполах —
Ляціць балід яшчэ адзін.

Усторч да гарызонту ззянне —
Павер’е ёсць даўным-даўно:
Загадвай як хутчэй жаданне,
І будзе споўнена яно.

**6**

А захад, як рубін, чырвоны,
За сонца, мабыць, чырваней.
Не любяць яркі бляск ягоны
Нячысцік, бесталач, сугней.

Адвечны час, які я слаўлю,
Наплыў з паданняў даўніны.
Хай Пінску, Тураву, Заслаўлю
Не дакучаюць кажаны.

На Прыпяці Залатавуста
Набатам гуў царкоўны звон.
Таму і ў небе знічак густа —
Апошні ўзлётных душ прагон.

**7**

Начной фіялкі, руты-мяты
Звычайна водар давідна.
Уздрыгнуў лёсу лук напяты —
Ляціць страла ўжо не адна.

Нібы гадзіннік той пясочны
Сыпнуў на лес паміж канаў,
І сумна ўсё ж, бо ў час урочны
Паблізу мучанік сканаў.

Яго душа мільгнула знічкай
Сярод падобных на сябе,
Над лесам цёмным, над крынічкай
Струмень мядовы стаў слабей.

Праводзіць цяжка, можа, друга,
І ўжо гарчыць палын-трава,
Ды лук напяўся зноўку туга,
Пачуеш — лясне цеціва!

**8**

Пад Воршай, Полацкам і Лідай
Асцерагалі продкі нас.
Гадзіннік, не прабіты дзідай,
Адлічваў, як і трэба, час.

Наш цяжкі грэх наблізіў кару,
І цэркваў зрынутых шкада.
Пасля прадказанага ўдару
Згарчэла ў Прыпяці вада.

Гусцей на страчаных угоддзях
Чарнобыльніку парасля.
То — сведчыць Кон — цвяткі стагоддзя,
А будуць ягадкі пасля.

9

Надоечы «круцілі» кадры:
Чалябінск трапіў пад абстрэл.
На горад падалі, як ядры,
Абломкі міжпланетных цел.

Агонь і дым, і клубы пары,
Ды грукатала і трасло.
Глядзець на ўспоратыя хмары
І праўда жудасна было.

**10**

У ясны прыпар вечаровы
Шпурляюць стрэлы перуны,
І кажаны ляцяць на ловы:
Палююць знічку кажаны.

Яе падучаю назвалі,
А шлях яе між зор пралёг,
І чыйсьці след змываюць хвалі
Ракі, што плешчацца ля ног.

Уранку жаліцца ляшчыннік
За кожны спалены арэх,
Хоць не гаруе суайчыннік,
Што ў райскі сад не пусціць грэх.

Паміж Эдэмам і Нірванай
То нізкі бераг, то высок,
Дзе толькі гук струны парванай
Дрыжыць, сцякаючы ў пясок.

**11**

Халодны космас не па-брацку
Наводзіць на планету жах:
Бяда наваліцца знянацку
І, як заўсёды, па начах.

Цяпер у ліха ёсць і назва —
Чалябінскі метэарыт.
Фатограф, кадры не паказвай:
Жудою я па горла сыт.

**12**

Шчаслiўцаў лёсу, нас без ліку,
Хто райскіх яблынь не трасе,
Дзе і ў парваным чаравіку
Гуляць бяспечна па расе.

Сышлі пакліканыя госці
У змест паданняў і балад.
Хоць помніцца нам з маладосці:
Шалёны ў жніўні зоркапад!

Спрадвек ля нівы хлебадайнай
Быў пераход, цераз які
Апоўначы крадуцца тайна
Касцоў і жнеяў двайнікі.

**13**

Вось дом стаіць, ужо не цесны,
Разбіты келіх на стале,
І двайніка пагляд злавесны
Іскрыць у месячным святле.

Пад бразгат клямкі — насцеж сені,
Аднак не ведзьмакі былі.
Гаворац міфы: гэта сцені
Людзей, што ў доме тым жылі.

Адбіткі з цьмянага люстэрка
І з лужын, высахлых за дзень.
З якою ж радай ці праверкай
Сюды брыдзе абрыдлы сцень?

На ростанях каля аселіц
Надзей не дасць трымценне зор.
Іван і Ганна праляцелі
І абмінулі родны двор.

**14**

Убачыць іх сябры паспелі,
Дзе свеціцца сузор’е Леў,
Далі імёны без купелі,
І ўвесь абшар павесялеў.

Напэўна, будзе дзень гарачы,
Даспеюць жыта і авёс.
У поймах Шчары, Лані, Начы
Сухі ставок, змялелы плёс.

Хаос у воблаках высокіх,
І — на Зямлі, бо наўзахоп
Вяшчуюць новыя прарокі
І зледзяненні, і патоп.

**15**

Парой начною дом знямелы
Ужо не журыцца амаль.
Пярун раскацiста-злюцелы —
Чуваць, як дзынкае крышталь.

Бадзяўся я, а не гуляка,
На ганку трошкі пасяджу.
Не грэшны клятвай аніякай,
Дык лёгка вымаліў дажджу.

**16**

Мяне, настырнага сядзельца,
Бянтэжыць кожны гук і крок.
Адбіўся ў крышталі і шкельцах
Знаёмы воблік незнарок.

Шум навальнічны каля броду
І бляск маланак на дварэ.
Кажан у кепскую пагоду
Жывую знічку не дзярэ.

Яна, хрышчоная, мільгнула,
І ў імені ўжо новы змест:
Царкоўны звон гудзе прачула —
На ютрань кліча дабравест.

Маўкліва ясені і клёны,
Дый дуб, нямераны ў камлі,
Суцешаць нас, адушаўлёных,
Пакуль яшчэ гасцей Зямлі.



Мікалай ЧАРГІНЕЦ

# АПЕРАЦЫЯ «КРОЎ»*

*Раман*

## Раздзел 22

Святлана ўсё бачыла і чула. Яна вельмі хацела пайсці разам з Жэняй і дзецьмі ў гета. Але прабітая цвіком нага яшчэ не зажыла, і боль адчуваўся на кожным кроку, таму Света паслухалася сяброўку і чакала яе на могілках. Яна бачыла ўсё, што здарылася, і, як толькі паліцэйскія адвялі Жэню, адразу ж кінулася шукаць Леаніда. Ёй пашанцавала. Калі яна наблізілася да дома, дзе пражываў з бацькамі Леанід, ён сам выйшаў з дома, прычым з вінтоўкай на плячы, значыць, накіроўваецца на службу.

— Лёня, прывітанне! — паздароўкалася Света. — Лёня, у нас бяда. Латышскія паліцаі схапілі Жэню, а Лёшу і Віцю з сёмага класа забілі.

— Як забілі? Дзе гэта здарылася?

— Яны ў гета хадзілі да знаёмых. Шкада ж іх. Там забіваюць, мардуюць голадам. Ну, а калі вярталіся праз агароджу ў бок могілак, паліцаі забілі дзяцей, а Жэню схапілі. — Святлана расказала ўсё, што бачыла.

— А ты што, не пайшла з імі?

Дзяўчынка паказала на перавязаную нагу:

— Бачыш. Я наступіла на цвік, і мне балюча хадзіць. Жэня сказала, каб я засталася на могілках, на «шухеры».

— Не магла ім крыкнуць, што з'явіліся ахоўнікі?

— Лёнька, слова гонару, я іх не бачыла.

— Добра, ідзі дахаты, толькі зайдзі да Жэнінай мамы, папярэдзь. На ўсякі выпадак хай падрыхтуецца, раптам да яе прыйдуць, шмон могуць навесці. Зразумела?

— Ага. Дапамажы, Лёнечка. Адно спадзяванне на цябе!

— Ідзі, ідзі, не хныкай! Я паспрабую зрабіць усё, што змагу. Ты ж ведаеш, што я не ўсё магу.

Паабяцаўшы дапамагчы, Леанід адразу ж успомніў пра Ліпковіча. Праводзіўшы Свету, ён павярнуўся і пайшоў дамоў. Ён ведаў, што ў маці прыхавана бутэлька самагонкі. Маці не пярэчыла, дала бутэльку, кавалак вяленага мяса, паўбуханкі хлеба і дзве цыбуліны.

Ліпковіч, скончыўшы службу ў паліцэйскім упраўленні, збіраўся сыходзіць. Лёнька падышоў да яго.

— Абрам Іосіфавіч, ёсць гаворка. Думаю, што без бутэлькі тут не абысціся. — Леанід разгарнуў папяровы скрутак.

---

* Працяг. Пачатак у № 1, 2014 г.

— Ого, нават закусь ёсць, — узрадаваўся паліцай і спытаў: — А ў цябе куды нарад?

— Патруляванне яшчэ з двума ў раёне вуліцы Старажоўскай.

— Пачакай, я скажу начальству, што ты мне патрэбен. — Ліпковіч павярнуўся і накіраваўся ў кабінет начальніка паліцыі. Усім сваім выглядам ён паказваў: глядзі, які я ўплывовы, тут нават начальства мяне паважае. Усе ведаюць, у якіх адносінах я з акупацыйнымі ўладамі. Не прайшло і трох хвілін, як ён з’явіўся ў калідоры.

— Парадак. Ты — на спецзаданні са мной. Зразумеў?

— Ты малайчына, Абрам.

Нягледзячы на вялікую розніцу ў гадах, яны мелі адносіны на роўных. Выйшлі ў двор і накіраваліся да невялікага хлеўчука.

— Слухай, Абрам, — успомніў Леанід, — я ж шклянкі не ўзяў.

— Не перажывай. У Ліпковіча ўсё ёсць. Тут мой асабісты сакрэтны кабінет. Ніхто без мяне сюды не мае права ўваходзіць. — Ён адкрыў ключом унутраны замок і пацягнуў на сябе дашчаныя дзверы. — Прашу ў маю сінагогу! — Ліпковіч жэстам паўтарыў запрашэнне.

Леанід увайшоў і не стрымаўся:

— Ух ты! Як у палацы!

У памяшканні стаяла дарагая мэбля. На падлозе і сценах — дываны, у адным куце — сейф, у процілеглым — буржуйка. У цэнтры, відавочна з багатага гарнітура, круглы стол. Каля сцяны штосьці накшталт серванта з прыгожым посудам.

— Усё ў мяне ёсць, — з гонарам прамовіў Ліпковіч, — акрамя шнапсу. У жыдоў з гэтым дрэнна. Ну што, даставай свой запас. — Абрам хутка заслаў стол абрусам, дастаў дзве стограмовыя чаркі і паклаў нож. — Ну, дзейнічай.

Выпілі па адной, затым па другой, трэцяй, і Ліпковіча развезла. Тое, што пачуў Леанід, яго ўразіла. Па-першае, гэта інфармаванасць Абрама. Расказаў, як Кубэ забілі і як расстрэльвалі ці не кожнага дзясятага ў турме, а практычна ўсіх падрад, як знішчалі сотні і сотні мінчан. Потым раптам паведаміў:

— У канцы месяца з гета вывезем больш як тысячу жыдоў у раён Дражні, там ужо ямы капаюць. Вялікую частку — туды, меншую — у крэматорый, а іх шчанюкоў — у Сёмкава.

— А што гэта — Сёмкава?

— Ты што, не ведаеш? — Ліпковіч прыклаў палец да вуснаў. — Толькі нікому, зразумеў, нікому. За балбатню пра гэту вёску толькі адно — куля. Праўда, спачатку ў камеры катаванняў у гестапа пасядзіш. Там з цябе ўсё жывое вымуць.

— Пра што ты кажаш?! Я ж, як і ты, — паліцай.

— Так, вядома, так. Але паглядзі на мяне, якой я нацыянальнасці? Ясна — жыд, а са мной немцы за руку вітаюцца, праўда, б...., пальчаткі не здымаюць. А чаму? А таму, што ёсць жыды, а я — яўрэй! Нашы новыя гаспадары ўмеюць паважаць адданасць. А ў мяне ўжо іншай дарогі няма. Толькі з імі,— сумна сказаў ён і раптам схамянуўся.— Слухай, Лёня, а хочаш, я ўладкую цябе ў сваю каманду. Паедзеш са мной у Дражню, пастраляеш. Вось скажы, колькі ты прыкончыў чалавек?

Леанід разгубіўся. Ён яшчэ ні разу ні ў каго не страляў. Але разумеў, калі адкажа сумленна, Ліпковіч страціць да яго цікавасць. Ён узяў бутэльку і разліў самагонку па чарках:

— Вядома, часам страляў. Не лічыў.

— Во-во, а там, у Дражні і Трасцянцы, будзеш страляць не цаляючы, і кожная твая куля — у цэль. Бывае, што адной куляй можна адразу дваіх заваліць.

— Дзякуй табе, Абрам, за давер да мяне. Я захапляюся табой. Дарэчы, дык што там, у Сёмкаве?

Пачуўшы пахвальбу, Ліпковіч ужо не сумняваўся ў суседзе.

— Там пад шыльдай дзіцячага інтэрната створаны донарскі цэнтр. Прывозяць туды сотні дзяцей ва ўзросце ад шасці гадоў і бяруць кроў, пакуль не здохнуць. Завозяць сотнямі дзяцей, там жа і хаваюць. Сам разумееш, наша армія цяпер нясе вялікія страты. Вельмі шмат параненых, каб іх выратаваць, трэба шмат крыві. Дзіцячая кроў лепшая, чым у дарослых, таму вязём туды сотнямі. Тых, хто вечкам накрыўся, адпраўляем у крэматорый ці ж закопваем на глыбіню штыка лапаты. Галоўнае, каб мясцовыя не даведаліся. І ты, Лёня, маўчы! Пад страхам смерці маўчы! Інакш нам абодвум — каюк. Ніхто нас не выратуе. З Берліна прыйшоў загад — у выпадку адступлення ўсіх дзяцей знішчыць.

— А як табе стала вядома пра гэта?

— «Як, як». Туды прыкамандзіравалі зборны латышска-літоўскі атрад, а мне адведзена спецыяльная роля. Гаўтман Шлотэн — чалавек вельмі важны ва ўсёй сістэме гестапа. У яго свой канал на Берлін. Мяне паважае і давярае, як сабе.

— Слухай, Абрам. Ты сям'ю Статкевічаў ведаеш?

— А як жа, жывуць жа недалёка. У сям'і восем чалавек. Бацька знік адразу ж, як Мінск занялі. Хутчэй за ўсё загінуў.

— Разумееш, ёсць у іх дачка Жэня. Мы з ёй разам у школе вучыліся і пасябравалі. Цяпер з ёй бяда здарылася. Дапамагчы ёй можа толькі ўплывовы чалавек, такі, як ты. Дапамажы мне, век не забуду. Усё зраблю, што скажаш. Разумееш, два мальцы і Жэня з сяброўкай-аднакласніцай пайшлі ў гета, аднакашнікаў наведаць.

— І пайшлі, вядома, не праз вароты?

— Твая праўда. Дзіўны ты чалавек, Абрам. Я захапляюся табой. Вось і яны пралезлі пад калючым дротам. А там гэтыя хлопцы з латышскага батальёна. Вырашылі, што ў мальцоў золата ёсць. Дзяцей прыстрэлілі, а Жэню — у паліцыю. Дапамажы мне, Абрам, ніколі не забуду. Леанід ізноў напоўніў чаркі.

— У цябе што з ёй, любоў?

— Ты ўсё разумееш. Дык як, дапаможаш?

— Добра, паспрабую. Заўтра з раніцы займуся.

— А позна не будзе? Ці нельга сёння? Дзяжурны, напэўна, ведае цябе. Скажаш, што латышы перабралі, патрабавалі ў дзяцей грошай, а калі пераканаліся, што нічога няма, мальцоў забілі, а Жэню схапілі.

— А дзе яе сяброўка?

— Яна не хадзіла ў гета, чакала іх на могілках. Яна ўсё бачыла, вось і прыбегла да мяне, па старым сяброўстве папрасіла.

— Ну, добра. Калі ты просіш... — Ліпковіч узяў бутэльку і напоўніў чаркі.— Ну, давай, за поспех.

— За поспех.

І здарыўся цуд.

Ліпковіч сапраўды меў асаблівую вагу сярод паліцэйскага начальства. Праз гадзіну Леанід з вінтоўкай на плячы выпраўляў Жэню дамоў. Усю дарогу Жэня плакала.

— Разумееш, калі б я не паслухала дзяцей і не пайшла з імі, яны таксама не пайшлі б. Якая я дурніца!

— Каго ты бачыла ў гета? — Леанід паспрабаваў адцягнуць увагу дзяўчыны.

— Я была ў Рабіновічаў і Левіных. Яны разам жывуць. — І Жэня расказала пра трагедыю ў гэтых сем'ях, пра бясчынствы немцаў і паліцаяў, масавыя забойствы і пагромы.

Леанід ціха, з болем у голасе прамовіў:

— Вось у якое гаўно я ўступіў! Што мне рабіць?

— Што рабіць? Працаваць у інтарэсах Радзімы. Ты ж можаш шмат даведацца. Будзеш мне расказваць, і там, дзе трэба, будуць ведаць, што ты не той паліцэйскі і не такі, як Ліпковіч.

— Як той казаў, дай бог! Цяпер паслухай, што мне паведаміў Ліпковіч.— Леанід падрабязна расказаў пра тое, што рыхтуюцца знішчыць насельнікаў гета, і, вядома ж, пра інтэрнат у Сёмкаве.

— Ой, ледзь не забыўся, Ліпковіч казаў, што нібы з Берліна прыйшоў загад, каб былі гатовыя ў любы момант да забойства ўсіх дзяцей у інтэрнаце. Як я разумею, яны прадбачаць наступленне Чырвонай Арміі. І яшчэ. Раскажы падрабязней, як знайсці, дзе жывуць Рабіновічы і Левіны. Я паспрабую выцягнуць з гета хоць бы Абрама...

— Як ты гэта зробіш?

— Падумаю.

— Але ты ведаеш, у іх там як бы калектыўная адказнасць: дастаткова камусьці ўцячы, як расстрэльваюць усіх суседзяў.

— Ведаю. Там кіруюць так званыя яўрэйскія саветы — юдэнраты. Чула?

— Штосьці ў гаворцы дарослых праслізгвала...

— Дык вось, гэтыя юдэнраты, ці, як іх называюць яшчэ, органы самакіравання, з ліку яўрэяў, прывезеных з Германіі, стварылі яўрэйскую паліцыю, якая нясе адказнасць за ахову парадку ў гета. Паліцэйскія атрады з латышоў, літоўцаў і карныя атрады зверствуюць не менш за саміх немцаў.

— Як жа так, яўрэі супраць яўрэяў?! — усклікнула Жэня.

— Справа ў тым, што яны знаходзіліся ў аднолькавым становішчы, але акупацыйныя ўлады вырашылі сутыкнуць прывезеных яўрэяў з мясцовымі. Яны аб'явілі нямецкім яўрэям, што калі яны будуць паводзіць сябе добра, дапамагаць уладам, аддаваць каштоўнасці, паведамляць пра падазроных асоб, дык пасля заканчэння вайны іх адправяць назад у Германію. Тыя вырашылі, што з'явіўся шанец выратаваць сваё жыццё, вось і далучыліся да знішчэння мясцовых. Немцы, каб усяліць у душы «сваіх» яўрэяў надзею на выратаванне, дазволілі ім адкрыць нават сваю бальніцу ў гета. Лекаў — ніякіх, затое ў бальніцы сталі размяшчаць інвалідаў, хворых і старых. А з бальніцы дарога адна — у Трасцянец, у газавыя камеры. Па-мойму, тут ёсць магчымасць выратаваць Абрама і не падстаўляць сваю і суседнія сем'і пад кулі. Не забудзь, Ліпковіч — набрыдзь яшчэ тая! Але, па-мойму, я падабраў да яго ключык.

Леанід раптам спыніўся.

— Ну, вось, ты і дома. Бяжы да маці.

— Лёнька, ты абавязкова трымай у курсе і мяне. Абрама трэба выратаваць. Мне здаецца, дарослым мы ўжо не дапаможам.— У яе на вачах з'явіліся слёзы.

— Я пайшоў,— збянтэжана прамовіў Леанід,— я зразумеў цябе.

## Раздзел 23

У досыць прасторнай зямлянцы, дзе знаходзіўся штаб брыгады, ля вялікага стала сабраліся камбрыг Грынёў, начальнік штаба брыгады Пазнякоў, начальнік разведкі Мароз, камісар брыгады Сенгін і госці з Масквы Іванова і Сігаеў. На стале — буйнамаштабная карта, якую толькі што дастаў з сейфа начальнік штаба. Усе сядзелі на самаробнай лаве і гэткіх жа табурэтках. Камбрыг уладкаваўся ў пачатку стала на «троне», як жартам назваў камісар абрэзак ствала магутнага дуба, які два байцы ледзьве ўнеслі ў зямлянку. Паклапаціўшыся «пра стульчык» для Грынёва, камісар усклікнуў: «Вось табе, Сяргей Іосіфавіч, і трон, узвышаючыся на якім, будзеш і далей кіраваць брыгадай».

Грынёў ужо ведаў, што ў час учарашняга налёту авіяцыі праціўніка на пазіцыі аднаго з атрадаў магутная бомба, падаючы наўскасяк, урэзалася ў ствол магутнага дуба. Выбухам перасекла ствол. Камандзір атрада і камісар вырашылі зрабіць падарунак камбрыгу.

Уладкаваўшыся на «троне», Грынёў жартам, заўважыў:

— А ведаеце, сябры, здаецца, на гэтым троне і думаецца лепш.

— Дзіва што! — пажартаваў Сенгін. — Дасведчаныя людзі рэкамендуюць хваробу праганяць, сіл набірацца, прыхінаючыся да дуба. Кажуць, лепш тварам…

Усе засмяяліся, улавіўшы намёк камісара.

— Добра, Сяргей Антонавіч, — працягваючы ўсміхацца, адказаў камбрыг, — пасля нарады я саступлю табе гэту частку дуба, парадуй свой твар, умацуй здароўе.

Настрой ва ўсіх быў выдатны. За апошнія два тыдні байцы брыгады падарвалі тры ваенныя эшалоны, перахапілі нямецкую калону на мяжы Лагойскага і Смалявіцкага раёнаў. Не меней як шэсцьдзясят акупантаў знішчылі і захапілі нядрэнны трафей. Акрамя зброі дасталася не менш важнае: цёплая адзежа і прадукты.

Напярэдадні нарады камбрыг атрымаў шыфроўку з Масквы, у якой штаб партызанскага руху аб'яўляў падзяку за добрыя вынікі і прапанаваў байцоў і камандзіраў, якія найбольш вызначыліся, прадставіць да ўзнагароды.

Настрой быў узнятым яшчэ і таму, што, мяркуючы па складзе ўдзельнікаў нарады, гутарка пойдзе пра хвалюючыя ўсіх лёсы дзяцей у Сёмкаве. Усе адчувалі, што вось-вось пачнуцца актыўныя дзеянні.

Камбрыг паклаў на карту блакнот.

— Спадзяюся, вы разумееце, таварышы, пра што мы будзем гаварыць? Фашысты працягваюць здзекавацца з нашага народа. На ўсю моц працуюць фабрыкі смерці, спальваюць штодня тысячы і тысячы нашых суграмадзян, у тым ліку нашых блізкіх і знаёмых. Сотні тысяч людзей утрымліваюцца ў канцлагерах, гета і турмах, дзе іх мардуюць голадам, холадам, катуюць і забіваюць. Самае страшнае — здзекі немцаў з нашых дзяцей, якія ў інтэрнаце ў Сёмкаве. Мы павінны прабрацца ў інтэрнат, сабраць інфармацыю пра сістэму аховы, распарадак, людзей, дакладней, нелюдзей, якія забіваюць нашых дзетак. Гэта задача ўскладаецца на Ганну Мікалаеўну, — камбрыг паглядзеў на палкоўніка Сігаева. — Я правільна кажу, Міхаіл Міхайлавіч?

— Так, Сяргей Іосіфавіч. Загад пра пачатак дзеянняў паступіць у бліжэйшыя дні. Мы ўжо далажылі пра гатоўнасць, усе дакументы атрыманы.

— Выдатна, — стукнуў па стале камбрыг, і працягваў: — Вызваленне дзяцей — гэта ваенная аперацыя. З гэтага вынікае правядзенне глыбокай і стараннай разведкі на мясцовасці. — Камбрыг звярнуўся да начальніка раз-

ведкі Мароза: — Вам неабходна забяспечыць праз нашых людзей пастаянную сувязь з Ганнай Мікалаеўнай, трымаць пад кантролем становішча ў вёсках вакол Сёмкава, асабліва ў самім паселішчы. Сачыць за тым, як немцы ахоўваюць дарогі з Сёмкава на Мінск, Радашковічы, Заслаўе, Астрашыцкі Гарадок. Тэрмінова дакладваць пра выпадкі ўзмацнення аховы гэтых дарог.

Камбрыг звярнуўся да начальніка штаба:

— Вы, Павел Міхайлавіч, па-першае, павінны аддаць вусны загад асабіста камандзірам атрадаў — ніякіх засад і актыўных дзеянняў у раёне Сёмкава і дарог, што вядуць да гэтага населенага пункта, без нашага загаду не праводзіць. Па-другое, неабходна рыхтаваць план аперацыі па вызваленні дзяцей. Я папрашу і вас, Міхаіл Міхайлавіч, па магчымасці далучыцца да распрацоўкі плана. Што трэба мець на ўвазе? Вызначыць шляхі руху нашых абозаў праз лясы, па мясцовасці, якая выключае баявое сутыкненне. На выпадак прымянення немцамі авіяцыі прадугледзець сродкі маскіроўкі.

— У гэтым выпадку, — падаў голас Сігаеў, — можна скарыстацца парашутамі. Імі можна ўкрыць і павозкі, і коней, і людзей.

— Выдатная ідэя, — пагадзіўся камбрыг. — Калі шмат снегу, парашуты — добры сродак маскіроўкі. Тым больш у нас дзякуючы пастаўкам з Вялікай зямлі гэтага рыштунку нямала. І яшчэ, — камбрыг звярнуўся да начальніка штаба і камісара, — нам трэба падумаць, дзе і як размясціць дзяцей. Знаходжанне іх у атрадах непажадана. Штодзённыя баявыя дзеянні дзецям без патрэбы. Трэба вызначыць пералік вёсак і пажадана спісы сем’яў, у якіх мы маглі б размясціць дзяцей.

— Правільна, — заўважыў Сігаеў, — тым больш, што ў хуткім часе самалётамі будзе дастаўлена значная колькасць дзіцячай адзежы і прадуктаў, а таксама прыбудзе вялікая група медыкаў і лекі. Гэта для медыцынскай дапамогі дзецям, партызанам і мясцовым жыхарам.

— Выдатна, — здаволена сказаў камбрыг і працягнуў: — Трэба чакаць, што калі завяжацца пры вызваленні дзяцей перастрэлка, то на дапамогу сёмкаўскаму гарнізону з найбліжэйшых нямецкіх гарнізонаў можа быць кінута падмацаванне. Таму даручаю начальніку штаба і начальніку разведкі пры падрыхтоўцы плана ўлічыць гэта і прадугледзець блакіраванне сіламі канкрэтных атрадаў гэтых гарнізонаў. Калі спатрэбіцца, звязаць іх агнём. Галоўнае, каб гарнізоны Сёмкава не атрымалі падмацаванне і шляхі нашага адыходу з дзецьмі не былі блакіраваны. І апошняе. План захопу непасрэдна інтэрната падрыхтуем у аператыўным парадку адразу ж, калі атрымаем інфармацыю пра сістэму абароны і аховы аб’екта, колькасць і ўзбраенне праціўніка. Пытанні ёсць?

— Так, — адказаў камісар. — Нам трэба ўжо цяпер падрыхтаваць неабходную колькасць коннага транспарту. На руках дзяцей не панясеш, а самі яны, напэўна, не змогуць ісці.

— Правільна, — пагадзіўся камбрыг, — трэба разам з атрадамі падрыхтаваць неабходную колькасць коней і саней. Усё ясна?

Усе ў знак згоды заківалі.

— Тады важную інфармацыю паведаміць нам прадстаўнік камандавання ў Маскве палкоўнік Сігаеў. Прашу вас, Міхаіл Міхайлавіч.

Палкоўнік дастаў з кішэні некалькі лістоў паперы, як бы працягваючы разважаць пра тое, пра што нядаўна гаварылі, сказаў:

— Кіраўніцтва Генеральнага штаба партызанскага руху да пачатку аперацыі сіламі партызан падрыхтуе шэраг манеўраў у іншых раёнах, што прылягаюць да Мінскай вобласці, каб адцягнуць увагу праціўніка. Ну, а цяпер я хачу давесці да вас, таварышы, інфармацыю і ўказанні вышэйшага кіраўніцтва краіны.

Кіраўніцтва нямецкага рэйха, плануючы вайну супраць СССР, рабіла гэта з мэтай палітычнага панавання, ідэалагічнага расавага генацыду ў адносінах да савецкага насельніцтва. Асобнай мэтай з'яўляецца масавае забойства савецкіх ваеннапалонных, татальны тэрор у адносінах да мірных грамадзян і поўнае фізічнае знішчэнне яўрэяў. Дзякуючы высокаму ўзроўню маралі савецкіх грамадзян, якія пражываюць на тэрыторыі Беларусі, захопнікам не ўдалося прыцягнуць насельніцтва да яўрэйскіх пагромаў, прымусіць яго ўдзельнічаць у масавых забойствах яўрэяў. Насельніцтва ўхілілася ад ажыццяўлення палітыкі нямецка-фашысцкіх захопнікаў, яно спагадае і сімпатызуе сваім суграмадзянам. Тады германскае кіраўніцтва і іх акупацыйныя сілы пайшлі на хітрасць: прызначылі ўпаўнаважаных прадстаўнікоў яўрэйскага савета. Яўрэйскія саветы падпарадкоўваюцца часовым гарадскім камісарам, якія ў большасці складаюцца са здраднікаў Радзімы. Павальна на акупіраванай тэрыторыі праводзіцца гвалтоўны захоп яўрэйскай маёмасці — каштоўнасцей, футраў і іншых каштоўных рэчаў і прадметаў. Акупанты праводзяць татальнае знішчэнне і мясцовага яўрэйскага насельніцтва, выконваючы загад пра поўнае знішчэнне яўрэяў, прыцягваюць да гэтага злачынства паліцэйскія фарміраванні Літвы, Латвіі, Эстоніі, Украіны, а таксама расійскія і беларускія калабарацыйныя структуры. Фашысты, прадбачачы свой хуткі канец, скарысталі яшчэ адну форму знішчэння мірнага насельніцтва — гвалтоўную эвакуацыю ў перыяд наступлення Чырвонай Арміі. Калі насельніцтва адмаўлялася падпарадкоўвацца загаду і неадкладна пакінуць жылыя памяшканні, для немцаў гэта было падставай для забойстваў. Так, у адпаведнасці з загадам каменданта Гомеля, жыхары павінны былі эвакуіравацца з горада да 17 кастрычніка 1943 года, тыя, хто да 24 кастрычніка знаходзіўся ў горадзе, расстрэльваліся там, дзе іх выяўлялі. Цяпер нямецкія спецслужбы ўзмацнілі акцыі дэзінфармацыі. У асяроддзе партызанскіх камандзіраў сталі ўкараняць дэзінфармацыю пра тое, што нібы абвер і гестапа могуць прыцягваць для сваёй агентурнай і разведвальнай дзейнасці яўрэяў. А паколькі яўрэі амаль павальна знішчаюцца на акупіраванай тэрыторыі, то гэтыя агенты нібыта будуць па-за падазрэннем. Мусіруюцца чуткі, што такія агенты могуць атручваць камандны склад партызанскіх атрадаў, прадукты, ваду, прызначаную для асабовага складу. Некаторыя камандзіры атрадаў і іх падначаленыя паддаліся гэтым правакацыйным чуткам. Ужо цяпер ёсць звесткі, што партызаны расстрэльвалі без усякіх падстаў ні ў чым не вінаватых яўрэяў, якія з неймавернай цяжкасцю выйшлі з гета і дабраліся да партызанскіх атрадаў. Іх беспадстаўна падазравалі ў тым, што яны маглі быць нямецкімі шпіёнамі. — Палкоўнік абвёў поглядам прысутных і, нібы падводзячы вынікі, даверліва сказаў: — Таварышы, хутка пачнецца вызваленне ўсёй тэрыторыі Беларусі і іншых раёнаў Савецкага Саюза. Нам трэба рыхтавацца да сумесных з Чырвонай Арміяй удараў па акупантах. Мы не павінны падазраваць яўрэяў, уцекачоў з гета, сялян, якія вяртаюцца ў свой дом, адкуль іх выгналі немцы. Трэба берагчы кожнага савецкага чалавека. Я думаю, што ўсе разумеюць сэнс гэтай шыфроўкі з Масквы?

Усе ў знак згоды заківалі галовамі.

## Раздзел 24

Маёр Вільгельм Мойрын з усіх сіл імкнуўся павялічыць эфектыўнасць «работы інтэрната». Для легенды, якая б прыкрыла сапраўдную дзейнасць інтэрната, яго дырэктар Вайтовіч быў пакінуты на ранейшай пасадзе. Мойрын зразумеў, што гэтаму прайдзісвету і злодзею проста няма куды ўцякаць. Маёр

загадаў тайна агледзець дом Вайтовіча і быў здзіўлены колькасцю дарагіх карцін, прадметаў, якія выкраў Вайтовіч. Перахаваць гэта дабро ён нікуды не мог, сяброў сярод сельскіх жыхароў у яго не было. Усё гэта было гарантыяй таго, што Вайтовіч нікуды не дзенецца, ніхто з вяскоўцаў яго не пашкадуе, якога ўсе ненавідзелі і лічылі сволаччу.

Прайшло не так ужо шмат часу, як маёр прыступіў да сваіх абавязкаў, а тэрыторыю інтэрната стала не пазнаць: падвойная драцяная агароджа, вышкі па перыметры, акопы, некалькі кулямётных дзотаў надзейна ахоўвалі зону. Староннi чалавек, акрамя мясцовых жыхароў, якія працавалі прыбіральнікамі, пасудамыйкамі, прачкамі, патрапіць на тэрыторыю не мог. Усю асноўную працу рабілі немцы. Лекары, санітары, лабаранты прайшлі добрую падрыхтоўку ў спецыяльных медыцынскіх установах Нямеччыны, усё, што яны рабілі тут, ні ў кога не выклікала падазрэнняў.

У інтэрнат актыўней стаў паступаць «тавар» ці «спецкантынгент». «Работа» вялася кругласутачна.

Маёр быў у сваім кабінеце, калі ўвайшоў радыст:

— Пан маёр, вас выклікае генеральны камісар, обергрупенфюрар фон Готберг.

— Падрыхтуйце машыну і ахову на матацыкле. Выезд праз дзесяць мінут.

Праз гадзіну Мойрын паўстаў перад генерал-лейтэнантам. Замест адказу на прывітанне «Хайль Гітлер!» Готберг стомлена зрабіў жэст рукой, паказваючы на крэсла каля прыстаўнога стала:

— Праходзьце, прысаджвайцеся, маёр. Вы, вядома, у курсе таго, што становішча на фронце ўскладнілася. Савецкія войскі выйшлі на тэрыторыю Беларусі. Я ўпэўнены, што гэта часовы поспех саветаў. Скажу вам па сакрэце: Берлін рыхтуе серыю стратэгічных аперацый, і наш паход на Маскву пачнецца зноў. Зараз ужо ўсё скончыцца ў Маскве. Наша перамога ні ў кога не выклікае сумненняў. Але, — генерал зрабіў шматзначную паўзу, — і мы абавязаны прыкласці максімум намаганняў, каб наблізіць час перамогі. Вы, маёр, — нечакана ўсміхнуўся генерал, — нават не ўяўляеце, што мы робім дзеля нашай перамогі. Штодня на захад ідуць дзясяткі эшалонаў з усім, што можа спатрэбіцца нашай краіне. Тысячы і тысячы здаровых мужчын і жанчын едуць у фатэрлянд на работу, яны заменяць тысячы нашых доблесных салдат на заводах, у шахтах, у абароннай прамысловасці і сельскай гаспадарцы. Мы стаім на парозе поўнага знішчэння яўрэяў і непатрэбнай нам часткі беларусаў, з якіх Нямеччыне спатрэбіцца толькі дваццаць пяць працэнтаў, астатніх — у расход. Але сёння, маёр, для фронту не меней важным з’яўляецца лячэнне параненых, найболей адважных і вопытных салдат і афіцэраў. Сёння па спецсувязі мне тэлефанаваў Гімлер. Ён абяцае любыя ўзнагароды, званні, але патрабуе шмат крыві. Вяртайцеся да сябе, маёр, і рэзка ўзмацніце дзейнасць цэнтра. Патрэбна кроў! Вы зразумелі мяне, Вільгельм? Перад вамі адкрываюцца велізарныя перспектывы. Вам Германія і фюрар даручылі зусім сакрэтную і вельмі важную задачу. Кроў патрэбна не менш, чым танкі, самалёты, артылерыя. Інакш і быць не можа. Самай сучаснай тэхнікай кіруюць людзі — салдаты і афіцэры вермахта. Можаце разлічваць на маё поўнае разуменне і дапамогу. Прасіце, што лічыце неабходным, але выканаць загад фюрара вы абавязаны! Хайль Гітлер! — нечакана выгукнуў ён. Маёр ускочыў:

— Хайль Гітлер!

Вільгельм Мойрын ехаў у аўтамашыне, акрылены. Дзіва што! Перад ім адкрывалася такая перспектыва.

Прыехаўшы ў інтэрнат, ён адразу ж накіраваўся ў працэдурную, дзе пачуў дзіцячы плач і крыкі. Працавалі ўсе сем лежакоў. Не затрымліваючыся, маёр пайшоў далей. Калі праходзіў міма кабінета Вайтовіча, за дзвярамі пачуўся слабы дзіцячы крык. Пхнуў нагой дзверы і ўбачыў, як Вайтовіч на кушэтцы гвалтаваў дзяўчынку. Разарваная сукенка, трусікі валяліся на падлозе. Убачыўшы Мойрына, Вайтовіч ускочыў, і на яго ногі зваліліся штаны, якія ён не паспеў падхапіць. Ён ліхаманкава спрабаваў нацягнуць споднікі.

Мойрын з агідай паморшчыўся і, насілу падбіраючы словы, спытаў:

— Твой дама?

— Так, так, яволь.

У гэты момант да маёра падбег перакладчык.

— Мне сказалі, што вы ў рускі блок накіраваліся, пан маёр, я вырашыў дагнаць вас. Магчыма, спатрэблюся.

— Добра. Скажыце гэтаму кабялю, што з такімі партнёркамі ён можа рабіць, што хоча, але каб гэта не замінала адбору ў іх крыві.

Перакладчык пераклаў.

Вайтовіч нарэшце справіўся са сваімі штанамі і, зашпіляючы папругу, радасна раўнуў:

— Яволь, данкэ шон!

Маёр паглядзеў на аголеную дзяўчынку. Яна была непрытомная. Яе худзенькія сцёгны і ніжняя частка жывоціка былі ў крыві.

— Яе — у працэдурную. Хай адбяруць усё, што засталося. — Мойрын, не азіраючыся, загадаў: — Афіцэраў аховы і галоўнага ўрача праз трыццаць мінут да мяне ў кабінет!

## Раздзел 25

На сакрэтнай нарадзе ў галоўным разведвальным упраўленні прысутнічалі самыя высокія чыны ваеннай разведкі і контрразведкі. Абмяркоўвалася галоўнае пытанне: утрыманне ў сакрэце мерапрыемстваў і планаў падрыхтоўкі на летні перыяд стратэгічнай аперацыі па поўным вызваленні Беларусі, прыбалтыйскіх савецкіх рэспублік і Украіны. Думаючы пра хуткае вызваленне роднай зямлі, насельніцтва якой ужо тры гады знаходзілася ў акупацыі, пераносячы неверагодныя пакуты, голад, страчваючы сваіх сваякоў і сяброў, удзельнікі нарады з цяжкасцю стрымлівалі прыўзняты настрой.

Генерал-палкоўнік Яфрэмаў, які вёў нараду, зачытаў даведку пра дзеянні захопнікаў на акупіраванай тэрыторыі:

— Гітлераўцы на захопленай тэрыторыі ўсталявалі антычалавечы рэжым. Вы, таварышы генералы, вядома, ведаеце, што па плане «Ост» меркавалася ў Беларусі пакінуць толькі дваццаць пяць працэнтаў для выкарыстання гэтай часткі насельніцтва ў якасці працоўнай сілы. Астатнія семдзесят пяць працэнтаў падлягалі знішчэнню. Было ўстаноўлена новае адміністрацыйнае дзяленне Беларусі. Усходняя частка аднесена да вобласці «армейскага тылу». Улада тут ажыццяўляецца ваеннымі і паліцэйскімі органамі, падпарадкаванымі штабу групы войск «Цэнтр». Паўднёвая частка Беларусі па лініі 20 кіламетраў паўночней чыгункі Брэст—Гомель аднесена да рэйхскамісарыята Украіны. Паўночна-ўсходнюю частку праціўнік улучыў у склад Прусіі і генеральнай акругі Літва. І, нарэшце, частка рэспублікі, што засталася — Баранавіцкая, Вілейская, Мінская без усходніх рэгіёнаў, а таксама паўночныя раёны Брэсцкай, Гродзенскай і Палескай абласцей увайшлі ў склад генеральнай акругі

Беларусь, што была ўключана ў рэйхскамісарыят «Остланд» з рэзідэнцыяй у Рызе і раздзелена на дзесяць акруг. На чале акруг стаялі гебіткамісары. Дапаможная роля адводзілася мясцовым установам — управам, якія ўзначальвалі прызначаныя гітлераўцамі бургамістры і старасты. Гэты «парадак» падтрымліваўся ўзброенымі фарміраваннямі, ахоўнымі атрадамі СС, штурмавымі атрадамі СА, паліцыяй бяспекі і службы бяспекі СД, гестапа, тайнай палявой паліцыяй, контрразведвальнымі органамі абвера, жандармерыі. На гэтых тэрыторыях актыўна дзейнічалі аператыўныя групы — «айнзацгрупы». Яны вялі барацьбу з партызанамі і падпольшчыкамі.

Уся гэта камарылля стварыла на тэрыторыі Беларусі 260 лагераў смерці. Толькі ў Трасцянецкім лагеры смерці яны ўжо знішчылі не меней як дзвесце тысяч чалавек. Ва ўсіх буйных гарадах арганізаваны гета для яўрэяў. Карнікі знішчылі не меней як пяць тысяч населеных пунктаў, больш за пяцьсот з іх спалены разам з жыхарамі. Фашыстамі знішчана ў нашай Беларусі больш як два мільёны чалавек, каля паўмільёна жыхароў рэспублікі вывезены ў рабства ў Германію. Можа, гэта і паслужыла прычынай, каб нанесці асноўны ўдар у Беларусі.

Улічваецца і тая акалічнасць, што на тэрыторыі БССР партызанскі рух носіць характар агульнанароднага.

Колькасць байцоў партызанскіх атрадаў каля 400 тысяч чалавек, яны ўваходзяць у 1255 атрадаў. 997 атрадаў з іх уваходзяць у склад 213 брыгад і палкоў, 258 атрадаў дзейнічаюць узгоднена. На тэрыторыі БССР велізарная колькасць лясоў, рэк, азёр і балот, чым дзеянні немцаў ускладнены. Па БССР праходзяць чыгуначныя магістралі Беласток—Вільнюс—Пскоў; Сядлец—Ваўкавыск—Невель; Брэст—Мінск—Смаленск; Брэст—Пінск—Гомель; Брэст—Ковель; Невель—Орша—Гомель і Вільнюс—Мінск—Гомель. Агульная працягласць чыгуначных магістраляў каля 6 тысяч кіламетраў. На партызанскія атрады ўскладаюцца задачы — не даць праціўніку дастаўляць падмацаванні, тэхніку, правіянт на фронт. Гэта таксама ўлічвалася вышэйшым камандаваннем пры вызначэнні накірунку галоўнага ўдару.

Якія ж задачы стаяць перад намі?

Па-першае, сумесна з НКУС, вайсковай разведкай узмацніць барацьбу з варожымі шпіёнамі, дыверсантамі і правакатарамі. Па-другое, не дапусціць уцечкі інфармацыі пра кірунак галоўнага ўдару ўлетку бягучага года. Па-трэцяе, разведка, разведка і яшчэ раз разведка. Па-чацвёртае, мы абавязаны распачаць дадатковыя эфектыўныя меры па дэзінфармацыі праціўніка. Неабходна прымяніць дэманстратыўнае перакіданне войскаў на поўдзень, каб нямецкае камандаванне прыйшло да высновы, што галоўны ўдар будзе менавіта на поўдні, на Украіне. Не саромейцеся выкарыстоўваць радыёперагаворы, «страту» сакрэтных дакументаў, карт.

Ёсць сэнс прыцягнуць нямецкіх патрыётаў да ўзмацнення прапагандысцкага ўздзеяння на салдат і афіцэраў вермахта. Такія акцыі трэба праводзіць спачатку на паўднёвым флангзе. Гэта будзе дзейнічаць на салдат і афіцэраў краін, якія ўдзельнічаюць у вайне на баку Германіі. Яны пачалі ўжо разумець, які фінал іх чакае. Па нашых дадзеных там ужо ідзе разброд і хістанне. Таму ўдзел у прапагандысцкай кампаніі не толькі нямецкіх патрыётаў, але і суайчыннікаў вайскоўцаў краін-сатэлітаў Германіі, больш верагодна будзе мець эфект.

Яфрэмаў звярнуўся да генерал-лейтэнанта:

— Ад вас, генерал Фрадкоў, залежыць вельмі многае. Трэба, каб германскае камандаванне адчула розніцу дзеянняў па маральным разлажэнні салдат.

Павелічэнне частаты вашых перадач проста на перадавой, распаўсюджванне з паветра лістовак з тэкстам, які заклікае скласці зброю і якія сцвярджаюць бесперспектыўнасць іх дзеянняў, — гэта яшчэ адна падстава для камандавання праціўніка, што галоўны ўдар рыхтуецца менавіта там. І апошняе: трэба неадкладна ўзгадніць са штабам партызанскага руху пытанне аб накіраванні нашых прадстаўнікоў ва ўсе брыгады і буйныя атрады. Удары па камунікацыях праціўніка павінны наносіцца каардынавана і ў патрэбны час.

Адказаўшы на некалькі пытанняў, Яфрэмаў скончыў нараду.

Ён накіраваўся ў свой кабінет, куды, загадзя папярэджаныя, адразу ж пасля нарады з'явіліся генерал Сляпцоў і два палкоўнікі. Каля невялікага часопіснага століка стаяла чатыры крэслы, а на століку — вялікі фарфоравы чайнік, кубкі са сподкамі і ляжалі сушкі.

Пачакаўшы, пакуль усе ўладкуюцца ў сваіх крэслах, а дзяжурны афіцэр нальe ўсім чай і пойдзе, Яфрэмаў заклапочана прамовіў:

— Нам трэба зрабіць усё, каб не дапусціць расправы над дзецьмі ў інтэрнаце Сёмкава. Гэта пытанне гонару, па гэтай аперацыі будуць меркаваць пра наш прафесіяналізм. Дый душа баліць ад думкі, што там гінуць дзеці...

Яфрэмаў узяў некалькі спісаных лісткоў.

— Давайце яшчэ раз пройдземся па сцэнарыі. — І раптам паглядзеў на калег. — А што, калі хто-небудзь з пісьменнікаў, даведаўшыся пра гэту гісторыю, зробіць кінасцэнарый ці напіша кнігу? Ды пяройдзем да справы. Што вы скажаце, Андрэй Андрэевіч?

Генерал Сляпцоў хацеў устаць, але Яфрэмаў спыніў яго:

— Сядзіце, сядзіце, Андрэй Андрэевіч.

Сляпцоў, дастаўшы з кішэні кіцеля невялікі блакнот, пачаў дакладваць:

— Паводле вашага ўказання, таварыш генерал-палкоўнік, падрыхтоўка да аперацыі ідзе паскорана. Раней я дакладваў, што наш афіцэр, укаранёны ў кіраўніцтва рэйхскамісарыята «Остланд» у Рызе, змог патэлефанаваць у Сёмкава начальніку донарскага цэнтра і, як той казаў, «сасватаць» яму нашага чалавека.

— Так, так, я памятаю,— кіўнуў Яфрэмаў і дадаў: — Такім чынам, мы не выклікалі ніякіх падазрэнняў у гэтага маёра і выключылі магчымыя ўдакладненні пра прыбыўшую ў Мінску?

— Так точна!

— А хто займаўся падрыхтоўкай легенды і дакументаў прыкрыцця для капітана Сяргеевай?

— Я, таварыш генерал-палкоўнік, — адказаў палкоўнік Пашкоў і паспрабаваў устаць, але і яго жэстам спыніў гаспадар кабінета. Пашкоў прадоўжыў: — Мы вывучылі ўвесь радавод сям'і Хелкоўскіх. У яго, акрамя дачкі, нікога не засталося. Дачка Ганна Рамуальдаўна пражывае ў Казахстане і, вядома ж, нічога не ведае пра тое, што адбываецца ў Сёмкаве. Нам удалося ўстанавіць, што ў горадзе Кёнігсбергу пражывала сям'я даволі буйнога бізнесмена Фішара. Фішары трапілі пад налёт варожай авіяцыі, але зафіксавана смерць толькі часткі сямейства. Так здарылася, што яго жонка з цяжкім раненнем была дастаўлена ў гарадскі шпіталь, дзе і памерла. Дакументы былі з ёй, наша разведчыца, разумеючы, што яны могуць спатрэбіцца, завалодала імі. Паводле легенды, Ганна Фішар, працягваючы пражываць у Кёнігсберзе, атрымала ліст ад знаёмага яе мужа палкоўніка Гюнтара, які па абавязку службы да вайны праездам быў у Сёмкаве і любаваўся выдатным палацам. Вось ён і напісаў сямейству Фішар, вядома, не ведаючы, што здарылася з сям'ёй.

— Гюнтар жывы?

—Так точна, таварыш генерал-палкоўнік, — адказаў палкоўнік Марчук і таксама паспрабаваў устаць, але ўбачыўшы перасцерагальны жэст генерала, працягнуў: — Ён служыў у тылавым раёне групы войск «Цэнтр». Падчас авіяўдару па эшалоне і нападзе партызан быў захоплены. Знаходзіцца ў лагеры для ваеннапалонных. Пад нашу дыктоўку ён і напісаў патрэбны ліст.

— Так, а далей? — спытаў Яфрэмаў. Ізноў стаў гаварыць Пашкоў:

— Нам удалося ўстанавіць, што ў інтэрнаце Сёмкава працуе санітаркай і прыбіральшчыцай Вольга Іосіфаўна Сялькевіч, 1896 года нараджэння. Вёска, у якой яна з трыма дзецьмі пражывае, знаходзіцца ў 2-3 кіламетрах ад Сёмкава. Яе муж — Антон Васільевіч Сялькевіч — да вайны быў брыгадзірам, а цяпер знаходзіцца ў партызанскім атрадзе. Ён і зробіць першы інструктаж жонцы.

— А якую задачу вы адводзіце сям'і Сялькевічаў?

— Самому Сялькевічу з'яўляцца ў сваім сяле, а таксама ў Сёмкаве небяспечна. Усе вяскоўцы ведаюць, што ён партызан. Праўда, пра гэта ніхто не данёс немцам. А вось што да Вольгі Іосіфаўны, то перад ёй будзе пастаўлена задача аказваць усялякую дапамогу нашаму чалавеку і, вядома ж, пры сустрэчы з Сяргеевай у Сёмкаве пацвердзіць, што яна — дачка Хялкоўскіх, апошніх гаспадароў Сёмкава, бо сама Вольга Іосіфаўна да рэвалюцыі служыла ў палацы Хялкоўскіх.

— Як справы ў палкоўніка Грэкава?

На гэта пытанне адказаў генерал Сляпцоў:

— Ён знаходзіцца ў штабе брыгады. Камандаванне брыгады ставіцца да яго нармальна. Усталяваліся добрыя службовыя адносіны. Цяпер палкоўнік Грэкаў і капітан Сяргеева працуюць над легендай і вывучэннем гісторыі сям'і Хялкоўскіх, а таксама самога архітэктурнага комплексу, звычаяў мясцовага насельніцтва. Як далажыў палкоўнік Грэкаў, працэс падрыхтоўкі да ўкаранення Сяргеевай у інтэрнат праходзіць паспяхова. Ёсць прапанова, таварыш генерал-палкоўнік.

— Выкладайце.

— Ужо цяпер зусім зразумела, што дзяцей у інтэрнаце ратаваць давядзецца падчас правядзення баявой аперацыі. Трэба прадугледзець многае: знаходжанне населенага пункта паблізу Мінска, нямецкія гарнізоны размешчаныя таксама побач, практычна Сёмкава знаходзіцца ў коле варожых гарнізонаў. Таму лічыў бы неабходным даручыць камандаванню брыгады і палкоўніку Грэкаву падрыхтаваць падрабязны план аперацыі з улікам гэтай акалічнасці.

— Згодзен,— сказаў Яфрэмаў і дадаў: — Неабходна ўлічваць умовы зімы, моцныя маразы, маршрут дастаўкі дзяцей, іх размяшчэнне. Пагадзіцеся, нельга пакідаць дзяцей у размяшчэнні брыгады. Трэба прадугледзець пытанні забеспячэння дзетак цёплай адзежай і прадуктамі. Ужо цяпер напрошваецца пытанне: як пазбавіць праціўніка ў суседніх з Сёмкава гарнізонах магчымасці перашкодзіць аперацыі. Таму асабліва старанна трэба прадумаць маршрут вывазу дзяцей, не павязеш жа іх па дарогах. Хутчэй за ўсё давядзецца пракласці маршруты руху праз лес, а снегу — па пояс! Давайце каманду, Андрэй Андрэевіч, нагадаеце пра неабходнасць правядзення рэкагнасцыроўкі мясцовасці. Трэба вывучыць кожную сцяжынку, лесапалосы, падыходы да Сёмкава, настрой жыхароў вёсак у акрузе, прадумаць, на чым везці дзяцей. —Яфрэмаў зрабіў невялікую паўзу і дадаў: — Нашы людзі паведамляюць з Мінска, што гітлераўцы прынялі рашэнне ўзмацніць ахову інтэрната і рэзка павялічыць колькасць дастаўкі туды дзяцей. Маёр-кат, — генерал зазірнуў у лісток, — яго прозвішча Мойрын, прадстаўлены да ордэна і павышэння ў званні. Мы атры-

малі інфармацыю, што гэты забойца мае дачыненне да масавых забойстваў яўрэяў, якіх перасялілі ў сорак першым з Германіі і іншых краін у Беларусь. — Яфрэмаў паглядзеў на Сляпцова. — Перадайце капітану Сяргеевай загад пра тое, каб яна паспрабавала сабраць пабольш матэрыялаў пра злачынствы гэтага маёра і яго банды ў Сёмкаве. Мы таксама атрымалі са штаба гаўляйтара ў Мінску інфармацыю пра тое, што ў інтэрнат плануецца накіроўваць атрады з яўрэяў і прадстаўнікоў з ліку мясцовага неяўрэйскага насельніцтва, а таксама з літоўскага і латвійскага батальёнаў паліцыі. Яны будуць дапамагаць кіраўніцтву інтэрната. А якая гэта дапамога, сведчыць тое, што атраду выдзелены дзве аўтамашыны-«душагубкі». Я папрашу вас, таварыш генерал, — Яфрэмаў ізноў звярнуўся да Сляпцова, — падрыхтаваць мне асобную даведку пра становішча спраў з яўрэйскім насельніцтвам у Беларусі, а таксама пра стварэнне такіх спецатрадаў.

## Раздзел 26

Маёр Вільгельм Мойрын, знаходзячыся на нарадзе ў камісарыяце, быў у прыўзнятым настроі. Дзіва што, у прысутнасці самога гаўляйтара Готберга яму была аб'яўлена падзяка і паведамлена, што ён прадстаўлены да ўзнагароды. Акрамя таго маёру прапанавалі ўвайсці ў склад невялікай аналітычнай групы па падрыхтоўцы даклада ў Берлін пра вынікі іх працы па знішчэнні яўрэяў, цыган, а таксама прадстаўнікоў мясцовага насельніцтва. Пасля нарады маёра запрасіў да сябе сам гаўляйтар. Тон гаворкі быў даверлівым, нават сяброўскім. Готберг не хаваў і няўдач на фронце, абяцаючы, што хутка становішча нямецкіх войск палепшыцца.

— Войскі атрымаюць вялікае папаўненне ў жывой сіле і тэхніцы, вырашыцца пытанне пра рэзкае паляпшэнне паставак прадуктаў, адзежы, — гаварыў генеральны камісар.— Фюрар узяў пад асабісты кантроль стварэнне зусім новай зброі. Гэта, маёр, будзе цуд-зброя, якой свет не ведаў! Генерал дастаў з сейфа і паказаў загад:

— Гэтым дакументам фюрар не толькі развязвае нам рукі, ён патрабуе няўхільнага рашэння яўрэйскага пытання. Германіі не патрэбныя яўрэі! Працэдура іх масавага знішчэння павінна ажыццявіцца двума спосабамі: расстрэл у бязлюднай мясцовасці, у самым гета і адпраўка ў лагер смерці Трасцянец.

— Гер генерал, — заклапочана заўважыў Мойрын,— каб павялічыць пастаўкі донарскай крыві, у мяне нестае людзей. Вялікія праблемы з пахаваннем памерлых. Аказваецца, у зімовых умовах гэта няпроста...

— Вось бачыце, Вільгельм,— генерал назваў Мойрына па імені, — як цяжка нашаму салдату на фронце. Кажуць, што зямля замярзае ледзь не на метр. А акопы, укрыцці для тэхнікі неабходна капаць рукамі доблесных сыноў Германіі. Але я вас разумею. Мясцовае насельніцтва не павінна ведаць пра нашы экзекуцыі. Я дам вам яшчэ ўзвод салдат і два дзясяткі паліцэйскіх са складу латышскіх і літоўскіх фарміраванняў. Другім літоўскім батальёнам камандуе маёр Імпявічус. Ён выдатна праявіў сябе яшчэ ў 1941 годзе, калі з ротай латышоў толькі за дзень у горадзе Магілёве былі знішчаны дзве тысячы дзвесце восем яўрэяў. У Слоніме, Слуцку літоўскія і латышскія атрады пад камандаваннем Імпявічуса, сумесна са служачымі ўкраінскай і мясцовай паліцыі, знішчылі больш за пяць тысяч яўрэяў, камуністаў і іх памагатых. Згодзен з вамі, Вільгельм, у тым, што нашым салдатам капаць магілы для дзяцей не вельмі прыемна. Але для гэтага мы выкарыстоўваем саміх яўрэяў,

часам і з мясцовага насельніцтва, якія пайшлі на супрацоўніцтва з уладамі. Таму я і вылучыў каманду ў колькасці дваццаці яўрэяў, якія будуць выконваць гэтую брудную работу. Мы дамо вам два грузавікі, прызначаных для забойства людзей проста падчас руху аўтамашыны. Як вядома, тут, у Беларусі, знаходзяцца і тысячы нямецкіх яўрэяў. Мы падтрымліваем у іх веру, што пасля вайны яны змогуць вярнуцца ў Германію, натуральна, калі будуць беспярэчна падпарадкоўвацца акупацыйным войскам і супрацоўнічаць з уладамі. Яны не зважаюць на такія нюансы, як пахаванне дзяцей, ім бы самім выжыць. Камандаваць групай нямецкіх яўрэяў я даручыў Абраму Ліпковічу, мясцоваму яўрэю. Летась у раёне вуліцы Беламорскай Ліпковіч і яго падначаленыя ліквідавалі каля тысячы яўрэяў і, што больш важна, канфіскавалі велізарную колькасць каштоўнасцей, у тым ліку адзежу і прадукты. Дарэчы, Абраму Ліпковічу належыць ідэя нацкоўваць мясцовае насельніцтва на яўрэяў, тлумачачы, што толькі па іх віне не хапае жылля, прадуктаў. Як, пан маёр, вы іх расселіце?

— Палацавы комплекс велізарны. Асмелюся папрасіць вылучыць яшчэ дадаткова медперсанал з ліку немцаў. Для ўборкі будынкаў і тэрыторыі, іншых работ я змагу падабраць людзей з мясцовага насельніцтва. Нам удалося пераканаць жыхароў, што мы, клапоцячыся пра беспрытульных дзяцей, і стварылі гэты дом-інтэрнат.

— Вырашана. Я загадаю выдзеліць вам дадатковы медперсанал. Майце на ўвазе, што вам трэба патроіць, нават удзесяцярыць эфектыўнасць вашай дзейнасці. Са свайго боку я абяцаю вам больш высокае званне. Магчыма, да лета мы будзем пастаўляць вам і старэйшых па ўзросце дзяцей і нават дарослых. Трэба рыхтавацца да новых паходаў на ўсход.

— Не забудзьце, Вільгельм, — сказаў на развітанне генеральны камісар,— яўрэі павінны жыць асобна. Ды і паліцэйскія павінны мець асобныя памяшканні ад нашых салдат і персаналу. Натуральна, і харчаванне павінна быць розным. У гета яўрэі штодня атрымліваюць 300 грамаў вады і 5 грамаў круп. Гэтага хапае на поліўку...

...Маёр Мойрын прыспешваў шафёра. Дарогу за час знаходжання на нарадзе замяло, і ахова на матацыклах з велізарнай цяжкасцю пераадольвала гурбы, часта салдаты рукамі выштурхоўвалі матацыклы са снежных заносаў. Легкавушку таксама даводзілася не аднойчы выцягваць са снегу.

Прыбыўшы ў інтэрнат, Мойрын адразу ж сабраў падначаленых, паведаміў пра ўказанні генеральнага камісара, размеркаваў паміж афіцэрамі і ўрачамі абавязкі. Трэба было літаральна за два дні падрыхтавацца да прыезду новага папаўнення. Маёр загадаў абсталяваць дадаткова яшчэ тры кабінета для працэдур.

У абедзенны час ён, як звычайна, адправіўся на абход. Дзеці абедалі ў сталовай, і на начальніка ніхто не зважаў. Мойрын заўважыў ужо знаёмага хлапчука. Мішка сядзеў за сталом і тупа глядзеў на некрануты абед. Маёр спыніўся і, перакручваючы словы, сказаў:

— О, мой сябар Мішка! А чаго ты не ясі, ежа ж смачная?! Дарэчы, а дзе ж твая сястра? Па-мойму, яе Валя клічуць?

Раптам адбылося нечаканае. Хлопчык устаў з лавы, узяў міску з нейкай жыжкай і шпурнуў у твар маёра.

— Ты забіў маю сястру, фашыст! — Ён, сціснуўшы кулачкі, кінуўся да разгубленага Мойрына. — Я заб’ю цябе, гад!!!

Хлапчука схапілі ахоўнікі, а Мойрын, выціраючы твар паднесеным яму ручніком, хутка загадаў:

— У працэдурную яго, неадкладна! — і, праходзячы міма здранцвелых дзяцей, крыкнуў: — Пакаранне — толькі смерць!

Ён зайшоў у кабінет урача, дзе быў рукамыйнік, памыўся, працёр ручніком мундзір і паспешна накіраваўся ў працэдурную.

Міша ляжаў, прывязаны да высокага тапчана, на які звычайна ўкладваліся «пацыенты». Ён быў бледны, але супраціўлення не аказваў.

Маёр наблізіўся да тапчана, ля якога стаялі ўрач і чатыры санітары, і спытаў:

— Жыць хочаш, Мішка? Прасі прабачэння, ці ты памрэш страшнай смерцю. Я выпампую з цябе ўсю тваю бальшавіцкую кроў.

Маёр не бачыў, што дзверы былі ледзь прачынены і за імі тоўпіліся дзеці.

— Дык ты просіш літасці?

Не чакаючы адказу, ён кіўнуў медыкам. Адзін з іх трымаў Мішыну руку, а другі адразу ж увагнаў іголку ў яго вену. У шкляную колбу закапала цёмна-чырвоная кроў.

— Я чакаю! Прасі прабачэння! Ты ж паміраеш!

Міша гнеўна глядзеў на ката, здавалася, што ён усміхаецца.

Кроў перастала паступаць у колбу, і адзін з медыкаў стаў выконваць загад урача: расціраць руку вышэй іголкі, а затым у вобласці сэрца.

— Апошні раз пытаю: будзеш прасіць прабачэння?! — крыкнуў Мойрын.

— Ты фашыст! Я цябе не баюся. Мой татачка адпомсціць табе, — і раптам хлопчык, нібы звяртаючыся да бацькі, ускрыкнуў: — Тата, адпомсці яму! Яго прозвішча Мойрын.

У гэты момант у працэдурную ўварвалася дзяўчынка, за ёй хлопчык і яшчэ дзве дзяўчынкі. Першай была дзесяцігадовая яўрэйка Рая, а ў дзвярах — яе аднагодкі Таня, Віця і Лена.

Ахоўнік у дзвярах перахапіў Лену і некалькі іншых дзяцей. Груба выпхнуўшы іх у калідор, зачыніў дзверы.

— Адпусціце яго! — крыкнула Рая. — Не забівайце! — Дзеці наперабой сталі ўмольваць не забіваць Мішу.

Мойрыну і так пасля слоў хлопчыка: «Тата, адпомсці яму! Яго прозвішча Мойрын» стала нядобра. Ён нават мімаволі паглядзеў па баках: ці не чуе бацька малога гэтых слоў? А тут яшчэ пратэсты гэтых заўтрашніх мерцвякоў. Яго твар сказіла не то грымаса, не то гнеў, змяшаны са страхам.

— Ты хто? — звярнуўся ён да дзяўчынкі, якая першай уварвалася ў працэдурную.

— Рая.

— Ты яўрэйка?

— Так.

— Колькі табе гадоў?

— Дзесяць.

Раптам маёр неяк страшна выскаліўся. Ён па чарзе паглядзеў на дзяцей і спытаў:

— А хто з вас хоча заняць месца Мішкі?

Дзеці разгубіліся і моўчкі пераглядаліся.

— Ну, што маўчыце, героі? Хто з вас хоча, каб развязалі Мішку і на гэта месца паклалі яго?

Рая пабляднела і, уздыхнуўшы, сказала:

— Я!

Тут жа Віця і Таня амаль адначасова ўскрыкнулі:

— Я!

— Я!

Немец здранцвеў. Такога ад гэтых зачуханых маўклівых дзяцей ён не чакаў. Яму зноў стала страшна. Ён насілу прымусіў сябе захаваць спакой і, нібы падлашчваючыся з дзецьмі, прамовіў:

— Добра! Тады кладзіцеся на яго месца ўсе трое. Дзеці, не прамаўляючы ні словы, рушылі да тапчана.

У гэты момант урач выняў з вены на руцэ іголку і ціха прамовіў:

— Ён гатовы, пан маёр.

Мойрын некалькі секунд штосьці абдумваў, а затым з ледзь прыхаваным раздражненнем загадаў:

— Прыбярыце гэтага шчанюка! А гэтых яго паслядоўнікаў замкніце ў суседнім пакоі і сёння ж прарабіце з імі такую ж працэдуру. Нельга дапусціць, каб яны расказалі пра тое, што бачылі.

Маёр хутка выйшаў з працэдурнай і, не працягваючы абходу, накіраваўся да сябе ў кабінет.

Тым часам няня, яна ж прыбіральшчыца, ледзь угаварыла дзяцей разысціся па сваіх пакоях. Яна хадзіла ад адной групы да другой, імкнучыся хоць неяк супакоіць дзяцей.

Калі Вольга Іосіфаўна падышла да чарговага пакоя і адчыніла дзверы, то ўбачыла, як у далёкім куце, седзячы на сваім ложку, Лена штосьці піша. Трымаючы складзеныя кардонкі на каленях, яна вадзіла хімічным алоўкам па абрыўку паперы.

«Любыя мае матуля і татачка! Сёння немцы забілі Мішу, а раніцай яны забралі ўсю кроў у сястры Валі. Мішу прывязалі за рукі да стала і ўсю яго кроў пачалі адбіраць. Дзеці кінуліся на дапамогу. Мойрын забраў у працэдурную Раю, Таню і Віцю, а нас прагналі ў пакоі. Сёння ўначы мы з дзецьмі бачылі ў акно, як немцы вырылі яму ў двары і засыпалі забітых дзяцей. Тома, ёй ужо дванаццаць гадоў, сказала, што ў дзяцей скончылася ўся кроў, і яны памерлі. Матуля, мне страшна. Хутчэй прыязджай. Выратуй мяне!»

Вольга Іосіфаўна прайшла ў бакоўку і, ледзь стрымліваючыся, каб не закрычаць, залілася слязьмі.

Там і адшукаў яе дзед Панас. Ён, разумеючы без лішніх слоў, чаму яна плача, ціха сказаў:

— Ты б неяк сышла крыху раней. У мяне ў хаце твой Антон цябе чакае.

Вольга Іосіфаўна, нібы не верачы пачутаму, глядзела на дзеда. Ці не падалося ёй?

— Так-так,— пацвердзіў дзед Панас. — Аб’явіўся і чакае цябе не дачакаецца.

Хата Вольгі знаходзілася ў суседняй вёсцы, а дзед Панас жыў адзін літаральна ў ста метрах ад інтэрната. Яго цанілі як спецыяліста. Немцы лічылі яго добранадзейным.

Вольга зазірнула да дырэктара інтэрната:

— Павел Уладзіміравіч, дазвольце адлучыцца на гадзінку?

— А што такое?

— Мае буркі змакрэлі, вазьму валёнкі, дый дачка штосьці раніцай тэмпературыла.

— Добра, толькі ненадоўга. Маёр хвалюецца, раптам штосьці загадае...

Нарэшце Вольга ўбачыла мужа — худзенечкі, з велізарнай барадой, у пацёртым паўкажушку з бела-чырвона-белай павязкай на рукаве.

— Ну, дабрыдзень!

Пасля абдымак, Антон зняў паўкажушак, і Вольга спытала:

— Ты што, у паліцыі?

— Гэта, як той казаў, для прыкрыцця. А прыйшоў я да цябе не толькі ўбачыцца, хоць так хацелася і цябе, і дзяцей абняць. Але да нас дамоў нельга. Там жа ўсе ведаюць, дзе я знаходжуся, таму і прыйшоў да дзеда Панаса. Ён не выдасць. Скажы, Вольга, ты памятаеш Хялкоўскіх?

— Вядома, я ж у іх працавала.

— А дачку яго памятаеш?

— Ганну? Вядома, памятаю. Я з ёй сутыкалася.

— Дык вось, дарагая, слухай!..

## Раздзел 27

Жэня кожны дзень літаральна тэрарызавала Леаніда. Нават калі ён паведамляў ёй штосьці цікавае, Жэня дзякавала яму і тут жа заводзіла гаворку пра сваіх былых суседзяў:

— Лёнь, ты абяцаў выратаваць Абрама. Памятаеш, калі мяне выручыў?

— Ды памятаю я, памятаю! Зразумей, Жэнька, гэта вельмі складана. Я думаю, шукаю варыянты...

— Лёнька, ты ж сам казаў, што ёсць сакрэтны загад пра поўнае знішчэнне тых, хто ў гета. Я разумею, мы ўсіх выратаваць не зможам, нават Рабіновічам і Левіным дапамагчы не зможам. Яны будуць рады, калі атрымаецца хоць Абрама выцягнуць. Ён жа — дзіця! Лёнь, зразумей гэта!

— Ды разумею я, разумею... Я бачу адзінае выйсце: выкарыстаць Ліпковіча, а ён, гад, так захапіўся знішчэннем яўрэяў, ды тут яшчэ яго прыкамандзіравалі да інтэрната... Памятаеш, я табе расказваў? Там дзяцей выкарыстоўваюць як донараў. Відаць, гэта яму вельмі падабаецца, ён упіваецца чалавечай смерцю, але ты не хвалюйся, ён мяне пазнаёміў са сваім сябруком, гэткім жа адмарозкам.

— А хто ён?

— Ды паліцай, такі ж, як я. Праўда, не з маім сумленнем. Такі ж звер, як Ліпковіч. Ты яго не ведаеш, ён жыве на Грушаўцы. Як я зразумеў, ён мае ўваход у зону гета. Сёння мы сустрэнемся з Ліпковічам і гэтым ублюдкам. Прозвішча яго Антончык. Імя ў яго вельмі падобна на прозвішча — Антон. Так што пачакай, Жэня, я пастараюся стрымаць слова... Скажу шчыра, калі б не ты, я мог бы знаходзіцца ў палоне ілюзій, — калі я нікому нічога дрэннага не зраблю, то ніхто мяне не засудзіць за службу ў паліцыі. Зараз, калі я сваімі вачамі ўбачыў, што робяць тут акупанты, ды паліцаі не толькі з Літвы і Латвіі, Украіны, але і нашы, дамарослыя, то ўсвядоміў сваю віну.

— Добра, Лёня, я разумею і веру табе. Вядома, ты не павінен забываць і пра небяспеку. Дарэчы, як думаеш, калі атрымаецца выцягнуць Абрама, куды яго ўладкаваць? Дзе даць прытулак?

— Да цябе, вядома, нельга, — задумаўся Леанід. — Дзякуй богу, прыбраў і твайго суседа.

— Так, так, мы чулі, калі ўвечары ён выходзіў з будынка гестапа, яго прыстрэлілі.

— Так, разам з ім і гестапаўскага афіцэра, сакрэтнага супрацоўніка цюкнулі. А як яго сям'я?

— На наступны ж дзень жонка з дзіцем зматаліся кудысьці.

— Гэта не жонка, гэта яго таварышка з чужым дзіцем.

— Цяпер уваход у дом дошкамі забіты.

— Добра, Жэня, здаецца, у мяне з’яўляецца ідэя, куды дзяваць Абрама. Галоўнае — выратаваць яго. Я знайду цябе сам. Пакуль.

Дачакаўшыся, калі дзяўчына схаваецца за вуглом, Леанід накіраваўся ў паліцэйскую ўправу, дзе напярэдадні дамовіўся пра сустрэчу з Ліпковічам.

Праўда, ці адбудзецца сустрэча, Леанід не быў упэўнены. Ліпковіч ужо двойчы яе зрываў. Але як толькі Леанід увайшоў у двор управы, то адразу ж убачыў Ліпковіча. Той якраз выйшаў са свайго «кабінета» і спрабаваў замкнуць дзверы. Убачыўшы Леаніда, усклікнуў:

— О, нарэшце сустрэліся.— Ён расчыніў дзверы. — Уваходзь. Тут можна спакойна пагаварыць.

Яны апынуліся ва ўжо знаёмым Леаніду памяшканні, прыселі на канапу.

Леанід нагадаў:

— Слухай, Абрам, ты абяцаў пазнаёміць мяне са сваім сябрам, які нясе службу ў гета.

— Памятаю. Я сваё слова трымаю. Пасядзі, я зараз прывяду Антона. Ён нядаўна сюды прыйшоў. — Ліпковіч накіраваўся да дзвярэй.

— А можна я пагляджу гэту прыгажосць? — Леанід шырокім жэстам паказаў на абстаноўку.

— Пра што ты кажаш! Глядзі, мы ж сябры.

Не прайшло і пяці мінут, як Ліпковіч вярнуўся. Разам з ім увайшоў цыбаты, гадоў трыццаці мужчына. У паліцэйскай форме, на рукаве, як само сабой зразумела, бела-чырвона-белая павязка. Вінтоўка на яго правым плячы здавалася карацейшай за звычайную. Прывіталіся, кожны назваў сябе:

— Антон.

— Леанід.

— Штосьці ты малады, Леанід. Табе хоць бы ёсць васямнаццаць?

— Ёсць, вядома. Ды і ты выглядаеш не старым.

— Ха-ха-ха, — засмяяўся Антончык. — Ведаеш, колькі я за сваё маладое жыццё баб перабраў.

— А яўрэечак спрабаваў? — выскаліўшы зубы, спытаў Ліпковіч.

— І яўрэек, але толькі маладзенькіх — цэлачак. Гэтак гадоў дванаццаці — трынаццаці.

— Ну і як?

— А карысці мала. Гарлапанілі дзіка... дзве так і здохлі пада мной.

Леанід выняў з кішэні бутэльку самагонкі:

— Ну што, урэжам за знаёмства?

— А чаму б і не, — пагадзіўся Ліпковіч і падышоў да серванта, дастаў тры стограмовыя чаркі.

У Леаніда быў кавалак хлеба і кавалачак сала.

— Вось прыхапіў сёе-тое.

— Спатрэбіцца, — сказаў Ліпковіч і дастаў з шафкі бляшанку тушонкі. — Вось калібр пабольш. — Ён вялікім штыком адкрыў бляшанку, дастаў тры відэльцы. — Будзем частавацца, як культурныя людзі.

Выпілі, закусілі, і Ліпковіч ізноў напоўніў чаркі... Пасля трэцяй ужо завязалася гаворка.

— Нічога не скажаш, — прамовіў Ліпковіч, — мы нядрэнна ўладкаваліся ў жыцці. Напэўна, калі б сышлі з саветамі, ужо згнілі б дзе-небудзь у балоце.

— Твая праўда, Абрам,— падтрымаў сябра Антончык,— мяне ўсё адно адразу б у штрафбат загналі. Як-ніяк, дзве ходкі меў.

— За што? — пацікавіўся Ліпковіч.

— Адзін раз пару хат грабануў, прычым аднаго мужычка ў жывот пяром парнуў. А другая ходка за дзевак... Паспеў прыціснуць некалькіх у цёмных завулках. Але ўзялі, сукі. Як пачалася вайна, змог дзёру даць з зоны.

— Нічога, — падтрымаў гамонку Лёнька, — затое цяпер на волі.

Ён напоўніў чаркі.

Убачыўшы, што Абрам і Антон ужо «паплылі», Леанід толькі прыгубіў сваю чарку. Ён эканоміў, пакідаючы самагонку для сабутэльнікаў.

Неўзабаве Леанід зразумеў, што можна пачынаць дзейнічаць. Ён, як бы штосьці ўспамінаючы, звярнуўся да Ліпковіча:

— Абрам, ты неяк абяцаў мяне ў сваю каманду перавесці, памятаеш?

— Вядома, ты ж беларучка, а мы вось з Антонам вялікімі справамі займаемся. Маштабнага размаху. Ведаеш, колькі жыдоў мы ўкакошылі?

— Думаю, што нямала.

— Ха, нямала! — усміхнуўся Ліпковіч. — Сотнямі, вось толькі я маю на сваім рахунку больш, чым Антон. Цяпер мы разам яшчэ адну задачу вырашаем. Я табе неяк расказваў. Сёмкава памятаеш?

— Гэта дзіцячы інтэрнат, ці што?

— Так, гэта такі інтэрнат, як мы з табой артысты Вялікага тэатра ў Маскве. — Ліпковіч паглядзеў на Антончыка. — Як думаеш, Антон, скажам яму, што там робіцца?

— Можна, ён жа свой мужык.

Ліпковіч паглядзеў на Леаніда і шматзначна прамовіў:

— Ці бачыў ты, як у мальцоў шасці-васьмі гадоў усю кроў выпампоўваюць, і яны тут жа канцы аддаюць?

— А навошта гэта?

— Нямецкім параненым салдатам і афіцэрам кроў яшчэ як неабходна! — Ліпковіч правёў рабром рукі па горле. — Ну а наша задача — трупы дастаўляць у Трасцянец, у печы, ці закопваць там жа, у інтэрнаце. Праўда, немцы патрабуюць, каб закопвалі шкетаў на тэрыторыі інтэрната, а там ужо месца ў зямлі няма.

— Слухайце, мужыкі, а што нам рабіць, калі нашы, ну, Чырвоная Армія, прыйдзе? Кажуць, яна цясніць немцаў, шмат гарадоў вызваліла...

— А ты не бойся, — супакоіў яго Ліпковіч, — немцы нас не пакінуць, мы для іх вельмі неабходныя людзі.

— Забяруць нас з сабой, — дадаў Антончык.

— А калі не забяруць?

— Ну, тады ў Чырвоную Армію пойдзем, — зарагатаў Ліпковіч і раптам стаў сур’ёзным.— А наогул, скажу вам, я хачу пасля вайны жыць тут, у Мінску. Жанюся другі раз, зраблю сына і назаву яго, ну, скажам, Жэнькам, Яўгенам, каб ад яго жыдаўём не смярдзела.

— Ну ты ж сам яўрэй, — нагадаў яму Антончык.

— А я перарадзіўся. Вось ты, Антон, беларус?

— Так. А што?

— Ты перарадзіцца не хочаш?

— З чаго гэта ты ўзяў?

— Ну, адчуваеш які-небудзь сорам, што сваіх жа забіваеш, у печах спальваеш?

— Мне яны ўсе да лямпачкі. Я фюрару служу і веру немцам. Ім трэба нікога з яўрэяў у жывых не пакінуць — я буду гэта рабіць. Калі ім трэба, каб беларусаў засталося толькі дваццаць пяць працэнтаў, я буду гэта рабіць.

Леанід не стрымаўся:

— Слухай, Антон, а калі ў лік сямідзесяці пяці працэнтаў патрапяць тваe родныя?

— Ну і хрэн з імі. Цяпер час такі: кожны сам за сябе.

Раптам у дзверы хтосьці пастукаў і пачуўся голас:

— Ліпковіч ты тут?

Паліцай прашаптаў:

— Гэта дзяжурны, Сцяпан. Адкінуўшы кручок, прыадчыніў дзверы:

— Чаго табе?

— Цябе шэф выклікае.

— Наш?

— Не. Нейкі дырэктар інтэрната Вайтовіч. Ён на машыне прыехаў. Кажа, што маёр Мойрын выклікае.

— Ого, сам Мойрын!

— Зараз буду,— і павярнуўся да сабутэльнікаў, — так, хлопцы, — па хатах!

— Не, я — у гета. Сёння дзяжуру, будзем жыдоў шманаць, — сказаў Антон.

— А я — дахаты, — адказаў Леанід, а сам падумаў: «Вось ён, момант! Ён жа ў гета ідзе».

— Так, я пайшоў, — сказаў Лёнька і першым выйшаў з «кабінета». Завярнуў за вугал і схаваўся за суседнім домам. Убачыў, як Антончык, закінуўшы вінтоўку на правае плячо, рушыў уздоўж вуліцы. Леанід пайшоў за ім. У яго ўжо з'явіўся план. Вырашыў, што прыйшоў час, калі можна выканаць просьбу Жэнькі.

Да гета было няблізка — каля гадзіны ходу. Вычакаўшы мінут трыццаць, Леанід дагнаў Антончыка.

— Ты куды, Антон?

— Як куды, у гета.

— Але ты ж п'яны...

— Ну і што? П'яным забіваць нават зручней. Менш даймаюць крыкі жыдоў.

— Слухай, Антон, дапамажы мне як сябар?

— У чым?

— Мне таксама трэба ў гета, хачу з адным са знаёмых сустрэцца.

— А ў яго што, золатка водзіцца?

— Думаю, што так, але справа ў іншым. Ён, гад, мяне мільтонам здаў, калі пазнаў, што я з сябрам з ларка дробязь панёс.

— А што, момант падыходзячы. Ідзём, я табе сам дапамагу. Хочаш, галаву яму адрэжам? Ці яшчэ раз абразанне перад смерцю зробім?

— Дзякуй, сябар. Але спачатку я з ім самім пагавару.

— Калі здабыча будзе — каштоўнасці якія, то спадзяюся, напалову?

— Вырашана.

Яны падыходзілі ўжо да варот. Каля іх стаялі тры нямецкія салдаты з аўтаматамі і чацвёра паліцэйскіх, на руках якіх былі літоўскія павязкі.

Крыху воддаль стаяла бранемашына з адкрытым верхам. Зверху кабіны тырчаў ствол кулямёта, ззаду — грузавік з тэнтам.

— А як мы праедзем? — насцярожыўся Леанід.

— Са мной усюды праедзеш. Тут мяне кожны сабака, не толькі ахова, ведае.

Антончык павітаў ахову:

— Хайль Гітлер!

Паліцэйскія адказалі дружна, немцы — абыякава.

Леанід ледзь паспеў паўтарыць за Антончыкам жэст прывітання. Усё прайшло будзённа і проста. Адзін з літоўцаў прыадчыніў вароты, абцягнутыя калючым дротам, і яны апынуліся ў гета.

— Сапраўды, з табой лёгка, — усцешыў Антончыка Леанід і спытаў: — Ты што будзеш рабіць?

— Мне трэба ў юдэнрат. Там будзе пастаўлена задача дзяжурным патрулям. Ты ведаеш адрас свайго даўжніка?

— Так. Мне лепш пайсці аднаму. Я не хацеў бы яго адразу запалохваць. Трэба яго пераканаць у тым, што ёсць шанец выжыць. Толькі растлумач, як цябе знайсці.

— У канцы вуліцы, бачыш, двухпавярховы дом са сцягам?

— З нямецкім?

— А з якім бы ты хацеў — савецкім, жыдоўскім? Калі спатрэблюся, падыдзеш да юдэнрата. Там я сёння дзяжуру, разам з нямецкім афіцэрам будзем ставіць задачу перад яўбрэямі з Гамбурга. Немцы з іх стварылі паліцыю ўнутранага парадку. Вось яны і імкнуцца сваіх адзінакроўных з Беларусі, Польшчы мачыць, каб пасля вайны атрымаць права на вяртанне ў Германію.

— А калі я сустрэнуся з гэтымі гамбургскімі яўрэямі?

— Ну і што? Ты ж паліцай, вышэй іх па рангу. Прычым у цябе галоўны аргумент — вінтоўка. Ім жа немцы зброю не даюць. Калі прыстрэліш каторага, ніхто і слова не скажа. А дзе твой даўжнік жыве?

— Вось тут я павярну направа, чацвёрты дом справа,— адказаў Леанід, а сам падумаў: «Як добра, што Жэнька мне падрабязна расказвала, дзе жывуць яе былыя суседзі!» Антончык, відавочна зацікаўлены перспектывай узбагаціцца, прадоўжыў:

— Калі што якое, можаш свайго жыда даставіць у юдэнрат. Там падвесім яго за ногі і выб’ем усё, што ў яго ёсць, зразумеў?

— Дзякуй. Ну, я пайшоў….

— Давай. Калі цябе доўга не будзе, я падыду да цябе.

— Добра. Пакуль.

Леанід неўзабаве пастукаў у дзверы, але ўбачыўшы, што яны прачынены, пхнуў іх і ўвайшоў. У невялікім пакоі знаходзіліся дзве жанчыны і хлопчык гадоў чатырнаццаці. Леанід на імгненне разгубіўся і збянтэжана спытаў:

— Тут жывуць сем’і Рабіновічаў і Левіных?

— Так, пан паліцай. Гэта ўсё што засталося ад нашых сем’яў, — адказала Марыя Сямёнаўна, а Эма Самуілаўна дадала:

— Учора майго мужа Міхаіла забілі проста ля дома.

— А хто гэта зрабіў? — мімаволі вырвалася ў Леаніда.

— Наш даваенны знаёмы Абрам Ліпковіч. Патрабаваў золата, футравую адзежу...

— А ў нас анічога няма, — сказала Марыя Сямёнаўна.

Леанід звярнуўся да хлопчыка:

— Цябе як завуць?

— Абрам.

Нечакана Марыя Сямёнаўна скокнула да Абрама і прыкрыла яго сабой:

— Пашкадуйце яго, пан! Пашкадуйце, ён адзіны з дзяцей у нас застаўся...

— Пашкадуйце, — прасіла і Эма Самуілаўна, апусціўшыся на калені перад прышэльцам.

Лёнька, разгубіўшыся, паспешна сказаў:

— Супакойцеся! Я не вораг, я свой. Мяне ваша суседка Жэня Статкевіч прыслала. Калі хочаце, я выведу Абрама з гета, схаваем яго дзе-небудзь, затым пераправім у вёску.

— А адкуль вы Жэню ведаеце?

— Мы разам у школе вучыліся. Я ведаю і бацьку, і маму яе, братоў і сясцёр. Мы сябруем. Я і вас часам бачыў, калі мы з дзецьмі да Статкевічаў прыходзілі. У вас жа з імі агульны двор быў. Я правільна кажу?

— Так, так, — усклікнуў Абрам, — я ўспомніў яго! Ён прыходзіў у наш двор.

— Дык вось я прыйшоў, каб цябе забраць адгэтуль.

Леанід, гледзячы на жанчын, зусім нечакана для сябе прапанаваў:

— Калі хочаце, пойдзем разам! Паспрабуем усе выйсці з зоны.

Эма Самуілаўна цяжка паднялася з каленяў і наблізілася да Марыі Сямёнаўны. Нейкі час яны маўчалі, але добра разумелі адна адну.

Адказала маці Абрама:

— Дзякуй табе сынок! Выратуй хлопчыка. Мы ж застанемся тут. З суседзямі мы як родныя. Калі сыдзем, немцы заб’юць усіх, хто жыве ў суседніх дзесяці дамах. Нас ужо нішто не выратуе. Ісці мы ўсё адно не зможам. Сіл у нас засталося толькі ў «душагубку» і то, дапамагаючы адзін аднаму... Выратуй яго, нашага Абрамчыка!

Леанід разумеў, што трэба спяшацца. Таго і глядзі, Антончык з’явіцца. Ён павярнуўся да хлопца:

— Давай, Абрам, хутка збірайся. Нам трэба паспець дацямна выйсці з зоны, мне яшчэ неабходна прыдумаць, як гэта зрабіць. Мне адзін паліцай дапамог сюды прабрацца. Але ён цяпер у юдэнраце дзяжурыць. Праўда, сказаў, калі я буду затрымлівацца, то прыйдзе сюды. А гад ён — пашукаць трэба, нездарма сябруе з Ліпковічам.

— З Ліпковічам? Абрамам?! — усклікнула Эма Самуілаўна. — Дык гэты ж гад увесь час патрабаваў ад нас каштоўнасцей. Ён жа ўчора і забіў майго мужа!

Лёнька насцярожыўся:

— А вы яго сябрука Антончыка не ведаеце?

— Гэта той, хто Антон? — спытала маці хлопчыка.

— Так.

— Ён такая ж набрыдзь. Яны знюхаліся, рабавалі, забівалі, рабавалі і забівалі...

Леанід зразумеў, што ў жанчыны — істэрыка, і, павысіўшы голас, запатрабаваў:

— Спыніцеся. Цяпер не час для слёз! Лепш скажыце, мы можам ісці?

Абедзве жанчыны кінуліся да Абрама і сталі паспешна развітвацца.

— Сынок, я буду маліцца, каб ты застаўся жыць. Паспрабуй Элачку знайсці. Мы верым, што гэта пекла хутка скончыцца!

Леаніду давялося цягнуць падлетка за руку.

— Пойдзем, пойдзем хутчэй!

Яны выйшлі на вуліцу.

Абрам заплакаў і ціха сказаў:

— Я больш не ўбачу маму! Яе заб’юць!

— Трымайся, сябар! Сам разумееш, што адбываецца. Ты дарогу да юдэнрата ведаеш?

— Так, калі тут пойдзем, — ён рукой паказаў правей,— то будзе бліжэй.

— Пайшлі, толькі запомні, калі хто спытае, я вяду цябе ў паліцэйскую ўправу на допыт. А калі Антончыка сустрэнем, то скажам, што ты ўзяўся паказаць мне, дзе схавана золата. Зразумеў?

— Ага.

Неўзабаве яны апынуліся ля штаба юдэнрата. Каля ўвахода стаялі двое: адзін — у форме паліцая з вінтоўкай, другі — у цывільнай адзежы з яўрэйскай налепкай і павязцы на рукаве.

Леанід звярнуўся да яго:

— Ты ведаеш Антончыка, паліцая?

У адказ прагучала штосьці невыразнае. Паліцэйскі з вінтоўкай, перакручваючы словы сказаў:

— Я знат твой Антон. Ён пайшоў у сябра, напэўна, да цябе... Вось туды пайшоў, паказаў ён рукой у бок, адкуль прыйшлі Леанід і Абрам.

Леанід нерашуча таптаўся на месцы і думаў: «Што рабіць? Чакаць гэтага ідыёта? Відаць, тут небяспечна».

Як бы ў пацвярджэнне з будынка выйшаў нямецкі афіцэр. Ён прыпыніўся і ўважліва паглядзеў на Леаніда і Абрама. Леанід па прыкладзе ахоўнікаў прыняў стойку «смірна». Афіцэр, напэўна, хацеў штосьці спытаць, але раздумаў і пайшоў сваёй дарогай.

Леанід адважыўся і звярнуўся да паліцая.

— Ты сам адкуль?

— Я — з Каўнас. А гэты, — ён кіўнуў у бок яўрэя, — брэменскі жыд. Хоча перажыць сваіх жа.

Леанід яшчэ больш пасмялеў:

— Я штосьці цябе раней не бачыў.

— Нас жа тут шмат, сам ведаеш, пакуль пераб’ём жыдоў, не да сяброўскіх сустрэч.

Ён панізіў голас і даверліва прамовіў:

— Сёння прыйшоў загад з Рыгі ўсіх жыдоў за гэты тыдзень — пад нож.

— Што, усіх?

— Вядома. Усім надакучыла з імі важдацца. Пачнём больш шчыльна працаваць з мясцовымі. У іх і пажывіцца можна.

Леанід убачыў, як тузануўся Абрам, і, узяўшы яго за руку, груба сказаў:

— А ну, пайшлі! А то вушы развесіў.

Яны накіраваліся ў зваротным накірунку.

Жадаючы хоць неяк супакоіць хлопчыка, Леанід сказаў:

— Ты не вельмі прыслухоўвайся да гэтых літоўцаў, кожны дзень яны пра адно і тое ж далдоняць. — І, убачыўшы Антончыка, які набліжаўся, ціха дадаў: — Дзейнічай, як дамовіліся, рабі выгляд, што баішся і мяне, і яго.

Антончык гучна прамовіў:

— А я ўжо да цябе паспяшаўся. Думаў, што табе дапамога патрэбна. У гэтым доме Ліпковіч аціраўся. Учора аднаго жыда кокнуў. Гэта хто? — кіўнуў ён на Абрама.

— Вось з ім мы і дамовіліся, што ён пакажа, дзе яго бацькі сёе-тое прыхавалі.

— А шмат?

— Думаю, нам з табой хопіць. Вось толькі, як з ім з гета выйсці?

— Дзеля такой справы рызыкнём. Скажам, што начальнік паліцыі за ім паслаў.

— Скажам, што бацька яго ў паліцэйскай управе, яго там дапытваюць, а гэты шчанюк сёе-тое ведае, — падтрымаў Леанід.

Яны рашуча накіраваліся да варот. На здзіўленне Леаніда, усё прайшло спакойна, звыкла. Яны прайшлі і міма паліцаяў, якіх Антон вітаў узмахам рукі, і міма немцаў з каменнымі тварамі. Абрама пусцілі паперадзе.

Антон папярэдзіў:

— Не падумай дзёру даць! Калі што, кулю атрымаеш без папярэджання. Зразумеў?

— Куды мне бегчы, там жа мая мама і цётка Эма засталіся...

Антон нахіліўся да Леаніда:

— Я гэтых баб прышыў.

— Як прышыў?! — усклікнуў Леанід. — За што?!

— А за тое, што яны жыдоўкі. Няўжо ты не разумееш, што іх усіх трэба знішчаць.

Па тым, як тузануўся Абрам, Леанід зразумеў, што ён усё чуў. У Леаніда пацямнела ў вачах. «Госпадзі, што ж гэта за звяры?! А я ж іх форму напяў, за кавалкам хлеба пацягнуўся. Я не маю права быць з імі! Я павінен з імі ваяваць».

Раптам у яго выспеў план. Леанід паскорыў крок і, апынуўшыся наперадзе, сказаў:

— Пойдзем міма Свіслачы, так будзе куды бліжэй.

— А там хіба ёсць мост? — спытаў Антон.

— Так, пешаходны. — Цяпер Леанід больш за ўсё баяўся, што Абрам не вытрымае і кінецца на ўцёкі. Стаў нават прыспешваць: — Давай хутчэй, хутка сцямнее.

Хвілін праз дваццаць яны апынуліся ля ракі і рушылі ўздоўж берага. У гэтым месцы рака не замерзла. Дайшлі да зараснікаў. Леанід спыніўся і, прыклаўшы палец да вуснаў, прашаптаў:

— Цішэй! Чуеце? — Ён хутка зняў вінтоўку, пстрыкнуў затворам і нечакана, амаль не цаляючы, уляпіў кулю ў Антончыка:

— Атрымлівай, гад, за невінаватых. — Ён зірнуў на спалоханага, нібы закамянелага Абрама. — Абрам, супакойся. Ты ж зразумеў, што ён нядаўна зрабіў у гета?

— Так, ён забіў маю маму...

— Давай будзем дзейнічаць хутка. Дапамажы мне! Спачатку трэба яго распрануць, потым знайсці які-небудзь груз і вяроўку. Кінем гэтага гада ў ваду, дзе глыбей. Хай на дне рыб паловіць.

— А шукаць яго не будуць?

— Будуць, але не вельмі. Вялікая страта...

Вяроўку яны, вядома, не знайшлі, але выкарысталі споднікі, анучы і змаглі прывязаць да голага цела досыць вялікі кавалак рэйкі, які знайшлі ў развалінах разбомбленага яшчэ ў сорак першым годзе дома. Праўда, груз быў прымацаваны не вельмі надзейна.

Абрам паказаў на паўразбураную хату на процілеглым беразе:

— Дазволіце, я сплаваю туды? Што-небудзь знайду.

— Распраніся, каб не ісці ў мокрай адзежы.

Леанід сумняваўся, а ці не ўцячэ перапуджаны хлопец, таму і прапанаваў распрануцца. Голы нікуды не пабяжыць.

Падлетак хутка вярнуўся. Ён прынёс доўгі падвойны электрашнур.

— Са сценак злупіў, — сказаў ён.

Яны надзейна «спакавалі» труп. Яшчэ не апрануты Абрам залез у ваду. Яны сапхнулі труп, а хлопец адцягнуў яго глыбей і адпусціў. Труп цалкам схаваўся ў вадзе.

— Сабаку — сабачая смерць! — ціха прамовіў Леанід і загадаў: — Хутка апранай сваё рыззё, зверху — гімнасцёрку і шынель, на рукаў — павязку, на галаву — пілотку.

Агледзеўшы экіпіроўку, сказаў:

— Добра, у цемры сыдзе. Бяры вінтоўку, зрабі выгляд, што ты таксама паліцай, і пайшлі.

Леанід першым рушыў у бок, адкуль яны прыйшлі. Абрам вырашыў нагадаць:

— Дык вы ж хацелі ісці праз масток?

— Ды няма мастка. Гэта я вырашыў гэту набрыдзь завесці далей.

— Як думаеце, а стрэл не выкліча перапалоху?

— Не хвалюйся. У Мінску стрэлаў, асабліва ўвечары ці ўначы, шмат. Ідзі хутчэй. Пажадана дайсці да наступлення камендацкай гадзіны.

— А куды?

— Прыйдзем, убачыш.

Леанід вырашыў, што хлопца да Жэні дамоў весці небяспечна. Яе сям'ю гестапа падазрае ў сувязях з партызанамі. Застаецца адно — забраць хлапчука да сябе дахаты. «Мама павінна зразумець мяне».

Ішлі досыць доўга, не менш за гадзіну. Зайшлі ў двор прыватнага дома. У сенцы вяла лесвічка з трох прыступак. Увайшлі ў дом. У адным з пакояў, як хутка сцяміў Абрам, кухні, гарэла газавая лямпа. На вокнах — цёмныя фіранкі з кавалкаў коўдраў і лапікаў адзежы. За сталом сядзелі тры дзяўчынкі — з выгляду шэсць, восем і дзесяць гадоў.

Ля печы стаяла сівая жанчына. Яна здзіўлена паглядзела на сына і незнаёмага хлопца. Ціха спытала:

— А гэта хто?

— Мама, у мяне іншага выйсця няма. Дазволь Абраму пажыць у нас.

— А што з ім?

— Яго бацькоў забілі ў гета.

Жанчына па чарзе паглядзела на дзяцей, абвяла вачамі пакой і неяк проста сказала:

— Хай жыве.

— Дзякуй, мама. Ён на вуліцу носа не суне, дзяўчынкам мы скажам, каб язычкі не распускалі...

## Раздзел 28

У студзеньскія дні 1944 года, нягледзячы на сцюжу, пастаянныя снежныя бураны і, натуральна, намеці на дарогах, перабояў у дастаўцы «тавару» не было. Жыццё ў інтэрнаце вiравала. З літоўскага батальёна была вылучана група з дваццаці чалавек, на якую ўсклалі задачу хаваць памерлых. Недалёка ад рэчкі Чарнушка штодня чысцілі вялікую пляцоўку, распальвалі вогнішчы, каб да ночы вырыць ямы і раніцай пахаваць памерлых дзяцей. Ліпковіч з іншай групай літоўскіх і шасцю мясцовымі паліцаямі, якіх асабіста падабраў Абрам, павінны былі штодня адвозіць трупы, якія не паспявалі закапаць, у Трасцянец, каб спальваць у печах і з Мінска дастаўляць у Сёмкава новыя партыі дзяцей. Але неўзабаве непагадзь унесла свае карэктывы, і Мойрыну давялося шукаць выйсце з сітуацыі. Ён вырашыў мёртвых дзяцей хаваць на тэрыторыі інтэрната. Мойрына турбавала і тое, што штодзённыя страты складалі не меней як дзесяць дзяцей, а «паставак» ужо дзявяты дзень няма. Маёр шукаў выйсце. Прасіць у Готэнберга дапамогі ў ачыстцы дарог ад снежных гурбаў у маёра смеласці не хапала, становішча на фронце было вельмі складаным, траціць гаручае для танкаў — гэта адзінае, што забяспечвала б бесперабойны рух па

дарозе, дый выкарыстоўваць танкі для барацьбы з партызанамі было б недарэчы. Турбавала Мойрына і тое, што донарская кроў адпраўлялася ў Мінск з вялікай цяжкасцю.

Маёр знаходзіўся ў невясёлым роздуме, калі ў дзверы пастукалі, і на парозе з'явіўся капітан Гофман:

— Дазвольце?

— Уваходзьце, уваходзьце, Фрыц.

— Ведаеце, Вільгельм, мяне турбуе адна акалічнасць.

— Якая? Прысаджвайцеся.

— Да нас ужо які дзень не паступае папаўненне.

Мойрын усміхнуўся і, не адказваючы, падышоў да серванта, дастаў пачатую бутэльку каньяку і два шырокія бакалы, невялікую талерку з нарэзанай тонкімі лустачкамі каўбасой і, расстаўляючы ўсё гэта на стале, нарэшце адказаў:

— Прыемна, калі калегі думаюць аднолькава. Гэта значыць, што мы спрацаваліся, Фрыц. З раніцы я толькі і думаю пра гэта. Давайце вып'ем і, як бачыце, закусім салямі.

Яны выпілі, і капітан Гофман працягнуў:

— Да мяне звярнуўся яўрэй, які прыкамандзіраваны да нас. Ён — з мясцовых, камандуе літоўскімі паліцэйскімі.

— Так, я ўжо заўважыў: яўрэй камандуе тымі, хто знішчае яўрэяў, — усміхнуўся Мойрын.

— Але гэты Ліпковіч — унікальны чалавек, ён — вылюдак. Сам ненавідзіць яўрэяў, з задавальненнем іх забівае, і дарослых і дзяцей. Дык вось ён прапанаваў, па-мойму, нядрэнны варыянт: канфіскаваць у мясцовага насельніцтва пяць-шэсць коней і выкарыстоўваць іх для дастаўкі ў Мінск крыві, а зваротна прывозіць тавар.

— А коні пройдуць праз сумёты на дарогах?

— Ліпковіч — мясцовы, ведае ўсе асаблівасці, ён упэўнены, што калі стварыць невялікі атрад з сялян з лапатамі, то пройдуць, для коней з лёгкімі санкамі не трэба рабіць дарогу ідэальна чыстай.

— А што, гэты яўрэй, мабыць, слушна кажа, — задуменна прамовіў Мойрын і напоўніў чаркі. — Давайце, Фрыц, за поспех конскай справы! Клічце лейтэнанта Шанемана, прыцягвайце іншых афіцэраў і салдат, стварайце групы з гэтых паліцаяў. — Мойрын паглядзеў на гадзіннік — адзінаццаць дваццаць. — Неадкладна адпраўце сабраную кроў на наяўных у інтэрнаце конях. Трэба арганізаваць надзейную ахову. Да канфіскацыі коней у насельніцтва прыцягвайце і гэтага злодзея Вайтовіча. Хай тлумачыць, што забіраем іх на некаторы час, потым вернем. Нам не трэба лішняга шуму і хваляванняў сярод насельніцтва.

— Вільгельм, дазвольце мне зрабіць гэты першы рэйс? Я вывучу ўмовы, становішча...

— Дзейнічайце. Сустрэньцеся ў Мінску ў камісарыяце з гаўтманам Шлотэнам, ён апякуе гэтага Ліпковіча, перамоўцеся з ім. І яшчэ паспрабуйце далажыць генеральнаму камісару генерал-лейтэнанту СС фон Готбергу пра становішча, якое склалася, і запэўніце, што пастаўленую задачу, нягледзячы ні на што, мы выканаем. Самі ведаеце, па тэлефоне пра гэта не скажаш — сувязь адкрытая.

— Я разумею. — Капітан Гофман устаў. — Дазвольце выконваць?

— Дзейнічайце, Фрыц.

Праз сорак мінут двое саней з коньмі ў суправаджэнні атрада, які складаўся з немцаў і паліцаяў, рушылі ў дарогу. На кожных санях сядзелі афіцэр

і медык. Паміж імі ў саломе знаходзіліся надзейна спакаваныя пасудзіны, якія нагадвалі тэрмасы.

Дарога сапраўды была непраходнай для аўтатранспарту. У Мінск яны прыбылі толькі пад вечар. У першую чаргу здалі каштоўны груз — дзіцячую кроў.

Неўзабаве капітан Гофман паўстаў перад генерал-лейтэнантам Готбергам. Гаўляйтар уважліва выслухаў даклад афіцэра і паціснуў яму руку:

— Дзякую за службу, капітан! Вашы дзеянні — прыклад, як трэба выконваць свой абавязак. Я ўхваляю вашы дзеянні. Вы знайшлі аптымальны варыянт. Зробім так: назад вы будзеце вяртацца заўтра. Паліцэйскія з коньмі адправяцца раней, а вы з афіцэрамі і салдатамі на аўтамашыне даганяйце іх на мяжы з участкам, дзе аўтамабіль не пройдзе.

— Гер генерал, — прапанаваў Гофман, — такім чынам можна было б арганізаваць і дастаўку «тавару» ў інтэрнат, а адтуль у Мінск — кроў.

— Правільна думаеце, капітан! — ухваліў Готберг. — Я распараджуся пра начлег, а заўтра з'явіцеся сюды і прымем рашэнне...

## Раздзел 29

Камбрыг Грынёў і начальнік штаба брыгады Пазнякоў інфармавалі палкоўніка Сігаева пра вынікі цяжкіх баёў падчас блакады акупантамі вялікай партызанскай зоны. У блакадзе знаходзіліся яшчэ дзве партызанскія брыгады і дзевяць самастойных атрадаў, а таксама дзве спецгрупы ГРУ.

Сігаеў, дымячы папяросай, схіліўшыся над разгорнутай картай, не хаваў задавальнення:

— Мы лічым, што вы з гонарам выйшлі з гэтай найскладанейшай сітуацыі, калі часам здавалася, што маглі загінуць людзі, быць знішчанымі склады з харчам і боезапасам, была магчымасць правесці масавыя карныя аперацыі супраць жыхароў больш як ста пяцідзесяці вёсак.

Грынёў заўважыў:

— Вядома, цяпер і час іншы. Нам выдатна дапамагае Вялікая зямля, самалёты амаль кожную ноч скідалі міны, зброю, медыкаменты і харч. Нашы лётчыкі, якія часам пад агнём праціўніка прызямляліся амаль у цемры на лясныя аэрадромы, вывезлі больш за трыста параненых і дзяцей. Мы ўдзячныя камандаванню Чырвонай Арміі за ўдары авіяцыяй па найбольш небяспечных групоўках праціўніка.

— Сяргей Іосіфавіч, не будзем сціплымі. Давайце прама скажам: навучыліся партызаны ваяваць. Я дакладваў свайму кіраўніцтву аб некалькіх вашых удалых, я сказаў бы, цікавых аперацыях. Асабліва ўражвае каардынацыя сумесных дзеянняў брыгад і атрадаў. Я ўпэўнены, што немцы, якія прыцягнулі да сваёй аперацыі не толькі тры ахоўныя дывізіі, размешчаныя на тэрыторыі Беларусі, але і дзве дывізіі і тры асобныя палкі, якія накіроўваліся на фронт, а іх нямецкае камандаванне вымушана было зняць з марша і кінуць супраць партызан, таксама зразумелі. У Цэнтральным штабе партызанскага руху, у Генштабе і ў нас, у галоўным разведвальным упраўленні, вывучылі адну з вашых аперацый, калі вы змаглі ўцягнуць у балота больш як батальён танкаў.

— Шкада, Міхаіл Міхайлавіч, — усміхнуўся камбрыг, — што адзінаццаць танкаў патанулі ў багне, а то ў брыгадзе з'явілася б сваё танкавае падраздзяленне — мінімум рота. Мы падрыхтавалі для перадачы праз вас справаздачу

ў Маскву. У ёй прыводзяцца канкрэтныя лічбы і дадзеныя, прычым строга перапраўераныя пра нашы аперацыі на чыгунках і аўтамабільных дарогах. Упершыню ўдалося здымаць на кінакамеру знішчэнне эшалонаў з танкамі і артылерыяй. Дык няхай паглядзяць гэту кінакамедыю ў трох серыях.

— У чатырох, — паправіў начштаба. — Сёння раніцай з атрада «Вымпел» даставілі яшчэ адзін фільм.

— Якія страты ў мясцовага насельніцтва? — пацікавіўся палкоўнік.

— Загінула сто сем чалавек, паранены сто семдзесят адзін баец. Падчас блакады давялося часова эвакуіраваць насельніцтва пятнаццаці вёсак, фашысты спалілі сем пустых вёсак, а іх насельніцтва нам давялося ўладкоўваць у іншых населеных пунктах.

— Добра, таварышы, — Сігаеў злёгку пляснуў далонню па карце, — гэты дакумент дадайце да справаздачы. Вельмі ж красамоўны малюнак тут праглядаецца. За мной самалёт прыляціць сёння ўначы. Дарэчы, даставіць вам свежую пошту і радыёпрыёмнікі, якія прасіў камісар, а таксама газеты, дзе ёсць інфармацыя пра вашы справы, нават адну газету з карыкатурамі пра тое, як савецкія партызаны вучылі нямецкіх звяроў «пантэр», і «тыграў» па балотах разгульваць. Упэўнены, пасмеяцеся.

Ну а зараз, калі не пярэчыце, давайце абмяркуем аперацыю «Інтэрнат» — такая назва дадзена ў Маскве. У бліжэйшыя тыдні наша войска пачне новыя наступленні. Ёсць небяспека, што фашысты будуць знішчаць дзяцей. Пытанне не толькі ў галоўным — выратаванні нашых дзяцей, але і яшчэ вось у чым: на акупіраванай тэрыторыі вораг стварыў пяць-шэсць донарскіх цэнтраў, дзе бяруць кроў у дзяцей. Трэба ў што б там ні было захапіць у Сёмкаве кіраўнікоў, медперсанал, дакументы. Усё гэта вельмі важна. Нельга дараваць фашыстам іх выключна жывёльную жорсткасць. Спатрэбяцца доказы, калі пасля нашай перамогі верхаводы і выканаўцы іх дзікіх загадаў паўстануць перад міжнародным судом. А гэтыя доказы павінны быць у Сёмкаве. Цэнтр дае дабро на правядзенне аперацыі.

— У нас план аперацыі, — сказаў Пазнякоў, — практычна гатовы.

— Вырашылі, куды пасяліць дзяцей? Трэба ўлічваць, што ўсе яны знясілены, маюць патрэбу ва ўзмоцненым харчаванні.

— Так, так, — упэўнена сказаў камбрыг. — Мы ўлічваем і пытанні харчавання, і пытанні медыцынскага абслугоўвання.

— А як з блакіраваннем суседніх гарнізонаў? Трэба ўсё зрабіць, каб не даць фрыцам прыйсці на дапамогу гарнізону ў Сёмкаве.

— Мы прыцягваем да гэтай аперацыі, — начальнік штаба адкрыў сейф і, дастаўшы з яго карту, уверсе якой было напісана: «Зусім сакрэтна», «Аперацыя «Кроў», паклаў яе на карту, якая ўжо ляжала на стале і прадоўжыў: — сілы двух палкоў, а таксама тры атрады, якія дыслакуюцца ў гэтым рэгіёне. Практычна дзеянні адбудуцца на тэрыторыі чатырох раёнаў. Пакуль надвор’е нам спрыяе. Амаль кожны дзень валіць снег, бураны, на дарогах сумёты.

— А як плануеце дастаўку дзяцей?

— Прадугледзелі два маршруты, — адказаў камбрыг. — Падрыхтавана не меней як семдзесят саней з сенам і кажухамі. Для маскіроўкі, у тым ліку і коней, падрыхтаваны пакрывалы з парашутнага шоўку. Дзве роты будуць суправаджаць абоз. Усе байцы ўзброены аўтаматамі, ім выдзелена пяць снайперскіх вінтовак, восем ручных кулямётаў, гранаты. Маршруты руху прадугледжваюць баявую ахову, мініраванне падыходаў. — Камбрыг Грынёў раптам усміхнуўся. — Упершыню ў сусветнай практыцы пры вядзенні баявых дзеянняў ва ўмовах лясістай мясцовасці будуць ужыты... пасткі.

— Што-што? Якія пасткі? — не зразумеў Сігаеў.

— Звычайныя, якія ставяцца на буйнага звера, — патлумачыў Пазнякоў, — на ваўка, на дзіка ці мядзведзя. У снезе іх зручна хаваць, суне ножку фашыст, а пастка зубамі — клац, і фрыцу ўжо не да нападзення, на інваліднасць збірайся.

Сігаеў ажно прысеў ад смеху, які душыў яго. Выціраючы слёзы, прамовіў:

— Ну, вы і даяце! Уяўляю, як у Маскве адрэагуюць на вашу навінку. Вельмі прашу, таварышы, калі хоць адзін фрыц патрапіць у пастку, абавязкова паведамце. Паверце, увесь свет смяяцца будзе. Уяўляю, як карыкатурысты размалююць. Ну што ж, — твар Сігаева стаў сур'ёзным і нават строгім, — я ўпаўнаважаны паведаміць вам: загадана аперацыю пачаць! Сёння ж далажу, што аперацыю вы назвалі «Кроў». Зараз раскажыце, як вы збіраецеся ўкараніць Ганну Мікалаеўну ў логава фашыстаў.

## Раздзел 30

Некалькі дзён пасля знішчэння Антона Антончыка Леанід хадзіў сам не свой. Уначы амаль не спаў, уздрыгваў ад любога шуму, асабліва калі па вуліцы праязджала машына. Накіроўваючыся на службу, літаральна сціскаўся, калі бачыў немцаў ці паліцаяў, якія ішлі насустрач. Ва ўправу ўваходзіў з вінтоўкай з патронам у патронніку. Леанід цвёрда вырашыў: у выпадку рэальнай небяспекі жывым у рукі ворага не здавацца.

Ён вельмі баяўся сустрэчы з Ліпковічам. Калі ва ўправе і сярод паліцэйскіх ніякіх гутарак пра знікненне Антончыка не вялося, Ліпковіч проста абавязаны быў пацікавіцца, дзе яго сябрук.

І вось Леанід і Ліпковіч сустрэліся. Гэта было ля ўваходу ва ўправу.

Ліпковіч, убачыўшы Леаніда, усміхнуўся:

— А, Лёнька, прывітанне. Ведаеш, я так закруціўся, што нават забыўся, як шнапс выглядае. А ты памятаеш?

— Ой, не кажы. Мы ж кожны дзень на вуліцах, якія патрулююцца. І холадна, і галадна. Штосьці нашы шэфы замітусіліся, нервуюцца, крычаць.

— А ты што, не ведаеш? На фронце справы храновыя. Вось яны і ўспудзіліся. Я лічу, што нам неабходна больш думаць пра сябе. У жыдаўя золатка яшчэ шмат, ды і ў мясцовых людцаў кудысьці раптам падзеліся заручальныя пярсцёнкі, завушніцы, кулоны. Хоць перад вайной усё гэта можна было ўбачыць, лічы, у кожнай трэцяй, максімум чацвёртай кабеткі. Вось хачу табе прапанаваць пакумекаць — што пара нам падумаць пра свой бюджэт. У мяне ўжо сёе-тое, вядома, ёсць. А вось у цябе, Лёнька? Дзіркі ў кішэні, дома нябось акрамя пахлёбкі і кавалка хлеба наўрад ці штосьці лепшае знойдзецца. Мая праўда ці не?

— Вядома, твая праўда. Дык што ты прапануеш?

— Ёсць у мяне пяць надзейных чалавек. Усе яны мясцовыя. Кожнага правёрыў асабіста. На рахунку ў любога з іх не меней як дзясятак душ.

— Яўрэяў?

— Не толькі. Гэтыя мужыкі перад вайной вялі вольны лад жыцця. Рабавалі, кралі, баб гвалтавалі. Вось і спатрэбіліся яны немцам, даручылі ім надзець паліцэйскую форму, далі зброю. Хлопцы стараюцца. Іх прыцягваюць і да пагромаў, і да расстрэлаў. Надзейныя людзі і, галоўнае, адданыя мне.

— Сярод іх і Антон?

Ліпковіч спалохана азірнуўся:

— Цішэй ты! Антон аказаўся слабаком. Знік дзесьці. Я думаю, што ён хутчэй за ўсё зрабіў ногі. Пачуў гад пах смажанага, прыхапіў вінтоўку, яго толькі і бачылі. Хутчэй за ўсё да партызан падаўся, дзе раскажа байку пра сябе і будзе ўжо з намі ваяваць.

Леанід ледзь хаваў сваю радасць.

Ліпковіч працягваў:

— Нам па яго шляху ісці нельга. Адзінае выйсце: узбагачацца. У выпадку паражэння нямецкага войска мы з добрым залатым запасам і ў Германіі, ды і, калі што якое, у іншай краіне прытулак знойдзем. Я склаў спіс адрасоў, дзе, па маіх разліках, можам добра пажывіцца. Падкінем немцам, што, па нашых дадзеных, па гэтых адрасах бываюць партызаны ці іх сувязнікі. Лічы, што пасля гэтага рукі ў нас развязаны. Ну як, ты са мной?

— Калі ты думаеш пачаць? — не адказваючы на пытанне, спытаў Леанід.

— Прыходзь заўтра раніцай у маю рэзідэнцыю, удакладнім спіс, складзём план і правядзём інструктаж з маімі людзьмі.

— У якую рэзідэнцыю?

— Вось малец! — усміхнуўся Ліпковіч. — У хляве, у двары ўправы, дзе ты ўжо бываў. Зразумеў?

— Так, — машынальна прамармытаў Леанід.

— Ну і добра. Тады я пабег. Сёння нам трэба даставіць у Сёмкава два дзясяткі шчанюкоў.

— А для чаго?

— О, гэта вялікая тайна. Пазней раскажу. Пакуль. — Леанід некаторы час стаяў, думаючы, што яму рабіць, а затым ледзь не подбегам накіраваўся дамоў. Адказваючы неўпапад маці, пераапрануўся ў цывільную адзежу і, ізноў ледзь не подбегам, да дома Статкевічаў. Ён ужо вырашыў, што скажа дзяўчыне. Бянтэжыла адно, як выклікаць з дома Жэню, ды і ці дома яна. Ён цяпер ведаў і страшную тайну Сёмкава. Хоць Ліпковіч сёння нічога не расказаў, Леанід памятаў яго словы, сказаныя ў п’яным чадзе.

Леанід хутка набліжаўся да дома Статкевічаў і пакутліва думаў ужо толькі пра адно — як сустрэцца з Жэняй?

Сённяшні дзень быў удалым для хлопца: ён супакоіўся наконт Антончыка, даведаўся, што ў немцаў кепскія справы на фронце, і атрымаў інфармацыю па Сёмкаве, куды павязуць новую партыю дзяцей, для якіх інтэрнат — гэта канец. Вось і на гэты раз ён убачыў Жэньку! Яна хутка набліжалася да яго.

— Лёнька! Вось удача! А я — да цябе! У цябе цяпер ёсць час?

— Для цябе — так.

— Ды кінь ты, «для цябе», — махнула рукой і перадражніла хлопца Жэня. — Не для мяне, а для справы. Ідзі за мной. Ведаеш, дзе жывёльны кірмаш?

— Ты што, думаеш, што я не ведаю Старажоўку?

— Ну, вось і добра. Там мы сустрэнемся з адным чалавекам. — Жэня перайшла засыпаную снегам вуліцу і павярнула ў невялікі завулак.

Лёнька накіраваўся за ёй.

Народу на кірмашы было не вельмі шмат. Жэня перасекла невялікую плошчу і, праціскаючыся праз нешматлікія натоўпы прадаўцоў і пакупнікоў, увайшла ў невялікі драўляны будынак. Лёнька — за ёй. Адкрыўшы адны з дзвярэй і дачакаўшыся хлопца, яна сказала:

— Праходзь сюды!

У невялікім, добра напаленым пакоі сядзеў незнаёмы мужчына. Ён устаў і працягнуў руку:

— Ну, добры дзень, Леанід!

З выгляду яму можна было даць гадоў трыццаць — трыццаць пяць. Апрануты ў стары пашарпаны паўкажушак. Ён прадставіўся:

— Я — Сцяпан Пятровіч. Прыбыў з партызанскага атрада, спецыяльна сустрэцца з табой. — Ён паказаў на табурэтку. — Ды ты прысаджвайся.— Зрабіўшы невялікую паўзу, Сцяпан Пятровіч прадоўжыў: — У першую чаргу хачу падзякаваць за выратаванне дзяўчынкі і Яўгеніі і, вядома ж, за вельмі важную інфармацыю, якую ты паведаміў.

— Дык вы — партызан?! — выклікнуў Леанід. — Я іду з вамі ў атрад! Мне трэба адпомсціць...

— Пастой, пачакай! — перапыніў яго госць. — Разумееш, Лёня, з ворагам можна ваяваць не толькі са зброяй у руках. Такая барацьба больш небяспечная, чым перастрэлка. Калі знаходзішся сярод ворагаў, ты ўвесь час у баі. Я хачу прапанаваць табе застацца служыць у паліцыі. Разумееш, нам вельмі патрэбна інфармацыя пра планы акупантаў і іх паслугачоў, прозвішчы здраднікаў, звесткі пра людзей, каго хочуць арыштаваць, падвергнуць рэпрэсіям. Мы разумеем, ты не ўсё можаш ведаць, але пагадзіся, калі інфармацыя паступае са шматлікіх крыніц, то гэта дазваляе правільна ацаніць дадзеныя і прыняць правільнае рашэнне. Згодзен ты на такую небяспечную разведвальную працу ў імя нашай Радзімы?

— Так, я згодзен, — цвёрда адказаў Леанід і нават ускочыў са свайго месца.

— Ды ты сядзі, сядзі, браток, — усміхнуўся Сцяпан Пятровіч. — Мне Жэня расказвала надоечы, што ты вывеў з гета хлапчука-яўрэя? Раскажы пра гэта.

Леанід падрабязна расказаў пра тое, як выратаваў Абрама, пра знішчэнне Антончыка. Не забыўся ён і аб інфармацыі пра Сёмкава.

Пасля нядоўгага роздуму Сцяпан Пятровіч сказаў:

— Значыць, так. Абрама мы ад цябе забяром. Не варта тваю сям'ю падвяргаць смяротнай небяспецы. Паспрабуй як мага хутчэй даведацца пра членаў хеўры Ліпковіча і здабыць спіс людзей, якіх яны хочуць рабаваць. Запомні, для нас вельмі важная любая інфармацыя пра Сёмкава. Сувязь будзем трымаць праз Жэню. — Сцяпан Пятровіч ізноў усміхнуўся.

— Вы мяне прабачце, але вам давядзецца выконваць ролю закаханых.

— Яшчэ чаго! — успыхнула Жэня.

— Ну, не закаханых, — прымірэнча сказаў Сцяпан Пятровіч, — дык вельмі добрых школьных сяброў.

## Раздзел 31

Загад маёра Мойрына заахвоціць за добрую працу Вольгу Сялькевіч і яшчэ некалькіх санітарак і прыбіральшчыц нарэшце быў выкананы. Раніцай дырэктар назваў прозвішчы чатырох працаўніц, якім прапанаваў прыйсці ў капцёрку і атрымаць падарункі. Вольга Іосіфаўна была вельмі занята, бо спатрэбілася падрыхтаваць дваццаць восем ложкаў для размяшчэння новай партыі дзяцей. Выканаўшы гэта даручэнне, Сялькевіч узялася за ўборку пакояў, у якіх жылі іншыя дзеці. Яна закончыла мыць падлогу ў калідоры, калі да яе падышлі тры работніцы. Азіраючыся на ўваходныя дзверы, паказалі Вользе кофту, дзве спадніцы і дзве сукенкі:

— Калі мы прыйшлі ў капцёрку, там знаходзіліся Вайтовіч і паліцай. Памятаеш, ён збіваў дзяцей, якія павольна вылазілі з саней.

— Гэта з новай партыі дзяцей.

— Так, ты яшчэ дзівілася, што ўсе яны яўрэі.

— Канечне, памятаю, я яшчэ сказала, што ён сам яўрэй, а так здзекуецца з дзяцей-яўрэяў.

— Дык вось, яны далі нам гэтыя шмоткі, а Вайтовіч урачыстым голасам паведаміў, што па загадзе пана маёра нам уручаюць гэтыя падарункі. Ліпковіч пры нас дастаў з двух мяшкоў гэтыя рэчы і ўручыў іх нам. Мы адразу ж зразумелі, што гэтыя шмоткі ён яшчэ ўчора прывёз з Мінска.

— Так, памятаю. Ён два мяшкі дастаў з саней і разам з Вайтовічам амаль подбегам панеслі да капцёркі.

— Паглядзі, Оля, што яны нам выдалі.

Вольга Іосіфаўна па чарзе агледзела спадніцы, кофты і сукенкі. На кожнай рэчы былі невялікія круглыя дзірачкі і чырвоныя плямы.

— Госпадзі, — уздыхнула Сялькевіч, — гэта ж кроў.

— Так, — пацвердзіла адна з сябровак, — а дзірачкі — ад куль.

— Усё зразумела, — працягвала яна, — Вайтовіч пачаў вывозіць рэчы, што захоўваюцца на складзе, прадаваць, а замест іх Ліпковіч дастаўляе рэчы, знятыя з забітых.

— Божа мой, — роспачна ўсклікнула Сялькевіч, — што за звяры! Людзей, нават дзяцей, забіваюць і на іх адзежы зарабляюць.

— А што, калі Мойрыну расказаць, — прапанавала адна з работніц. — Ён жа афіцэр...

— Ды ты што, Каця, — перапыніла яе Вольга Іосіфаўна, — усе яны — звяры і каты. Яны ж у дзяцей кроў выпампоўваюць. Няўжо вы не бачыце, жанчынкі?!

Жанчыны, перабіваючы адна адну, шэптам сталі перагаворвацца.

Каця ўспомніла:

— У аднаго хлопчыка з учарашняй групы навічкоў парваліся штонікі. Дык гэты Ліпковіч пакалупаўся ў трэцім мяшку, які застаўся ляжаць у санях, і працягнуў нейкія порткі хлапчаню: «На, жыдзяня, памятай добрага дзядзьку!» Хлопчык проста на марозе стаў нацягваць на свае рызманы «падарунак». Порткі таксама ў некалькіх месцах па шве падраны, а частка пояса адарвана. Хлопчык сказаў: «Дзядзька, яны ж таксама рваныя». Ліпковіч засмяяўся: «А тваё жыццё цэлае? Вазьмі кавалак дроту і падвяжыся. Хопіць на тваё жыццё».

— Далібог, — заўважыла адна з жанчын гадоў пяцідзесяці, — я ў шаснаццатым годзе працавала ў Хялкоўскага, пры ім жа лепш было! А яшчэ паўтараюць гэтыя немцы: «Мы — вышэйшая раса!»

— Кінь ты, Манька! — перапыніла яе адна з сябровак, — фашысты ёсць фашысты. Асабліва калі яны немцы. Кажуць, нашы на падыходзе. Я чула, як Ліпковіч аднаму з паліцаяў ціха сказаў: «Чуў, саветы ўжо ўвайшлі ў Беларусь, нашы гаспадары баяцца, што хутка і сюды прыйдуць!» Затым яны прайшлі проста па гурбах да левага крыла і там доўга пра нешта гаварылі.

У гэты момант у калідоры з'явіўся Вайтовіч. Ён гучна крыкнуў:

— Сялькевіч! Зайдзі да мяне ў капцёрку і атрымай падарункі.

— Якія падарункі?

— Як якія? Ты забылася, што пан маёр загадаў выдаць вам за добрую працу падарункі?

— Памятаю, ён яшчэ сказаў, каб я ў гэтых падарунках яму паказалася, — нечакана выпаліла Сялькевіч.

## «Вазьміце нас у партызаны»

Пасля працяглых гутарак з добра знаёмымі хлопцамі — Мікалаем Капуцкім з вёскі Селівонаўка, аднавяскоўцам і аднафамільцам Навумам Гярновічам — вырашылі ўсё ж шукаць сувязь з партызанамі, пра якіх ужо даходзілі чуткі з вёсак, што знаходзіліся каля лясоў, куды часта і наведваліся народныя мсціўцы. У адной з такіх вёсак — Лялькаўшчыне — жылі сваякі Навума Гярновіча.

Праз іх, а менавіта праз Аляксандра Гоўзбіта і Аляксандра Лантаса — партызанскіх сувязных — удалося пазнаёміцца з камандаваннем брыгады імя Чкалава, што дзейнічала і базіравалася ў Налібоцкай пушчы. Марознай і яснай снежаньскай ноччу хлопцы адправіліся ў суседнюю Лялькаўшчыну на сустрэчу з начальнікам штаба брыгады Рыгорам Панявіным і намеснікам камбрыга па разведцы Анатолем Мягкіх. Сустрэча адбылася на хутары ў хаце сувязнога Мушынскага. Данік расказаў ім пра становішча ў Маладзечне, куды ён неаднаразова неведваўся, і ў навакольных вёсках, пра сваё жаданне прыняць актыўны ўдзел у барацьбе з акупантамі.

— Вазьміце нас у сваю брыгаду, — папрасілі хлопцы.— Мы не падвядзём вас…

Партызаны пераглянуліся, і Мягкіх прыязна спытаў:

— А чым вы займаліся да вайны?

— Я быў слесарам у паравозным дэпо, — адказаў Данік.

— Мы залічым вас у свой актыў, — сказаў начштаба, — але вам лепш заставацца на месцы, у Маладзечне. Там вы прынясеце больш карысці, асабліва, калі зноў уладкуецеся на ранейшую працу. Паведамляйце праз сувязных пра ўсе дзеянні ворага, пра рух ваенных эшалонаў і іншыя разведданыя з Маладзечна і вашых вёсак. Каб паспяхова змагацца з ворагам, трэба дакладна ведаць яго сілы, размяшчэнне, узбраенне, мець звесткі пра работу ўстаноў акупацыйнага рэжыму.

— Нас вельмі цікавіць чыгуначны вузел Маладзечна, рух эшалонаў праз станцыю, — дадаў Рыгор Міхайлавіч. — Таму настойліва рэкамендую вам вярнуцца туды на працу. Будзеце нашымі разведчыкамі, вачыма і вушамі: назірайце, прыкмячайце, лічыце і запамінайце. Вашы разведданыя будуць куды больш карыснымі, чым яшчэ два байцы ў атрадзе, дзе і так іх хапае.

— Усе разведчыкі працуюць інкогніта, ім трэба мець псеўданімы, падпольныя клічкі, — сказаў Анатоль Мягкіх. — Давайце дамовімся, якім сакрэтным імем вы будзеце падпісваць свае данясенні і якім спосабам будзеце перадаваць здабытыя звесткі.

— У дзяцінстве я марыў пра акіянскія і марскія прасторы, — зазначыў Даніла Гярновіч. — Няхай жа мая падпольная клічка «Марак» напамінае мне пра дзіцячыя мары. А для перадачы здабытых звестак мы абсталюем паштовую скрынку ў дупле старога дуба ля вёскі Самалі. Прызначайце сувязнога, і ён будзе рэгулярна, скажам, тройчы на тыдзень забіраць пошту.

— Прапанова слушная, — пахваліў начальнік разведкі. — Думаю, што на ролю сувязнога падыдзе гаспадар нашай явачнай кватэры, дзе мы цяпер знаходзімся. Мушынскі вас ужо ведае і вы пазнаёміліся з ім, так што працаваць будзеце дружна.

На развітанне Рыгор Панявін яшчэ раз парэкамендаваў уладкавацца на працу ў дэпо. І Даніла Гярновіч у хуткім часе стаў памочнікам машыніста на станцыі Маладзечна. Гэта давала магчымасць у любы час сутак хадзіць па

горадзе, знаходзіцца на чыгуначным вузле і назіраць за рухам воінскіх эшалонаў, за дзеяннямі фашыстаў...

Анатоль Мягкіх пасля вайны пісаў: «Збіраючы і рэгулярна перасылаючы звесткі пра перасоўванні варожых войск і ваеннай тэхнікі праз Маладзечна, група «Марака» аказала неацэнную дапамогу фронту. Звестак было многа, і мы са свайго боку арганізавалі цэлую конную эстафету ад раёна Маладзечна да штаба партызанскага злучэння».

Разведвальная работа членаў групы «Марака» дапамагала партызанскаму камандаванню вырашаць не толькі ваенна-аператыўныя пытанні. У прыватнасці, звесткі пра маральны стан войск праціўніка дазвалялі партызанам на канкрэтных прыкладах абвяргаць і выкрываць ілжывую фашысцкую прапаганду. У адным данясенні ў штаб брыгады Даніла Гярновіч паведамляў: «Немцы ўжо не могуць справіцца з працэсам развалу ў сваіх радах… На станцыі Маладзечна ў «Чырвоным крыжы» выдаюць суп і кофе салдатам, якія тут праездам. Нядаўна паставілі пост жандармерыі, які правярае дакументы ў кожнага «ваякі». Аказваецца, што гэта было выклікана той акалічнасцю, што вялікая колькасць салдат не даязджае да фронту, а бадзяецца ў тыле… Жандармерыя прыкладае многа высілкаў для вылоўлівання «непераможных» выратавальнікаў Еўропы».

Гэта данясенне «Марака» было выкарыстана групай нацыянальнага выратавання Германіі, якая з восені 1943 года знаходзілася ў размяшчэнні брыгады імя Чкалава для прапаганды, накіраванай на дэмаралізацыю гітлераўскіх войск, раскватараваных у Маладзечне.

Акрамя збору разведданых падпольшчыкі распаўсюджвалі сярод насельніцтва вялікую колькасць улётак, газет і зваротаў, атрыманых ад партызан. Брыгада стала базавым падраздзяленнем Баранавіцкага падпольнага абкама партыі, на чале з генерал-маёрам Чарнышовым — упаўнаважаным ЦК КП(б)Б і Цэнтральнага штаба партызанскага руху. Працавала радыёстанцыя, была пастаянная сувязь з Вялікай зямлёй, друкарня для тыражыравання лістовак. У многіх пісьмах і данясеннях у штаб Даніла Гярновіч прасіў прысылаць як мага больш брашур, газет і лістовак — для раздачы насельніцтву.

## Яшчэ адзін змагар

…З брыгадай ужо быў звязаны і Міхаіл Лушчык. Да вайны Міхаіл працаваў фінагентам пры Раёўшчынскім сельвыканкаме Маладзечанскага раёна, меў спецыяльнасць краўца. У верасні 1940 года яго прызвалі ў рады Чырвонай Арміі. 19 чэрвеня 1941-га ваенны эшалон выехаў з Казані і 4 ліпеня прыбыў пад Оршу, дзе часць, у якой служыў Міхаіл, прыняла бой. Пад напорам фашысцкіх войск пачалі адыходзіць да Магілёва. Тут на чацвёрты дзень баёў Лушчыка параніла, і давялося застацца ў тыле ворага. Трапіў у лагер ваеннапалонных, адкуль пасля некалькіх спроб удалося збегчы. Дабраўся дадому і стаў дапамагаць бацькам у сялянскай працы.

...У канцы 1941 года у дом Лушчыкаў зайшлі трое мужчын. Пасля прывітанняў размова пачалася з іх пытання, ці ведае Міхаіл, хто яны.

— Упершыню вас бачу, — адказаў Міхаіл.

Тады яны назвалі свае імёны: адзін адрэкамендаваўся Сашам, другі — Толем, а трэці, пажылы, памаўчаўшы крыху, сказаў:

— Можаш называць мяне дзядзькам Колем.

— А што, прозвішчаў у вас няма? — запытаў Міхаіл.

— У нашай справе прозвішчы ведаць неабавязкова, — сказаў дзядзька Коля. — Мы прыйшлі да цябе як да краўца, каб ты тое-сёе нам пашыў, і тваім прозвішчам таксама не цікавімся. Пашыеш тое, што мы скажам?

— Ну што ж, калі змагу, дык выканаю вашу просьбу, — адказаў Міхаіл.

Завязалася размова пра акупацыйныя парадкі. Госці асцярожна пачалі наракаць на жорсткасць рэжыму, на бясчынствы фашыстаў. Але Міхаіл не асмеліўся падтрымаць іх тон у размове і пачаў крыху пярэчыць, бо не ведаў, хто гэтыя людзі. Тады дзядзька Коля запытаў:

— Ці ведаеш ты Лену?

— Якую Лену? — пацікавіўся Міхаіл. — Ёсць не адна Лена, якую я ведаю.

— У вашай вёсцы жыве Лена Авечкіна, і пра яе цяпер размова, — адказаў дзядзька Коля. — Калі ты яе ведаеш, можаш гаварыць з намі смела. Давай сустрэнемся на Каляды і ўсё высветлім.

Міхаіл пабачыўся з Ленай, якая працавала ў мясцовай управе, і запытаў яе пра людзей, што прыходзілі да яго. Лена пачала адмаўляцца, заявіла, што ніхто з ёю не размаўляў і пра Міхаіла не распытваў. Лушчык зразумеў, што яна не хоча, каб хто-небудзь ведаў пра гэта яе знаёмства. Але на развітанне Лена сказала Міхаілу:

— Не трэба баяцца, магчыма, гэта добрыя і надзейныя людзі...

На Каляды, 7 студзеня, трое мужчын зноў з’явіліся ў доме Лушчыкаў. Бацькоў Міхаіла якраз не было дома. Пачалася адкрытая размова. Яны папрасілі здабыць для іх некалькі вінтовак. Праз некаторы час Міхаіл перадаў ім чатыры вінтоўкі і дзве скрынкі патронаў, якія ён прынёс з лесу. Неўзабаве разам з імі на сустрэчу з’явіўся яшчэ адзін малады мужчына, які назваўся Юзікам. Ён папрасіў здабыць шэсць чыстых бланкаў нямецкіх пасведчанняў асобы.

Заданне аказалася цяжкім. Каб выканаць яго, Міхаіл звярнуўся да свайго знаёмага Івана Капуцкага — на той час ён працаваў сакратаром мясцовай нямецкай управы. З цяжкасцю той згадзіўся дапамагчы і на першы раз перадаў тры бланкі, а праз некаторы час прынёс і астатнія. З гэтага і пачалася падпольная работа і сувязь Міхаіла з партызанскай брыгадай імя Чкалава. Яму даручылі весці рэгулярнае назіранне за перамяшчэннем грузаў па чыгунцы, за рухам воінскіх эшалонаў і ўсе звесткі перадаваць сувязному Юзіку.

На пачатку 1943 года Міхаіла запрасілі ў хату да Данілы Гярновіча пашыць кажух яго бацьку. Тут і адбылася шчырая размова з Данікам, які паведаміў свайму таварышу яшчэ з дзіцячых гадоў пра існаванне невялікай падпольнай групы на станцыі Маладзечна. Сябры дамовіліся расшырыць састаў групы з ліку надзейных людзей. Каб строга захоўваць правілы канспірацыі, было вырашана, што кожны член групы не павінен часта сустракацца з іншымі ўдзельнікамі, а сувязь з імі трымаць праз нешматлікіх надзейных таварышаў.

Заданні Міхаілу ад імя кіраўніка групы стаў перадаваць Іван Гярновіч з вёскі Шнуры. Разам з Данікам ён працаваў у дэпо пуцявым рабочым. Пісьмовыя данясенні Міхаіл пад псеўданімамі «Клевераў» ці «Кручкоў» адпраўляў ва ўмоўленую паштовую скрынку...

...У лютым Міхаіла Лушчыка нечакана выклікалі ў паліцыю. Ён доўга вагаўся, з’яўляцца туды, ці падацца ў партызаны. Але прааналізаваўшы падзеі апошніх месяцаў, прыйшоў да высновы, што «крыміналу» за ім у паліцыі ніякага няма, і пайшоў. На здзіўленне сустрэлі яго прыязна і адразу прапанавалі паступіць на службу. Міхаіл здзівіўся такой незвычайнай прапанове і папрасіў даць яму час падумаць. Ён адразу ж паведаміў пра гэта Данілу Гярновічу.

— Гэта выдатная аказія, — заўважыў Данік. — Нам трэба мець сваіх людзей у розных варожых установах. Нават пажадана залезці і ў паліцыю.

— Не, не жадаю я служыць сваім ворагам, — запярэчыў Міхаіл. — Прыйдуць нашы, не разбяруцца і засадзяць мяне за здраду Радзіме. Лепш трымацца далей ад небяспекі.

— А ты не спяшайся прымаць катэгарычнае рашэнне, — астудзіў яго Гярновіч. —Я параюся з кім трэба і паведамлю табе загад камандавання.

Хутка ён перадаў, што нават вельмі пажадана мець сваіх людзей у паліцыі і настойліва параіў Міхаілу згадзіцца з прапановай нямецкіх улад. Але Лушчык трымаўся свайго. Пры чарговай сустрэчы з паліцаем Міхаілам Капуцкім, які прыйшоў даведацца, што вырашыў яго аднавясковец, ён катэгарычна адмовіўся ісці ў паліцыю.

— Значыць, Саветам ты служыў, а новай уладзе служыць не хочаш, — з пагрозай вымавіў Капуцкі.

— А я не магу надзяваць на спіну адразу дзве кашулі, — загадкава сказаў Лушчык.

— Што гэта значыць? — запытаў здзіўлены паліцай.

— А тое і значыць, што гэта ўлада не вечная, а прыйдзе старая — зноў буду працаваць.

Пра гэту размову Міхаіл расказаў Даніку. Той моцна паўшчуваў яго за такія размовы з ворагам і загадаў быць больш асцярожным і абачлівым. Пытанне пра службу ў паліцыі адпала само сабой: ніхто больш Лушчыку пра гэта не напамінаў.

А Лушчык атрымаў новае, даволі складанае заданне: перарэзаць кабель стратэгічнай сувязі Берлін—Усходні фронт, які быў пракладзены ўздоўж шашы Мінск—Вільнюс. Позна цёмнай ноччу, узброены вострым зубілам і наганам, якія яму перадаў Даніла Гярновіч, Міхаіл адправіўся на цяжкае заданне. Пасля доўгіх пошукаў і раскопак ён выявіў у двух кіламетрах ад Маладзечна тоўсты кабель сувязі і з цяжкасцю зубілам высек вялікі яго кавалак, а яму засыпаў зямлёй. Неўзабаве днём уздоўж лініі сувязі з’явіўся нямецкі танк, ён праехаў некалькі разоў па шашы і, не выявіўшы партызан, вярнуўся ў горад. Толькі наступным днём фашысты ўшчыльную заняліся пошукамі пашкоджання. Але зрабіць гэта аказалася нялёгка. У наступны раз на гэту аперацыю адправіліся удвух з Данілам Гярновічам.

У архіўных дакументах партызанскай брыгады імя Чкалава ёсць такі запіс: «Ноччу на 17 чэрвеня 1944 года члены падпольнай маладзёжнай групы — «Марак» і «Кручкоў» выразалі кабель прамога проваду «Берлін—фронт», які праходзіў у раёне вёскі Селівонаўка. Прамы провад не працаваў 9 гадзін».

Чатыры разы падпольшчыкі пераразалі, дакладней, перасякалі кабель, і гэта дыверсія нашым ваенным камандаваннем была ацэнена ў якасці самай важнай у стратэгічных адносінах, нават больш значнай, чым узрывы на чыгунцы.

## Асабісты рахунак «Марака»

…Многа важных звестак і разведданых, здабытых членамі групы ў Маладзечне і яго ваколіцах, перадаў Данік у штаб партызанскай брыгады. Але толькі збор гэтых звестак ужо не задавальняў яго. Група «Марака» папоўнілася новымі людзьмі. Група вырашыла прыступіць да дыверсій, і Данік у каторы ўжо раз папрасіў камандаванне брыгады забяспечваць іх толам і магнітнымі

мінамі. Камандаванне брыгады адмаўляла падпольшчыкам у гэтым і нацэльвала іх на разведку. Але ў сувязі з тым, што інтэнсіўнасць воінскіх перавозак па станцыі Маладзечна ўзрастала, асабліва ў перыяд падрыхтоўкі фашыстаў да летняй кампаніі 43 года, групе дазволілі заняцца дыверсійнай работай. Неўзабаве сувязны Аляксандр Гоўзбіт даставіў усё патрэбнае для падрыўной дзейнасці ў паравозным дэпо і на станцыі.

Пра самую першую дыверсію, якую Данік правёў у ліпені 1943 года, ён пасля вайны напісаў у сваіх успамінах: «Ціхай летняй ноччу я нёс чарговае дзяжурства на манеўраным паравозе. Да раніцы быў сфарміраваны эшалон з авіяцыйным бензінам, чатырох платформ і каля дваццаці вагонаў з прадуктамі і ваеннай амуніцыяй. Незадоўга да здачы дзяжурства я зарадзіў магнітную міну і прайшоўшы ўздож саставу, пралез пад першай цыстэрнай і пад яе прымацаваў міну».

Дамоў ён вярнуўся раніцой, і хоць быў стомлены пасля начной работы, спаць не хацелася. У галаву неадчэпна лезлі трывожныя думкі: а ці ўсё ён зрабіў правільна і ці ўзарвецца міна? Чыгуначныя пуці Маладзечна—Мінск, па якіх вось-вось павінен быў прайсці састаў, пралягалі каля роднай вёскі Даніка. Ён выйшаў на двор і пачаў назіраць. Неўзабаве паказаўся эшалон, і як толькі ён параўняўся з вёскай, пачуўся моцны выбух. Умомант полымя ахутала цыстэрны, перакінулася на вагоны. Гарэлі шпалы, тэлеграфныя слупы. Немцы ў паніцы разбягаліся ад вагонаў. Яны не маглі зразумець, што ж такое здарылася: рэйкі цэлыя, вакол адкрытае поле, побач горад, пра партызан не магло быць і размовы.

Асабісты рахунак Даніка быў адкрыты: на яго запісалі 180 тон знішчанага бензіну, многа ваеннай амуніцыі і прадуктаў, якія прызначаліся для фашысцкіх часцей на фронце. На паўсутак быў затрыманы рух на ўчастку чыгункі Маладзечна—Мінск. Першы поспех акрыліў падпольшчыкаў, яны яшчэ больш рашуча заняліся дыверсійнай дзейнасцю. Кожны дзень маладыя патрыёты адпраўляліся на баявыя заданні. Дзейнічалі яны абачліва і асцярожна, заносячы на свой рахунак усё новыя падарваныя эшалоны.

Неўзабаве Мікалай Капуцкі даставіў ад партызан дзве магнітныя міны і некалькі кілаграмаў толу. Частку ўзрыўчаткі Данік схаваў у яму з бульбай, а частку перанёс да сябе на паравоз, дзе ў пясочніцы быў зроблены тайнік. Ён пачаў думаць, як лепш выкарыстаць узрыўчатку і не заўважыў, як да паравоза падышоў Іван Гярновіч.

— Данік, — паклікаў ён, — спусціся на пару слоў.

А калі той саскочыў на зямлю, ціха і хутка загаварыў:

—Там, за пакхаўзам немцы арганізавалі склад, бочкі з бензінам і аўтолам стаяць штабялямі. Можа, дапаможам фашыстам пазбавіцца ад гэтага дабра?

— Ахова там ёсць? — спытаў Данік.

— Якая ахова, калі ўсё дабро на тэрыторыі станцыі, дзе поўна салдат і рабочых. Можа, паглядзім?

— Давай. Але толькі пасля змены. Цяпер ад паравоза не магу адлучацца.

Яны сустрэліся ў канцы дня і накіраваліся да склада. У скрынцы з пакляй і інструментамі Данік нёс міну. Вырашылі пры зручным моманце дзейнічаць адразу, без разведкі. За пакхаўзам з працуючымі маторамі стаялі дзве тупарылыя аўтамашыны, вакол снаўдаліся немцы. Бочкі з бензінам — уздоўж сцяны пакхаўза. Агледзеўшыся навокал, Данік ціха сказаў Івану:

— Я пайду наперад, а ты ідзі ззаду і прыкрывай мяне. Калі нікога не сустрэну, то паспею палажыць міну сярод бочак.

І яны рушылі па праходзе. Наперадзе — Данік. Іван, крыху счакаўшы, накіраваўся следам. Ён бачыў, як ля сярэдзіны штабеляў Данік ступіў убок, нахінуўся і хутка засунуў руку пад ніжні рад бочак, а потым кінуў туды камяк гразі. Ужо за межамі станцыі Іван спытаў:

— А гразь навошта кідаў?

— Каб міны не было відаць. Думаю, гразь не перашкодзіць ёй спрацаваць.

Міна рванула праз дзве гадзіны, калі падпольшчыкі былі ўжо дома. У выніку ўзрыву і пажару было знішчана 50 бочак бензіну і каля 15 тон змазачных матэрыялаў.

Дзеянні падпольшчыкаў выклікалі шаленства ў акупантаў. Але ні ўзмоцненая ахова, ні строгія праверкі ўсіх работнікаў станцыі і дэпо, ні карныя экспедыцыі, расстрэлы і шыбеніцы ўжо не маглі спыніць справядлівай барацьбы. Данік вырашыў адпомсціць фашыстам за іх рэпрэсіі ў адносінах да мірнага насельніцтва. У прыгарадзе Галянова жыў адзін з высокіх нямецкіх чыноў, які кожную раніцу з фельджандармерыі ездзіў на легкавой машыне па дарозе Маладзечна—Мыслевічы. Данік загадаў устанавіць назіранне за яго маршрутам.

Звесткі пра паездкі высокапастаўленага жандара далажылі ў партызанскі штаб. Адтуль прыбыў камандзір разведгрупы Ягораў. Разам з ім ноччу Данік адправіўся на заданне. Яны замініравалі ўчастак дарогі. Улічваючы тое, што горад быў блізка, навокал адсутнічалі лясы, фашысты адчувалі сябе тут у адноснай небяспецы і асобага прапускнога рэжыму не ўстанаўлівалі. Ноччу па гэтай дарозе ніхто не ездзіў, і можна было разлічваць, што раніцай на міне падарвецца менавіта жандарскі афіцэр.

Міна спрацавала, але на ёй узляцеў у паветра іншы чалавек. На гэты раз лёс падарыў жандару жыццё. Даведаўшыся пра гэта, Данік вельмі перажываў, што ахвярай дыверсіі стаў мясцовы жыхар. Некалькі дзён Гярновіч хадзіў сам не свой, нават думаў адмяніць паляванне на фашыста. Але праз некаторы час на кароткай нарадзе групы сказаў:

— Паляванне будзе працягвацца. Назірайце і далей за гэтай дарогай: ці не зменіць маршрут наш «падапечны».

Хутка прыйшло паведамленне, што немец па-ранейшаму ездзіць па сваім маршруце. Напэўна, фашысты палічылі ўзрыў міны выпадковым эпізодам, і ніякіх мер бяспекі не прымалі, тым больш, што на міне падарваўся выпадковы праезджы. Праз некалькі дзён дарога зноў была замініравана, і Данік застаўся ў засадзе весці назіранне. І вось з'явілася аўтамашына з афіцэрам. Моцны выбух, і аўтамабіль з пасажырамі ўзарваўся: афіцэр і шафёр загінулі. Мэта падпольшчыкаў была дасягнута. Патрыёты заўсёды настойліва дамагаліся свайго і ставілі перад сабою новыя адказныя задачы. Такія ж заданні даручала ім і партызанскае камандаванне…

## Толькі разведка

...Майскай ноччу 1944 года да кіраўніка падпольнай групы Данілы Гярновіча ў вёску Шнуры з'явілася некалькі ўзброеных людзей. Умоўным сігналам пастукаўшы ў акно, яны ціха зайшлі ў хату і ўселіся ля стала. Данік напружана ўглядваўся ў іх твары, але знаёмых партызан ці сувязных сярод іх не аказалася. Агледзеўшыся вакол і крыху памаўчыўшы, адзін з іх, відаць, камандзір, ціха вымавіў:

— Мы трапілі да «Марака»?

— Так, гэта я, — адказаў Данік.

— Мы ўпаўнаважаны перадаць прывітанне ад Анатоля Мягкіх. Спадзяюся, вы ведаеце, хто гэта такі.

— Канешне, ведаю і з задавальненнем прымаю ад яго прывітанне. Чым магу паслужыць вам? — запытаў Данік.

— Ён прасіў дапамагчы нам у важнай справе. Мы прадстаўнікі разведгрупы № 14 атрада асобага прызначэння імя Дзімы. Нам патрэбны дакладныя звесткі пра рух ваенных эшалонаў на станцыі Маладзечна ў напрамку да фронту і на захад. Пажадана, каб разведданыя мелі такія параметры: якія эшалоны праследавалі за суткі і ў якім напрамку, колькі вагонаў было ў кожным, наяўнасць жывой сілы і тэхнікі, род войск, від і колькасць узбраення.

— Мы згодны, — крыху падумаўшы, адказаў Данік.— Толькі давайце ўмовімся, якім шляхам і каму мы будзем перадаваць здабытыя даныя. Можна выкарыстаць паштовую скрынку, праз якую наша група перасылае звесткі для брыгады імя Чкалава.

— Дзе гэта скрынка? — запытаў субяседнік.

— У ваколіцах вёскі Самалі. Надзейна законспіравана і карыстаюцца ёю правераныя людзі. Калі вы згодны на такі варыянт, то будзем лічыць, што мы дамовіліся.

З гэтага часу падпольшчыкам давялося зноў больш увагі аддаць разведцы і збору звестак пра становішча на чыгуначным вузле. Партызанскае камандаванне па загадзе з Вялікай Зямлі перад групай «Марака» ўжо не ставіла задачы на правядзенне дыверсій, а Данілу Гярновічу як кіраўніку групы катэгарычна забараніла такі від дзейнасці.

Інфармацыяй пра рух эшалонаў і цягнікоў актыўна заняліся не толькі члены групы, але і іх сем'і, аднавяскоўцы, паплечнікі па рабоце. Актыўную дапамогу па ўласнай ініцыятыве аказваў падпольшчыкам машыніст паравоза Рыгор Уладзіміравіч Субатніцкі, у якога Данік быў памочнікам. Ён часта пад выглядам праверкі стану эшалона праходзіў уздоўж саставу, запамінаў не толькі колькасць вагонаў, але і наяўнасць жывой сілы і баявой тэхнікі ворага і перадаваў гэтыя звесткі Даніку. Ён, безумоўна, ведаў пра падпольную дзейнасць моладзі, але ніколі не падаваў нават выгляду, што яму штосьці вядома. Падпольшчыкам дапамагалі многія мясцовыя жыхары, у прыватнасці, Яўгенія Бажко, Аляксандр Лантас, Іван Галон і іншыя.

Падпольшчыкі тым часам па ўласнай ініцыятыве не прамінаді ніводнага зручнага выпадку, каб нанесці ўдар па ворагу. Напярэдадні гадавіны Вялікага Кастрычніка на зборы групы дамовіліся адзначыць свята. Данік прапанаваў узарваць эшалон у межах самой станцыі. Ён узяўся за выкананне гэтага задання разам з Мікалаем Вышыдкевічам, які таксама працаваў на станцыі памочнікам машыніста. Узрыўчатку, якая захоўвалася ў Данікавай хаце ў вёсцы Шнуры, Мікалай занёс у Маладзечна на падпольную кватэру. Адтуль гэтых 10 кілаграмаў толу Данік перанёс на станцыю і схаваў у пясочніцы свайго манеўровага паравоза.

Калі ж у святочны дзень 7 лістапада ён прыйшоў на дзяжурства, аказалася, што паравоз адпраўлены на рамонт. У ходзе рамонту ўзрыўчатку абавязкова знойдуць, і пачнецца расследаванне. Данік вырашыў пад выглядам рамонтных работ пранікнуць на паравоз, узяць тол і неўпрыкмет перанесці яго ў бяспечнае месца. Задума, на шчасце, удалася.

Вечарам пасля рабочай змены Данік паклаў узрыўчатку ў сумку і накіраваўся на ўмоўленае з Вышыдкевічам месца. З наступленнем змроку яны

выйшлі на чыгуначныя пуці каля самага пад’езда да станцыі. Пакуль дамаўляліся, як лепш замініраваць чыгунку, адкрыўся семафор: эшалон з боку Мінска быў на падыходзе. Хлопцы кінуліся на насып і ўстанавілі міны пад абедзве рэйкі. Сталі хуценька адпаўзаць, бо цягнік ужо набліжаўся да пераезду. Пачуўся моцны выбух: узарваўся эшалон, у якім ехалі з фронту на адпачынак гітлераўскія ваякі. Многа салдат і афіцэраў Вермахта знайшлі тут сваю пагібель.

…У групу «Марака» Вышыдкевіч уступіў па заданні партызанскага атрада імя Молатава, з якім злучылася нешматлікая група партызан, якая размяшчалася каля вёскі Самалі. Група — 11 чалавек — складалася з былых ваеннаслужачых, якія трапілі ў акружэнне і засталіся ў навакольных сёлах на гаспадарцы ў сялян. Сярод іх аказаўся і мясцовы жыхар Мікалай Вышыдкевіч. Ён выдатна ведаў наваколле, лес, дзе размясціліся партызаны, мясцовых людзей. Таму таварышы даручылі яму весці разведку. Разам з тым ён настойліва вёў і пошукі зброі, якой у партызан катастрафічна не хапала. Каб папоўніць свой баявы арсенал, Вышыдкевіча адправілі ў разведку: па недакладных звестках, з Красненскага лясгаса кожны дзень ездзіў на арганізацыю нарыхтоўкі дроў ляснічы і яго целаахоўнік. Яны былі добра ўзброеныя: з сабою вазілі ручны кулямёт, вінтоўку і пісталет.

Мікалай удакладніў маршрут ляснічага і час, калі ён адпраўляўся ў дарогу, і далажыў камандзіру атрада. Вырашылі зрабіць засаду паміж вёскамі Селішча і Вярэдава. Ляснічага і яго ахоўніка забілі, а зброю забралі сабе. А хутка пытанне пра ўзбраенне адпала само сабой: атрад злучыўся з партызанскай брыгадай Чкалава з Налібоцкай пушчы. Іх залічылі ў атрад імя Молатава, камандзірам якога быў Іваноў, камісарам Бортнікаў, а сувязнымі — Аляксандр і Мікалай Вышыдкевічы і Андрэй Уладыка.

Пасля ўз’яднання з атрадам імя Молатава Вышыдкевіча таксама прызначылі разведчыкам. Каб мець больш звестак пра рух эшалонаў на недалёкай чыгуначнай станцыі Маладзечна, было вырашана, што Мікалай пойдзе працаваць у паравознае дэпо, і ён неўзабаве ўладкаваўся памочнікам машыніста. Тут ён па заданні партызанскага штаба і ўвайшоў у падпольную групу «Марака». І калі падпольшчыкам сталі дастаўляць узрыўчатку, ён таксама заняўся дыверсійнай дзейнасцю.

Першую міну ў жніўні 1943 года залажыў пад цыстэрну з бензінам. На 9-м кіламетры пуці ад Маладзечна насупраць вёскі Рухлі яна спрацавала. Агнём былі знішчаны дзве цыстэрны з бензінам, рух па чыгунцы перапыніўся на 8 гадзін.

Вышыдкевіч лічыўся ў брыгадзе імя Чкалава падрыўніком-дыверсантам пад псеўданімам «Лоўкі». А ён і сапраўды аказаўся спрытным салдатам «рэйкавай вайны». На працягу 1943 года ў складзе групы правёў многа дыверсій. Так, ён падлажыў 22 кілаграмы ўзрыўчаткі ў раёне пераезду. У паветра ўзляцеў эшалон з жывой сілай ворага, аказалася вельмі многа параненых і забітых. Быў узарваны паваротны круг і неаднаразова чыгуначнае палатно ў раёне горада. Падпольшчыкі з групы «Марака» асабліва любілі ўзрываць цыстэрны з бензінам, нават калі ў эшалоне было іх адна-дзве — іх абавязкова мініравалі.

Цёмнай восеньскай ноччу Мікалай замініраваў пуці, але на міну наехаў манеўровы паравоз, і яна нечакана ўзарвалася. У гэты момант бег фашысцкі салдат. Ён схапіў Мікалая і павалок у казарму, што размяшчалася ў фінскім доміку. У казарме знаходзіўся толькі немец-чыгуначнік, але ён адразу выйшаў.

Салдат пачаў біць свайго палоннага, нічога ў яго не пытаючы. Ён дастаў пісталет, штурхнуў ім у грудзі Мікалая, кінуў яго да печкі і ўдарыў па ім паленам. Сам пайшоў званіць, пакінуўшы Вышыдкевіча ляжаць каля печкі. Мікалай вырашыў адразу ж збегчы: цёмная ноч была саюзніцай і памочніцай. Гэта і дапамагло падпольшчыку надзейна схавацца...

У 1944 годзе з-за лініі фронту прыбыў супрацоўнік разведупраўлення штаба 3-га Беларускага фронту і яго радыст. Іх накіравалі ў атрад імя Молатава, зонай дзеяння якога была тэрыторыя Маладзечанскага раёна. Камісар атрада Аляксей Бортнікаў праз сувязнога Андрэя Уладыку прыслаў Мікалаю Вышыдкевічу пісьмовы загад прыняць разведчыка і радыста. Яны павінны былі працаваць у Маладзечна. Іх трэба было забяспечыць кватэрай і ўладкаваць на працу. Мікалай уважліва прачытаў запіску і задумаўся.

— Наша група лічыць, што тут, у горадзе, нам людзі не патрэбныя, — сказаў ён Андрэю.— Тут мы самі падлічым кожны эшалон, кожны вагон, кожныя танк і гармату.

— Гэта загад камандавання, і яго трэба выконваць, — атрымаў ён адказ сувязнога. Праз дзён колькі Андрэй прывёз разведчыка. Ён назваўся Міхаілам і стаў непасрэдным начальнікам Мікалая. Праз нейкі адрэзак часу сувязны Мікалай Гаўрылавіч Вышыдкевіч прывёз радыста з рацыяй, што была схавана ў мяшках з бульбай. Бацька Мікалая адвёў разведчыка да свайго знаёмага на кватэру па цяперашняй вуліцы Карла Маркса, а радыст застаўся ў сям'і Вышыдкевічаў. Наступным днём Мікалай уладкаваў разведчыка на работу ў паравознае дэпо памочнікам машыніста: у яго на руках аказаліся патрэбныя дакументы. Але працаваць ён пачаў качагарам, бо ў яго балела нага, напэўна, пашкодзіў пры скоках з парашутам.

З гэтага часу падрывамі і дыверсіямі Вышыдкевіч не займаўся, бо разведчык катэгарычна гэта забараніў. Да прыходу Чырвонай Арміі працягвалася небяспечная работа па зборы разведданых. У апошнія дні акупацыі па некаторых з гэтых даных, якія разведчык перадаваў у штаб фронту, савецкая авіяцыя дакладна бамбіла ваенныя аб'екты ў горадзе Маладзечна і яго ваколіцах. Маёр з разведупраўлення фронту, які пасля вызвалення горада прыехаў забраць разведчыка, паведаміў, што разведчыка прадставілі да ордэна Айчыннай вайны, а Мікалая — да ўзнагароджання медалём. Але абяцанай узнагароды Вышыдкевіч так і не атрымаў…

## Усёй групай — у камсамол

...На адным з падпольных сходаў групы «Марака» ў снежні 1943 года прысутнічаў камісар партызанскай брыгады імя Чкалава. Пасля рапартаў пра дыверсійную дзейнасць і збор разведданых, Іван Пятровіч Казак задаволена ўсміхнуўся:

— Вы сапраўдныя патрыёты і ваюеце, дзейнічаеце па-камсамольску, як і належыць сапраўдным героям.

Падпольшчыкі пераглянуліся. Заўважыўшы гэтыя позіркі, камісар асцярожна спытаў:

— Што-небудзь не тое я сказаў?

— Справа ў тым, што мы не камсамольцы, — неяк вінавата вымавіў Данік. — Да вайны ўступіць не паспелі, а цяпер, у час вайны, не было куды напісаць заяву. Але мы заўсёды лічылі сябе камсамольцамі.

— Цяпер жа ёсць куды звярнуцца з просьбай, і давайце не будзем адкладваць гэтай важнай справы на потым. Пішыце кожны заяву аб прыёме ў рады Ленінскага Камуністычнага Саюза Моладзі зараз жа. У вас тут, на Маладзечаншчыне няма падпольнага райкама камсамола, таму пішыце заявы ў Валожынскі. Я перадам іх каму належыць, і чакайце станоўчага адказу: гэта я вам гарантую.

З тым камісар і адбыў у Налібоцкую пушчу, а неўзабаве праз сувязнога паведамілі, што просьба аб прыёме задаволена, і трэба правесці арганізацыйны сход.

На сходзе сакратаром падпольнай камсамольскай арганізацыі № 2 абралі Данііла Гярновіча. Яна праіснавала да вызвалення горада…

За вялікую дыверсійную дзейнасць — група «Марака» пусціла пад адхон 20 варожых чыгуначных эшалонаў з жывой сілай, палівам і ваеннай тэхнікай, прычым 9 паяздоў узляцелі ў паветра на самой станцыі, чатыры разы пераразала кабель і рвала сувязь Берліна з Усходнім фронтам, і асабліва за збор і перадачу каштоўных разведданых — удзельнікі падполля былі ўзнагароджаны медалямі «Партызану Вялікай Айчыннай вайны». Камандзір групы Данііл Гярновіч атрымаў ордэн Айчыннай вайны І ступені.

На жаль, і пасля вайны група заставалася ў «падполлі»: пра яе дзейнасць нічога не было вядома аж да таго часу, пакуль краязнаўцы і чырвоныя следапыты Маладзечанскага політэхнікума не пайшлі па слядах іх дзейнасці, не адшукалі некаторых членаў групы «Марака», і не запісалі іх успаміны. На будынку чыгуначнай станцыі Маладзечна з’явілася мемарыяльная дошка: «Тут у гады Вялікай Айчыннай вайны (1943—1944 гг.) дзейнічала падпольная камсамольска-маладзёжная група пад кіраўніцтвам Д. Я. Гярновіча («Марака»).

Агентурна-дыверсійная група Гярновіча была ўнікальнай у тым сэнсе, што на працягу з лютага 1943-га і да канца акупацыі ўсе яе ўдзельнікі ваявалі храбра, умела, знаходліва, вынікова і не пацярпелі правалу. Яны сапраўды былі салдатамі, умелымі байцамі нябачнага фронту — гераічнымі маладзечанскімі «маладагвардзейцамі».

## Уладзімір ЧАРАУХІН



* * *

У вазе крыштальнай кляновае лісце.
Духмяны напой грэе сэрца і рукі.
Апошні праменьчык, празрысты, агністы,
Разліў у пакоі санатныя гукі.

На аркушы чыстай маўклівай паперы
Ляжыць у цярплівым чаканні аловак.
Лунае няўлоўнае, па-за памерам,
У зыбкіх малюнках разлітае слова.

Глядзяць праз акно невідушчыя вочы
На горада восеньскую панараму:
На сквер, на людзей, што сцяжынкаю крочаць,
На першы ліхтар на слупе каля крамы...

### ЗОРНЫ ААЗІС

Ноч ідзе, пастукваючы кіем,
Па бязлюднай чуйнай цішыні.
Цень двароў, самотныя агні,
Крокі, нетаропкія, цяжкія.

Там трывожна хмурыцца мужчына,
Тут — жанчына... Горад ціха спіць.

---

*__Чараухін Уладзімір Васільевіч__ нарадзіўся 1 верасня 1986 года ў Гомелі. Скончыў Васілевіцкую школу-інтэрнат для дзяцей з парушэннямі зроку. Цяпер вучыцца на трэцім курсе Завочнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны па спецыяльнасці «Педагагічная псіхалогія». Працуе на гомельскім унітарным прадпрыемстве «Святлатэхніка» ГА БелТІЗ.*

*Піша на беларускай і рускай мовах. Друкаваўся ў калектыўных зборніках і рэспубліканскай перыёдыцы.*

Ноч дае засмяглым душам піць,
Ноч дае кароткі адпачынак.

Прыйдзе дзень, узніме хмары пылу.
Караван пацягнецца далей.
Покуль ззяе ў небе Вадалей —
Спіце, людзі! Піце, піце сілу!

Ноч ідзе, пастукваючы кіем...

## СТРАХ

Страх — гэта няпройдзеныя дзверы.
У праёме невядомасці змрок ашчэрыўся зверам.
Вымотваюць нервы, высмоктваюць сілы
Жудасці вілы*.
Дзідай упёрся ў спіну пагляд.
Страшна спыніцца і азірнуцца назад,
На дзверы.
Страшна сустрэцца з насмешлівым позіркам звера
Вачыма.
І зусім немагчыма,
Немагчыма, а трэба,
Каб не засціла неба,
Павярнуцца да цемрадзі
Тварам
Дый пазмагацца з гнятлівым цяжарам.
Адолець дрыготку ў каленях і…
Уперад,
Хадою пантэры.
Крок праз парог — перамога.
Трубіць адбой хрыплы рог.
За спінаю грукаюць створкі з размаху.
І болей
Ні змроку,
Ні звера,
Ні страху.
Нічога.
Да гарызонту прастуе дарога.

---

* Вілы (арх.) — кругі.

## ЦЁМНЫЯ НОЧЫ ВОСЕНІ

***(Паводле аповесці У. Караткевіча «Дзікае паляванне караля Стаха»)***

Дзяўчына з дзівоснымі косамі
Маўкліва глядзіць у камін.
За вокнамі — ночы восені,
Цёмныя ночы восені
І шолах старых ялін.

А цемра жыве, палохае...
Здаецца, спявае рог?
Здаецца, мярцвяк галёкае?!
Зайшлося выццё далёкае!
Куды адвярнуўся Бог?!

За шыбамі дрэвы чорныя
Сцяной абступілі гмах...
У дзеўчыны вочы чорныя,
Нібыта віры азёрныя,
І ў зрэнках — застылы жах.

Стаіць, як струна напятая,
Апошняя ў скрыпцы струна.
І ноч гэту струнку кратае,
Глядзіць, як дрыжыць за кратамі
Наструненая вясна.

## ПЫТАННЕ З ПЫТАННЯЎ

Раскаяння слёзы палёгку прыносяць душы...
А як жа быць мне? Ты, разумная кніга, скажы,
Калі я забыўся, як слёзы салёныя ліц.
Няўжо і далей будзе гэтак, як зараз баліць,
Калі без вады не прымае раскаяння Бог?..
Я морам бязмежным разліўся б, калі б толькі мог!..

## * * *

Па тонкім шкле над прорвай чорнай
Брыдзе жыццё.
Празрысты след на сцежцы зорнай —
І забыццё.

Праз Небыццё — да Абуджэння,
Да новых спраў.
Брыдзе жыццё да Спасціжэння,
Скрозь пекла — ў рай.

## ПЯРСЦЁНАК САЛАМОНА

Пярсцёнак Саламона на руцэ
Вяшчуе ў дзень шчаслівы: «Гэта пройдзе».
Жыццё падобна зменлівай рацэ.
Няшчасцю — той жа лёс: «І гэта пройдзе».

Купайся ў промнях сонечных, калі
На галаву яны з блакіту льюцца!
Пі, як нектар, свой міг, бо кавылі
Вось-вось прад буры подыхам сагнуцца!

Калі раўнуць грымоты над табой,
Глядзі спакойна ў вочы непагодзе,
Дазволь разгледзець ёй пярсцёнак свой.
Маланка высвеціць: «І гэта пройдзе».

## ГЛІНА Ў РУКАХ

Настрой людзей залежыць ад абставін,
Падатлівы ў іх пальцах, быццам гліна.
Але, калі за спінаю сцяна,
Калі расколіны паўзуць па столі,
Калі ў падпол зацягвае за ногі,
Тады абставіны — у норава ў руках —
Становяцца мякчэй за гліну самі.

## ЖУРАВЫ

У небе высокім, празрыстым, халодным
Скрозь сонца, як подых, далёкі, свабодны,
Нібыта званічны праносіцца крыж...
Ліецца журботны струменісты кліч.
Праносяцца птахі адзін за адным.
Услед ім ад комінаў сцелецца дым.
З гнязда, зруйнаванага часам і болем,
Не маючы сіл на змаганне ўжо болей
І лекам абрыдлым прамовіўшы: «Не!»,
З прачыненай фортачкі ўгору імкне
Душа чалавечая ў строй жураўліны,
Каб разам у вырай адправіцца з клінам.

* * *

Лілея бялее ў абдоймах зялёнага ценю,
Карона пялёсткаў аж свеціцца ў чорнай вадзе.
Мой човен паволі рассоўвае круглае лісце,
Вясло абмінае галоўкі бялюткіх карон.
Не стану ірваць хараство на букет для каханай,
Пакіну зіхоткае дзіва на чорнай вадзе.
Я лепш прывязу сваю любую ў чоўне драўляным
Самой падзівіцца.

* * *

Калі не стала больш  у тое веры,
Што можна вырвацца з нягод палону,
Ты паглядзі на парастак зялёны,
Што раскалоў асфальт дарожкі шэрай.

* * *

*Дар'і Дарошка*

Як крыштальную кветку дзівоснай красы,
Чалавека каханага сэрца ў далонях
Скрозь жыццё трэба несці з такой асцярогай,
Каб не стрэсці з пялёсткаў вясёлку расы.



## Іван КАПЫЛОВІЧ

* * *

Сум-журба агорне на Пакровы,
Што не ў вёсцы, не ў сваім двары,
Што не чую матчынага слова.
На зіму пара калоць мне дровы
З сухастою, што яшчэ ў бары.

Хіба многа трэба мне на зборы,
Каб прайсці світальную вярсту?
Па прасёлку я пакрочу борам
Крокам засяроджаным, бадзёрым:
У вытокі думкамі ўрасту.

Дом стаіць на ўзлеску каля поля
І дыханне слухае дарог.
Ён мой крыж і роздумаў няволя,
Ён суцішыць, здыме прыступ болю,
Калі я нагою на парог.

Перш за ўсё, з'явіўшыся дадому,
Дроў сухіх з узлеску прынясу.
Печ як след я напалю, вядома,

---

***Капыловіч Іван Іванавіч** нарадзіўся 2 лютага 1944 года ў вёсцы Забалацце Мазырскага раёна. У 1962 годзе паступіў на аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Служыў у Савецкай Арміі. Пасля заканчэння вучобы ва ўніверсітэце (1967) працаваў у газеце «Чырвоная змена». У адной з камандзіровак трапіў у аўтамабільную катастрофу, доўгі час быў прыкуты да бальнічнага ложка.*

*Аўтар кніг прозы «Сонца садзіцца ў травы» (1978), «Два дні ў лютым» (1981), «Асенні гром» (1985), «Сны не вяртаюцца» (1988), «Імянны гадзіннік» (1991), «Пасынак» (1993), «Крумкач» (1997), «Лісты з далёкай чужыны» (2000), «Калі трэба жыць» (2003). З вершамі выступаў у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», часопісах «Маладосць» і «Полымя».*

Праганю з вачэй туман-утому,
Не стрымаю горычы слязу.

На шырокі ўслон ля печы сяду,
Моўчкі буду з маці гаварыць.
Як цяпер ёй у нябесным садзе?
Чую голас маці — яна радзіць,
Што зрабіць у хаце, у двары.

Знаю, што не зведаю спакою,
Покуль не надыхаюся зноў
Лугам са стагамі за ракою,
Агародамі, святлом ваколіц —
Тым усім, што сутнасцю зямной.

* * *

Як ты жывеш, вясковы дом,
Твае хто адчыняе дзверы?
Як след дагледжаны, з цяплом,
Каснік рабіны пад акном,
За шыбай ранак — смутна-шэры.

З іконаю прысніцца кут —
Святое месца для бабулі.
Яна душой адыдзе тут:
Парою праведных мінут
Малітвы дух яе атуліць.

У доме ціш — верацяно
Журчыць напеўна, бы крынічка.
Бабуля, прасніца, акно.
Зіма — ёй скону не відно,
І стукае ў акно сінічка.

* * *

Завея ў чыстым полі
Сустрэлася са мной.
Аб чым яна гамоніць
На мове незямной?

То плача, то смяецца,
То адбяжыць у даль —
Не знае, дзе падзецца,
Спраўляючы свой баль.

Ёй, мабыць, адзінока
І вочы слепіць снег.
Да ночы да глыбокай
Яе мне чутны смех.

Мне з ёю так утульна,
І хораша мне з ёй,
І я душою чуйнай
Свет абдымаю свой.

* * *

Я лунаю ў нябёсах
І хаджу па зямлі.
Паспрачаюся з лёсам —
Ён снягамі заносіў
Час, дзе веі гулі.

Гляну ў неба — малюся,
Думкі ў лад прывяду.
У настроі ці скрусе
Да вытокаў вярнуся —
Як у Храм увайду.

Вельмі тонкая рыса
Між нябесным, зямным.
Думцы-мроі скарыўся,
Ёю дзень мой натхніўся —
Дзень з гуканнем вясны.

І куды ні пакрочу —
Следам роздум за мной.
Ён — мой слых, мае вочы,
Будзе чуць сярод ночы
Голас долі зямной.

## ДЗІЧКА

Паднялася кронаю высока
І глядзіць, глядзіць ва ўсе бакі.
Ні душы ні зблізку, ні здалёку —
Грушы-дзічкі лёс ужо такі.

Вырасці ёй доля адзінокай
У палоне суму і красы.
Карані пускаючы глыбока,
Наваколля слухаць галасы.

Ёй хапае сонца і прасторы,
П’е яна з нябеснае ракі.
Зацвітае год ужо каторы
Ў полі, дзе спяваюць жаўрукі.

Хараша як гэтаю парою,
Калі неба кліча зноў вясну,
Калі быстрай, гаманкой вясною
Свет уваскрасае пасля сну.

Хочацца тады бліжэй да люду,
Каб убранства бачылі яе,
Далучыліся душой да цуду,
Шэрым дням якога нестае.

* * *

Я падуладны гэтай плыні,
Што абуджае неспакой,
Палоніць мудрасцю святыняў,
Каб я душою не астынуў
Непрадказальнаю парой.

І не ўступаў на міг ні пядзі,
Калі размова аб святым,
Не пазіраў у вочы здрадзе,
А пагаджаўся з тым і ладзіў,
Шчытом што станецца маім.

Я ёй даверуся адразу
І зразумею — гэта лёс
Быць не адлучаным ад часу:
І паасобку з ім і разам
Я слухаў музыку нябёс.

Я слухаў луг і слухаў поле,
Дзе птушкі, травы, каласы,
Дзе думкам ёсць прастора, воля,
Дзе не сумую я ніколі,
Дзе спасцігаю свет красы.



Янка ГАЛУБОВІЧ

# ДЗЯЎЧЫНКА НА ДАРОЗЕ

*Апавяданне*

## I

Па небе плылі вялікія, цёмныя хмары. Імглела, як восенню.

«Каторы дзень дождж і дождж… Хоць ты неба падапры», — з роспаччу падумаў Якуб Савосік і адышоўся ад акна, па якім, збіраючыся ў кроплі, ручаямі сцякала вада.

Дзверы палаты прачыніліся, у праёме з’явілася медсястра з русявымі кудзеркамі валасоў, што выбіваліся з-пад белай накрухмаленай шапачкі-стаўбунка, і паклікала Савосіка ў працэдурны кабінет.

— Браток, ці скора дамоў? — пачуў Савосік у калідоры, ідучы ў працэдурную. Ён азірнуўся і ўбачыў Вялічку, доўгага, як тычка, мужчыну, з тонкім носам і белым, ажно, здаецца, сінім тварам. Ляжаў Вялічка ў 209 палаце, а ён, Савосік, у 211.

Савосік прыпыніўся, пачакаў, калі Вялічка даклыпае да яго. А той, як толькі параўняўся з ім, зноў спытаў:

— Ну, як жыццё, браток, кажу, дамоў калі?

— Ат, якое там жыццё, Вінцэсь? Скрыпім пакрыху, як старыя калёсы. Бывае, ні ступіць, ні сагнуцца. А яшчэ сэрца непакоіць.

— А ў мяне, браток, ногі пухнуць, рукі нямеюць. Бачыш, якія яны сталі. — І Вялічка выцягнуў перад Савосікам рукі з тоўстымі і загнутымі, як крукі, пальцамі. — Адным словам, браток, трапіў у гэтую бальніцу, як у нерат: ні ўзад, ні ўперад. Два месяцы ляжу, а ніякай палёгкі. Ат, гнілымі зубамі арэх не раскусіш.

— А сабраўся куды? — спытаў Савосік Вінцэся, каб змяніць тэму.

— Маруся, жонка мая, прыехала. Чакае ў прыёмным пакоі. Паляндвічкі прывезла, мядку, яшчэ таго-сяго. Вечарам пачастую, браток, — усміхнуўся Вінцэсь, дробна пакашліваючы, ступіў да выхаду.

---

***Галубовіч Іван Іванавіч*** *нарадзіўся 26 мая 1942 года ў вёсцы Пранчэйкава Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі, працаваў трактарыстам і камбайнерам на цалінных землях, служыў у арміі.*

*Скончыў Мінскі фінансавы тэхнікум (1969) і факультэт журналістыкі БДУ (1975).*

*Выдаў для дарослых і дзяцей кнігі прозы «Па родных сцяжынках» (1991), «Гром на світанку» (1992), «Пастарайся стаць чалавекам» (1993), «Зязюля дзетак шукала» (1994), «Гронка каліны (1997), «Янотавы абяцанкі» (2001), «Пяюць жаваронкі» (2005) і інш.*

Пасля абеда, калі перастаў ісці дождж, раптам сціх вецер і выглянула сонца. Савосік выйшаў з палаты ў бальнічны скверык і прысеў на лаўку. Яму кінуліся ў вочы кветкі, што раслі насупраць на градзе. Ад ружовых, жоўтых, чырвона-цёмных аксамітных пялёсткаў кветак ажно стракацела ўваччу. На краю градкі сядзела маладая яблынька. Ён запрыкмеціў яе ў першы ж дзень, як прыехаў у бальніцу: яблынька, нібы нявеста, была ўсыпана вэлюмам бела-ружовых кветак. Цяпер жа на галінках праглядвалася ладная завязь яблыкаў.

Савосік вырашыў схадзіць у магазін, купіць трохі каўбасы, пячэння да чаю. Кармілі ў бальніцы хоць і някепска, але ж хочацца іншым разам нечага такога, чаго хворым не даюць.

Пасля магазіна Савосік пайшоў у лес, захацелася падыхаць свежым паветрам, балазе ён падступаўся да самай бальніцы. У лагчынцы, парослай чэзламі кустамі шыпшыны, ён убачыў двух мужчын. Аднага з іх, Мацуру, на тонкіх кароткіх нагах, пазнаў адразу. Ён хварэў на падагру і таксама, як і Савосік, ляжаў у рэўматалогіі.

Другі мужчына з пунсовым, нібы памідор, тварам і віхрыстым, як у хлапчука, чубам наліваў Міцуру ў шклянку гарэлку. Той адмаўляўся, піць не хацеў. Мужчына з пунсовым тварам разгарачыўся, вочы яго заблішчэлі. «Галаву мне адсячы, калі не верыш, — пачаў даказваць ён Міцуру. — У мяне таксама падагра. Вып'ю і лягчэй становіцца. Толькі гэтым і лячуся. А пасля валоскім арэхам закусім. Усё ў ажуры будзе. Ні адзін доктар не ўнюхае».

Савосік, каб не чуць такое, з прыкрасцю сплюнуў і паціху падаўся ў другі бок.

Вялічку не ўратавалі. Ён памёр вечарам, пад кропельніцай. Хоць і хварэў ён цяжка, але душа ў гэтага чалавека была не заскарузлая, не засушаная, бы той леташні грыб, а шчырая, заўсёды адкрытая людзям. Ён заўсёды, калі да яго ў бальніцу прыязджала жонка Маруся, дзяліўся з хворымі ўсім тым, што яна прывозіла з дому: мёдам, сырам і маслам і нават частаваў вяленым вугром.

Савосік вельмі перажываў смерць Вялічкі. У гэтую ноч ён доўга не мог заснуць. Да таго ж моцна балела сэрца. Сястру клікаць Савосік не стаў, не прывыкаць яму да гэтага, ён ціха падняўся з ложка і выйшаў на балкон.

Над Бараўлянамі стаяла ціхая летняя ноч. У густой імгле, час ад часу хаваючыся за хмары, плыла жаўтлявая поўня. А недзе за лесам, дзе заходзіла сонца, неба палала ярка-барвовым полымем.

Савосіку ўспомнілася, што ў вайну, якраз там немцы палілі вёску, і ад пажару быў такі ж водсвет...

Лёгкі вятрыска даносіў да Савосіка пах кветак, кволы водар далёкіх лугоў. Але ён не чуў гэтых пахаў, не бачыў, як дзесьці знік месяц, а неба ўсыпалі буйныя зіхатлівыя зоркі.

Савосік успамінаў вайну. Далася яна яму ў знакі. На фронце, пад Смаленскам, загінулі два старэйшыя яго браты, Мікола і Сямён, а сам ён з прастрэленым лёгкім цудам застаўся жыць.

…Быў халодны снежаньскі вечар. З неба, якое скрозь усцілалі хмары, на ўмёрзлы дол паціху падалі бухматыя сняжынкі. К ночы снег пагусцеў, сыпаўся, як з меха.

Савосік напружана паўзіраўся ў шэры прыцемак ночы, на рэчку з расплывістымі плямамі кустоў, засыпаных снегам, даў знак рукою спыніцца байцам, а сам, прыкленчыўшы, разгарнуў карту. І ўзрадаваўся. Да хутара Чахі заставалася ўсяго вярсты дзве. Недзе за ім, у гушчары лесу, знаходзіўся старанна замаскіраваны нямецкі склад боепрыпасаў. Савосіку з байцамі, а іх было

дваццаць чалавек, трэба было адшукаць гэты склад, зняць варту і пусціць пад яго чырвонага пеўніка.

Зніклі ў густых прыцемках ночы старшына Бусько і сяржант Антончык. Савосік з байцамі стоена чакалі іх. Прайшла гадзіна, другая пачалася, але разведчыкі чамусьці не вярталіся. Яны як скрозь зямлю праваліліся.

І раптам над хутарам трапяткім клубком сіняга агню ўспыхнула ракета, за ёй другая, трэцяя… Снег заіскрыўся наўкола, заззяў. Стала відно, як удзень. На Савосіка і яго байцоў, разыходзячыся ўбакі, несліся ад лесу густыя веера бліскучых куль, seклі кусты, узбівалі снег. Раз-пораз у неба ўзляталі ракеты. Немцы ўстрывожыліся не на жарт.

Савосік загадаў адыходзіць і наўскос, ратуючыся ад куль, папоўз да рэчкі па мяккім, як вата, снезе, у кустоўе.

Побач з Савосікам з аўтаматам за плячыма поўз у маскхалаце баец Дварэцкі. Раптам ён скурчыўся, застагнаў. Савосік кінуўся на дапамогу сябру, але дапаўзці не паспеў. Дзікі боль у плячы сцяў дыханне, перад вачамі замільгацелі, паплылі агняна-яркія колцы туману. Боль у плячы не праходзіў, але Савосік, сабраўшы рэшткі сіл, зноў заварушыўся, папоўз.

…Прачнуўся ён у баковачцы, акно якой да самай падлогі было завешана шэрай тоўстай коўдрай. Ля дзвярэй у кутку стаяў у драўлянай кадцы фікус, а воддаль ад яго, бліжэй да ложка, на табурэтцы, цьмяна асвятляючы баковачку, гарэла газавая лямпа.

Савосік пастукаў рукой у дашчатую перагародку. Чакаць доўга не давялося. Праз хвіліну-другую дзверы катушка адчыніліся, і ён убачыў яшчэ даволі маладжавую жанчыну, чарнаброўку, з прыемнымі рысамі твару і ледзьве прыкметнымі ў куточках вакол вялікіх шэрых вачэй маршчынкамі. У цёплай ваўнянай хустцы на галаве і заношаным ватніку на плячах, з якога дзе-нідзе з-пад матэрыі тырчала вата. Побач з ёй, нібы вожык, тупацеў па падлозе кароценькімі ножкамі гадоў трох-чатырох хлопчык.

— Не бойцеся, партызаны немчуру далёка адсюль пагналі. Папраўляйцеся. Каля дарогі на Выверы мы з мамаю знайшлі вас. Ледзьве жывога… — дадала жанчына.

— Мяне Якубам клічуць, а прозвішча Савосік, — пасля працяглай паўзы сказаў ён.

— А мяне Соняй. Гэта мой сынок, Васілёк. Вось і пазнаёміліся нарэшце, — з непрыхаванай усмешкай на вуснах дабавіла жанчына.

Вясною, калі за акном яго баковачкі яркімі фарбамі расцвілі browser браткі, нарцысы і цюльпаны, Савосік падняўся на ногі.

Хоць яшчэ і самаго вецер хістаў убакі, але без справы ён сядзець не мог. Паправіў у пуні страху, што даўно свіцілася голымі рэбрамі, сабраў у лесе, прывёз і давёў да ладу два вазкі дроў, стаў патроху перасыпаць хляўчук, які асунуўся ў зямлю.

Яму заўсёды дапамагала Соня. Яна і дровы з ім парэзала, і пад паветку іх склала. І Савосіку падалося, што ён кахае гэту жанчыну, вачэй з яе не зводзіць.

Стэпка, Соніна маці, маленькая, сухенькая, таксама ўпадабала Савосіка. Што ён ні гультай, што да любой работы здатны. Аднойчы пасля вячэры, калі выпілі па кроплі гарэлкі, яна, паклаўшы на калені натруджаныя з разбухлымі сінімі венамі рукі, сказала Якубу:

— Заставайся, сынок, жыць у нас. Што б мы і рабілі без цябе.

Соня на матчыны словы адрэагавала па-свойму:

— Гаворыш абы-што, мама. Абыдземся… — буркнула яна.

Стэпка трымала кароўку, Падласку. Неяк пасля той вячэрняй размовы Савосік прывёз з лесу вазок сухога, зялёнага, хоць у чай яго кладзі, сена. Соня, як вавёрка, забралася па драбіне на гарышча пуні. Савосік віламі падаваў пласты сена. А як скончыў работу, палез па драбіне наверх сам.

— Якуб, ты чаго сюды? — спалохалася Соня, убачыўшы яго побач.

— Паглядзець, як ты тут справілася, — адказаў Савосік і асцярожна, пяшчотна пацалаваў яе...

Савосіка пасля цяжкага ранення ў войска не ўзялі і ён застаўся тут, у Соні. Але часам заўважаў, што яна нейкая сумная, зажураная. Бывае, днямі ўсміхаецца, ласкавая, добрая, а потым ходзіць засмучаная, слова не скажа.

Аднойчы Савосік асцярожна спытаў, чаму так...

Соня цяжка ўздыхнула, затым дастала з шафы шэрую паперку, падала яму: «Чытай, Якубе». Савосік прачытаў: «Ваш муж радавы Гарэлік Пётр Міхайлавіч паў смерцю храбрых…»

А пазней, калі паспелі ў садзе яблыкі, калі ў лесе з’явіліся грыбы, неяк вярнуліся з бору дахаты Савосік з Васільком з поўным кошыкам баравікоў — а ў хаце незнаёмы мужчына. Твар знясілены, спакутаваны, з адной рукой, сядзіць у парозе на лаве, а каля яго — Соня...

Вечарам Савосік сышоў ад Соні, сказаўшы ёй і яму: «Жывіце шчасна». Пагладзіў па галаве Васілька: «Слухайся бацьку, хлопча...»

Савосік вярнуўся ў сваe Ваўчкі. Уся вёска спалена. Ні кала ні двара. Выпісаў у лясніцтве лесу, паставіў бацькам дом, а сам пайшоў у прымы да ўдавы Гэлькі Свірыдавай, якая жыла ў мястэчку Гарадок, за сем вёрст ад Ваўчкоў, таўсматай, з рабаціністым тварам жанчыны, але працавітай, гаспадарлівай. Кароўку Гэлька мела, свой дом. Быў, як кажуць, і стол, і да стала. Жыві ды радуйся. Але не прыжыўся ў Гэлькі Савосік, праз год пакінуў яе. Да жанчын болей не цягнула. Так і застаўся бабылём...

## II

Выпісаўся Савосік з бальніцы напачатку ліпеня.

У раённы гарадок аўтобус прывёз яго, калі ўжо добра звечарэла. Гасцініцы шукаць не стаў, пераначаваў на аўтобуснай станцыі. А раненька выйшаў на гравійку, прагаласаваў на папутку і ўжо праз дзве гадзіны быў ля Замошша. Адсюль да яго родных Чахоў заставалася ўсяго тры вярсты.

Ішоў Савосік паціху, шырокай, спрэс у калдобінах пясчанай дарозе, не спяшаючыся, углядаючыся ў далячынь шэрымі сумнымі вачамі. Па адзін бок ад яго густой сцяной стаяла высокае жыта. Па другі — купкамі раслі на пагорках стройныя беластволыя бярозкі, дзе-нідзе траляліся сосны. За жытам каля рэчкі лунала задорная песня дзяўчат. Але гэта не весяліла Савосіка. У грудзях ныла, так разбалелася сэрца, што і жыць не хацелася.

Калі не стала чым дыхаць і пацямнела ўваччу, Савосік ступіў колькі крокаў убок возера і прысеў на грудок пад алешыну. Выцер рукавом успацелы лоб, глынуў таблетку і праз колькі хвілін яму палягчэла.

Ля ракіты ў спартыўных штанах і майцы стаяў са спінінгам рыжы, кучаравы гадоў трынаццаці хлопчык. Па вадзе бялёсымі воблачкамі, часам затрымліваючыся над грыўкамі купчастага чароту з аерам, плыў туман.

«Няўжо ёсць такая дурная рыба, якая на блешню чапляецца?» — усміхнуўся Савосік, не зводзячы позірку з рыбака. Але тут жа ён пачуў радасны, задаволены покліч хлопчыка: «Дзядзечка, злавіў, злавіў!»

Савосік падышоў да рыбака і ўбачыў на траве вялікага цёмна-зялёнага шчупака. Ён біў па траве хвастом, падскокваў.

— Спінінгам я ніколі не лавіў, не ўмею, а ты малайчына, — пахваліў ён хлопчыка.

На пухлаватым твары малога рыбака мільгнула задаваленая ўсмешка. Ён паклаў шчупака ў крапіву, зноў закінуў блешню.

Савосік прысеў побач, але чакаць доўга не давялося. Праз колькі хвілін хлопчык выцягнуў на бераг недзе на паўкілаграма зеленавата-жоўтага, паласатага акуня. Рыбак зноў засмяяўся, ажно затанцаваў ад шчасця. Радаваўся разам з хлопчыкам і Савосік.

«Ат, зусім забыўся, — схамянуўся раптам Савосік. — Праўду кажуць, што старое, як малое. Памяць пачаў губляць. Трэба яшчэ ў магазін зайсціся, цукерак Святланцы купіць. Любіць іх дзяўчынка. Калі Анюта, суседка, прыязджала да яго ў бальніцу, то і Святланка, дачушка яе, папрасілася дзеда Якуба адведаць. Нягожа з пустымі рукамі дамоў вяртацца».

Савосік моўчкі падняўся.

Каля возера адчувалася прахалода, нават дыхалася лягчэй. А як ступіў на дарогу, зноў нясцерпна, ажно пацёк па твары ручайкамі пот, прыпякло сонца. Недзе за лесам гарэлі тарфянікі, цягнула дымам.

Калі даВаўчкоў заставалася ўсяго якой паўвярсты, Савосіку зноў зрабілася кепска. Аслабелі, не трымалі ногі, пажаўцеў твар, а сам ён хрыпата задыхаў. Нямогучы, ён саступіў убок, прысеў пад рабінаю ў цянёк, глынуў таблетку.

І раптам на зялёным лужку Савосік убачыў Святланку з вялікім белым бантам у валасах. У адной руцэ ў дзяўчынкі быў букет сініх васількоў, другой яна трымала сачок. Дзяўчынка бегала з ім па лужку, лавіла матылькоў. З краю лужка каля бульбоўніка пасвілася некалькі авечак.

На бялёсым, без хмурынкі небе вісела адзінокае, пякучае, бы расплаўлены дыск, сонца. Ледзь чутна, як нежывое, шалясцела над Савосікам лісце рабіны.

Гледзячы на Святланку, слухаючы яе вясёлы, што званочак, галасок, Савосік успомніў маленькага Васілька. Якім ён вырас, кім стаў? Некалі ж такім быў, як і Святланка. Разумны, дапытлівы. У кожную шчылінку прашчэміцца. Усё трэба было яму ведаць, да ўсяго сваім розумам дайсці. Як сышоў ад Соні, з таго часу і не бачыў Васілька.

Савосік цяжка ўздыхнуў, а калі праз нейкі час глянуў на лужок, то дзяўчынкі на ім не ўбачыў. «Куды ж Святланка падзелася?» — захваляваўся ён.

Савосік падняўся, глянуў на дарогу і супакоіўся. Дзяўчынка сядзела ў пяску і перабірала ў ім каменьчыкі. Крыху воддаль ад яе ляжаў сачок, на ім — букет васількоў.

Савосік хацеў паклікаць дзяўчынку, каб разам з ёй пайсці ў магазін, купіць цукерак, але ўбачыў, што дзве авечкі з лужка забрылі ў бульбянішча. Ён выгнаў авечак на лужок і пачуў гул матора трактара. Савосік зірнуў у той бок адкуль даносіўся гул і стрыпянеў. З пагорка на вялікай хуткасці крывулiста каціўся «Беларус». Яфрэм… яго трактар…

Няўжо зноў выпіў?

Савосік кінуўся на дарогу.

Дзяўчынку ён ўратаваў, спіхнуў з дарогі ў канаву. А сам, пакалечаны, памёр па дарозе ў бальніцу.

Хавала Савосіка ўся вёска. І яшчэ доўга, нягледзячы на спёку, на яго магілцы разам з гвадзікамі і ружамі сінеў букет Святланчыных васількоў.



Ізяслаў КАТЛЯРОЎ

# ГОРДАСЦЬ

*Урывак з паэмы «Вучань вечнасці»*

«Ты горды, ганарлівы больш, чым я!» —
ён крыкнуў, адвярнуўся да акна
і дыму папяроснага лунаннем
туманныя мне задаваў пытанні.
Яны над ім кругамі завісалі,
ахутвала яго іх сівізна, —
ніяк мяне сабой не даставалі,
цягнуліся праз фортку да вышынь,
да хат прыціхлых там, дзе далячынь.
Я ж у зваротную глядзеў дарогу,
якой быў тэрмін абумоўлен строга,
хаваў сумленне ў ёй, паўзмрок сачыў.
Чаго да поспехаў яго і ўсцехаў
я правінцыйна, горасна прыехаў
па дабрадзейства і па дапамогу
сабе на радасць ці то на бяду?..
Паветра мне, дыхання не хапае.
Яшчэ сяджу, а быццам бы іду
туды, дзе ўсё цямнее і світае,

---

***Катляроў Ізяслаў Рыгоравіч*** *нарадзіўся 21 лютага 1938 года ў горадзе Чавусы Магілёўскай вобласці. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1966). Працаваў у рэдакцыі раённай газеты «Светлагорскія навіны», дырэктарам карціннай галерэі аддзела культуры Светлагорскага райвыканкама.*

*Піша на рускай мове. Аўтар паэтычных кніг «Друзья мои — свидетели мои» (1981), «Здесь, на трепетной земле» (1989), «На расстоянии взгляда и души» (1990), «А душа и в молитве болит» (1994), «Но даже умираем, чтобы жить» (1999), «Россыпь» (2000), «Земля простит, но не прощает небо» (2001), «Куда б ни шел — иду к своей судьбе» (2002), «Вечное время во мне» (2003), «Сам себе дорога» (2004), «И гром, словно эхо войны» (2005), «По ту и эту сторону окна» (2006), «Зовущая печаль» (2010), «Небесная весть» (2012) і інш.*

дзе я маўчу, нібыта гавару, —
страшуся зноў, што сам сябе міру
з пакорнасцю уласнай — і цішэю,
і чымсьці ўжо за голас больш нямею.
Здаецца, і маўчанне я хаваю, —
бы ўдзячны ім таму яго дабру,
хоць сам сябе маўчаннем праклінаю…
І ён жа разумее, без сумнення:
мацней мае за гордасць уніжэнні.
Таму і злосна так глытае дым, —
цяпер і я глытаю разам з ім.
Якімсьці ветрам фортка зноў падула,
і цішыня заспаная ўздыхнула —
дым у пакоі зноў імкне вісець…
Як проста ўцяміць — цяжка разумець.
І гэты дым бярэ мяне ў палон,
ужо мяне сціскае ён кругамі,
яго ірву бязвольнымі рукамі —
плыву па ім, ці топіць мяне ён?
«Ты горды, за мяне больш ганарлівы…» —
«Шчэ скажа — болей за яго шчаслівы», —
падумалася ў нейкі дзіўны міг.
І ад яго хачу яшчэ суладдзя,
свайго не разумеючы мо шчасця,
і публікацый будучых, і кніг?!
Сумотна, смешна, зноўку смешна, млосна…
Пара світаць бы, а яшчэ ўсё змрочна.
Мая гардыня больш за прыніжэнне?
І гэта мне ужо наадварот —
ёсць непакора нават у змірэння,
якая зманіць зноў без перашкод…
У чымсь галоўным — сам я тайны схова.
Не існасць — існасць ўсё ж выпадкова.
І маласцю так многа я хачу!
Сум прадчуваю у сабе нанова:
я дзесьці тут і дзесьці там, дзе даль.
Я там, дзе лёгкі толькі мо цяжар…
І як шматслоўна сам сабе маўчу,
а ён мне прамаўляе нешматслоўна.
Ўсё нерэальна ў нас і ўсё — умоўна.
Я сам сябе маўклівасці вучу.
Ёсць недзе ратавальныя тут дзверы…
Так проста у няверу мне паверыць,
калі вось зараз іх не расчыню…
Ты мне даруй за тое, што не выйду

ў сваю, ды і ў тваю, магчыма, крыўду, —
хоць не пайшоў, а ўсё ж сябе вярну.
«Мой даўні сябра, час табе ўжо знаць,
ніколі гэта я і не хаваю:
пакуль мяне не стануць прыніжаць,
я гордым… ганарлівым не бываю.
Ну а цяпер пара б і неяк спаць…» —
«Пара… Вунь зоркі томяцца ў паглядзе…
Ды не туды, не ў неба ты глядзіш…
Цябе я перагавару наўрад ці,
наўрад ці ты мяне перамаўчыш…»
І пасміхнуўся, вышпурнуў акурак
скрозь фортку, даўшы ночы дакурыць…
Нейк шолах стаў ліслівым — дзе завулак…
Не даспрачацца, не дагаварыць.
Падумаў так ці захацеў прызнацца?
Сваім жа думкам стаў не адгукацца.

…Я спаў, і сніліся мне словы,
ужо мне словы сталі сніцца
і твары іх, што мкнуць свяціцца,
а сутнасць тая ж, сэнс не новы:
гардынны, гордасны, гардзец,
гардзінец, гардзялівец, гордскі…
Сябе не бачыць, як сляпец, —
сляпы звышзорка, слепа зоркі.
Натоўп маіх і нейчых «я»
і слоў натоўп тых непадзельны,
а ў кожным — і сваё імя,
сваёй хады след неад’емны.
Вось бачу слова «безбярэжнасць»
і чую: «Я — яшчэ не вечнасць,
хоць не замкнёная нічым...
Не сатварыць і не знішчожыць,
не скараціць, а толькі доўжыць
мяне ты здольны ўсімі, ўсім…»
Ў гучанні тая ж ганарлівасць
і велічнасць, не толькі міласць…
«А ты адкуль? Куды ізноў?» —
хачу спытацца, нерашучы.
«Я — дух спрадвечна неўміручы,
мне ні пачаткаў, ні канцоў…», —
маім так думкам адказала,
прастор у позірку забрала.
І сонны розум не спытаў

аб чымсьці ў спешцы вельмі важным,
аб узаемным, разнастайным,
што з нашых думак, з нашых спраў.
Я ў тварах слоў не памыляўся,
прад некаторымі схіляўся —
і мой прыветным быў паклон.
Яны адказвалі з усмешкай
то разуменнем скрухі нейкай,
то ўсім, што — ад вякоў спакон.
А вось з ухмылкай слова «гордасць»,
напышлівасць ці непакорнасць…
Я адступаў зноў да змірэння —
з ім больш надзейна, ціха больш —
і ад яго пачуў усё ж:
«Патрэбна пыху пахваленне…
Ты не спяшайся… Сон жа — зыбкасць.
Сам ведаеш такую існасць:
заўсёды грэх смяротны — пых.
Вось бачыш Саўла?.. Горда скача…
Усё пасля ён перайначыць
не для сябе — ужо для ўсіх…»
І праўда, бачу — скача горда
туды, ў Дамаск, дзе сінагога,
каб там арыштаваць Хрыста.
А неба відавочна супраць, —
і ззяннем гэтакім насустрач,
што той як бачыш — у кустах.
І голас Божы: «Саўл, ты гоніш
мяне?!» А ён ляжыць і стогне,
хоць патрабуе хтось падняць…
Жыццё і Саўла зробіць Паўлам,
дасць і апостальскае права…
Сляпы — відушчым зможа стаць.
Яму Ананія паможа —
ахрысціць, падсумуе гожа.
Вось ён схіляецца над ім…
Мне мала сну — усё пабачыць,
мне страшна забыццём зняважыць
і тое, сцерагуся чым.
А Павел моц шукае ў высях, —
малітвай шчырай слых зрабіўся,
і ў словах — ісціна сама…
Хоць сам сляпы, а дзею здзейсніць:
бязгрэшнай мсцівасцю аслепіць
Яліма — з Кіпра вешчуна.

…Ды ў Лістры адхіляе славу,
якою Паўла і Варнаву
Меркурыем, Юпіцерам завуць.
Ахвярна ім валоў прыгоняць…
Яны, што гонар — грэх, успомняць —
сваё адзенне разарвуць.
Язычнікі… Натоўп ля храма…
Шчэ спадзяюцца нейк няўцямна.
Малаазійцаў спрэчка бы чутна.
І жрэц бяссільны сум прыглушыць, —
вала памілуе, апусціць
сякеру на прамень святла.
А сну — ніякае граніцы…
Эфес, Афіны, Мальта сніцца,
і Анціохія, і Рым,
дзе прыгавор к смяротнай славе
спасцігнуць і Пятро, і Павел, —
такі канец жыццёвы ім.
І не адрозніць гонар, гордасць:
Пятру распятым быць — пакорнасць.
Сам выбраў так — ніц галавой.
А Паўлу — без яе застацца
(ўсё ж стаў ён рымлянінам звацца),
схіляецца над плахай той,
дзе ката пляма ценю ўпала,
к ёй Паўла галава прыпала…
Як безгалоса я крычу!
А сам ізноў ужо ў Афінах
а ці ў Карынфе, сонна дзіўных,
сябе пакорнасці вучу.
Тут сонца сціснулася ў кропцы,
тут Дыяген жыве у бочцы —
ён так свой гонар пакарыў,
а можа, ўсё-такі узвысіў,
калі такое вось замысліў,
замысліў і ажыццявіў.
Яму і бочка — што вярыгі…
Вось побач Аляксандр Вялікі —
з каня натурыстага злез.
Пытае: «Ўсё яшчэ прарочыш?
Прасі, філосаф, што захочаш,
у чым свой маеш інтарэс…»
А Дыяген усмешкі моцай:
«Не засланяй мне лепей сонца…»
Імкнецца тое ж зноў сказаць.

І голас прыкры, не падманам:
«Ах, каб не быў я Аляксандрам,
хацеў бы Дыягенам стаць!..»
У сне рэальна ўсё і проста.
Вось бачу: рыначная плошча,
людскі нястройны чую гуд
і бачу ў сонцы Дыягена —
ён праз натоўп ідзе сумленна:
«Шукаю чалавека тут…»
У сонцы яркім, як прывабу,
нясе запаленую лямпу
на ўлонні ўзнятае рукі…
Не знойдзе ў гурце чалавека —
ў любым з любога нават веку…
І я, і я ўсё ж не такі.
Зірне вось зараз нецярпіма
і пройдзе… вось праходзіць міма…
То сонца? лямпы ўсё ж святло?
Прачнуўся, апрануўся спешна,
мне б сонейкам сагрэцца ўсцешна…
Няма мяне тут, не было.
Як проста жыць, ды без віхляння…
Цішком, цішком, без развітання
у лес я выйшаў, што ўпрытык…
Якая навакол свабода!
Надвор'е — то ж сама прырода…
Як добра, што я раптам знік!
А лес дасвецце бы святкуе,
мяне ён адчувае, чуе.
Даруй, даруй мне, сябра мой!
Спакоем споўніць сцежка звычна,
а там, а там і электрычка,
і шлях, што шлях не знае свой.

***Пераклад з рускай Соф'і ШАХ.***



## Чынгіз АЛІАГЛУ

### РЭХА

Я засынаю — да неба твар.
Сумныя позвы чыіхсьці сноў
Спешна наносяць свой удар,
Ўсё паўтараецца зноў і зноў.

Кожны гукае праз забыццё
Душы сышоўшых у вечны змрок.
Мусіць, забылі сваё жыццё
Ў свеце другім… І маўчаць знарок.

Ты не гукай, не крычы дарма
Ў прорву глухую, дзе стыне ціш.
Мёртвых трыванню мяжы няма,
Толькі жывым — несці свой крыж.

Ты не паруш вечны спакой,
Вечнасць не ўчуе смутак зямлі.
Цяжар адвечнай ношы людской
Ты на памерлых больш не валі.

Кліч беззваротны — пачуеш ты —
Рэхам вяртаецца з пустаты.
Там, дзе над смерцю паўстане плач,
Ў свеце жывым ты святлынь убач!

### ЦЮЛЬПАНЫ НАХІЧАВАНІ

О, як палымнелі, умытыя ранішняю расой,
          нахічаваньскія цюльпаны!
Устала сонца,
          і гузікамі на шырокіх грудзях лугавін
          мільгалі матылькі,
          і агаляліся гарачыя цюльпаны —
          крывавыя сэрцы палян.

О, як палымнелі яны
з плямінкамі
чорных асколкаў начы
ў глыбіні сэрца.
О, як заірдзелі цюльпаны
ад гаючага глытка сонца!
Ускіпалі цюльпаны,
сціналіся на вятрах,
і водбліскі іх
запальвалі зоры!
Імкнуўся я
ў гэту вогненную стыхію
за жар-птушкай,
за палымянаю марай.
О, прымі мяне, прымі,
светлае полымя
і вольнае племя!
Дай сасмяглай душы
жар вогненных усходаў,
Дай сцюдзёнаму сэрцу
агню з ачага вечных цюльпанаў,
Дай напіцца агню
з гарачых фантанаў цюльпанаў.
О, як палымнелі
вечныя цюльпаны
старажытнай Нахічавані!
Нібыта сонца,
пакідаючы гэтыя горы,
Навечна на вяршыні ўзнесла
свой вогненны вольны сцяг!

* * *

Гэта гора — не маё,
Не мяне дапяла…
Мо яго, яе — чыё?
Мо цябе скавала?

Гэта гора — не маё,
Хоць маё не лепей.
Гора горкае маё,
Як прамень у склепе.

Гэта гора — дзень пры дні
Мкне да небакраю,
Хоць да кроплі у агні
Ад яго згараю!

Ты, бяда, — чыя, чыя?
Лёс зямны гартаю.
Сярод срэбных вольхаў я
Ў полі прарастаю.

## ПЛЫЛА ПЕСНЯ ДА БЕРАГА ВЕЧАРАМ

Брат мой, ці мора, магчыма, спявае
ў час буры. Ці рыбы ўжо загаварылі? —
змова стыхій?
Вынырнула песня са стыхіі соннай
з прадоння.

Бераг быў бязлюдным. А людзі знямелі
на вакольных скалах, у сцюдзёнай цішы.
Плаваў у далечы белы караблік,
плыў сабе і плыў.

Ці дзіця спявала? Ці дзяўчына-кветка?
Музыка знямела — была не была?
Не чуваць ні слова — былі не былі?
Што гэта за словы? І мова чыя?
Чый чужынны бераг яе прывітаў?
Песня, брат мой, — сон, сон?..

Вецер сціх, як п’яны бадзяга-вандроўнік.
Дрэвы каля мора і людзі прымоўклі.
Спала ўсё ваколле.
Вынырнула песня з соннага бяздоння
і плыла.

Век плыла, магчыма, а магчыма, суткі,
брат мой? Ды сюды прычаліла, прыйшла.
Месячным вячоркам у вадзе растала,
у паветры, ў людзях, у абдымках шчасця.
Палубай вялізнай зноў гайдаўся бераг, —
альбо вечар веку, вечар песні, брат мой!

## ПАРЫЖСКІЯ ВЕЧАРЫ

Парыж вечаровы — гэта
смеху мяхі,
палігон галасоў,
папуры папулярных рулад.

Пражай зіхоты праменнай
аплятаюць Парыж фары машын,
успыхнулі «начныя матылькі»
захмеленых вуліц.
Ах, Парыж! Ты не ведаеш
ні ночы, ні дня.
То расчынены,
то замкнуты
паўзмрочлівы
тыл тупікоў,
скрыжаванняў зяханне.
Успаўзаюць на камлюкі дрэў
мурашкі мільготных праменняў,
ля вітрын
срэбрам рассыпаецца смех.
Пешаходаў палохаюць
свавольствы шалёныя дурослівых рокераў,
што асядлалі коней рагатых,
сірэны імклівых
паліцэйскіх машын,
метро-чэрава непраглядная цемра,
паплаўкі-рэстараны —
BATEAVX VOVCHES, —
што на Сене павольна і цяжка
пакалыхваюцца,
Трыумфальная арка,
Нотрдам, Дом Інвалідаў,
у прамежках,
бясконцыя «хвасты» бліз «Лідо»
на Палях Елісейскіх.
Эх, колькі яшчэ таго і сяго…
Гэта вечаровы Парыж,
як згадаеш аб ім,
уздрыгне сэрца ў грудзях,
душа мая поўніцца
светлынёй.
Начное кабарэ цёмнаскурых
кеура-самба,
п’яны экстаз
ад віскі, сігар,
і ў гэтым тумане
статныя чорныя бёдры,
пара пілястраў, што неба падтрымліваюць…
ах, пад парталам
раскрытае ружы бутон!..
Колькі вады ўцякло, мне невядома,
невядома, са мной назаўсёды
чароўная казка,
што пачалася кеура-самбай,
а спраўдзілася ў гатэлі Варвік
На ру дэ Верры…

* * *

Аб прыгажосці юнай — нашы спрэчкі,
Паўночны лес наш дрэмле ў супакоі,
Калі бярозак санцалікіх свечкі
Зацепляцца сярод махнатай хвоі.

Я прыблукаю ў час сюды вячэрні —
Працяты морак свежай белізною,
Нібы ад кветак зыркае пламенне,
Запаленае сцюжай і вясною.

Хай з роту пара — скачуць блікі снегу,
Сняжынам-словам ведамы суквецці.
Мароз сцяў вусны бруйнае Пінегі,
Пара абложы ледзяной у свеце.

Пакроў марозны на рацэ адзення,
Убор дабротны, цягне прахалодай.
На беразе, у сцятасці знямення,
Заплюшчаныя вочы чорных лодак.

Камлі бяроз, як срэбрыва на чорным,
Ў крыштальнай вышы — сцяты выдых ветру.
Густы, нібы настой нябёс вячорных,
Ўздых над зямлёй марознага паветра.

Ад хаціны, калі ступае вечар,
Спушчуся к рэчцы ў схове зорнай ночы,
Бо кожны вечар жарам новай стрэчы
Ахоплены, я жыў так неаднойчы.

Чакай, калі успыхнуць-бліснуць вочы.
О, як мары́ла стоеная змора!
І кожны крок, і кожны ўздых прарочы
Мне гаварыў: сустрэнецеся скора!

Стаяла ты… Ні слова пра расстанне.
Яшчэ ва ўладзе дзёрзкага набегу,
Ў тваіх вачах, нібы адбітак рання,
Світала наравістая Пінега.

Ты, маладзён, ці ведаў той часінай —
Адны сляпцы не жмурацца ад сонца,
Што ў свеце ўсё прыгожым быць павінна,
І што душа — суладдзя абаронца?

І толькі потым, праз гады, мы бачым,
І мала ў кім мы знойдзем разуменне.
…Бягуць гады. І наступ іх гарачы.
І памяць нас халодная сустрэне.

## ФЕМІДА

Феміда, як анёл і праўды, і закона,
Навошта вочы змерклымі былі?
Трымаеш вагі, з велічнага трона
Глядзі на свет аслеплы хоць калі!

Твой бедны скарб — жыцця ўсяго астача,
Дабро і зло на шалі зноў ляглі.
Ды вось адна-адзіная задача:
Як нам сабраць дабро усёй зямлі?

Сябе суджу я сам, ніколькі не шкадую,
Што вагі ўзяў. Даваць адказ пара.
Я сам аб тым журуся і бядую,
Каб шалі сталі поўнымі дабра.

## * * *

Жыццё — не свята, а руплівы будзень.
Я злосць не называю дабрынёй.
Мо для кагосьці забаўкаю будзе,
А для мяне жыццё — смяротны бой.

Я ведаю цану лясам, і полю,
І сіле слова ў ранішнім радку.
Я веру сябру, чуючы спатолю,
І ворагу магу падаць руку.

Вось так прайду, не чуючы знямогі.
Ляжыць каменне вечных скрух і бед.
З тых камянёў я вымашчу дарогу
Для ўсіх, каму за мной ступіць услед.

## ВЫСАХЛАЯ РАКА

Плыўцам бадзёры дорачы настрой,
яна лілася ў часу далячыні.
І буйвалы спякотнаю парой,
як валуны, ляжалі ўсцяж на плыні.

А на зары вясной,
не чуючы акоў,
рака прачнецца —
і зальецца спевам,
і вырвецца з аблжы камянёў,
і панясе
дамы, платы і дрэвы.

Мінулі тыя дні —
ледзь кметнаю бруёй
між камянёў цячэ яна ў спакоі.
А людзі ўсё па звыкласці сваёй
завуць яе, як і калісь, ракою.

## ПТУШКІ З БОКУ ДАСВЕЦЦЯ

Птушкі, якія ляцяць
з боку дасвецця,
крыламі рассякаюць
ранішнюю імглу.

На мае далоні,
як неба часцінка,
упала жураўлінае
лёгкае
пёрка.

А з успамінаў
твой усплывае вобраз,
як белы лотас
на рачной завадзі.

І нараджае светлыя
ранішнія радкі
тое бязважкае
лёгкае
пёрка.

## РУЖА ВЯТРОЎ

Ружа вятроў расцвітае вясной,
кветак пажар раздзьмувае вясной,
лісце, і голле, і травы гараць,
поўныя слодычы яду, гараць, —
ружа вятроў палымнее над светам.

Моваю самай дрыготкай ліствы,
моваю самай шапоткай ліствы
вецер спявае, звініць і лапоча,
ўзносіцца вецер у выш сінявы
і ападае ліўнем шалёным.

Ружа вятроў апякла небакрай!
Ружа вятроў, кветкай зыркай палай
там, у вышынях, дзе вечнасці сховы,
барвай над светам азяблым шугай
і разлівайся пламеннем ружовым.

## СВАБОДА

Калі думаеш, як табе думаецца,
Калі слова і думка ў суладдзі,
Калі сутнасць і слова — у згодзе, —
Ты — свабодны.

Калі сэрца не ведае зайздрасці,
Калі здатна смяяцца пацешліва,
Калі збыўся бязмернае сквапнасці,
Ты — свабодны.

Калі сцелешся бруднай анучаю
Перад кімсьці і дзеля чагосьці,
Калі гонар жанчына разменьвае
На усмешачкі танныя,
Гэта зман, гэта торг — несвабода.

Калі страсцю палаеш грашоваю.
Гэта — рабства тваё прымусовае.
У каханых — будан адзіны,
Ды ў вачах запаліла іскрыны
Найсалодшае здавальненне.

Несвабодны ад прагі свабоды
Чалавецтва, людзі, народы.
Не жар-птушка яна, не цар-птушка,
Каб адданай табе быць служкай.

Гэта шчасце, змагання вартае,
Даражэй нам за ўсё свабода —
Паўсядзённая і упартая,
Бесспачынная наша турбота.

## КАЗАХСТАН. СТЭП

Хвальба-гульба — не ў гонар дружбаку,
Гудуць, як рог, задымленыя юрты.
Дасць ворагу адпор, падасць руку
Прыветна сябру край святы Боз-гурда!
Спякоты бойся малады й стары,
Падмане шэрань дзённая хмурын.
Ды, чуючы нясходны жар спякот,
Вяду адчайны стэпавы паход.
Гарыць на даляглядзе, як жаўток,
Свяціла-вока, палячы бясконца,
Расцёкшыся ў прасторы, слепіць зрок
Гіенна паглынаючае сонца.

То крочу, то сядаю на каня,
Імчыцца вецер стэпам з грывай пыльнай.
Вачэй кранецца зноўку даланя —
Уйгур зірне украдліва і пільна,
Яго настрой вясёлы разбірае,
Залётны госць дарог не выбірае.
Крамсае спёка гойстрая, як нож.
Раз у стагоддзе тут бывае дождж…
Клубком спляліся пырнік і кавыль,
Як кішкі пазаблытаныя, скрозь.
Пясок скрыпіць — рыпіць зямная вось,
Спякотную пад небам шэпча быль.
Глухота-ціш, і сум павіс, як крук.
Пазнака шляху ўдаль — памёт авечы.
І набрыняў краплінамі бурдзюк,
Уйгурам хвацка ўскінуты за плечы.
Паветра ў горле колецца, як поўсць.
Адны пяскі ляжаць перад вачыма.
Вось першы змрок барханамі папоўз,
І міражом паўстаў твой дом радзімы.
…Яшчэ дыміцца у мяне ў вачах
Хмурын вязьмо ў спякотнай крутаверці,
Дзе звіў гняздо-прыстанішча казах,
Дзе крок адзіны ад жыцця да смерці.

***Пераклад з азербайджанскай***
***Міколы МЯТЛІЦКАГА.***

**Валянціна ТКАЧУК**

# СРОДКІ ПСІХАЛАГІЧНАГА ЎВАСАБЛЕННЯ МАСТАЦКАГА ХАРАКТАРУ Ў АПАВЯДАННІ А. ЖУКА «ПАРТЫЗАН»

Вялікая Айчынная вайна жыве і яшчэ доўга будзе жыць у памяці народнай. Яна закранула лёсы не толькі тых, хто адчуў яе страшэнныя жахі на сабе, але і тых, хто нарадзіўся пасля пераможнага 1945 года. Закранула, скалыхнула пытанні, да якіх не можа быць абыякавым і сучаснік XXI стагоддзя. Вайна, жыццё беларускага народа ў акупацыі, удзел у партызанскім і падпольным супраціўленні паўплывалі на генетычную памяць, на светапогляд, нацыянальную ментальнасць другой паловы XX ст. Трагедыяй вайны, выпрабаваннем на грамадзянскасць і чалавечнасць абумоўлена тэматыка многіх твораў не толькі пісьменнікаў — удзельнікаў яе, але і малодшых пакаленняў творцаў. Вайна жыве як у біяграфічнай памяці, так і ў падсвядомасці кожнага беларуса і да сённяшняга дня. Яна стала важнай тэмай для Г. Далідовіча, І. Пташнікава, Б. Сачанкі, В. Іпатавай, А. Жука і іншых. У беларускай літаратуры ўзніклі не толькі рознажанравыя мастацкія творы, але і дакументальныя. Пра ўсенародную трагедыю загаварыў сам народ, бо ніхто лепш пра яго пакуты не здолее расказаць, чым сам ён.

Дакументальныя кнігі А. Адамовіча, Я. Брыля, У. Калесніка «Я з вогненнай вёскі...», А. Адамовіча «Карнікі», С. Алексіевіч «У вайны не жаночы твар» напісаны паводле ўспамінаў пакутнікаў, якія трапілі ў пякельнае полымя вайны і сталі яе сведкамі, і нават тых, як у кнізе «Карнікі», хто пераступіў праз хрысціянскую запаведзь «не забі».

Кніга А. Адамовіча, Я. Брыля, У. Калесніка «Я з вогненнай вёскі...» (1975) — публіцыстычны дакумент. З ваенных эпізодаў, фактаў, лічбаў, фотаздымкаў, галасоў людзей, якія цудам ураталіся з агню, складваецца цэласны вобраз нязломнага беларускага народа. Са старонак кнігі паўстаюць воблікі людзей, якія выжылі, каб расказаць усяму свету пра фашысцкі генацыд, пра адну з самых трагічных старонак у гісторыі беларусаў.

У дакументальнай аповесці С. Алексіевіч «У вайны не жаночы твар» (1985) сабраны амаль дзвесце споведзяў жанчын-франтавічак, падпольшчыц і партызанак. Медыкі, сувязісткі, сапёры, лётчыцы, снайперы, стралкі, зенітчыцы, танкісты, дэсантніцы, шафёры, — яны прайшлі праз усе выпрабаванні ваеннага часу. На самай страшнай вайне XX ст. жанчыне давялося стаць салдатам. Яна не толькі ратавала, перавязвала параненых, а і страляла са «снайперкі», бамбіла, падрывала масты, хадзіла ў разведку. Жанчына забівала ворага. «Не жаночая гэта доля — забіваць», — пагодзімся мы з адной з гераінь гэтай кнігі. Але вайна, у якой зусім не жаночы твар, прымусіла ўзяцца за зброю і жанчын. Сабраныя разам аповеды жанчын малююць жорсткае аблічча вайны, яны гучаць як сведчанні — абвінавачванні фашызму.

Рэалістычнымі, дакументальнымі сюжэтамі вылучаецца творчасць А. Жука, які прыйшоў у літаратуру ў сярэдзіне 60-х гадоў. За гэты час ён сцвердзіў сябе таленавітым празаікам, у творах якога выразна адлюстраваліся не толькі асабістыя пошукі і перажыванні, але ўсёй беларускай літаратуры другой паловы XX ст. Творчы набытак А. Жука складаюць многія апавяданні і аповесці, у тым ліку

і творы, дзе прысутнічае памяць пра вайну. Крытык У. Гніламёдаў адзначае, што «А. Жук радзей звяртаецца да паслядоўнай плыні жыцця. Яго больш цікавяць змены, што адбываліся ў чалавеку — і ў знешнім абліччы, і ў духоўным» [1, с. 5].

Сярод твораў пісьменніка апошняга дзесяцігоддзя ваеннай тэматыкай вылучаецца апавяданне «Партызан» (1996). Вядома, што прататыпам героя, старога партызана, ветэрана Антося стаў бацька аўтара. А. Жук цікавіцца зменамі, якія адбыліся ў чалавеку з часам, у яго знешнім і духоўным абліччы. Як і іншыя ягоныя творы, апавяданне варта лічыць сэнсава змястоўным і псіхалагічна заглыбленым. Аўтару ўдаецца дасканала і пераканаўча даследаваць унутраны свет сваіх герояў. Ён імкнецца ісці па слядах апісанай рэальнасці, свежых падзей, у якіх удзельнічаюць героі. У якасці галоўнага і цэнтральнага героя апавядання «Партызан» узяты чалавек, які зведаў даволі драматычнае і доўгае, на думку самога героя, жыццё, з усімі яго праўдамі і няпраўдамі, голадам і нястачай. *«Усе гавораць, што лёс быў літасцівы да яго, што Бог дараваў яму доўгае жыццё... Антось не верыць у Бога і цяпер пачынае думаць, што калі і ёсць Бог, то ён не злітаваўся з яго, дараваўшы доўгае жыццё, а пакараў гэтым. Чым даўжэйшае жыццё даравана чалавеку, тым больш пакут наканавана яму»* [1, с. 419].

Антось — былы партызан — цяпер ветэран, які мужнасцю, самаахвярнасцю, вернасцю сваёй Радзіме, заслужыў павагу і пашану. Ён адзін з тых, дзякуючы каму ёсць незалежная краіна Беларусь, ёсць Дзень Перамогі, ёсць школы і дзіцячыя садкі і інш. Але, на жаль, успамінаюць пра гэта ў грамадстве часцей, толькі падчас свята Перамогі. Так здарылася і з галоўным героем апавядання. Антось застаўся ў хаце адзін, яго жонка хварэла і знаходзілася ў бальніцы. Пачуццё нуды, адзіноты апанавала ім, і ён даў волю балючым, жудасным успамінам. Мастацкая манера і стылістыка апавядання сведчаць аб псіхалагізме як адметнай стылёвай рысе творчасці А. Жука.

Каб пераканацца ў гэтым, варта спыніцца на прыёмах і формах псіхалагічнага адлюстравання ў творы. Пры абмалёўцы вобраза Антося спалучаюцца **прамая і ўскосная формы псіхалагізму**. Яны тэарэтычна былі абгрунтаваны І. Страхавым, вучоным, даследчыя высновы якога знаходзяцца на сумежжы літаратуразнаўства і псіхалогіі. Празаік апісвае героя і звонку, звяртае ўвагу на знешнія праявы стану персанажа, перадае ўнутраны свет, пачуцці, думкі. Напрыклад, пра галоўнага героя чытаем: *«...маленькі і худзенькі, як зімовы верабей. У лапленых-пералапленых штанах і гэтакай жа куфайцы — усё гэта агулам Антось называў «робай». На галаве камячком ляжала, як коцік, старая вырыжэлая вушанка»* [1, с. 425].

Аўтар падае вельмі запамінальнае, трапнае апісанне знешняга выгляду чалавека, які спазнаў цану людскога жыцця і пакут. Антосю давялося зведаць вайну з усімі яе жахамі і трывогамі, перажыць смерць самых блізкіх і дарагіх яму людзей — жонкі і маленькай дачушкі. У апавяданні чытаем : *«...зусім маладая* ***першая*** *жонка і* ***першая*** *маленькая дачка ў ружовых пялёначках»* [1, с. 419]. Аўтар робіць акцэнт на тым, што і жонка, і дзіця былі першымі, а ўсё першае з'яўляецца, звычайна, найдаражэйшым, запамінальным на ўсё жыццё. Выразныя прыметнікі-азначэнні — *маладая, маленькая, ружовыя* змяшчаюць у сабе апроч усяго і глыбокі псіхалагічны сэнс. Яны асацыіруюцца з пачаткам жыцця, вясны, юнацтва, з чымсьці светлым, чыстым, што адначасова падкрэслівае безабароннасць мірнага насельніцтва, асабліва дзяцей. Вайна і жыццё — паняцці не сумяшчальныя, а наадварот супрацьлеглыя: вайна разбурае і адбірае жыццё нават у бязвінных дзяцей…

Вайна пазбавіла Антося вельмі многага: забрала ўсё, што было, і што магло б яшчэ быць, пакінула толькі балючы, горкі ўспамін і адзіноту, якія не забыліся з гадамі, а ў апошні час, наадварот, ажылі ў яго памяці і сэрцы, вярэдзілі душу Антося амаль штодня. Зараз, калі Антось застаўся ў хаце адзін, гэтыя пачуцці абвастрыліся. Заныла, забалела рана, якая гаілася гадамі, дзесяцігоддзямі.

Усё апавяданне, як і жыццё Антося, трымаецца на ўспамінах. Герою нечакана ўсё пачало нагадваць пра вайну і перажыты боль: хруст суставаў, ружовыя пялёнкі першай дачкі, *«будзільнік — доўгім званком, больш падобным не на звон, а на аўтаматную чаргу»* [1, с. 419]. Невыпадкова ўжываецца асацыятыўнае параўнанне *«будзільнік — аўтаматная чарга».* Такім чынам падкрэсліваецца, што вайна міжвольна прысутнічае ў глыбіні памяці героя, жыве ў падсвядомасці.

Падзеі ў апавяданні перадаюцца ад імя трэцяй асобы. Такі прыём дае шырокія магчымасці для адлюстравання духоўна-маральнага і псіхічнага стану героя. Гэтая апавядальная манера дазваляе пісьменніку без абмежаванняў уводзіць чытача ва ўнутраны свет персанажа і паказваць яго пераканаўча, падрабязна. Такая апавядальная стратэгія стварае ўражанне, што для аўтара няма таямніц у душы героя: ён ведае пра героя ўсё, можа дэталёва прасачыць унутраныя працэсы, растлумачыць прычынна-выніковую сувязь паміж уражаннямі, думкамі, перажываннямі. Апавядальнік можа пракаменціраваць цячэнне важных псіхалагічных працэсаў ва ўнутраным свеце героя, што мы выразна назіраем у названым творы А. Жука.

Апавядальная манера дае шырокія магчымасці для ўключэння ў твор самых разнастайных прыёмаў псіхалагічнага адлюстравання: у апавядальную стыхію арыгінальна ўпісваюцца ўнутраныя маналогі, споведзі. У іншых выпадках сродкамі псіхалагічнага выяўлення з’яўляюцца дзённікі, сны героя. Апавяданне ўтрымлівае **псіхалагічны аналіз** стану героя. У прыватнасці, пра Антося зазначаецца: *«**Адзінота** страшная яму, ён баіцца **нуды**, бо ад яе можна прапасці сярод гэтага неадступнага **холаду і цішыні**»* [1, с. 418]. Аўтар падабраў трапныя назоўнікі, якія адначасова адлюстроўваюць тое, чаго найбольш баіцца Антось, і што, на жаль, стала ладам цяперашняга яго жыцця — адзінота, нуда, холад, цішыня. Мастацкія азначэнні, дзеясловы-выказнікі перадаюць псіхічны стан Антося, падкрэсліваюць, што страх, няўпэўненасць, — спадарожнікі жыцця галоўнага героя. Так пісьменнік расказвае аб працяглым трывожным псіхічна-душэўным стане Антося. Герой твора, былы партызан, вельмі пакутуе ад адзіноты, ён увесь час імкнецца чым-небудзь сябе заняць, забыцца на момант, заснуць, але ўспаміны не пакідаюць яго ў сне. Напрыклад, парабіўшы ўсе справы па гаспадарцы, Антось засынае і бачыць сон. І гэты прыём удала рэалізуецца ў апавядальнай плыні. Герою А. Жука сніцца вайна, яго партызанскае мінулае, жахі, перажытыя ў блакаду, трагедыя страты сям’і. Нават мірнае вуркатанне аўтамабіля нагадвае герою страляніну кулямётаў у сне.

Як вядома, сон — адзін з прыёмаў псіхалагізму ў літаратуры, які выкарыстоўваецца мастакамі слова даволі часта. Аб функцыянальным прызначэнні гэтага прыёму ў мастацкім творы І. Страхаў пісаў: «...у форме літаратурных сноў пісьменнік дапаўняе аналіз псіхічных станаў і характараў дзеючых асоб» [2, с. 111].

На працягу ўсяго апавядання праводзяцца паралелі паміж ваенным ліхалеццем і мірным часам. Напрыклад: *«Старэчая стомленасць бярэ сваё... ён засынае, бо гэты сон вяртае яму хоць крыху сілы, каб прайсці праз дзень: зноў падаіць карову, накарміць свіней, курэй, ката і сабаку... і гэтак штодня па бясконцым крузе, **як некалі ў блакаду…**»* [1, с. 420].

Яшчэ адным прыёмам псіхалагічнага адлюстравання, які нясе на сабе значную сэнсава-выяўленчую нагрузку, з’яўляецца **ўнутраны маналог,** фіксацыя і ўзнаўленне думак героя, якія імітуюць у большай ці меншай ступені рэальныя псіхалагічныя працэсы, што запамінаюцца і адбіваюцца ва ўнутраным маўленні, думках героя. Па-майстэрску выкарыстоўваючы гэты прыём псіхалагічнага выяўлення героя, А. Жук нібы дазваляе чытачу «падслухоўваць» думкі Антося: *«Як добра было б, каб хутчэй вярнулася з бальніцы баба, каб хоць блінца якога спякла, упарадкавала малако, каб можна было хоць словам абазвацца да каго-небудзь, каб не гэтая падзямельная **цішыня**...»* [1, с. 420]. У метафарычным вызначэнні *«падзямельная цішыня»* прысутнічае драматызм светаадчування

героя. Так аўтар перадае не проста адзіноту, а пранізлівае, балючае прадчуванне канца жыцця.

У чытача ўзнікае ўражанне, што адзінота, якая прыгнятае героя, бы замаруджвае яго жыццё, робіць яго павольным, *«непатрэбна доўгім»*. У жыцці героя яна змяняецца прыездам сына. Тады Антось нібы ажывае: *«Антось* ***паспяшаўся і ўспеў*** *не толькі* ***падаіць*** *карову і* ***пакарміць*** *жыўнасць, але і* ***прыгатаваць*** *свінням на вечар і* ***схадзіць*** *у пограб* ***набраць*** *бульбы...* ***Спяшаўся рабіць****, аж плечы* ***ўзмакрэлі****...»* [1, с. 422]. Аўтар па-майстэрску перадае гэты стан «ажыўлення» героя — у двух сказах ужыты дзесяць дзеясловаў, якія, нібы пацеркі, нанізваюцца адзін за адным, тым самым падкрэсліваюць дынамізм светлых, станоўчых, напоўненых радасцю момантаў душэўнага ўздыму Антося, зменлівасць яго фізічнага і псіхічнага стану. Пасля такога апісання чытачу становіцца зразумела, што жыццё для Антося яшчэ не страціла свайго сэнсу, бо ён чакаў, спадзяваўся, што прыедзе блізкі яму чалавек — сын.

Псіхалагічнай і мастацкай пераканальнасці, дасканаласці ў абмалёўцы вобраза галоўнага героя дадае аўтар эпізодам сустрэчы яго з партызанскім таварышам Васілём Андрэевічам, які прыехаў разам з сынам. За сталом сябры ўспамінаюць свае ваенныя гады. Кожны расказаў, як склалася пасляваеннае жыццё, пра дарослых ужо дзяцей. Прыемна пагаварыць з чалавекам, які меў шмат агульнага з ім. Антось прыгадаў жудасны момант з ваеннай пары, блакаду: *«Маленькае дзіця, якое сядзела пасаджанае на крывую, пахілую над вадой алешыну. Яно ўжо пасінела ад холаду, трымалася счарнелымі ручкамі за дрэва і нават не ўсхліпвала, толькі хаўкала ротам»* [1, с. 424]. Аўтар падбірае дакладныя параўнанні: *«упадзе дзіця, як зрэзаная марозам завязь», «працягла, як воўку завыць», «як зімовы верабей»*, што надае апавяданню сэнсавую і эмацыянальную заглыбленасць і адначасова характарызуе героя, падкрэслівае, наколькі чулы і ўражлівы ў душы чалавек Антось і наколькі бязлітасная, жахлівая і страшэнная з'ява вайна, якая пакінула глыбокія раны ў сэрцах людзей, стала неад'емнай часткай балючай памяці народа, якую нельга адкінуць, забыць, змяніць.

У фінале апавядання пісьменнік дае кароткую, але змястоўную характарыстыку свайму герою, напоўненую філасофскім зместам і роздумам: *«Вечны работнік і заложнік на сваёй зямлі, ён і зараз, як ніколі, не зайздросціў чужому жыццю і не дапускаў да душы клопату пра тое, чаго яму болей выпала на долю: самому па зямлі хадзіць ці зямлі па ім»* [1, с. 425]. Можна меркаваць, што жыццё Антося было напоўнена драматызмам, скупым на радасці: негатыўных момантаў у ім было значна больш, чым светлых. Лёс героя — гэта цяжкае фізічнае і маральнае выпрабаванне, якое Антось вытрымаў з годнасцю, не страціўшы пры гэтым пачуцця чалавечнасці да акаляючага асяроддзя.

Такой характарыстыкай аўтар падсумоўвае жыццёвы і эмацыйны вопыт героя, разважае пра вечнае і часовае. Празаік раскрывае светаадчуванне героя, яго стаўленне да жыцця і смерці, да зямнога і нябеснага. Аўтар падкрэслівае асноўны закон жыцця: кожны павінен прайсці тыя выпрабаванні, якія наканаваныя Богам, трэба годна несці свой Крыж.

Псіхалагічнае майстэрства празаіка А. Жука, засведчанае ў апавяданні «Партызан», дазваляе выразна акрэсліць унутранае аблічча галоўнага героя, пераканаўча характарызаваць яго як чалавека з высокімі маральнымі і духоўнымі каштоўнасцямі, якія ён пранёс праз усё жыццё. Аўтар паказаў, што справамі, працай, побытам, узаемаадносінамі праходзяць людзі выпрабаванне на чалавечнасць. Антось проста жыў, працаваў, гадаваў дзяцей, верай і праўдай служыў Айчыне, выконваў свой грамадзянскі абавязак, ніколі нікому не зайздросціў. А той факт, што Антось «*не дапускаў да душы клопату пра тое, чаго яму болей выпала на долю: самому па зямлі хадзіць ці зямлі па ім*», яшчэ раз падкрэслівае, што герой ні сам сябе ніколі не шкадаваў, і не чакаў спачуванняў ад іншых, а з хрысціянскай цярплівасцю нёс свой крыж.

Разнастайныя прыёмы псіхалагічнага адлюстравання — псіхалагічны аналіз, прыёмы ўнутранага маналогу і сну, вобразы-дэталі, трапныя апісанні, успаміны, глыбокія душэўныя разважанні, па-майстэрску ўжытыя празаікам у прааналізаваным творы, сведчаць пра псіхалагізм як устойлівую прыкмету стылю А. Жука.

## Спіс літаратуры:

1. Жук, А. Вечаровае сонца: выбранае / А. Жук; прадм. У. Гніламёдава. — Мн. : Маст. літ., 2006. — 431с.

2. Страхов, И. В. Психологический анализ в литературном творчестве Ч. 3/ И. В. Страхов. — Саратов: Саратовский гос. пед. институт, 1975. — 157 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 1 лістапада 2013 г.

## Рэзюмэ

**Валянціна Ткачук**

### Сродкі псіхалагічнага ўвасаблення мастацкага характару ў апавяданні А. Жука «Партызан»

Артыкул прысвечаны даследаванню сродкаў псіхалагічнага ўвасаблення мастацкага характару ў апавяданні А. Жука «Партызан». Вылучаны асноўныя спосабы і прыёмы адлюстравання псіхалагізму: псіхалагічны аналіз, унутраны маналог, сон, успаміны героя.

## Summary

**Valiantsina Tkachuk**

### The Artistic Character’s Psychological Evokation Means in «The Partisan» story by A. Zhuk

The article is focused on the study of the psychological evokation of the artistic character in «The Partisan» story by A. Zhuk. Basic means and methods of the psychologism reflection are distinguished there: the psychological analysis, inner monologue, dream, flashback.

**Яўген ГАРАДНІЦКІ**

# АДКАЗНАСЦЬ ПЕРАД ЖЫЦЦЁМ, ЧАСАМ І «СТРОГІМ ВЕРШАМ»

*(паэзія Аркадзя Куляшова на стагадовым рубяжы)*

Ён выказаў свой час, свой век так, як гэта мог зрабіць толькі ён, паэт з ліку тых, якіх у кожны век (а, можа, і не ў кожны) з'яўляецца лічаныя адзінкі. Выказаўшы ў паэтычным роздуме-суперажыванні сваё буравейнае, трагічнае дваццатае стагоддзе, Аркадзь Аляксандравіч Куляшоў звяртаецца і да стагоддзяў наступных. Па яго ж метафарычным выразе, працягваючы руку «*з дваццатага ў трыццатае стагоддзе*». І гэта не проста прыгожая паэтычная метафара. За гэтым — глыбокая ўпэўненасць паэта ва ўсёпераможнасці жыцця, у магчымасці дыялогу з нашчадкамі, сусветам.

І вось у адносінах паэта з наступнікамі, у жыцці яго паэзіі настае новы этап, калі адлік часу сапраўды пачынае весціся на стагоддзі. Якраз сто гадоў мінула ўжо з таго часу, як у мястэчку Саматэвічы, размешчаным на ўсходнім ускрайку Беларусі, на берагах ракі Бесядзь, што працякае па тэрыторыі трох братніх славянскіх краін, нарадзіўся будучы паэт.

І месца, і час нараджэння маюць надзвычай вялікае значэнне для характарыстыкі паэзіі Аркадзя Куляшова і яго асобы. На гэта, вядома, могуць запярэчыць, што час і месца нараджэння любога паэта з'яўляюцца вызначальнымі фактарамі яго творчасці, накладаюць на яе свой спецыфічны адбітак. Прымаючы гэта як дадзенасць, усё ж заўважу: у выпадку з А. Куляшовым час і месца маюць асабліваe значэнне, таму што яны выступаюць не толькі ў сваёй канкрэтна лакалізаванай праяўленасці, але і як вобразы-сімвалы самага абагульненага плана, як важнейшыя хранатопныя вымярэнні яго мастацкага свету.

Тое вобразна ўвасобленае, прадметнае, пачуццёва перажываемае, з чым судакранаецца паэт, а разам з ім і чытач, як з рэальнасцю паўсядзённасці, пераўтвараецца ў мастацкім свеце А. Куляшова ў метафізічна, інтэлектуальна асвоенае. Уражанні дзіцячай пары, захаваныя ў памяці, становяцца не толькі фактамі біяграфіі аўтара. Яны вызначаюць у пэўнай ступені агульную карціну свету ва ўспрыманні паэта. Вобраз ракі дзяцінства, роднай Бесядзі, будзе няраз узнікаць у куляшоўскіх творах. Аднак яго істотнасць для аўтара не толькі ў ім самім, а перш за ўсё, мабыць, у тым, што ён суадносіцца з усёй сістэмай духоўных каштоўнасцей, з усімі праявамі жыцця паэта як асобы і творцы.

Возьмем, да прыкладу, вядомы верш «Мая Бесядзь», які даў назву зборніку вершаў. У гэтым вершы вобраз ракі з дзіцячых успамінаў займае, безумоўна, цэнтральнае месца. Аднак дадзены вобраз трансфармаваны ў адпаведнасці з канцэптуальнай задумай аўтара, уключаны ў агульную плынь гістарычнага развіцця, звязаны з роздумам пра прызначэнне паэзіі і адказнасць паэта за сваю працу.

Рака маленства паўстае ў творах паэта ўвасабленнем жыццёвых вытокаў, пачатку пачаткаў. Гэтым сімвалічным вобразам абазначаецца тое першаснае, асноватворнае, што звязвае аўтара з дзяцінствам, малой радзімай, роднымі і сябрамі. З усім тым, што назаўсёды ўвайшло ў сэрца, стала неад'емнай, і, мабыць, самай істотнейшай часткай яго духоўнага свету. Аднак усе гэтыя дарагія сэрцу прыпаміны, адзнакі перажытага і спазнанага не проста перахоўваюцца ў глыбі-

нях памяці, яны паядноўваюцца ў свядомасці аўтара з надзённымі і трывожнымі клопатамі сучаснасці, падключаюцца да роздумаў пра хуткаплыннае жыццё, узаемаспалучанасць усіх яго праяў.

Многія падзеі і ўражанні з часоў маленства і юнацтва адлюстраваны паэтам у аўтабіяграфічнай паэме «Далёка да акіяна». У гэтым шырокім эпічным творы ўжо сталы аўтар у пару свайго творчага росквіту асэнсоўвае пройдзены шлях, звяртаецца да сваіх жыццёвых вытокаў, выкарыстоўваючы пры гэтым вобразную сімволіку.

Сімвалічнае пераасэнсаванне рэчаіснасці, характэрнае для філасофска-заглыбленай паэзіі А. Куляшова, заключаецца якраз у тым, што рэальныя жыццёвыя з'явы набываюць абагульнена-тыпізаваны характар, успрымаюцца як сінтэтычнае паяднанне сапраўднасці і мастацкага ўяўлення.

Вытокі звязаны з вусцем, з канчатковай мэтай бесперапыннасцю плыні. Бесядзь упадае ўрэшце, разам з іншымі, больш або менш паўнаводнымі рэкамі, у акіян. Гэтак, гаворыць нам паэт, і жыццё кожнага чалавека, спалучаючыся з іншымі, імклівіць да сваёй канчатковай мэты. Паэма «Далёка да акіяна» пачынаецца якраз з роздуму пра ўзаемасувязь шляхоў, пракладзеных прыродай і чалавекам.

Юнацтва наша
з крыніц маленства
І ў акіян небыцця
ўпадае.

Прыродная сутнасць жыцця чалавека абмежавана жорсткімі рамкамі. У рэчышчы сваіх фізічных магчымасцей ён змушаны рухацца толькі ў адным, прадвырашаным напрамку. Аднак ён, як істота духоўная, надзеленая свядомасцю, валодае здольнасцю пераадолення прасторавых і часавых абмежаванняў, можа ў сваёй памяці, у думках і ўяўленнях *«аднойчы пройдзенае навекі / вярнуць з далёкага падарожжа»*.

У згаданай паэме А. Куляшоў падрабязна і дэталёва разгортвае малюнкі і вобразы свайго дзяцінства і юнацтва, імкнучыся псіхалагічна дакладна ўзнавіць той далёкі свет, зрабіць яго душэўна блізкім і для чытача. А дзеля дасягнення гэтага аўтару перш-наперш самому неабходна эмацыянальна прасякнуцца тым часам, адчуць сябе здольным зноўку адгукацца на праявы жыцця такім жа чынам, як і тады. Гэта пачуццё вечнай маладосці можа даць якраз паэзія, у яе сілах захаваць тое, што ўзвышае чалавека над звыклым парадкам рэчаў і ходам падзей. Уступ да паэмы завяршаецца аўтарам такімі жыццесцвярджальнымі радкамі:

Мне б жыць і верыць бесперастанна,
Што да вытокаў жаданых —
блізка
І што далёка —
да акіяна.

Звернемся і мы да жыццёвых вытокаў А. Куляшова, да крыніц яго паэтычнай творчасці. Гэта паняцце *вытокі* таксама надзвычай шматзначнае і ёмістае, паколькі вельмі абсяжнае кола з'яў яно ахоплівае сабою. Сярод шматстайных фактараў, што фарміравалі асобу паэта, прадвызначалі яго творчы шлях, можна згадаць і агульную атмасферу часу, насычанага ўзрушлівымі падзеямі, і тое асяроддзе, якое садзейнічала ранняму абуджэнню і станаўленню паэтычнага таленту юнака.

Першыя вершы былі напісаны будучым славутым беларускім паэтам яшчэ ў дзіцячым узросце. Гэтаму садзейнічала не толькі краса навакольных краявідаў, але і сямейнае выхаванне, далучанасць да кніжнай культуры. Першыя вершаваныя спробы Аркадзь ажыццявіў на рускай мове. Звязана гэта было, мабыць, з першапачатковым далучэннем да рускай літаратуры і культуры. Творы беларускай

літаратуры, як і жаданне выявіць свае пачуцці і думкі на роднай мове, прыйшлі да А. Куляшова пазней, хоць таксама ў раннім узросце. Безумоўна, мелі сваё значэнне і «памежнасць» малой радзімы паэта, спаконвечная славянская сувязь, якая сімвалічна пацвярджалася плынню Бесядзі.

Актыўнаму засваенню дасягненняў рускага паэтычнага слова садзейнічала, несумненна, тэрытарыяльная блізкасць роднага кута А. Куляшова да Расіі. Духоўная і эстэтычная сувязь беларускага паэта са *смаленскай паэтычнай школай* рускай літтаратуры застанецца на ўсё жыццё адной з самых важных для яго творчых, знакавых падзей. Уздзеянне на А. Куляшова паэзіі М. Ісакоўскага, А. Твардоўскага выявілася яшчэ задоўга да іх асабістага знаёмства і творчага супрацоўніцтва. Гэта выразна прыкмячаецца ў песенна-лірычнай аснове многіх куляшоўскіх вершаў канца дваццатых — трыццатых гадоў.

Малады паэт у гэты час эксперыментуе над вершам, імкнецца разнастаіць мову паэзіі ў духу той, рэвалюцыйнай не толькі ў грамадска-палітычных, але і ў мастацкіх адносінах, эпохі. Гэтыя пошукі, мяркуючы па ўсім, не былі дарэмнымі, яны пэўным чынам адгукнуліся пазней і ў творчасці сталага А. Куляшова пары яго найвышэйшых мастацкіх дасягненняў — смелым размахам паэтычнай думкі, здольнасцю да сінтэтычнага паяднання разнастайных стылявых плыняў. І ўсё ж даваенны перыяд творчасці А. Куляшова адметны перш за ўсё імкненнем паэта да інтанацыйнай і музычнай гарманізаванасці паэтычнага слова, меладычнай выразнасці прамоўленага. Ужо на першым этапе творчасці будучага класіка беларускай паэзіі прыкмячалася схільнасць аўтара да класічна ўпарадкаваных, гарманічна суразмерных паэтычных форм.

Музычнай паўнагучнасці куляшоўскай паэзіі спрыялі, апрача іншага, сямейныя традыцыі. Пра гэта піша ў сваёй кнізе «Лясному рэху праўду раскажу...» дачка паэта Валянціна Куляшова. Прыгожыя галасы мелі бацькі паэта. Аляксандр Мікалаевіч Куляшоў нават спяваў у народнай оперы, калі нейкі час жыў у Маскве. Паэт меў магчымасць слухаць у дзяцінстве грамафонныя запісы папулярных на той час выканаўцаў. Ды і сам ён, па сведчанні дачкі, любіў спяваць, валодаў добрым голасам. Пішучы пра ролю музыкі ў фарміраванні стылю паэта, В. Куляшова заўважае: «*Дзіцячае ўяўленне аб сувязі рытмічна арганізаванай мовы з музыкай аказалася такім трывалым, што ўсе свае раннія вершы Куляшоў ствараў, як песні, разам з мелодыяй*».

Друкаваць свае вершы малады паэт пачаў яшчэ падчас вучобы ў Саматэвіцкай сямігодцы, у якой ён вучыўся ў 1921—1928 гадах. Першы верш А. Куляшова «Ты мой брат» быў надрукаваны ў 1926 г. у клімавіцкай акруговай газеце. А з 1927 г. паэт пачынае актыўна выступаць у рэспубліканскім друку, узяўшы напачатку для сябе псеўданім Аркадзь Дуда. Варта звярнуць увагу на тое, што псеўданім быў узяты з музычнай сферы. Дуда — старажытны беларускі музычны інструмент, выканаўцы, якія ігралі на ім, называліся дударамі. На адмаўленне ад прыдуманага псеўдаміма хутчэй за ўсё паўплывала тое, што падобны псеўданім меў на той час адзін з вядомых паэтаў-маладнякоўцаў — Алесь Дудар.

Пры ўсёй рытміка-інтанацыйнай разнастайнасці паэзіі А. Куляшова даваеннага часу, пэўнай нават празаізацыі мовы ў паэмах «Крыўда», «Аманал», песеннalірычная, меладычная плынь вылучаецца менавіта як самая выразная ў мастацкіх адносінах. З ёю звязана раскрыццё самых прачулых, суб'ектыўна выражаных тэм і вобразаў, найперш такіх, як юнацтва, каханне, сяброўства, захопленасць жыццём, памкнёнасць да новага, нязведанага. Чысціні юнацкіх мар і парыванняў як найлепш адпавядала якраз празрыстая, лёгкая, мілагучная мелодыя радка. Трохстопны ямб, якім напісаны шэраг вершаў А. Куляшова канца трыццатых («Музыка», «Глушцы», «Добры чалавек», «Стаіць на ўзлессі дом...»), нясе ў сабе не толькі адпаведную рытмічную характэрнасць, але і перадае адчуванне ўзнёсласці пачуццяў паэта і яго лірычнага героя, захопленага адкрыцця свету ў шматстайнасці яго праяў і абсяжнасці гістарычнай перспектывы.

Творчасць А. Куляшова, выяўляючы прыкметы часу, выражаючы агульныя настроі эпохі, выразна вылучалася ўжо ў трыццатыя гады на фоне тагачаснай маладой паэзіі менавіта сваімі змястоўна-фармальнымі якасцямі, вобразным ладам, апрацаванасцю верша. Па прызнанні самога паэта, дабратворнае ўздзеянне на яго аказала сяброўства з паэтамі-землякамі Змітраком Астапенкам і Юліем Таўбіным, з якімі ён разам вучыўся ў Мсціслаўскім педагагічным тэхнікуме. Гэтае невялікае згуртаванне маладых таленавітых паэтаў было якраз тым творчым асяродкам, які паспрыяў хуткаму станаўленню А. Куляшова як паэта са сваім уласным і непаўторным голасам, высокай культурай верша. Пазней гэты творчы сяброўскі саюз будзе ўвекавечаны А. Куляшовым у яго ўзвышана-трагедыйным рэквіеме — паэме «Маналог» (1964—1965), прысвечанай памяці сяброў паэтычнага юнацтва.

У 1928—1930 гадах А. Куляшоў вучыцца ў Мсціслаўскім педагагічным тэхнікуме, пасля чаго пераязджае ў Мінск, дзе ў 1931—1933 гадах займаецца на літаратурным факультэце Мінскага педагагічнага інстытута. Як быццам юнак ішоў услед за бацькамі, таксама як і яны авалодваючы пачэснай прафесіяй педагога. Аднак ужо даўно было зразумела па тых сур'ёзных і важкіх выніках паэтычнай творчасці, якія адпачатку сведчылі пра майстэрскае валоданне словам і надзвычайны паэтычны талент, што яго чакае іншая дарога, што прызванне паэта — гэта менавіта яму суджаны дар.

Пазней А. Куляшоў, які часта звяртаўся да тэмы паэзіі, да асэнсавання месца паэта ў жыцці грамадства, да ўсведамлення творчасці як жыццёвага прызначэння, у адным з вершаў напіша:

Я на ўсё жыццё абраў дарогу,
На якой калючак больш, чым руж.
Сэрца — як набат, што б'е трывогу
За мільёны падгарматных душ.

Місія паэта, як разумеў яе А. Куляшоў, вельмі адказная, яна патрабуе самаахвярнага слугавання, аддачы ўсіх сіл паэзіі як справе свайго жыцця, выяўлення праз паэтычнае слова суперажывання з цэлым светам. «*Аб такім не пашкадую лёсе, / Бо юнацкі помнячы зарок, / Паўтарыў бы зноў, каб давялося, / Я жыццё сваё — за крокам крок*», — запэўнівае ў канцы гэтага верша аўтар.

У 1930-я гады пачынаюць выходзіць з друку кнігі паэта. Першая з іх мела назву «Росквіт зямлі» (1930). Затым адна за адной выдаюцца наступныя: «Медзі дождж» (1932), «Па песню, па сонца!..» (1932), «Аманал» (1933), «Мы жывём на граніцы» (1938), «У зялёнай дуброве» (1940) і інш.

Адным з самых значных дасягненняў куляшоўскай паэзіі даваеннага часу з'яўляецца нізка вершаў «Юнацкі свет» (1938—1941), у якой раскрываецца духоўны свет сучасніка, будаўніка новага грамадства. Ужо самі назвы куляшоўскіх твораў гэтага часу сведчаць пра святочна-ўзнёслую настраёвасць яго паэзіі, мажорны лад пачуццяў лірычнага героя, якія адпавядалі светаадчуванню той эпохі. Разам з тым у некаторых з іх адчуваецца пагрозлівае дыханне недалёкай ваеннай навалы.

Вайна прыўнесла ў паэзію А. Куляшова драматычна-трагедыйныя ноты. У гэты час у поўнай меры раскрыўся яго творчы дар выяўлення драматызму жыццёвых калізій, дыялектычнага спалучэння абставін асабістага жыцця чалавека з агульным лёсам народа, раскрыцця велічы духоўнага свету героя праз яго далучанасць да агульнанароднага патрыятычнага ўздыму.

Пачатак вайны застаў А. Куляшова ўдалечыні ад Мінска, у Хоцімску. Так здарылася, што паэт не здолеў развітацца з сям'ёй, іх шляхі разышліся ў сумятні ваеннага бязладдзя. Вярнуўшыся ў Мінск у пошуках сям'і, А. Куляшоў быў вымушаны пакідаць сталіцу пешшу, падаючыся з ахопленага пажарамі горада на ўсход. Асабістыя ўражанні першых дзён вайны эмацыянальна і вобразна ўзноў-

лены паэтам у паэме «Сцяг брыгады», дзе эпізод развітання з родным горадам пададзены са шчымлівым болем і смуткам:

Як ад роднай галінкі дубовы лісток
Адарваны,
Родны Мінск я пакінуў, нямецкай
Бамбёжкаю гнаны.
Міма дрэў, міма дрэў
Усю ноч я ішоў, — за спіною
Родны горад гарэў,
І не ведала сэрца спакою.

Звернем увагу на тое, што тут аўтар выкарыстоўвае вершаваныя радкі рознай працягласці. Ад гэтага залежыць інтанацыя гучання асобных радкоў твора. Даўжэйшыя гучаць больш запаволена, размерана, а карацейшыя — больш энергічна, рэзка. Тым самым дасягаецца эфект кантраснага супастаўлення розных тэмпарытмаў, што падкрэслівае і ўзмацняе пачуццё зрушанасці звыклага стану рэчаў у часіну ваеннага ліхалецця. Гэты прыём А. Куляшоў выкарыстоўвае і ў іншых сваіх творах ваеннага перыяду.

Драматызуецца ў гэты час сама мова яго твораў, убіраючы ў сябе жывыя галасы народнай стыхіі, сведчанні мужнасці, гневу і смутку. Чытаеш сёння славутыя куляшоўскія балады ваеннага часу і адчуваеш, што толькі такой, суровай, узвышанай, выразна акцэнтаванай, як быццам рубленай мовай якраз і можна было выказаць тое, што перапаўняла сэрца паэта і з'яўлялася адначасова выражэннем агульных настрояў і памкненняў.

Згадаем, да прыкладу, пачатак «Балады аб чатырох заложніках»:

Іх вядуць па жытняй сцяжынцы.
Чатырох.
Пад канвоем.
З дому.
Чатырнаццаць — старэйшай дзяўчынцы,
Тры гады хлапчуку малому.

Увесь трагізм сітуацыі, здаецца, сканцэнтраваны ў гэтым запаволеным разгортванні аповеду, гэтых, быццам метраномам адмераных, скупых і важкіх словах, за якімі сапраўдны боль суперажывання.

У найбольш значным сваім творы ваеннага часу, і ўвогуле адным з самых выдатных твораў усёй савецкай літаратуры гэтага перыяду, паэме «Сцяг брыгады», А. Куляшоў вядзе аповед пра адзін з драматычнейшых эпізодаў пачатку вайны, выкарыстоўваючы форму выказвання ад першай асобы. Гэта дае магчымасць шматбакова высвеціць вобраз галоўнага героя Алеся Рыбкі, паказаць яго і ў дзеянні, і праз выяўленне ўнутранага свету. У лірычных маналогах Рыбкі выявіліся асабістыя адчуванні і перажыванні аўтара, паколькі паэма стваралася А. Куляшовым у самай гушчы тагачасных падзей, пад непасрэдным уражаннем ад цяжкіх выпрабаванняў, якія выпалі на долю народа. У вобразе камісара Заруднага ўвасоблены пэўныя рысы характару рэальнай асобы, з якой сутыкнуўся паэт у франтавых абставінах, — дывізійнага камісара Івана Васільевіча Зуева.

Разам з тым, для паэмы характэрны ў значнай ступені паэтычная ўмоўнасць, сімвалічная абагульненасць вобразаў, рэчаў і сітуацый. Варта звярнуць увагу на тое, што ўсё, што выяўлена ў творы, прадстаўлена ў выглядзе своеасаблівага «вандроўнага дзённіка», які вядзецца героем-апавядальнікам. Гэта значыць, што, па сутнасці, адсутнічае якая-небудзь дыстанцыя паміж гісторыяй, якая творыцца на вачах у куляшоўскіх герояў (а таксама імі самімі), і яе мастацкім асэнсаваннем. Пра тое, што жыццё і паэзія аб'ядноўваюцца тут на самым высокім эмацыянальным уздыме, сведчаць словы апавядальніка ў канцы паэмы: *«Слёзы, кроў, дым і попел пажараў / Не ў радкі я старанна збіраў, / А ў магутную хмару...»* Зразумела,

што ў дадзеным выпадку гэта выяўленне не толькі пачуццяў героя, але і аўтарскай пазіцыі.

Галоўная тэма паэмы «Сцяг брыгады» — вернасць да канца вайсковаму абавязку, пранесеная праз шматлікія выпрабаванні некалькімі акружэнцамі, што засталіся ў жывых з цэлай брыгады. У сваім нялёгкім вандраванні па заняволенай ворагам роднай зямлі яны маюць магчымасць сваім уласным лёсам змерыць глыбіню народных пакут, пераканацца ў тым, што для таго каб наблізіць жаданую перамогу, патрэбны мужнасць і рашучасць кожнага. Не вытрымлівае выпрабаванняў, здраджвае памяці аднапалчан і сімвалу іх стойкасці — сцягу брыгады, адзін з траіх, былы наводчык гарматы.

Красамоўным і сімвалічным з'яўляецца тое, што мы так і не даведваемся яго сапраўднага імя. Мікіта Ворчык — гэта чужыя імя і прозвішча, узятыя ім у мэтах канспірацыі, таксама як і яго спадарожнікамі *(«Быў я Рыбкам Алесем, / А стаў — Палыном Нікадзімам. / Так, цяпер я — Палын, / А таварыш мой — Ворчык Мікіта, / А Зарудны — Смірноў»).*

Іменаслоўе ў дадзеным выпадку мае канцэптуальнае значэнне пры характарыстыцы чалавечай сутнасці герояў паэмы. Алесь Рыбка і палкавы камісар Зарудны толькі часова знаходзяцца пад чужымі прозвішчамі, што адпавядае часовасці іх вымушанага становішча, якое яны прагнуць змяніць. Настае такі момант ісціны, што патрабуе, каб кожны выявіўся да канца сваёй сапраўднай сутнасцю. І тады зварот да сапраўдных прозвішчаў выступае сімвалічным увасабленнем духоўнага стрыжня чалавечай асобы, яе грамадзянскай спеласці.

Такім чынам, усе вобразы, матывы, дэталі і паэтычныя прыёмы ў агульнай структуры паэмы выяўляюцца ў сваёй цэласнай узаемаабумоўленасці, скіраванасці на раскрыццё ідэйна-мастацкай задумы аўтара. Паэма, якая выйшла ў свет у 1943 г., зрабіла вялікае ўражанне на чытачоў, яна ўздымала баявы дух, клікала да змагання і помсты ворагу. Аляксандр Твардоўскі, які высока ацаніў гэты эпічны твор, назваў яго «народнай паэмай».

Паэма «Сцяг брыгады», як і вершы той пары, стваралася паэтам у франтавых умовах. Па бясконцых і нялёгкіх дарогах вайны ён праходзіць ваенным журналістам, знаходзячыся ў складзе рэдакцыі армейскай газеты «Знамя Советов». У гэтай газеце А. Куляшоў друкуе вершы на рускай мове, жартоўныя вершаваныя апавяданні пра байца Аляксея Пятрова ў суаўтарстве з І. Чэкіным.

Пасля «Сцяга брыгады», паэмы, якая адразу зрабіла яе аўтара славутым паэтам, ім быў напісаны твор у зусім іншай танальнасці — паэма «Прыгоды цымбал». Аднак пэўная сувязь паміж паэтыкай гэтых твораў захоўваецца. У абодвух выпадках у назвах паэм фігуруюць арэчаўлёныя сімвалы. У першай паэме гэта ўвасабленне ідэйна-маральных, у другой — эстэтычна-маральных каштоўнасцей.

У «Прыгодах цымбал» значнае месца займае выяўленне свету дзяцінства. Для А. Куляшова гэта наогул скразная тэма, якая дае падставы для глыбокага роздуму над спалучанасцю жыццёвых вытокаў чалавека з яго экзістэнцыйным вопытам, з перспектывамі духоўнага развіцця.

З тэмай дзяцінства, успрымання свету вачыма дзяцей, чый погляд незамутнёны горкім жыццёвым вопытам дарослых, звязаны ў паэме матыў чарадзейнага, казачнага. Чарадзейнае, звышрэальнае ўваходзіць у свет жорсткіх рэалій крывавага ваеннага часу, суадносіцца з імі, уступае ва ўзаемадзеянне. Сюжэт паэмы «Прыгоды цымбал» з'яўляецца казачным. Аднак казка гэтая своеасаблівая, у ёй найбольш неверагоднае, недарэчнае і пачварнае — тое, што адбываецца ў рэальнасці. Таму галоўныя героі паэмы — дзеці, якія вымушаны вандраваць па ваенных дарогах, часта не могуць раз'яднаць паміж сабой сапраўднасць і казачнасць. Характэрныя ў гэтым плане адчуванні хлопчыка на пустыннай дарозе, якія выяўляюцца праз наступную асацыяцыю: «*Пуста, / Страшна, / Нікога, / Як у казцы якой*».

У «Прыгодах цымбал», як і ва ўсёй творчасці А. Куляшова, вялікую ролю адыгрываюць тыя ўніверсальныя быццёвыя сілы, якія падтрымліваюць чалаве-

ка на яго гістарычным шляху, апякуюцца ім, уздымаюць да духоўных вяршынь. Гэта тая правідчая воля, якая вядзе чалавека, накіроўвае яго з мінулага ў будучыню.

Пра А. Твардоўскага ў паэме «Варшаўскі шлях» сказана, што «*такіх, як ён, за ценевай мяжой, / адна зара перадае другой*». Вандроўка вайскоўцаў у пошуках лініі фронту ў «Сцягу брыгады» паўстае ў некаторых момантах таксама як штосьці ў вышэйшай ступені суладнае з адвечным прыродным парадкам:

Нас прывыклі перадаваць
Пад дзятлоў перастукі,
Паплавы з топкай гаці на гаць
І дубам з рук у рукі.

У «Прыгодах цымбал» усё прыроднае таксама ашчадна бароніць, захіляе сабою дзяцей: «*Там дзяцей ад напасці / За збожжам схавалі палі*».

Тэма мастацтва, у прыватнасці, музыкі, як гаючай сілы, што сваім пазітыўным пачаткам уздзейнічае на душы людзей, прыносіць у свет спакой і ўпэўненасць, з’яўляецца скразной у паэме А. Куляшова. Падчас самай жорсткай і крывавай вайны XX стагоддзя паэт невыпадкова звярнуўся да гэтай тэмы. Музычныя вобразы і матывы займаюць у беларускай мастацкай традыцыі адно з ключавых месцаў. Зварот да традыцый, першаасноў народнага менталітэту, у якім маральныя прынцыпы і эстэтычныя адчуванні складаюць адзінства, быў актуальным для паэта ў той час, калі наспявала патрэба асэнсавання духоўнай трываласці народа, на долю якога выпалі нечуваныя пакуты і выпрабаванні.

Мастацкі свет паэмы А. Куляшова «Прыгоды цымбал» дынамічны ў сваёй аснове, рухомы, зменлівы. Самыя нечаканыя павароты ў лёсе могуць падсцерагаць герояў. Музыканту, напрыклад, даводзіцца выконваць справу грабара. Усё павінна ўвабраць у сябе яго сэрца, каб пераадолець трагізм абставін. У свядомасці творцы патрыятызм, адданасць радзіме, усяму роднаму, блізкаму, што дало крылы, узняло ў духоўныя сферы, пасяліла веру ў моц і веліч чалавека, неад’емна знітавана з чарадзейнымі магчымасцямі мастацтва. Менавіта гэтая здольнасць увабраць у сябе ўсё існае, духаўздымнае і надае асаблівую жыццёвую трываласць мастаку як чалавеку, як грамадзяніну, як патрыёту.

І ўмясціў ён у сэрцы
Усё ад зямлі да нябёс,
Пушчы, рэкі, ад смерці
У сэрцы схаваўшы,
Панёс.

Гранне цымбал, да якіх музыкант, які вымушаны ў грозны час замест музычнага інструмента ўзяць у рукі зброю, дакранаецца сэрцам, — гэта ўзвышана-ўрачыстае гучанне самой зямлі, здольнай да адраджэння, выяўленне цудадзейных творчых магчымасцей чалавечага духу.

У самы разгар вайны А. Куляшоў стварае такія паэтычныя творы, як «Над брацкай магілай», «Ліст з палону», «Віцебская махорка», «Камсамольскі білет» і інш., якія сталі значным укладам у мастацкі летапіс народнага змагання. У гэтых творах пачуцці аўтара дасягаюць найвышэйшага напалу і ўздыму, асабістыя перажыванні знітоўваюцца з агульнанародным болем, з непахісным перакананнем у неабходнасці надзвычайнага напружання ўсіх духоўных і фізічных сіл дзеля адзінай мэты — перамогі над ворагам.

Своеасаблівым рэквіемам памяці герояў Вялікай Айчыннай вайны гучыць верш А. Куляшова «Над брацкай магілай». Смутак і жалоба па тых, хто загінуў, баронячы са зброяй у руках Радзіму ад захопнікаў, спалучаюцца ў ім з суровым і мужным пачуццём грамадзянскага і патрыятычнага абавязку, які належыць выканаць да канца кожнаму, хто застаўся ў жывых.

Паэт выказвае пачуцці болю, гневу і смутку, якія апаноўваюць яго над магілай байцоў, якія чэсна выканалі свой абавязак, знайшоўшы апошні прытулак на братняй зямлі, якая для іх такая ж родная і свая, як і тая, на якой яны, «хлапцы беларускія», нарадзіліся. Інтэрнацыянальнае братэрства змацавана крывёю, пралітай у імя агульных гуманістычных ідэалаў, дзеля абароны жыццяў многіх мільёнаў.

Асабістыя пачуцці аўтара спалучаюцца з агульнымі для тых, хто схіліўся разам з ім над брацкай магілай байцоў. Гэтае адзінства адчуванняў, паяднанасць асабістага і агульнага выяўляюцца ў вершы ў тым, што ў ім выказванне ад першай асобы перамяжоўваецца з выказваннем ад імя абагульненага «мы». Пры гэтым якраз дамінуе выяўленне агульнага адчування, якое падкрэсліваецца тым, што займеннік «мы» прысутнічае напачатку і ў канцы твора, а выказванне ад аўтарскага «я» ўяўляе сабой своеасаблівую лірычную ўстаўку. Аўтарам асабліва акцэнтуецца ўвага на нацыянальнай прыналежнасці тых, хто складае гэтае абагульненае «мы»: *«Мы сяброў засыпаем зямлёй — / Ленінградцы, татары, узбекі, / Мы клянёмся варожай крывёй / Напаіць беларускія рэкі»*. У гэтым святле па-асабліваму ўспрымаецца назва твора, у якой прыметнік «брацкая» нясе ў сабе не толькі намінальнае, але і метафарычнае значэнне.

Пачынаецца верш з апісання канкрэтнай мясціны, дзе знайшлі спачын абаронцы. Пры гэтым характэрнай асаблівасцю пейзажа з'яўляецца тое, што прыродныя прыкметы падаюцца праз супастаўленне. У рускай вёсцы Лажыны, якая знаходзіцца пад Старою Русаю, усё такое ж, як і ў роднай для палеглых байцоў Беларусі.

Там жаўцеюць
Прыгожыя
Краскі
За вёскай у лузе,
Там ржавеюць
Варожыя
Каскі,
Нібы ў Беларусі.

Звернем увагу на характар размяшчэння вершаваных радкоў і спосаб рыфмоўкі ў прыведзеным вышэй урыўку. Пабудова радкоў у гэтым урыўку адрозніваецца ад той, якая характэрна для пачатковых, больш «падоўжаных» радкоў («Ёсць пад Старою Русаю / Руская вёска Лажыны...»). Тут у многіх радках усяго па адным слове. Па сутнасці, вершарады — гэта значыць рытмічна завершаныя цэласнасці, тут два (першы заканчваецца словам *«лузе»,* другі — *«Беларусі»*). Аднак жа ў дадзеным выпадку сугучнымі з'яўляюцца таксама і словы, якія знаходзяцца ўнутры вершарадоў. А. Куляшовым тут выкарыстаны спецыфічны від унутранай рыфмы — пантарыфма, сутнасць якой заключаецца ў тым, што ў ёй аказваюцца сугучнымі між сабой усе, або амаль усе, словы вершарадоў.

Давайце ўважлівей прыгледземся да слоў, вылучаных у вершы А. Куляшова пантарыфмай. *Жаўцеюць — ржавеюць, прыгожыя — варожыя, краскі — каскі.* Словы гэтыя блізкія па сваім гучанні. Асаблівай сугучнасцю вылучаецца апошняя пара, у якой словы адрозніваюцца толькі адным дадатковым гукам. Аднак відавочна таксама, што словы ў гэтых сугучных парах рэзка кантрастуюць па сваім значэнні. З аднаго боку, яны абазначаюць тое, што адносіцца да жывой прыроды, што характарызуецца як аздоба жыцця, з другога — тое, што ўяўляе сабой штосьці чужароднае чалавеку і самому жыццю. Аўтар якраз і хацеў суаднесці і кантрасна адцяніць, парадаксальна сутыкнуць з дапамогай сугучнасці гэтыя розныя сферы, якія супрацьстаяць адна адной.

Супрацьпастаўленне жыцця і смерці як антыподаў праходзіць праз увесь верш «Над брацкай магілай». Пахаванню салдат, жорсткай рэальнасці змагання з ворагам супрацьпастаўляюцца малюнкі былога мірнага жыцця. Вонкавая стрыманасць тых, хто развітваецца з паўшымі, кампенсуецца напружанасцю іх душэўнага

стану, абвостраным усведамленнем імі недарэчнасці смерці, якая абрывае жыццё людзей у самым росквіце сіл. Хоць у вершы некалькі разоў і падкрэсліваецца, што таварышаў хаваюць «без слёз», але ў той жа час у душы лірычнага героя і ўсіх, хто стаіць над брацкай магілай, адбываецца як бы «ўнутранае галашэнне». Аўтар уводзіць у твор фальклорныя матывы народных галашэнняў з іх кантрасным супрацьпастаўленнем праяў жыцця і смерці, успамінамі пра паводзіны і ўчынкі памерлага, яго душэўныя якасці.

Мы не плачам, хоць знаем,
не проста салдацкія косці
Засыпаем мы жвірам халодным,
а большае штосьці...
Засыпаем мы твары
з вачамі і вуснамі тымі,
На якіх пацалункі
дзяцей і жанок не астылі.
Жвірам сыплем на рукі,
якія дзяцей тых насілі,
Жвірам сыплем на ногі,
якія паўсвету схадзілі.

Паэт выкарыстоўвае тут лексіку, характэрную для фальклорных твораў, пры гэтым некаторыя словы, якія з'яўляюцца ключавымі, найбольш паказальнымі для жанру галашэнняў (*жвір, вочы, вусны, рукі, ногі*), паўтараюцца ў тэксце некалькі разоў. Паўтаральнасць, паралельная суаднесенасць асобных слоў, выразаў, сказаў з'яўляецца сродкам вобразна-паэтычнага ўзмацнення выказвання, надання твору дадатковай эмацыянальнай выразнасці.

Пачуццёвае напружанне дасягае ў вершы найвышэйшай кропкі тады, калі паэт звяртаецца да непасрэднага выказвання таго, што перапаўняе яго сэрца ў гэты драматычны момант, выражаючы свае асабістыя адчуванні і памкненні, сваю тугу па пакінутай роднай зямлі, на якой цяпер лютуе вораг. Прага выбаўлення Радзімы з-пад фашысцкай акупацыі, вяртання да таго, што даражэй за самое жыццё, выяўляецца ў эмацыянальна ўзвышаных, метафарычных вобразах. Паэт імкнецца злучыцца з роднай зямлёй усёй сваёй істотай, яму дарагія ўсе яе праявы: «*Сэрца просіць шляхоў, / Што цяжкім маім ботам пад сілу; / Наглытацца хачу тманаў, / Твайго ветру і пылу...*» Разам з тым патрэбна адзначыць, што гэта прага ахапіць родную зямлю ва ўсёй яе шматстайнасці і абсяжнасці вынікае непасрэдна з тых думак і адчуванняў, якія звязаны з дадзенай канкрэтнай сітуацыяй. Яна прадстае як своеасаблівы адказ на пытанне аб тым, чаму байцы не бралі з сабою мяшэчкаў з роднай зямлёю. Усім, хто ўступіў у зацятае змаганне з акупантамі, — і палеглым на полі бою, і тым, каму наканавана выканаць да канца святую справу вызвалення краіны ад няпрошаных прыхадняў, — патрэбна не часцінка роднай зямлі, а ўся Радзіма з яе неабсяжнымі прасторамі.

На новы ўзровень грамадзянскай адказнасці і мастацкай дасканаласці ўздымаецца паэзія А. Куляшова ў пасляваенныя дзесяцігоддзі. У яго творах, асабліва ў 1960-я—1970-я гады, выяўляецца ва ўсёй паўнаце складаны духоўны свет сучасніка, уздымаюцца самыя надзённыя і важкія пытанні існавання сучаснага грамадства і ўсяго чалавецтва. У гэты час узмацняюцца філасофскія матывы ў творах паэта. Лірычны герой А. Куляшова ўсведамляе сябе неаддзельнай часцінкай сусвету. «*Мільёны лёсаў змешчаны ў маім, / Яшчэ да дна не вычарпаным лёсе*», — заяўляе ён у адным з вершаў.

Усеагульнае прызнанне як узор глыбокай філасофскай лірыкі атрымала «Новая кніга» А. Куляшова, якая вызначаецца цэласнасцю паэтычнай канцэпцыі свету, маштабнасцю мыслення, сімвалічнасцю вобразаў. Непасрэдная пагроза самазнішчэння чалавецтва абвастрыла паэтычнае светаўспрыманне, прымусіла задумацца над сутнасцю чалавека і часу, над жыццём і нябытам. Чалавек злучае сабой

мінулае, сучаснае і будучыню. Праз яго ўспрыманне, мысленне і адчуванне праламляецца ўвесь свет. А. Куляшоў суадносіць свайго героя з зямным і касмічным «акіянамі»: «*Я — трэці свет, я кропелька малая тых светаў двух — звычайны чалавек...»* Аднак аказваецца, што не такі ён і просты, гэты чалавек, які «*неба і зямлю ў сабе змяшчае*».

Аркадзь Куляшоў — паэт, творчасць якога вызначаецца несумненнай канцэптуальнай цэласнасцю, адзінствам асноўных вобразных матываў, прынцыпаў эстэтычнага выражэння. Характарыстыкі яго стылю, вядома, змяняліся разам з часам, паколькі для гэтага паэта ў самай вялікай ступені было ўласціва адчуванне сучаснасці, таксама як і прасякнутасць адвечнымі быццёвымі пытаннямі.

Менавіта ў дачыненні да творчасці А. Куляшова з найбольшай на тое падставай правамерна выкарыстанне такога паняцця, як *шлях паэта*, у супастаўленні яшчэ з адным, блізкім яму, паняццем — *лёс паэта*. Сваёй асабовасцю, індывідуальным разуменнем быццёвых заканамернасцей паэт спалучаў *вытокі* (усё тое, што ляжыць у аснове жыцця, з'яўляецца яго грунтам, пачаткам) і *выніку* гістарычнага працэсу развіцця асобы і грамадства.

Характэрныя прыкметы ХХ стагоддзя вызначаюцца паэтам праз такія глабальныя паняцці, як *рух, паскоранасць, хуткасць.* Адзін з самых значных вершаў, які даў назву кнізе паэзіі, што выйшла ў 1976 г., называецца якраз «Хуткасць». Над усімі хуткасцямі, якімі вызначаецца дынамічны поступ веку, паэт узвышае *хуткасць думкі* чалавека, якая «*стагоддзе абганяе, / з тысячагоддзем размаўляе ўслых».* Час і прастора, як самыя маштабныя філасофскія катэгорыі, становяцца аб'ектам вобразнага ўвасаблення ў многіх вершах А. Куляшова заключнага перыяду яго творчасці.

Тэма мастацтва, яго суадносін з рэчаіснасцю, з быццём асобнага чалавека і ўсёй людской супольнасці, праходзіць праз усю творчасць А. Куляшова. Асаблівы размах і поліфанізм гучання яна набывае ў шасцідзясятыя — сямідзясятыя гады, калі паэт стварае такія шэдэўры, як «Новую кнігу», «Маналог», «Цунамі», «Варшаўскі шлях» і інш. Маштабнасць мыслення і бачання, паяднанасць зямнога быцця з касмічнымі прасцягамі, філасофскае спасціжэнне анталагічных асноў жыцця чалавека, гістарычнага шляху чалавецтва і перспектыў развіцця сучаснай цывілізацыі — усё гэта характэрныя прыкметы паэтычнай творчасці А. Куляшова позняга перыяду.

Як заўважыў акадэмік У. Гніламёдаў, «*Варшаўскі шлях» напомніў, што паэзія таксама адказвае за свет, за жыццё, за мноства рэчаў — і ў гэтым яе грамадзянскасць, пафас і шырыня сацыяльнага гучання*». Гэта адказнасць за час і за ўсё, што робіцца ў свеце, у А. Куляшова заўсёды спалучалася з прафесійнай адказнасцю мастака за свае тварэнні. Суадносячы творчасць паэта са спрадвечнай працай земляроба, у адным з вершаў ён сказаў:

І ёсць адказнасць перад строгім вершам,
Перад яго пачаткам і канцом —
Каб баразну, радком пачаўшы першым,
У сноп звязаць шаснаццатым радком.

Характэрна, што паэт, думка якога сягае ў касмічныя прасторы, звяртаецца тут да адвечных зямных вобразаў, здаўна ўласцівых беларускай паэзіі.

Шаснаццацірадкоўе як арыгінальная аўтарская страфічная форма стала важкім укладам паэта ў жанравую разнастайнасць беларускай паэзіі. Гэта страфічная форма стала своеасаблівым *знакам майстра*, гарманічным увасабленнем мастацкай дасканаласці, змястоўна-фармальнага адзінства верша.

Шаснаццацірадкоўе стала для А. Куляшова той змястоўна ёмістай вершаванай формай, з дапамогай якой можна было перадаць у сканцэнтраваным выглядзе глыбокі паэтычны роздум над часам. Такая форма аказалася найбольш прыдатнай для філасофскай лірыкі паэта, якая, выражаючы аўтарскія асабістыя

пачуцці, настроі, развагі, была спалучана, разам з тым, з вострым адчуваннем агульначалавечага, суадносілася з маштабнай перспектывай цывілізацыйнага развіцця.

Шаснаццацірадкоўямі напісаны цыкл вершаў А. Куляшова «Снапы», адно з вышэйшых дасягненняў беларускай філасофскай лірыкі XX стагоддзя. З шаснаццацірадковых строф складаецца таксама і «Маналог». Гэты твор звычайна называюць цыклам, хоць я аднёс бы яго да жанру паэмы-споведзі, да якога, несумненна, належыць і «Варшаўскі шлях». Паміж гэтымі двума выдатнымі творамі існуе пэўная тыпалагічная сувязь.

«Маналог» — урачыста-жалобны твор, па сваіх змястоўна-фармальных, жанравых прыкметах блізкі да рэквіема. У ім аўтар вяртаецца ва ўспамінах у часы сваёй маладосці, ведучы задушэўную размову са сваімі заўчасна загінуўшымі сябрамі, якія былі беспадстаўна рэпрэсаваныя ў трыццатыя гады. «Маналог» прасякнуты пачуццямі шкадавання, горычы ад страты сяброў, з якімі аўтар адчуваў духоўную блізкасць.

Па сваёй метафарычнай насычанасці, сімвалічнай маштабнасці вобразнасць «Маналогу» з’яўляецца яскравым выражэннем паэтыкі позняга А. Куляшова. Вобразы дрэва, дарогі, дзірвану, палыну, калыскі, труны, памяці сустракаюцца і ў іншых вершах паэта. З іх дапамогай аўтар глыбей пранікае ў сутнасць з’яў, раскрывае ўнутраную, духоўную сувязь з тымі, з кім ён вядзе маналог. Нават само паняцце маналогу прадстае ў якасці метафары, персаніфікуецца, г. зн. набывае рысы, характэрныя для чалавека. Аўтар імкнецца ператварыць маналог у дыялог, не толькі выказвае словы памяці і ўдзячнасці сябрам, але і выяўляе неабходнасць узнавіць іх жывы воблік, выканаць не выкананае імі.

Каня свайго сядлаю і ў дарогу,
Цяжэйшую з усіх дарог,
Кіруюся адзін, — як маналог
На пошукі жывога дыялогу.

Сябры маладосці не толькі пакінулі глыбокі след у душы і памяці, яны сталі часткай жыцця паэта. І пакуль працягваецца жыццё, датуль, сцвярджае ён, будзе весціся дыялог з усім існым і пазаісным. «*Магчыма немагчымая размова / Датуль, пакуль магчымы дыялог*».

Дыялог не толькі з сябрамі — з часам, з вечнасцю, з усёй неабсяжнасцю быцця — працягваецца паэтам. У дваццаць першым стагоддзі. Ён будзе працягвацца і далей.

Ігар АЎЛАСЕНКА

## ЗАПАВЕТЫ ІВАНА МЕЛЕЖА

«У гісторыі ёсць заўсёды элемент сучаснасці. Іменна ў гэтым сакрэт таго, чаму хвалюе гісторыя, чаму жыве яе значэнне». Гэтымі словамі Іван Паўлавіч Мележ падкрэсліў, наколькі цесна ўзаемапераплеценыя мінулае і сучаснасць, наколькі карысным і актуальным з’яўляецца зварот да гісторыі. Кожная з’ява сённяшняга дня мае свае карані і прычыны ў мінулым. І наадварот, любая ранейшая падзея мае значэнне для сучаснасці, бо дапамагае асэнсоўваць сённяшнюю рэчаіснасць.

Менавіта такое ўвасабленне гістарызму, такі зварот да праблем адносна нядаўняга мінулага беларускага народа з найбольшай выразнасцю праявіліся ў «Палескай хроніцы» Івана Мележа. У цэлым «Палеская хроніка» — гэта не толькі апублікаваны тэкст раманаў, але і шматлікія накіды, нататкі, разважанні, каментары, удакладненні, якія ўзнікалі падчас работы і засталіся ў архіве аўтара. Яны ствараюць шырокую карціну шматпланавай рэфлексіі пісьменніка над гістарычным лёсам беларускага народа і над гістарычным працэсам у цэлым. У іх з найбольшай выразнасцю выявілася грамадзянская пазіцыя Івана Мележа не проста як пісьменніка, але і як мысліцеля, як гісторыка. І зараз, імкнучыся зразумець погляд аўтара на праблемы мінулага, мы адкрываем для сябе, што многія яго думкі вельмі актуальныя і на сённяшні час. Тыя запаветы, якія Іван Мележ адрасаваў сваім чытачам і будучым пакаленням, — надзвычай каштоўная спадчына, якая патрабуе асэнсавання з вышыні новай эпохі, з пазіцыі сённяшняга дня.

Шматлікія драматычныя падзеі, якія пісьменнік бачыў на свае вочы, якія ламалі, калечылі лёсы мільёнаў людзей — калектывізацыя, рэпрэсіі, Вялікая Айчынная вайна, — не маглі не пакінуць след у душы тады яшчэ маладога чалавека. Да стварэння буйнога твора, які б ахапіў сюжэтам некалькі дзесяцігоддзяў, Івана Мележа падштурхоўваў роздум над лёсам беларускага народа. Яшчэ ў 1946 годзе ў сваім дзённіку ён занатаваў для сябе наступную задачу: «Напісаць вялікую рэч (калі-небудзь) пра тое, як мянялася і ламалася псіхіка беларускага селяніна з 1914 года да нашага дня». Аднак ад гэтай задумы да яе мастацкага ўвасаблення спатрэбіўся даволі працяглы час.

Нягледзячы на першапачатковую ідэю аб стварэнні буйнога твора, будучы цыкл раманаў сюжэтна пачаўся са спробы напісаць «невялікую, лаканічную аповесць аб меліяратарах пасляваенных гадоў, аб пераўтварэнні прыроды Палесся». Аналіз першых накідаў аўтара сведчыць пра тое, што сюжэт твора павінен быў разгортвацца пераважна ў рэчышчы маральна-бытавой тэматыкі. Аднак хутка стала зразумела, што задача адлюстравання маштабных змен, якія адбыліся на Палессі, не магла быць вырашана на такой вузкай аснове. І ў рэшце рэшт Іван Мележ прыйшоў да высновы аб неабходнасці звароту да больш ранняга перыяду ў жыцці палескай вёскі, да моманту першых мерапрыемстваў савецкай улады ў Палескім краі. Па меры напрацоўкі матэрыялу маштаб твора паступова павялічваўся, усебакова ахопліваючы жыццё вяскоўцаў-палешукоў. «Мне хацелася напісаць кнігу ў поўным сэнсе народную, — успамінаў Іван Паўлавіч, — якая

б праслаўляла народ, яго подзвіг, была б прасякнутая вялікай павагай да яго і клопатам пра яго». Аднак напісаць кнігу рэалістычна, асвятліўшы жыццё Палескага краю і мерапрыемствы савецкай улады не аднабока, клішыравана, а ва ўсёй шматмернасці, дапамаглі толькі змены ў грамадска-палітычным жыцці СССР, што наступілі ў сярэдзіне 1950-х гг. «“Людзі на балоце” ў такім выглядзе, у якім яны напісаны, маглі з'явіцца толькі пасля тых перамен, што адбыліся ў выніку ХХ з’езда партыі», — пісаў аўтар.

Маючы на мэце развіць сваю задуму далей у цыкл твораў, які б ахопліваў гісторыю Палесся на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў, пісьменнік запланаваў стварыць трылогію. Калі першы раман, «Людзі на балоце», Іван Мележ прысвяціў пачатковым мерапрыемствам савецкай улады на Палессі ў дваццатыя гады, то другі, паводле меркавання аўтара, павінен быў адлюстраваць працэс калектывізацыі, а трэці — падзеі Вялікай Айчыннай вайны. Аднак па меры далейшай напрацоўкі матэрыялу і звароту да гістарычных крыніц, па меры шчырых размоў з відавочцамі падзей 1930-х гг., аўтару станавілася відавочна, што такую складаную з’яву, як калектывізацыя, нельга было адлюстраваць бегла, у адной кнізе, спрашчаючы гістарычную рэчаіснасць. Распавядаючы пра тыя падзеі, немагчыма было б пакінуць па-за ўвагай шматлікія перагібы, якія калечылі лёсы і жыцці людзей. Шматпланавае асвятленне працэсу калектывізацыі вымагала і больш поўнага адлюстравання грамадска-палітычнага жыцця на пачатку 1930-х гг., патрабавала акрэслівання псіхалагічнай атмасферы таго часу, што, у сваю чаргу, падводзіла да праблемы культу асобы, рэпрэсій у дачыненні да дзеячаў культуры. Такое павелічэнне задач у асвятленні гістарычных працэсаў гэтага перыяду ўносіла істотныя змены ў аўтарскую канцэпцыю наступнага рамана «Подых навальніцы». Сам Іван Мележ выказаў свой погляд на тагачасныя падзеі наступнымі словамі: «У цяжкія трыццатыя гады брала пачатак не толькі добрае, але і злое. У тым, што адбывалася тады, было нямала такога, што выклікала непатрэбную вастрыню адносін, нараджала несправядлівасці, крыўды, прыводзіла да неапраўданых ахвяр». Большай свабодзе аўтара ў адлюстраванні мінулых падзей спрыяла і часовае разняволенне грамадскай думкі ў СССР напрыканцы 1950-х — пачатку 1960-х гг.

Такім чынам, задума Івана Мележа асвятліць жыццё палескіх сялян на пераломе эпох пастутова набыла шырэйшы размах і трансфармавалася ў роздум над лёсам Бацькаўшчыны ў пераломны перыяд гісторыі. Распрацоўка наступных раманаў, якія б ахапілі настолькі шырокі спектр задач, патрабавала ад аўтара шмат часу і вялікага пісьменніцкага майстэрства. Іван Мележ дбайна клапаціўся, каб не толькі факты, але і думкі, і псіхалагічная атмасфера таго часу былі адлюстраваныя з максімальным падабенствам да рэальнасці. Ён пісаў: «Я вельмі і вельмі трывожуся, ці ўдасца мне з дастатковай глыбінёй паказаць узаемасувязі паміж часам і чалавекам». Часам на палях яго рукапісаў можна сустрэць заўвагу пра тое, што нейкая фраза ў вуснах героя больш адпавядае сучаснаму стылю мыслення (гэта значыць, 1960-м — 1970-м гг.) і таму павінна быць перапрацавана. Менавіта з-за гэтага работа над кожным наступным раманам цыкла працягвалася доўга. На жаль, многае пісьменнік так і не паспеў увасобіць у жыццё. Сюжэт «Палескай хронікі» спыніўся на самых першых днях 1930 года.

Многія сюжэтныя лініі неаднаразова перапрацоўваліся. Узнікалі, знікалі і трансфармаваліся задумкі цэлых раздзелаў і нават раманаў. У неапублікаванай спадчыне пісьменніка засталіся планы далейшага развіцця падзей «Палескай хронікі». Наступныя дзве кнігі, паводле меркавання Івана Мележа, павінны былі ахопліваць першую палову 1930 года і адлюстроўваць сцэны раскулачвання ў Куранях, выключэнне з партыі Апейкі і Гайліса, а потым — крытыку дапушчаных перагібаў, зняцце з пасады Башлыкова і рэабілітацыю Апейкі. Канчаткова аўтар планаваў давесці цыкл раманаў да часоў Вялікай Айчыннай вайны. Матэрыял, выкладзены ў запісах, накідах Івана Мележа, надзвычай важны для разумення

цэласнага характару «Палескай хронікі» і задумы аўтара ў адлюстраванні лёсу галоўных герояў: Васіля, Ганны, Яўхіма, Апейкі, Башлыкова і іншых. Не менш цікавымі падаюцца і асобныя разважанні аўтара, выкладзеныя на старонках яго запісной кніжкі. Яны дазваляюць нам зразумець імператывы, якімі кіраваўся пісьменнік пры адлюстраванні тых ці іншых падзей, распрацоўцы асобных сюжэтных ліній. Канечне, выкарыстанне недапрацаванай спадчыны пісьменніка можа быць успрынята крытычна, бо пакінуты матэрыял часта несістэматызаваны і не давездзены да канца. Аднак многія сцэны, асобныя дыялогі носяць настолькі распрацаваны і завершаны характар, змяшчаюць настолькі важныя думкі, што можна не сумнявацца: яны ішлі ад самага сэрца аўтара, і калі б пісьменнік ажыццявіў іх публікацыю, то яны б занялі ключавое месца ва ўсёй «Палескай хроніцы».

Сюжэтныя лініі раманаў не проста апісваюць рэчаіснасць таго часу, а ў значнай ступені адлюстроўваюць і грамадзянскую пазіцыю аўтара, яго погляды на многія праблемы дзяржаўна-палітычнага будаўніцтва ў 1930-я гг. Канечне, погляды Івана Мележа не заставаліся аднастайнымі на працягу ўсіх дваццаці год, якія аўтар працаваў над раманамі «Палескай хронікі». Гэта адлюстроўвае дынаміка роздуму аўтара над развіццём сюжэтных ліній твора. Змены ў грамадска-палітычным жыцці СССР таксама накладвалі адбітак на магчымасці больш поўна данесці сваю думку да чытача. Калі ў першай палове 1960-х гг. Іван Мележ планаваў закрануць у «Палескай хроніцы» рэпрэсіі другой паловы 1930-х гг. (у яго запісах сустракаюцца ўпамінанні пра далейшыя трагічныя лёсы Апейкі, Гайліса, Міканора), то ў 1970-я гг., калі крытыка сталінізму заўважна сціхла, аўтар вырашыў найперш засяродзіцца на сцэнах раскулачвання пачатку 1930-х гг. Менавіта таму многія думкі, першапачаткова выказаныя ў больш адкрытай форме, мы можам знайсці ў архіве пісьменніка, а не на старонках раманаў. Але нават нягледзячы на гэта, публікацыя «Палескай хронікі» стала мужным грамадзянскім крокам Івана Мележа. Яго раманы былі аднымі з першых у савецкай літаратуры, у якіх ажыццёўлена спроба крытычнага пераасэнсавання падзей 1930-х гг., ходу ключавых мерапрыемстваў, праведзеных савецкай уладай.

Раманы «Палескай хронікі» адлюстроўваюць гісторыю палескай вёскі, гісторыю беларускага народа ў цэлым у складаны, пераломны перыяд, калі пад уплывам знешніх абставін змяняўся спрадвечны лад жыцця людзей, выклікаючы ў іх змешаныя пачуцці: здзіўленне, абыякавасць, а часам і супраціўленне, непрыманне новага. На жаль, часта змены не толькі хутка прыходзілі, але і гвалтоўна насаджаліся. Калі першыя мерапрыемствы савецкай улады закраналі толькі асобныя бакі жыцця людзей, то калектывізацыя, ажыццёўленая ў дадатак яшчэ і на прымусовай аснове, парушыла традыцыйны лад жыцця на Палессі, уварваўшыся пры гэтым у самую адчувальную сферу — сферу ўласнасці на зямлю. Адлюстраванне гэтага супярэчлівага перыяду ў гісторыі беларускай вёскі вымушала аўтара не толькі клапатліва адлюстроўваць гістарычныя падрабязнасці, але і выпрацаваць уласную пазіцыю ў дачыненні да гэтых падзей, даць ім гістарыясофскую ацэнку.

Падчас працы з першакрыніцамі, падчас гутарак з відавочцамі тых падзей Іван Мележ усё больш пераконваўся ў тым, што дасканалае адлюстраванне калектывізацыі не магло быць вырашана ў рамках аднамерных схем і падыходаў. Гэты працэс, як і іншыя з'явы ў грамадска-палітычным жыцці БССР таго часу, патрабаваў новага ракурсу для выяўлення. Дэталёвае знаёмства з тым перыядам стварала ўяўленне пра гісторыю Бацькаўшчыны 1930-х гг. не толькі і не столькі як пра паспяховае ажыццяўленне мерапрыемстваў савецкай улады, колькі як пра паласу пакут і выпрабаванняў. Але разам з тым аўтар разглядаў гэтую цяжкую часіну як момант, у які праяўляюцца і лепшыя якасці, уласцівыя беларускаму народу. Сведчаннем таму з'яўляюцца наступныя радкі з яго запісной кніжкі: «Гаварылі аб уласніцкай душы селяніна… А чаму ніхто не сказаў аб яго надзвычайнай самаахвярнасці? Чаму ніхто не сказаў, што калектывізацыя патрабавала ад селяніна

надзвычайнай, непараўнальнай ні з чым самаахвярнасці? Аддаць зямлю, аддаць інвентар, усё набытае ўсім жыццём — не маючы цвёрдых гарантый за выключэннем слоў абяцанняў — колькі на гэта трэба самаахвярнасці! Кланяюся вам, людзі трыццатага года!»

Самаахвярнасць, якая праявілася падчас калектывізацыі, падкрэслівалася пісьменнікам як неад'емная рыса, што выступае сведчаннем непераможнасці, устойлівасці, сілы народнага духу. Менавіта яна давала права гаварыць пра перажытое ў 1930-я гг. як пра сапраўдны подзвіг народа. Аўтар падкрэсліваў, што гэтая якасць праявілася і ў іншыя драматычныя моманты, у тым ліку падчас Вялікай Айчыннай вайны: «Самаахвярнасць, веліч душы працоўнага народа. От пра што не гаварылі. А колькі ж яе было і якой вялікай, калі гадамі рабілі, не атрымліваючы ўзамен ні капейкі, у вайну, калі, забыўшы ўсе крыўды, аддавалі апошняе партызанам, рызыкавалі смяртэльна, ішлі на смерць! Вялікі ты, праўда, вялікі душою, народ!»

Нават у 1960-я гг. нячаста казалі пра вялікую цану, якой далося ажыццяўленне суцэльнай калектывізацыі. Аднак яшчэ радзей уздымалася важнае пытанне: а ці можна было ўвогуле пазбегнуць гэтай цаны? Адлюстроўваючы пераломны перыяд у гісторыі палескай вёскі ва ўсёй супярэчлівасці і драматычнасці, Іван Мележ узняў яго адным з першых. І гэтая праблема, у разуменні пісьменніка, не абмяжоўвалася працэсам калектывізацыі, а ахоплівала значна шырэйшую плынь гістарычных падзей, у тым ліку ваенных. Калі б пазней ён усё ж давёў «Палескую хроніку» да часоў Вялікай Айчыннай вайны, такога кшталту пытанне, а ці можна было пазбегнуць такой вялізнай колькасці ахвяр, магчыма, было б закранутае і там. Такім чынам, Іван Мележ аддаў перавагу погляду на пераломныя гістарычныя падзеі не скрозь прызму высокіх ідэй ці дзяржаўнай патрэбы, а з пункту гледжання простага чалавека. Яго́ныя запісы, як і апублікаваныя старонкі «Палескай хронікі», наскрозь прасякае думка, якая нам, людзям дваццаць першага стагоддзя, падаецца зараз цалкам натуральнай, але якая не агучвалася ў тыя часы: надта многа высілкаў народа было аддадзена за гвалтоўнае ўвасабленне вялікай ідэі, надта вялікую цану заплаціў народ, не атрымаўшы ўзамен абяцанага. Такім чынам, у «Палескай хроніцы» Івана Мележа выявіўся гуманістычны падыход да асэнсавання пераломных, драматычных момантаў нашай гісторыі — той погляд, які стаў дамінуючым у апошняй трэці дваццатага стагоддзя і ўвасобіўся ў творах Васіля Быкава, Алеся Адамовіча, Янкі Брыля і многіх іншых.

Канечне, Іван Мележ ніякім чынам не спрабаваў абвергнуць неабходнасць самога працэсу калектывізацыі. Ён таксама лічыў гэты працэс гістарычна мэтазгодным. Аднак галоўная ідэя, якую імкнуўся данесці аўтар, — гэта непазбежны крах вынікаў гвалтоўнага ажыццяўлення палітыкі. Нездарма Іван Мележ адлюстраваў імкненне глінішчанцаў выйсці з калгаса ў рамане «Завеі. Снежань», а таксама планаваў паказаць у далейшым, як прымусова створаныя калгасы сталі распадацца пасля крытыкі на афіцыйным узроўні палітыкі перагібаў. Сельскагаспадарчыя кааператывы распаліся не ў выніку шкоднай дзейнасці кулацкіх элементаў, а таму, што само абагульненне маёмасці сялян не мела сталай асновы і спачатку было, па сутнасці, дэкларатыўнай акцыяй. У гэтай сувязі прыгадваюцца словы Апейкі, змешчаныя ў накідах пісьменніка да чацвёртай часткі «Палескай хронікі»: «А як жа яго, мужыка нашага, не шкадаваць? Мы ж ад яго трэбуем, каб ён аддаў самае важнае. Зямлю, плуг, хлеб. Тое, чым ён, жонка, дзеці яго жывуць. Чым жылі яго бацька, дзед, прадзед. У чым аснова яго жыцця. Трэбуем, каб аддаў ён нам усё гэта — напавер. Бо шчасце калгаснае, якое мы яму зычым, для яго — байка толькі. А ён наслухаўся баек. І па старых — знае цану байкам. Што б мы ні казалі, для яго гэта — байка. Бо жыццё гэтае, якое мы зычым, яму невядомае, нерэальнае. Ён не мацаў яго. Яго трэба было б памацаць. От калі б ён патрымаў яго ў руках — тады б іншае было...» Таму ажыццяўленне мерапрыемстваў без

гвалту і без пустой дэкларатыўнасці — надзвычай важны запавет Івана Мележа ў кантэксце філасофскай рэфлексіі над гістарычным працэсам.

Канец 1920-х — пачатак 1930-х гг., калі ажыццяўлялася калектывізацыя, характарызаваўся ўзмацненнем таталітарнага рэжыму, што накладвала адбітак на псіхалагічную атмасферу ў грамадстве таго часу. Іван Мележ вельмі адказна аднёсся да задачы як мага дакладнейшага яе адлюстравання. Невыпадкова, імкнучыся падкрэсліць нарастаючую напружанасць і нецярпімасць у грамадстве, у сваіх запісах ён сабе дадаткова пазначыў наступную ўстаноўку: «Даць ад аўтара — псіхоз».

Гэты драматычны час, на жаль, спрыяў людзям з чорна-белым бачаннем свету. Барацьба за чысціню ідэі стала выдатнай магчымасцю расправіцца са сваімі апанентамі, зрабіць кар'еру. У такіх абставінах першымі ахвярамі становяцца сумленныя, адказныя людзі. У шчырай размове з Апейкам Белы дакладна пазначыў метад, якім карыстаюцца рознага кшталту кар'ерысты: «Модна становіцца выкрываць, крычаць, лупіць — пад маркай прынцыповасці! — кажа Белы Апейку ў шчырай размове. — Модна і выгадна. І рызыкі ніякай, і смелым паказаць сябе можна! Лепшым за ўсіх! Архібарацьбітом, архібальшавіком!» Такая псіхалагічная атмасфера стварыла спрыяльныя ўмовы для тых, хто быў гатовы ўвасобіць ідэю, дасягнуць паказчыкаў любой цаной, шляхам гвалту, рэпрэсій, адкінуўшы прэч народнае і нават чалавечае.

Перыяд калектывізацыі, на жаль, стаў добрым шансам для рознага кшталту кар'ерыстаў. Спрыяльны момант наступіў для такога «архібальшавіка», як Галенчык. Ключавым героем чацвёртага рамана, паводле задумы Івана Мележа, павінен быў стаць Дубадзел, поўная беспрынцыпнасць і бесчалавечнасць якога павінна была праявіцца далей, падчас арганізацыі працэсу раскулачвання ў Куранях. Працуючы над чацвёртай кнігай, Іван Мележ сам сабе пазначыў задачу ў адлюстраванні такога кшталту кар'ерыстаў: «Паказаць, як разгортваецца погань у такія моманты. Як спрые погані такі момант».

У адрозненне ад Галенчыка і Дубадзела, сакратар райкама Башлыкоў вылучаўся не толькі кар'ерысцкімі памкненнямі, але і шчырым жаданнем выканаць ускладзеную на яго задачу. Аднак і ён разумеў жыццё спрошчана, бачыў свет пераважна ў чорна-белых фарбах, што з'яўлялася не выпадковым у яго характары, а было абумоўлена яго папярэднім лёсам, перш за ўсё, недахопам адукацыі. Празмерная жорсткасць, залішняя прынцыповасць Башлыкова ў ажыццяўленні пастаўленых мэт прыводзяць да нецярпімасці і абыякавасці да чалавека. Але сам Іван Мележ адначасова вылучае і станоўчыя рысы свайго героя, падкрэсліваючы ўсю супярэчлівасць гэтай асобы: «Трагедыя Башлыкова — трагедыя чалавека сумленнага. Які хоча адпавядаць ідэалу часу». Нецярплівасць, абыякавасць становяцца ўласцівымі і Міканору падчас арганізацыі калгаса ў Куранях. Башлыкоў і Міканор шчыра імкнуцца выканаць заданне партыі, але іх жорсткасць — гэта вынік нявопытнасці, няздольнасці працаваць з людзьмі, нежадання прыслухоўвацца да праблем іншага чалавека.

Тое, што такія людзі (ці нявопытныя, як Міканор ці Башлыкоў, ці кар'ерысты, як Дубадзел і Галенчык) сталі кіраўнікамі, — гэта трагедыя таго часу. Гэта ў асноўным маладыя людзі, масавы прыток якіх у партыю адбыўся ў другой палове 1920-х гг. Многія з іх былі гараджанамі і не мелі ўяўлення пра спецыфіку працы на вёсцы. Менавіта на такіх — маладых, фанатычных, амбіцыйных, без дастаковага жыццёвага вопыту і крытычнага мыслення — была зробленая стаўка Сталіным і яго паплечнікамі з мэтай замацавання сваіх пазіцый у партыі і падаўлення апазіцыі з боку бальшавікоў так званага «старога пакалення» (да якіх можна аднесці Апейку і Гайліса). У гэты перыяд, калі з трыбуны партыйнага з'езда быў абвешчаны курс на суцэльную калектывізацыю, такія людзі, як Башлыкоў, як Дубадзел, гатовыя дасягнуць паказчыкаў любой цаной, узняліся на вяршыню сваёй кар'еры. А між тым аўтар падкрэсліваў, як многа ў арганізацыі любой

справы залежыць ад чалавека, ад асобы кіраўніка. Вызначаючы лейтматыў свайго рамана «Подых навальніцы», Іван Паўлавіч сам сабе пазначыў: «Асноўная калізія (дылема) часу і кнігі (кніг) — чалавек і справа. Справа, якая б дасканалая ні была сама па сабе, залежыць ад людзей, якія яе робяць: ад іх розуму, іх сумлення, іх сэрцаў. Людзі гэтыя могуць высока падымаць справу, могуць скрыўляць яе, калечыць яе».

Зварот Івана Мележа да праблем грамадска-палітычнага жыцця пачатку 1930-х гг., да той трагедыі, якую прынесла народу гвалтоўная калектывізацыя, абумоўленая станаўленнем таталітарнага рэжыму, падштурхнуў пісьменніка да таго, каб падкрэсліць страты, якія панесла і культурная эліта Беларусі ў той час. У атмасферы падазронасці і нецярпімасці ахвярамі цкавання і здзекаў станавіліся лепшыя творчыя сілы народа. Іван Мележ усведамляў, які цяжкі ўдар па нацыянальнай культуры быў нанесены ў тыя гады. У яго запісной кніжцы засталіся наступныя радкі: «Калі хвароба падазрэння і недавер’я ліхаманіла многія гарады і пасёлкі, многія краі і землі, то асабліва высокую тэмпературу хвароба гэта ўзняла на беларускай зямлі. Акрамя ўсіх іншых, тут былі яшчэ дзве акалічнасці, што спрыялі хваробе: блізка была мяжа, дзяржаўная граніца, той свет, які пагражаў, які пасылаў шпіёнаў і дыверсантаў. Тут асабліва важна было абясшкодзіць усякую нечысць, зрабіць парадак, тут быў пярэдні край, самы пярэдні край. У той абстаноўцы недавер’я, калі ўжо не толькі праяўлялі пільнасць, а падазравалі ўсё ўсякае, калі ва ўсім шукалі патайны, скрыты сэнс, натуральна, асцярогу, падазрэнні стала выклікаць нацыянальнае, за якім стала ўяўляцца здань нацыяналізму. Звычайныя нацыянальныя асаблівасці ў жыцці, у быцці, культуры беларусаў сталі ў вачах некаторых звышпільных і звышразумных дзейчаў таго часу зліваццa з буржуазным нацыяналізмам. Пад падазрэнне падпадалі многія з тых, хто працаваў на славу і радасць народа, хто верай і праўдай служыў Савецкай уладзе. Нямала ў чым невінаватых людзей было аб’яўлена нацыяналістамі і арыштавана… Пад знакам абароны народа, Савецкай улады рабіліся народу і Радзіме балючыя, незваротныя страты».

Іван Мележ ажыццявіў зварот да тэмы трагічнага лёсу беларускай інтэлігенцыі, маладых загубленых талентаў у сярэдзіне 1960-х гг. — у той жа час, калі Аркадзь Куляшоў выступіў з цыклам вершаў «Маналог», аддаючы даніну памяці сваім сябрам Змітраку Астапенку і Юлію Таўбіну. Паэт Алесь Маёвы, які з’явіўся на старонках рамана «Подых навальніцы», стаў збіральным вобразам, у якім можна было пазнаць маладых аўтараў 1930-х гг., напрыклад, Уладзіміра Дубоўку, Язэпа Пушчу. Ёсць сведчанні, што пісьменнік цікавіўся жыццём, звычкамі, характарамі гэтых літаратараў падчас працы над кнігай. Аўтар не рабіў Алеся Маёвага адным з галоўных персанажаў «Палескай хронікі», і гэтая сюжэтная лінія не з’яўляецца цэнтральнай у рамане. Аднак у той жа час яна вылучаецца самадастатковасцю, што дазволіла пісьменніку ў поўнай меры адлюстраваць тую трагедыю, якая напаткала многіх прадстаўнікоў творчай эліты, выспелай на хвалі беларусізацыі.

Алесь Маёвы — тыповы сельскі хлопец з задаткамі таленту. Яго лёс нагадвае жыццёвы шлях многіх маладых беларускіх паэтаў-самародкаў, якія змаглі сцвердзіцца як творцы, увайсці ў культурную эліту краіны, захаваўшы пры гэтым вясковую шчырасць, прамалінейнасць і любоў да роднай зямлі. Алесь — актыўны чалавек, які не стаіць убаку, калі бачыць несправядлівасць. Ён цвёрды і прынцыповы да канца. Апейка, настаўнік Алеся, які заўважыў маладога хлопца і развіў яго талент, яго любоў да творчасці, да высокага мастацтва, у глыбіні душы нават ганарыцца тым, што выхаваў чалавека, падобнага да сябе: «Прыгледзеліся б — чалавек які! Іменна ж такія — з характарам, з моцным сумленнем, з цвёрдай прынцыповасцю — аснова ва ўсякай вялікай справе. Іменна яны — сыны і ўнукі тых, хто калісьці ішоў і на катаргу і ў ссылкі з-за сваіх перакананняў. Іменна такія могуць выстаяць у часіны трудных выпрабаванняў, выстаяць, не пахіс-

нуцца; такія не будуць адседжвацца ў зацішку. Іменна яны, а не тыя, хто і цяпер, у мірны час, адседжваюцца, адмоўчваюцца, туляюцца, што гатовы, наперакор свайму заечаму сумленню, «разумна» глядзець на ўсё, больш за ўсё асцерагаючыся якой-небудзь рызыкі». І далей аўтар вуснамі Апейкі робіць наступную выснову: «Іменна ў такіх неспакойных, адкрытых, прынцыповых — сіла народа, сіла партыі. Жывая сіла». На жаль, у таталітарнай сістэме 1930-х гг. менавіта такія людзі найчасцей станавіліся аб’ектамі абвінавачванняў, здрады і рэпрэсій. І далейшыя лёсы як Алеся Маёвага, так і Апейкі, адлюстраваныя ў неапублікаваных частках «Палескай хронікі», дакладна сведчаць пра гэта.

Іван Мележ пакінуў нам накід трагічнай развязкі Алесевага лёсу, якую планаваў адлюстраваць у адным з наступных раманаў. Паводле сюжэта, калі вясной 1930 года Апейка зайшоў наведаць свайго былога вучня, то застаў там толькі гаспадыню дома, якая паведаміла яму цяжкую навіну:

— «Забралі.

— Як — забралі? — Апейка ўсё ж не чакаў гэтага.

— Яна не адказала.

— Даўно?

— Паўмесяца…»

Трагічны лёс Алеся Маёвага падзялілі многія тагачасныя маладыя паэты і пісьменнікі. Беларускай літаратуры былі нанесеныя цяжкія, непапраўныя страты.

Выступаючы не толькі ў ролі мастака, але і даследчыка, пісьменніку было надзвычай важна выявіць і паказаць, як чалавек дзейнічае ў складаных драматычных абставінах, якія прымушаюць пaступаць насуперак сумленню. А абвастрэнне псіхалагічнай атмасферы ў грамадстве на пачатку 1930-х гг. многіх людзей ставіла перад такім жа складаным выбарам. У падобнай сітуацыі апынуўся і настаўнік Алеся Іван Анісімавіч Апейка.

Апейка займае асаблівае месца ў галерэі герояў «Палескай хронікі». Як падкрэсліваў У. Гніламёдаў, «шмат свайго, самага запаветнага ўклаў пісьменнік у гэты вобраз. Гэтым вобразам пісьменнік сцвярджае свой ідэал станоўчага героя, героя нашага часу. Пошукі характару ў Мележа з'ўляліся адначасова і пошукамі ідэалу». Падаецца, менавіта вуснамі Апейкі, больш чым якога іншага персанажа трылогіі, аўтар даносіў да чытача свае найбольш значныя думкі. Падчас працы над раманам «Подых навальніцы» менавіта распрацоўка і ўвасабленне гэтага характару падавалася Мележу найважнейшай задачай. «Для мяне самая цяжкая задача — па-мастацку вырашыць вобраз Апейкі», — адзначаў пісьменнік.

Складаны час, у якім давялося жыць і дзейнічаць герою, абумовіў і драматызм яго лёсу. Унутраныя перакананні Івана Анісімавіча ўступілі ў глыбокую супярэчнасць з афіцыйнай лініяй партыі па ажыццяўленні прымусовай усеагульнай калектывізацыі. Ён зусім па-іншаму бачыў прынцыпы, якія павінны ляжаць у аснове як грамадскіх адносін, так і сістэмы кіравання: «Але ж сіла наша — не ў бяздумнай дысцыпліне, сіла — у калектыўным розуме і — у калектыўным сумленні. Дысцыпліна павінна быць зліта з сумленнем, з перакананнем. Нават ваенная дысцыпліна лепш за ўсё, калі яна свядомая. Тым больш гэта трэба камсамольскай, партыйнай». Па сутнасці, Апейка зыходзіць з прынцыпу дэмакратычнага падыходу да арганізацыі працэсу кіравання, у процілегласць жорсткай цэнтралізацыі. У выніку герой быў вымушаны рабіць вельмі складаны выбар паміж далучэннем да ўсеагульнага імкнення выканаць і перавыканаць даведзеныя зверху планавыя паказчыкі, з аднаго боку, і ўласным сумленнем, з другога. І ў процілегласць большасці партыйных работнікаў, якія, рухаючыся ў агульным рэчышчы, без асаблівых разважанняў падтрымалі генеральную лінію партыі, Апейка застаўся верным сваім перакананням. Іван Анісімавіч застаўся паслядоўным і тады, калі ад яго рашэнняў залежаў і лёс асобных людзей: рызы-

куючы нават сваёй пасадай старшыні райвыканкама, ён заступіўся за былога царскага афіцэра настаўніка Гарошку, за Сцяпана Глушака, за Алеся Маёвага і іншых.

У наступным, чацвёртым рамане «Палескай хронікі» Іван Мележ планаваў адлюстраваць, як Апейка быў абвінавачаны ў правым ухіле, зняты з пасады і выключаны з партыі. Але гэты неспадзяваны паварот у жыцці не толькі не паслабіў перакананні Апейкі, аднак, наадварот, нават узмацніў іх. Адразу пасля прыняцця рашэння аб выключэнні Іван Анісімавіч выказвае намер адстойваць свае погляды да канца. Найлепшым чынам Апейку характарызуюць яго ўласныя наступныя словы, якія засталіся ў накідах пісьменніка: «Ёсць людзі, якія лічаць за доблесць, што яны ўмеюць не разважаць. Партыя сказала, партыя рашыла!.. Няма чаго разважаць!.. А я хачу думаць, хачу зразумець усё, адчуць, як сваю праўду! Павінен быць перакананым ва ўсім, а для гэтага я павінен зразумець усё, адчуць, як сваю праўду! Розумам і сэрцам! Сапраўдны бальшавізм і ёсць перакананасць! Мы бальшавікі — ад перакананняў. У гэтым нашая асаблівасць і нашая сіла! Сіла! Бо няма нічога мацней за цвёрдыя перакананні! Я бальшавік не па білету, а па перакананнях! Быў такім, і буду такім!» Гэты маналог Апейкі — сапраўдны выклік сумленнага чалавека таталітарнай сістэме, гэта голас Грамадзяніна, унутрана свабоднага чалавека. Асоба Апейкі як кіраўніка выразна вылучалася на фоне вялікай агульнай шэрай масы кіраўнікоў-прыстасаванцаў, якія не мелі ні дастатковага вопыту, ні смеласці, і якія, такім чынам, толькі ўзмацнялі агульную атмасферу пасрэднасці, падазронасці і недаверу, якая ўкаранілася ў грамадстве на той час.

У рэшце рэшт, паводле задумы Івана Мележа, лёс Апейкі склаўся больш светла, чым у Алеся Маёвага: пасля афіцыйнага асуджэння палітыкі перагібаў Апейка быў адноўлены ў партыі. Аднак, нягледзячы на розныя лёсы настаўніка і яго вучня, іх аб'ядноўвае тое, што абодва яны перад тварам уласнай жыццёвай драмы, абумоўленай знешнімі абставінамі, засталіся ўнутрана няскоранымі. Праз лёс і ўнутраныя перакананні гэтых персанажаў Іван Мележ імкнуўся паказаць, што сіла духу чалавека мацнейшая нават за самыя жорсткія абставіны. Менавіта ў такіх людзях, як Апейка і Алесь, на думку аўтара, праяўляецца вялізны духоўны патэнцыял народа. У гэтым кантэксце яшчэ раз хочацца прывесці вышэйзгаданую цытату: «Іменна ў такіх… — сіла народа… Жывая сіла».

Падобную ўнутраную барацьбу, але ў іншых абставінах, перажывае яшчэ адзін з любімых персанажаў аўтара — Ганна Чарнушка. Падобна таму, як усё цяжэй і цяжэй у атмасферы нецярпімасці і цкавання становіцца такім сумленным людзям, як Апейка і Алесь Маёвы, усё больш невыносна становіцца і Ганне жыць у хаце нелюбімага мужа Яўхіма. Прага да свабоды падштурхнула яе вырвацца з сям'і Карчоў, але для гэтага ёй прыйшлося адважыцца пайсці наперакор тым трывалым, архаічным звычаям, якія спрадвеку існавалі ў Куранях. Учынак Ганны стаў вельмі смелым крокам і сапраўдным выклікам шматвекавым традыцыям вёскі. Аўтар зазначае, што калі яна ўсё ж такі вырвалася з сям'і Яўхіма, «у Куранях пайшлі чуткі…, што Ганна не толькі не збаялася, а насмяялася з яго. Сярод гаворак пра Ганну былі такія, што старыя, казалі, не помнілі, каб у Куранях калі-небудзь якая-небудзь жонка кідала чалавека, ды яшчэ такога, як Яўхім...» Крок, на які пайшла Ганна, быў абумоўлены яе ўнутранай духоўнай эвалюцыяй, яе ўнутраным імкненнем да свабоды, разуменнем немагчымасці далейшага падпарадкавання нелюбімаму чалавеку. Іван Мележ адзначаў, што ў лёсе, дзеяннях, перажываннях гераіні ён увасобіў свае ўяўленні «пра шчасце, пра каханне, пра самаахвярнасць». У гэтым вобразе аўтар увасобіў і ўласнае разуменне чалавечага гонару. Вобраз і лёс Ганны ўслаўляе імкненне чалавека да свабоды, рашучасць, гатоўнасць рухацца да новага, дзейнічаць, змяніць свае жыццёвыя абставіны.

Нездарма Іван Мележ столькі ўвагі надаў характарам і лёсам Апейкі, Алеся, Ганны. Пісьменнік імкнуўся давесці да сваіх сучаснікаў і да наступных пакаленняў, што будучае народа — менавіта за ўнутрана свабоднымі, актыўнымі,

неабыякавымі асобамі. Шчасце кожнага чалавека залежыць найперш ад яго асабістых намаганняў, а лёс народа ў цэлым абумоўліваецца тым, наколькі глыбока ў грамадстве ўсталюецца вера чалавека ва ўласныя сілы.

Калі ж чалавек не выбудоўвае свой лёс і жыццёвы шлях уласнымі намаганнямі, а імкнецца зручна прыладзіцца да навакольных абставін, то будучае такога чалавека не падаецца ўстойлівым, а шмат у чым залежыць ад выпадковасцей. Іван Мележ у «Палескай хроніцы» паказаў, як хутка змяняюцца абставіны, і тое, што здавалася перавагай у адзін момант, хутка стала недахопам у наступны. Так, у перспектыве памылковым аказаўся крок мачыхі Ганны, якая настаяла на тым, каб яе падчарка выйшла замуж за Яўхіма, сына кулака: паводле далейшага сюжэта «Палескай хронікі», сям’ю Карчоў раскулачылі, а разам з гэтым ганьба напаткала і сям’ю Чарнушкаў. Такім жа чынам і Васіль, які не змог у патрэбны час зрабіць правільны выбар на карысць каханай дзяўчыны, а ўступіў у шлюб з дачкой Пракопа, якую ніколі не любіў, аказаўся ў рэшце рэшт і без зямлі, і без сямейнага шчасця.

У «Палескай хроніцы» Іван Мележ перш за ўсё імкнуўся ўславіць вобраз чалавека працы, пры гэтым вобраз чалавека дзейснага, а не пасіўнага. Супярэчлівым у гэтым плане з’яўляецца характар Васіля: з аднаго боку, ён чалавек вельмі працавіты, але з другога — недастаткова рашучы ў важныя, адказныя моманты. Калі жыццё ставіць яго перад складаным выбарам (самы відавочны прыклад — паміж магчымасцямі звязаць жыццё з каханай дзяўчынай ці палепшыць свой зямельны надзел), то герой вельмі доўга вагаецца, а так і не вырашаецца зрабіць апошні, рашучы крок, праяўляе пасіўнасць у самую адказную хвіліну. Фактычна апошні крок замест яго робіць само жыццё, сам ход наступных падзей (спачатку Васіля апераджае Яўхім, потым Ганна адна рашаецца збегчы ў Глінішчы). Прычым у хвіліны адчаю герой усведамляе свой недахоп, сваю нерашучасць: «Дакуль жа яно ўсе ето будзе, — што круцішся на адным месцы. Што ніяк не набярэш цвёрдасці, што б павярнуць ці сюды, ці туды. Штоб рашыць цвёрдо і штоб не аглядувацца. Штоб не шкода було ці таго, ці другого! Калі ж ето стане жыць так — што на душы легко!..»

Іншымі якасцямі валодае Іван Анісімавіч Апейка. Стратэгічнае мысленне гэтага героя, гістарызм у асэнсаванні падзей асабліва праявіліся ў разважаннях пад зорным небам падчас сенакосу, калі ён асэнсоўваў значэнне тых змен у жыцці палешукоў, якія вось-вось мусілі пачацца з усталяваннем калгаснага ладу. Апейка рашуча заклікае да перамен, якія палепшаць жыццё сялян. Невыпадкова гэтае сутыкненне двух светапоглядаў, дзвюх пазіцый да жыцця — актыўнай і пасіўнай — падчас першай сустрэчы Апейкі з Васілём выклікала даволі рэзкія словы ў адрас апошняга: «Для вас, для вашага шчасця стараюцца, гінуць людзі. А вы, вы — за сябе пастаяць не ўмееце!.. Ты — не бандыт, ты — крот, які капаецца ў сваёй нары. І толькі адну сваю шкуру беражэ. А там — хоць трава не расці! Хай другія прынясуць табе шчасце на талерачцы!..»

Апісваючы паводзіны Васіля (і іншых персанажаў), пісьменнік адзначыў асаблівасць псіхалогіі людзей, сацыяльнае становішча якіх спрадвеку не дазваляла вырашаць свой уласны лёс, якія на працягу доўгага часу знаходзіліся ў залежным становішчы. Такая ментальная асаблівасць большай часткі насельніцтва паспрыяла таму, што ўладам удалося ажыццявіць калектывізацыю гвалтоўнымі мерамі, сустрэўшы ў большасці выпадкаў толькі спарадычнае, а не арганізаванае супраціўленне. Выказваючы абурэнне тымі жорсткімі метадамі, якімі праводзілася калектывізацыя, пісьменнік разам з тым у сваіх запісах адзначыў, наколькі памяркоўна насельніцтва адрэагавала на гвалтоўнае ўмяшанне ў іх спрадвечны лад жыцця: «Калектывізацыя ў нас прайшла знешне спакойна. Без асаблівых выступленняў. Галоўнае, што праявілася — адвечная пакорлівасць сялян. Калі прыціснулі — пакорліва пайшлі. Верачы ў душы, што не загінуць. Усякае было раней — не прапалі. Не прападзём і цяпер, можа. У адных была вера, у другіх — ілюзіі, што

ўсё цудоўна і зразу пойдзе ўверх, у другіх — большасці — паслухмянасць, пакорлівасць». Аналізуючы тагачасныя падзеі з пазіцыі сённяшняга дня, становіцца відавочна, што палітыка гвалту і рэпрэсій якраз і мела поспех таму, што ў якасці падмурка абапіралася на гэтую «пакорлівасць», ці, кажучы сённяшнімі словамі, неразвітую грамадзянскую свядомасць большай часткі насельніцтва. І, на жаль, гістарычныя рэаліі дваццатага стагоддзя, таталітарная сістэма, якая склалася ў 1920—1930-я гг., толькі спрыялі далейшаму існаванню псіхалогіі залежнасці і пасіўнасці.

У прыведзеных словах пісьменніка гучыць шкадаванне пра гэтую «адвечную пакорлівасць» і думка пра тое, што такія рысы характару, як безыніцыятыўнасць, пасіўнасць, неабходна паступова пераадольваць. Праз сюжэт «Палескай хронікі», праз адлюстраванне характараў і перыпетый лёсаў сваіх герояў Іван Мележ імкнуўся давесці, што кожны чалавек павінен навучыцца браць на сябе адказнасць, браць лёс у свае рукі. Жыццёвая пазіцыя чалавека непасрэдна ўплывае на яго ўласны лёс, а пазіцыі мноства людзей разам, спалучаючыся, — на гістарычны лёс народа. Пісьменнік падкрэсліваў, што і ў асяродку асцярожлівых куранёўцаў нараджаюцца ініцыятыўныя, адораныя, творчыя людзі, якія маюць усе магчымасці ўвайсці ў эліту на новым этапе развіцця грамадства. Сведчаннем таму з'яўляюцца найбольш любімыя Мележам вобразы Апейкі, Алеся Маёвага, Ганны, якія плоць ад плоці звязаныя з роднай вёскай, з роднай зямлёй. Пісьменнік шчыра верыў, што менавіта такія людзі — стойкія і адначасова сумленныя, разважлівыя, шчырыя, адказныя да сваёй справы і да людзей — павінны стаць асновай грамадства будучага. Але гэтым ідэалам Івана Паўлавіча не суджана было рэалізавацца ў савецкі час. Рэчаіснасць істотна разышлася з тымі думкамі, якія аўтар хацеў данесці на старонках «Палескай хронікі».

Пачуццю ўнутранай свабоды, якім пісьменнік надзяліў сваіх найбольш любімых персанажаў, супярэчыла сама савецкая каманда-адміністрацыйная сістэма, якая хоць і адкінула свае найбольш жорсткія формы, характэрныя для 1930-х гг., але пранізвала грамадства і пасля дваццатага з'езда КПСС. Чалавеку з моцным пачуццём грамадзянскай адказнасці прыходзілася нялёгка ў такіх умовах. У 1970-я гг. абыякавасць, дэкларатыўнасць, кар'ерызм, апісаныя ў «Палескай хроніцы», паступова станавіліся ўсё больш распаўсюджанымі з'явамі «застойнага часу». Яны размывалі фундамент самой савецкай сістэмы. У той час як з высокіх трыбун казалі пра надыход стадыі «развітога сацыялізму», пра пабудову такой супольнасці, як савецкі народ, у рэальнасці грамадства паступова губляла свой «унутраны стрыжань», свой духоўны патэнцыял — тую сілу, якая дазволіла людзям перажыць жахлівыя 1930-я гг. і Вялікую Айчынную вайну. І як вынік, сама савецкая сістэма аказалася не дастаткова ўнутрана ўстойлівай, каб супрацьстаяць выклікам новага часу. Бо гісторыя бязлітасна выкараняе ўсё дэкларатыўнае, пустое і потым жорстка карае за праяўленую ў свой час стратэгічную недальнабачнасць. Безумоўна, Іван Мележ бачыў гэтыя заганы, і яго запаветы былі найперш адрасаваныя менавіта сваім сучаснікам, адрасаваныя 1960—1970-м гг._

У накідах да наступнага рамана Апейка, размаўлючы з Харчавым, прамаўляе вельмі праніклівы маналог (які, напэўна, павінен быў бы стаць адным з цэнтральных, кульмінацыйных маналогаў усёй «Палескай хронікі», але аўтар не паспеў яго апублікаваць): «Уся соль, па-мойму, у тым, каб нам паверылі. Паверылі, што тое, што мы робім, — талковае, надзейнае. Каб справа гэтая стала справай сэрца людзей. Цяжка гэта, маркотна, і нецярплівасць нас пячэ, але нічога не зробіш. Трэба — каб паверылі! Адзіны сродак: пераканаць, дабіцца, каб паверылі! Толькі там дзе вера, дзе душа — будучыня надзейная! Толькі там чалавек будзе лічыць усё сваім, кроўным! Не чужым, панскім!.. Вялікая рэч: вера, вера народа!»

Іван Мележ вельмі вялікае значэнне надаваў веры народа, якая складаецца з веры кожнага чалавека ва ўласныя сілы, ва ўласныя магчымасці, ва ўласную

будучыню. Вера — магутны рухавік, які дапамагаў людзям у самыя цяжкія часіны перажываць самыя цяжкія выпрабаванні. Менавіта яна з'яўляецца крыніцай самаахвярнасці, якую адзначаў Іван Мележ у сваіх запісах. Адысці ад пасіўнасці і ажыццяўляць здзяйсненні ў імя сённяшняга і будучага дня — важны запавет пісьменніка. А для гэтага кожны чалавек павінен паверыць ва ўласныя сілы і рэальна пачаць дзейнічаць. Услаўляючы ў «Палескай хроніцы» лепшыя якасці народа, яго самаахвярнасць, Іван Мележ даводзіў думку, што народ непераможны, калі валодае вялікім духоўным патэнцыялам.

Аднак вельмі небяспечным з'яўляецца і злоўжыванне верай народа. На жаль, гісторыя дваццатага стагоддзя была дастаткова напоўненая шматлікімі нявыканаными абяцаннямі, вялікімі ідэямі нерэалістычнага характару. Гэта прыводзіла да страты веры людзей у свае магчымасці, ва ўласную будучыню, зноў штурхала чалавека ў бездань пасіўнасці і абыякавасці.

Адрасуючы свае запаветы 1960—1970-м гг., Іван Паўлавіч Мележ адначасова перакідвае мост у нашае стагоддзе, у будучае. Адаптуючы грамадзянскія погляды пісьменніка да рэалій сённяшняга дня, можна зрабіць наступную выснову. У сённяшніх умовах стабільным можа застацца толькі тое грамадства, у аснове якога ляжыць трывалая грамадзянская супольнасць, што можа ўзнікнуць толькі ў выніку яго паступовай самаарганізацыі, унутранай эвалюцыі. Менавіта ў трывалай грамадзянскай супольнасці найлепшым чынам выхоўваецца адказнасць асобы за свой лёс і за лёс дзяржавы. Гэта асабліва важна для беларускага грамадства, якое зараз знаходзіцца ў пераходным перыядзе. За апошнія два дзесяцігоддзі — кароткі па гістарычных мерках час — на долю нашай зямлі выпала шмат перамен: гэта і стварэнне суверэннай дзяржаўнасці, і фарміраванне рынкавай эканомікі пасля сямідзесяці год існавання савецкай сацыяльна-эканамічнай сістэмы, і ўваходжанне ў інфармацыйную эпоху. Выхаванне трывалай нацыянальнай ідэнтычнасці таксама можа адбыцца толькі на аснове моцнай грамадзянскай супольнасці. І гэта адзіны шлях супрацьстаяць тым шматлікім выклікам, з якімі грамадства можа сутыкнуцца ў гэтым стагоддзі.

Важным імператывам, якім кіраваўся ў свой час пісьменнік падчас стварэння раманаў «Палескай хронікі», быў зварот да гісторыі, да нашых гістарычных каранёў. Працуючы над цыклам раманаў, пісьменнік выказаў такі запавет сваім чытачам: «Ведаць, хто мы. Не забываць, адкуль мы выйшлі. Толькі тады, калі мы будзем ведаць, адкуль мы, якімі былі, мы можам ведаць, хто мы. Ведаць цану сабе, свайму жыццю». Зараз гэтыя словы гучаць асабліва актуальна, бо сённяшняе беларускае грамадства, рухаючыся ў агульным рэчышчы сусветных працэсаў, пастулова ўступае ў новую — інфармацыйную эпоху. Часта гавораць пра тое, што працэсы глабалізацыі, усеагульнай інфарматызацыі касмапалітызуюць чалавека, імкнуцца адарваць яго ад гістарычных каранёў. Але наадварот, упоруч з кожнай тэндэнцыяй існуе процітэндэнцыя ёй. І ў наш час усё часцей гаворыцца пра такую з'яву, як глакалізацыя — імкненне захаваць сваю нацыянальную, культурную ідэнтычнасць, паказаць усяму свету сваю нацыянальную асаблівасць. Працэс усеагульнай інфарматызацыі, нягледзячы на яго надзвычайную імклівасць, носіць пазітыўны характар, бо кожнай этнічнай супольнасці ён прадастаўляе дадатковую магчымасць падкрэсліць сваю адметнасць.

Інфармацыйная рэвалюцыя стварае для ўсіх роўныя магчымасці. Але тое, наколькі поўна яны будуць выкарыстаныя, залежыць ад грамадзянскай свядомасці насельніцтва, ад патрыятычнага пачуцця, якое выспявае ў сэрцы кожнага чалавека. Менавіта ад ведання кожным чалавекам роднай гісторыі, роднай культуры, роднай мовы і ад умення цікавым чынам прыпаднесці гэта прадстаўнікам іншых культур залежыць імідж Беларусі. Гэта справа кожнага з нас. Бо пра імідж краіны часта судзяць не па прыгожых карцінках, якія змешчаныя ў інтэрнэце, а па размове з людзьмі і па ўменні людзей расказаць пра сваю краіну.

Будучы не толькі пісьменнікам, але яшчэ і грамадскім дзеячам, займаючы пасаду намесніка старшыні Саюза пісьменнікаў БССР, Іван Паўлавіч Мележ акцэнтавана выказваў сваю пазіцыю ў дачыненні да тагачасных культурных працэсаў. У той час, калі беларуская мова і літаратура пераводзіліся ў школах у ранг факультатыўных прадметаў, ён казаў у адным са сваіх афіцыйных выступленняў: «Хачу сказаць таксама трохі пра другі наш клопат, які, як відаць з выступленняў, вельмі хвалюе многіх. Пра мову. … Не, мы не можам глядзець на гэта абыякава. Не можам таму, што пытанне аб мове — гэта пытанне аб будучыні нашай літаратуры, яе здароўі і даўгалецці. Не можам таму, што мова народа — ёсць адзін з найвялікшых скарбаў народа, скарб, у якім жыве сэрца народа, яго надзеі і мары, яго талент і клопат, стагоддзі яго жыцця. Не можам таму, што скарбу гэтаму няма цаны». Памяць пра вялікую шкоду беларускай культуры, якая была нанесеная барацьбой з «нацдэмаўшчынай» у 1930-я гады, выклікала ў пісьменніка і занепакоенасць аб перспектывах яе развіцця ў будучым. У той час, як у БССР набіралі сілу працэсы русіфікацыі, ён пакінуў нам наступны запавет: «Мова — гэта вялікі народны скарб. Яго нельга не паважаць, як нельга не паважаць родны народ». Сам Іван Паўлавіч увекавечыў мову сваіх землякоў, адлюстраваўшы ўсходнепалескі дыялект у мове сваіх герояў на старонках «Палескай хронікі».

Задумы аўтара па меры напісання «Палескай хронікі» змяняліся, перапрацоўваліся, але нязменным заставаўся адзін імператыў, якім ён кіраваўся з самага пачатку: «Мне хацелася напісаць кнігу ў поўным сэнсе народную, якая б праслаўляла народ, яго подзвіг, была б прасякнутая вялікай павагай да яго і клопатам пра яго». У сваіх кнігах Іван Мележ імкнуўся сцвердзіць веру ў будучае беларускага народа. Паказальна, што ўсю эпапею пісьменнік меў намер завяршыць наступнымі словамі Васіля, які вярнуўся пасля заканчэння Вялікай Айчыннай вайны на папялішча родных Куранёў: «І ўсё-такі мы будзем жыць. Нас — не знішчыць. Бо мы — народ!» І гэты пафас аднаўлення, веры ў сілы народа выражае галоўны запавет, які пісьменнік хацеў перадаць будучым пакаленням.

**Казімір КАМЕЙША**

# ЖЫЦЦЯ ЖЫВАЯ НОША

Паэта мне цяжка ўявіць без дарогі. Ён мусіць быць хай нават не з кійком, не з цяжкім і мулкім заплечнікам вандроўніка, але абавязкова ў няспешлівай хадзе, у добрым суседстве самых смелых і патаемных думак, самотным ці ўсмешлівым. А ў сённяшні хуткі час, магчыма, і на колах, якім падуладны блізкія і далёкія адлегласці. Ды і пазнаецца паэт, як пераканаўся я, лепш за ўсё спачатку праз дарогу і толькі потым — праз вершы. Здаецца, і наша знаёмства ды і сяброўства з Міколам Мятліцкім зусім не казённай пячаткай замацоўвала сама дарога. Я добра яе дасюль памятаю, хоць шмат што з дэталяў прыцёр і згладзіў час, як гэта ён умее рабіць, іншае зацьмілі нейкія неверагодныя падзеі. Шкадую і сёння, што не браў тады з сабою запісоўкі. Не ўсё ж спадзявацца на памяць, хай і маладую. Нездарма мудрыя кітайцы кажуць: «Нават найгоршае чарніла больш надзейнае за лепшую памяць». Паспрабуй запярэч ім, калі гэта не так.

Згадваю далекаваты ўжо ад нас 1980 год, сярэдзіну лета. Тады ў дарогу падбухторыў нас наш паэтычны настаўнік, незабыўны «адмірал ад паэзіі» Анатоль Вялюгін. І мы адразу загарэліся: «Ах, якое шчасце праехацца з самім класікам!» А сам ён у апошнюю хвіліну здрэйфіў, падняў рукі ўгору: «Не выпадае…» Ды ў кампаньёны нам сасватаў нашага агульнага знаёмага рыбалова, ужо ў добрых гадах пачаткоўца, рыбацкі пыл і гонар якога адразу ж астудзіла ганарыстая Вілія. Настаўнік нават вуды свае ахвяраваў нам на дарогу, а сам усё шкадаваў, што не можа падтрымаць кампанію, паехаць туды, адкуль аднойчы вяртаўся і з добрым уловам плотак, і з вядзерцам крамяных рыжыкаў.

Раніцай у мае яшчэ малааб'езджаныя «Жыгулі» мы пакавалі той самы рыбацкі рыштунак і ўсё іншае, што можа спатрэбіцца пры такой нагодзе. І павяла нас дарога на Астравеччыну, да Віліі, на радзіму цешчы паэта. Потым я буду ўдзячны Міколу за такое незвычайнае падарожжа. Нават верш напішу.

Шмат чаго і было там, як у вершы:

Гэтай лодцы яшчэ б вёслы,
Гэтай рэчцы яшчэ б мост,
У лясную гэту вёску
Цераз вір плывём наўпрост.

Сябра мой шастом вяслуе,
Не здаецца плынь ані,
Вёску гэтую лясную
Я калісьці ў сне прысніў…

Дарога наша абарвалася на высокім прылясным беразе, а калі крыху апусціліся ўніз, адразу дыхнула ў твар здаровай лясной прахалодай — Вілія!..

Мы выйшлі з машыны і глянулі на супрацьлеглы бераг: хата, куды нам трэба было патрапіць, стаяла вокнамі да нашых твараў. А рака шырокая. І нідзе ні моста, ні парома. Балазе на беразе сумавала пустая лодка, але чамусьці без вёсел. Машыну пакінулі ля чужога парога, а самі па камандзе Міколы селі ў лодку. Мне, чалавеку лясному, не надта звыкламу да вады было крыху страшнавата на

тае пераправе. А Мікола неяк звыкла адпіхнуўся шастом-жардзінкаю ад берага і пагнаў лодку насустрач цешчынай хаце. Хітравата азіраўся і на нас, што прыгнута і прыгнечана прыцішыліся ў лодцы.

— У гэтай лодцы дрыжэлі ад страху і да вас! — жартаваў наш вясляр. Гэтым самым ён нагадваў нам, што мы не першыя тут госці. Былі і да нас. Тыя ж Максім Лужанін, Анатоль Вялюгін, Барыс Сачанка. Паляшуцкі спакой, набыты яшчэ ў дзяцінстве на прыпяцкім беразе, дазваляў пацяшацца з таго, хто, магчыма, і плаваць, як належыць, не ўмеў, але ўтойваў гэта, каб не выглядаць у сябравых вачах нейкім пушчанскім нікчэмцам ці баязліўцам.

«Хата за ракой» і сапраўды сталася для мяне тым самым адкрыццём, якое толькі сніцца паэтам. Выглядала яна так, як і нашы пушчанскія хаты: тая ж самая печ, ложкі, падлога, лавы ды хіба крыху здзіўляла сваімі кроснамі, якія стаялі ледзь не пасярэдзіне большай святлістай паловы. Кросны былі з навітай асновай, тугімі нітамі і яшчэ цёплымі бёрдамі. За імі толькі што сядзела гаспадыня хаты Яніна Іванаўна.

Я не памыліўся, назваўшы ўсё гэта адкрыццём. А ці не адкрыццём бывае і тое даўняе, забытае, з якога некалі вырастала наша культура?! Што ж тычыцца нейкіх паэтычных адкрыццяў, дык нам да іх тады яшчэ было далекавата. Але тое не бянтэжыла. Бо гады былі маладыя, і кожны яшчэ свой неруш, калі пастараецца, адшукае. Усяго хапала нам тады на сонечным надрэчным беразе, акрамя хіба яго гэтых радкоў з дня сённяшняга:

Помні — гэтымі дарогамі,
Ў весялосці, у журбе,
У стагоддзях розных многія
Вандравалі да цябе.

Помні — гэткімі ж вось хвалямі,
Зорным плёсам азярка
З узбярэжжа любаваліся
Людзі ў даўнішніх вяках.

Калі паэзію ўмоўна называць краінаю, дык грамадзянства ў ёй павінна абавязкова быць засведчана прапіскаю. У нашым выпадку быў ужо на самым пачатку дакладны адрас новага жыхара. Гэта — Палессе, Прыпяць, Хойніцкі раён, вёска Бабчын. Паэт, як вядома, пачынаецца з маленства. І ўсё адметнае, уражлівае, усе тыя драбніцы ад самой прыроды, што некалі запалі ў душу і ўскалыхнулі яе, мусяць некалі праявіцца і адліцца ў слова. Вось як сам М. Мятліцкі згадвае пра сваё маленства: «Свет маленства… Менавіта на яго зыркаросых прасцягах і нараджаюцца першыя захапленні, якія потым з гадамі наталяюцца з прагавітасцю, крэпнуць, вызначаючы лёс чалавека. Мяне ў маленстве навучылі палюбіць і кнігу, і прыроду. Кніга сваёй яшчэ неразгаданай таемнасцю ўвайшла ў душу «з дзедавых рук», а прырода — палеская, некранутая яшчэ згубаю асушэння, — адкрывалася таксама з ласкі дарослых. І тыя ж бабуля, і дзед, і бацька, і маці, і вяскоўцы-суседзі — сцераглі кожны крок, «кеб дзе не заграз у балоце!», «кеб якая гадзюка не ўджаліла!», «кеб дзе ваўкі не раздзерлі!» І яшчэ: «кеб дзе гранаціну якую не падняў!»

Ад паэта-грамадзяніна, вядома ж, патрабавалі і грамадзянскага, пафаснага. Мне выпала пісаць водгук на другую кнігу паэта «Мой дзень зямны» (1985), і я адразу заўважыў, што грамадзянскія матывы ў ягоных творах гучаць не так і слаба. Не без унутранага ўзрушэння пісаў ён пра «боль чылійскіх хат», пра занесеныя над светам «Першынгі», пра Хатынь і «Талісман Нікарагуа». Памятаю, кранула мяне тады «Сіняя балада», пабудаваная на яркай, запамінальнай і разам з тым простай дэталі — каляровым шкельцы, што падае з рук хлапчука. Трывога за час, за планету, на якой жывём, гучала ў вершы асабліва выразна. Аднак самае хвалюючае і кранальнае было там, дзе аўтар ступаў на сваю пявуча-мілую

палескую зямлю, праўда, папярэджваючы, у якім трывожна-супярэчлівым свеце мы жывём. А ў вершы «Роздум» аўтар нават не прамінуў свой век назваць «найпакутным».

Хтосьці прыходзіць у літаратуру са сваёй тэмай і потым на ўсё жыццё застаецца ёй верным. Часцей за ўсё накірунак у творчасці падказвае само жыццё. Мікола Мятліцкі завітаў на паэтычныя абсягі адразу са сваёй галоўнай тэмай. У аднайменным вершы чытаем:

Вёска і вечар… Пыл над дарогай.
Моўчкі гляджу на траву.
Самаю чуйнай у свеце трывогай
Дыхаю і жыву.

Хаты адступяцца. Сціснецца нема
Горлейка ручая.
Грукае ў грудзі галоўная тэма, —
Спеліцца песня мая.

Галоўная тэма, як бачым, ужо на пачатку мае сваю глабальную акрэсленасць. Гэта — тая самая трывога і за свой родны куток, і за ўсю зямлю адначасова, гэта яшчэ і «жывая ноша», якую паэту наканавана несці праз усё сваё жыццё.

Як жа сам разумеў паэт сэнс сваёй ношы, якія яе складнікі ўрэшце? А гэта — трывога за бор, што «падобна чалавеку… памірае, просячы вады», крыўда за цётку, для якой «пялёсткі ранніх руж… пахнуць, як рублі», і самім пакаленнем прыдуманы «сум па вёсцы». І нават здагадваўся я, тады малады рэцэнзент, што самае галоўнае ў вершах М. Мятліцкага будзе і надалей гучаць на прыцішанай ноце ды сыходзіць ці слязой, ці расінкай ад родных каранёў і крон, ад родных берагоў і плыняў, ад усяго роднага. Галоўнае будзе тое, што напішацца ў рытме сэрца. Паэт заўсёды піша ў рытме свайго сэрца. А там, у сэрцы, заўсёды ёсць месца і свежаму, толькі пабачанаму і адчутаму, а таксама таму даўняму, з якога пачыналася жыццёвая сцяжына і куды заўсёды прыемна вяртацца ў хвіліны роздуму. З такімі думкамі перачытваў я потым падараваныя мне Міколам Мятліцкім яго паэтычныя кнігі «Палескі смутак» і «Бабчын». Тады, на пачатку свайго творчага шляху, усхвалявана пішучы пра сваіх землякоў, што ў пасляваенны час «апоўначы збіралі ў лесе голле і да зямлянак неслі на плячах», малады паэт і падумаць не мог, што праз нейкі час яго родную вёску напаткае яшчэ адна, па жорсткасці не меншая бяда. Тутэйшы люд не адразу зразумеў, што гэта за вораг, якога быццам і няма, ён нябачны, але карае бязлітасна. Дзякуючы М. Мятліцкаму яго Бабчын назаўсёды застанецца на паэтычнай карце айчыннай літаратуры, але бязлітасны Чарнобыль знясе яго з зялёнай карты жыцця. Вёска апынецца ў той самай 30-кіламетровай зоне адчужэння.

А таму тэма болю для паэта станецца дамінуючай, магчыма, і галоўнай:

Апошні Бабчына жыхар,
Блукаю вуліцай пустой.
Чароды стронцыевых хмар
У небе сталі на пастой.

. . . . . . . . . . . . .

Так гойна памяць за спіной
Зноў поле траўнае арэ.
Няўжо калісь яна са мной,
Апошнім з Бабчына, памрэ?!

. . . . . . . . . . . . . .

Растане тло пагрозных хмар,
Пагодна гляне шыр і высь.
Апошні Бабчына жыхар,
Я стану першым тут калісь…

Пра што б ні пісалася, а ён, боль, бярэ сваё. У жыцці цяжэй за ўсё бывае не таму, хто нясе сваю ношу на прыгнутых, але дужых плячах, а таму, хто нясе яе ў камячку малога сэрца. Не адчуўшы гэтага, магчыма, і не зразумееш самога болю. Але паэзія здольная не толькі захапляць, але і пераконваць.

Сёння мы часта паўтараем сцвярджэнне геніяльнага нямецкага класіка, згодна з якім, каб зразумець паэта, трэба пабываць на яго радзіме. Не выйшла, не атрымалася ў нас з наведваннем Бабчына, хоць мы і збіраліся выправіцца ў тую палескую дарогу да сябра. Але гэта акалічнасць зусім не азначае, што я не разумею спавядальную душу паэта. Як не зразумець чалавека, калі ён крочыць па абязлюднелай, адзічэлай вуліцы і размаўляе са сваёй памяццю?! Урэшце зразумець паэта мне дапамагала і яго другая радзіма, другі жыццёвы бераг — Астравеччына.

…А тады, за нейкіх паўдзясятка гадоў да сумнага Чарнобыля, у нас была і зусім займальная, амаль бясклапотная дарога да Віліі. Бог шчодра раздаваў беларусам зямную прыгажосць, але не заўсёды мы ўмелі яе берагчы. Тое, што адкрылася вачам тут, ля Віліі, прасілася ў вершы, малюнкі, прасілася ў само сэрца. Памяць захавала мноства тамтэйшых прыродных звабаў, а тое, што магла б занатаваць самапіска, самі размовы пры вадзе, пры агні, пры самой добрай нагодзе, неўпрыкмет знікала, як знікае дзень, даючы дарогу вечару. Ціхай, з лагодай дзіцяці, здавалася вада ў блакітным і карункавым лясным возеры, крыху гаркаватым — зарыўнашчокі яблык на адзічэлым хутары (амаль такім жа смакам будзе дражніцца потым спелы яблык з бабчынскага, ужо атручанага, саду), і надта саладкаватай — дымнаватая юшка на прыбярэжным перавозніцкім вогнішчы. Дым Айчыны, напэўна, тым і салодкі для нас, што тоіць у сабе здаровую жыццёвую гарчынку памяці.

Я дзякаваў Перавознікам — назва вёскі адразу паклікала да вядомага верша А. Твардоўскага пра «перевозчика-водогребщика» — за перавоз нас, маладых, з маладымі нашымі грахамі, адразу ў рай. Я і сёння ўдзячны майму перавозчыку, які цяпер вяслуе ўжо не ў той далёкай лодцы, а ў старэйшым нашым літаратурным часопісе, за яго дужасць, уменне лучыць самыя розныя берагі, абмінаць жыццёвыя мелі. Жыццю вучыць само жыццё. А характар гэтаму дапамагае.

Што яшчэ згадваю з той дарогі? Крыху здзівіў мяне малады швагрусь паэтаў Уладзік, які хуліганіста заязджаў на матацыкле проста ў сені хаты, не збаўляючы хуткасці. Я люблю маладую вісуснасць, бо і сам, як кажуць, не лепшы. Калі быў малады, дык і ўсё навокал здавалася маладым. І ў хвайнячку-падлетку пры пешчугах мы выцягвалі, на сваё здзіўленне, такія чырванавухія крамяныя рыжыкі!.. Пад лязом сцізорыка яны аж пырскалі сокам. Хоць нічога, як я ўжо казаў, не натавалася на паперу, а ўражанняў хапіла на дзесяцігоддзі ды і на многія вершы таксама. Мікола ведаў, якім чынам можна здзівіць госця, а звабы свайго, палескага кутка, як думаецца мне, адкладваў на потым: хай так будзе дзеля параўнання. Бо сваё, непаўторнае, ёсць усюды. А Палессе дык і трымалася спрадвеку на тым непаўторным дый да часу некранутым.

Пра што тады думалася, у той заваражлівай цішыні пад частае патрэскванне вуголля на вечаровым агні над Віліяй? Думкі былі, вядома ж, маладыя, бо і самі былі вунь якія маладыя. І ва ўсім, што ні думалася, што ні казалася, бачылася і чулася так яшчэ шмат наіўнага, гарэзнага, да самаўпэўненасці катэгарычнага. Вось заўтра, думалася, будзе новы дзень, будзе ён нашым днём, і мы ўжо ў ім пакажам, хто мы такія ёсць. І вось ён аднойчы прыйшоў… І многае ў ім адразу рассыпалася не толькі на нейкія няўлоўныя аскепкі, імгненні, а нават на страты, шкадаванні, незваротнасць.

Усё даўняе захацелася перачытаць нанова. Але чыталася яно ўжо зусім інакш:

Гартаю ўважна зжоўклыя лісты,
Чытаю-задыхаюся… Ці так
Чытаў калісьці ў тлуме інтэрната
Увесь жыццёвы розгалас драбніц?
. . . . . . . . . . . . . . . . .

Лісты, як прысак даўняга жыцця!
Усё не так! Яны — часцінка Часу,
Пазначанае літар беглай вяззю
Ягонае адзінае імгненне.

Гэта — не дакор сваёй маладой летуценнасці, гэта хутчэй за ўсё — маладыя ўрокі сталасці. Спрошчаны погляд на жыццё, які амаль усіх нас падсцерагае ў маладосці, не заўсёды бывае перашкодай у пошуку паэтычным. Інтуітыўная, падсвядомая разведка душы, вера ў магічнасць слова часта твораць сапраўдныя цуды адкрыцця. Гэта мы добра ведаем з вялікага вопыту яе вялікасці Паэзіі.

Недзе ў той самы час, калі адбывалася наша вышэй прыгаданае падарожжа ў Перавознікі, мы разам з М. Мятліцкім працавалі над календаром да 100-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. Зусім няпростая, мушу прызнацца, праца, калі ты бярэшся за яе па-сур’ёзнаму. Трэба было не толькі згадваць найбольш знакавыя даты з жыцця і творчасці песняроў, а і даваць ім сваю ацэнку, па-свойму перачытваць ужо вядомыя творы, шукаць і невядомыя факты з жыцця класікаў. Як патлумачылі нам выдаўцы, патрабаваўся нейкі сплаў храналагічнага і аналітычнага. М. Мятліцкі засяродзіўся на Купале, а мне больш спадручна было дакрануцца да біяграфіі свайго земляка Якуба Коласа. Думаю, не толькі мне, а нам абодвум той самы недзяжурны занятак шмат даў для разумення самага характэрнага ў творчасці паэтаўаднагодкаў, што збліжала і дзяліла іх. Гэта не павінна было нагадваць нейкае творчае даследаванне, тут патрабавалася самая даходлівая форма падачы матэрыялу.

Чаму я згадваю той даўні і ўжо забыты каляндар? А проста, каб даць зразумець чытачу, што ўжо і ў раннія гады сваёй творчасці М. Мятліцкі жыў не толькі адной паэзіяй, а звяртаўся яшчэ і да крытыкі, журналістыкі. Я з прыемнасцю чытаў, скажам, тыя нарысы, якія пісаў малады паэт, працуючы ў газеце «Літаратура і мастацтва». Згадваю яго шматлікія пераклады. Але пра іх крыху пазней.

Гэта былі гады маладыя, калі паэт шукае яшчэ сам сябе, прыглядаючыся да іншых. Калі ж аўтар пачынае выходзіць на магістральны шлях, усё лішняе, што не спрыяе яму ў мэтанакіраванай хадзе, ён, як правіла, адразу адкідае, а пакідае самае неабходнае. Гэта вынікае і са слоў самога паэта:

«…Маладосць і даецца, відаць, на тое, каб узнімацца на крылы. Таму неўзабаве адчуў, што праца ў газеце, журналістыка, няхай і не скарацечная лімаўская, — не маё. Хацелася напоўніцу скарыстаць набытыя філалагічныя веды. Напачатку 1983 года пачаў працаваць рэдактарам рэдакцыі крытыкі і літаратуразнаўства ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». Каля дваццаці гадоў аддаў самаму хвалюючаму працэсу — нараджэнню кнігі». Як гэта важна для паэта — адшукаць «сваё», што не будзе адцягваць ад галоўнага, а толькі спрыяць яму, думаю я сёння. Выдавецкае шчыраванне — якраз тое, што імпануе творцу, якім бы на самай справе яно ні было клопатным, бо ты заўсёды маеш справу з аўтарскім рукапісам, «чытаеш засяроджана, чуючы жывое творчае дыханне чалавека, які гады працы аддаў гэтым старонкам». Патрабуючы ад іншага, ты, як правіла, больш патрабавальным робішся і да сябе. А тым больш праца ў «крытычным цэху», яна абавязвае быць не толькі дазорным, але і ўзорным у сваім уласным пошуку.

Паэзія не існуе без пошуку, няма яе і без уласных знаходак. Паэты часта, як дзеці, радуюцца, калі адшукалася ўдалае слова, нечаканы вобраз, незвычайна яркая дэталь. І ўсё ж, як мне здаецца, самай найвышэйшай знаходкай, якая можа быць у паэта, — гэта ёсць сама праўда. Як жа без яе?! У часы, калі апошняе слова ў творчасці таго ці іншага аўтара належала цэнзуры, праўда часта канспіратыўна хавалася ў падтэкст. І калі ўдавалася сказаць тое, аб чым крычала душа, — гэта стварала гонар пісьменніку. Ну а слова чыстай праўды без падтэксту тады называлася смеласцю. Мы памятаем шмат прыкладаў тае смеласці і добра ведаем, як нялёгка было пасля яе самім творцам. Цярпелі ад гэтага і людзі з імёнамі. Мы яшчэ не забыліся, як няпроста праз сеткі цэнзуры прабіваліся вядомыя вершы Пімена Панчанкі, многіх маладзейшых нашых творцаў. Сёння, здаецца, усёмагут-

ная цэнзура не існуе. Але, на мой погляд, трывала-такі дае пра сябе знаць унутраная самацэнзура. Добра гэта ці дрэнна, пра тое ведае сам Час. Бо і заклікана паэзія мець справу толькі з ім, з Часам. У свеце і Часе заўсёды знойдуцца тыя, каму вельмі даспадобы ўзводзіць «платы маны», каб у самы зручны момант схавацца за іх. Таму і зразумелы нам кліч паэта, што гучыць у адным з яго вершаў:

За боль зямлі, за духу страты
Карчуй, народ, маны платы!

Тады, на пачатку васьмідзясятых, М. Мятліцкі і не падазраваў, што яго «галоўная тэма» неўзабаве вырасце ў тэму, больш балючую за якую цяжка і адшукаць у разнатэм'і нашага зямнога існавання. Тут нават сама мінулая вайна як быццам саступіла на іншы план. А жахі яе зусім не бокам абышлі пакаленне М. Мятліцкага. Вось радкі з яго біяграфіі: «Жывой і балеснай была ў маім Бабчыне памяць мінулай вайны. Яна жорстка кранулася лёсу і нашай сям'і. У Нямеччыну падлеткамі былі вывезены мае цётка Маня і бацька. Бацька вярнуўся, а Маня не вярнулася. І колькі бабуля Антося праліла слёз па дачцэ, якая страцілася за светам. (Потым праз гады цётка знайшлася, але ўжо не было ў жывых бабулі і дзеда). У вайну карнікі расстралялі сям'ю дзедавага брата Дзям'яна Мятліцкага. У партызанах быў сын Міша. На той момант, як бралі, дзед Яўхім якраз быў у іхняй хаце.

— А ваша фамілія?

— Кірчанка!

Дзеда Яўхіма адпусцілі. Ён за руку вывеў з хаты і шасцігадовую пляменніцу Полю. Але на двары не ўтрымаў дзіцячай рукі — вырвалася, да сваіх пабегла. Дзед не мог гэтага дараваць сабе ўсё астатняе жыццё. Успамінаў, перажываў — курыў. Не раз прыводзіў мяне, малога, на калгасны двор, да былых сілосных ям — на месца расстрэлу. Адсюль пасля вызвалення астанкі пастраляных вяскоўцаў перавезлі на могілкі, узвялі над брацкай магілай абеліск з зоркай. Ямы засыпалі, з зямлёй зраўнялі. А неўзабаве на гэтым месцы распачалі будаўніцтва. Дзед абурыўся публічна:

Ну вот, дожились мы — какой-то чиновник
На братской могиле поставил коровник.

Мабыць, ніхто з вяскоўцаў не данёс, куды трэба, дзеда не зачапілі. А потым ужо на франтоне нашай новай хаты з'явілася пяць чырвоных зорак — памяць пра сям'ю Дзям'яна Мятліцкага».

Жахлівыя прыгадкі толькі з аднае беларускае хаты… А калі перамножыць усё гэта на безліч родных хат?! Горка, сумна, цяжка… Унукі часта ў нечым паўтараюць сваіх дзядоў. Дзед М. Мятліцкага быў вядомы ў вёсцы тым, што амаль пра ўсё і ўсім гаварыў вершамі. Напэўна, тое перадалося і ўнуку.

Балесныя прывіды вайны зусім не зніклі перад тварам новай пагрозы, якая аднойчы нечакана навісла над лёсамі краіны. І тады, і цяпер адбылося ўсё знянацку, і ўсё перад самым раннем… Калі блізкі боль накладваецца слоем на боль далёкі (хоць які ён далёкі?!), тады цяжка шукаюцца словы суцяшэння і абязбольвання:

На хвілю светлую забудзешся,
Што край бацькоўскі у журбе,

Што пад пярэстымі аблокамі
Па жаркім цэзіі здаўна
Ступае ўзбудлівымі крокамі
Твая жахотніца-вайна.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Ізноў глядзіш душой здарожанай
На сцены сшэрхлыя жытла,
Як зграя хіжая варожая
Дыханне маці сцерагла.

І боль нясцерпны далеч мацае
Забеглых у Зарэчча дзён,
І ападае радыяцыя
Прад жахам, што з вайны відзён.

Сышлі Чарнобыля ахвярнікі
З былiннай прадзедаў зямлі.
Пустыя хаты. Быццам карнікі,
Рэнтгены вуліцай прайшлі.

Сумна ўпісваўся ў галоўную тэму Міколы Мятліцкага 1986 год. Ён раптоўна «ахвяраваў з радзімай развітанне».

Бабчын — вёска, якая паводле падання ўзнікла сярод балот яшчэ ў часы татара-мангольскіх набегаў, дзякуючы самаахвярнасці і жыццялюбству знямоглых, ацалелых жанчын (адсюль і назва), праз усю гісторыю дзяліла ўдовін лёс няшчасцяў і ліхалецця. Новая нечуваная бяда высяляла яе са сваіх хат, ложкаў, калысак: «27 верасня 1986 года Бабчын быў выселены. Якраз на святое Узвіжанне, рэлігійнае свята, якое адзначалася ў вёсцы штогод. У апошні час перад развітаннем бабчынцы вынеслі сталы проста на вуліцу, выпілі горкую чарчыну ростані і выцерлі слёзы. Апусцелі падворкі і хаты, схаваліся за высокай сцяной травастою. З гадамі вымахалі дрэвы і на самой вуліцы. Сягоння толькі вузкая чорная стужка асфальту прабіраецца ў зацені каля ледзь прыкметных хат. А цэнтр вёскі — жывы. Тут у былых памяшканнях магазінаў і двухпавярховых жылых дамоў асталяваліся навукоўцы з Палескага дзяржаўнага радыелагічна-экалагічнага запаведніка, працуюць вахтавым метадам, прыязджаючы нават з Мінска. Вясной на Радаўніцу з’язджаюцца ў вёску былыя яе жыхары — прыбіраюць магілы бацькоў і дзядоў, плачуць над імі не толькі па мёртвых, але і па жывых. Заглядаюць і ў свае хаты, і зноў плачуць у выстылых сценах. Ужо разумеюць — ніколі сюды не вернуцца. Многія з параскіданых па ўсім свеце аднавяскоўцаў пажадалі, каб іх пахавалі на бабчынскіх могілках. Як не штогод паяўляюцца тут свежыя надмагільныя груды. Дазіметр паказвае на іх радыяцыю ў дзясяткі разоў меншую».

Можна выселіць вёску з роднай часткі яе зямной плошчы, але нельга выселіць яе з сэрцаў саміх жыхароў. Мы не паспелі з паэтам выбрацца ў тую дарогу, да першага берага яго жыцця. І ўсё ж я ведаю яго малую радзіму — ведаю па яго паэзіі. Яна паўстае перада мною са сваімі лясамі і пералескамі, урочышчамі, дарогамі і сцяжынамі, са сваёй задумлівай Прыпяццю. Хаты і ўсё ля хат засталося там, у зоне адчужэння, а жыхары адсяляліся ў самыя розныя куточкі краіны, а яшчэ паэт адсяляў іх на старонкі сваіх паэтычных кніг. Вёскі бываюць падобныя адна на адну, але не бываюць падобнымі чалавечыя лёсы. Цэлая вёска лёсаў (а на Палессі вёскі памерамі не роўня нашым, пушчанскім. У нас хаты лічаць на дзясяткі, а тут — на сотні) паўстае перад намі з вершаў і паэм М. Мятліцкага, аднаго з тых, хто быў таксама жыхаром Бабчына. Быў і застаўся. Бо прапіска ў паэзіі тая ж самая, як і ў сэрца: ля роднага берага, у бацькоўскай хаце!.. Гэтай пажыццёвай прапіскі не можа пазбавіць нават сама бяда.

Радзіма чалавека там, дзе знайшлі вечны прытулак яго продкі. Там, на бабчынскім могільніку, пахаваны бацькі паэта. І ён па магчымасці наведваецца туды. Сумнымі бываюць такія адведзіны. Заўсёды — з болем у сэрцы, з пільнай перасцярогай урачоў. Могільнік у памерлай вёсцы — могільнік у самім могільніку. Якая трагічная таўталогія!.. Горка, сумна, балюча… Тут і сапраўды, бяду сваю, як і слязу, ведаеш на смак.

Здараюцца і іншага кшталту паездкі ў зону, усе яны хіба толькі больш дабаўляюць звыклага ўжо болю.

У 1999 годзе паэт наведаўся ў Бабчын разам з прадстаўнікамі дыпламатычных місій. І вось пры якіх уражаннях застаўся ад той паездкі: «Убачылі Бабчын — і жахнуліся. І справа не ў тым, што тут за 40 кюры на квадратны кіламетр. Калісьці ледзь не на чатырохстах падвор’ях ваўсю вiравала жыццё. Працавалі, кахалі,

спявалі песні, радаваліся кожнаму дню. Зараз пуста тут ды ціха, як на могілках. Не, хаты захаваліся. Калі здалёк падступаешся, здаецца, быццам і жывая вёска. А падыдзеш бліжэй — дэкарацыі для фільма жахаў — у быльнягах, вёска-здань!..» Цяжкі ком падступае да горла, калі чытаеш наступныя радкі паэта:

Садзілі соткі, стагавалі сена,
Спускалі дрэвы, карчавалі пні…
Адвеку аднастайна-неацэнна
У клопатах міналі вашы дні.

. . . . . . . . . . . . . .

І ўпершыню змарыліся ў бяссіллі,
Ачэзлыя яшчэ не па гадах.
І склаўшы рукі, многія спачылі,
Вярнуўшыся у Бабчын, на кладах.

Сёння дарога ў родны кут даецца няпроста. Яе трэба выпакутаваць.

А неяк паэт праехаў з групай сяброў і калег тым чарнобыльскім шляхам, і тады з’явілася кніга «Прайсці праз зону». Калектыўную кнігу дапоўнілі і творы іншых паэтаў пра вялікую трагедыю нашага часу. Услед за гэтай дзякуючы М. Мятліцкаму пабачыла свет і яшчэ адна кніга — «Чарнобыльская рана». Толькі на гэты раз — дакументальная. Тыя дакументы, як і вершы М. Мятліцкага, журбою аддаюцца ў сэрцы, змушаюць да глыбокага і трывожнага роздуму, бо там уся, хай і балючая, праўда пра чарнобыльскую бяду. А больш пераканаўчага, чым праўда, няма нічога ў свеце.

З няпростай ношай жыццёвага цяжару з берага адчаю прыйшоў Мікола Мятліцкі на другі бераг свайго наканавання, у тую самую хату над Віліяй:

О, колькі нечуванага цяпла
Ты, хата, мне над Віліяй дала,
Калі Чарнобыль дзверы хаты роднай
Перада мною зачыніў навек.
Я тут душой сагрэўся… Дровы сек,
Каб ты ў цяпле была заўжды лагоднай.

Сягоння, як прышэлец, я адзін.
Хвілінаў статак… Наступы гадзін…
А я між сцен душу спатольна грэю,
Адбіўшыся ад тлуму гарадскога.
Сюды вядзе збавенчая дарога,
Тут за жывых душою я хварэю.

Думаецца, не проста так сабе напісаліся гэтыя радкі, яны доўга ўзважваліся на шалях пакутлівага роздуму, а магчыма, і адчаю. І прачытання яны патрабуюць таксама роздумнага, непаспешлівага.

Сапраўды, у жыцці ніколі не ведаеш наперад, што пашле табе лёс, гэтым яно і цікавае, наша зямное існаванне. Гэтак і ў паэзіі: ніколі не ведаеш, як прамовіцца набалелае слова. Пасля пабачанага, перажытага яно абавязкова прамовіцца тым самым смуткам па страчаным і ўжо незваротным. Палескі смутак — асаблівы смутак. Зусім невыпадкова паэт гэтымі двума словамі назваў сваю кнігу. Гэтыя словы, магчыма, усплылі з душы, калі аўтар наведаў бабчынскія могілкі, дзе думкі заўсёды трацяць звычайны лад і набываюць асаблівую ўсхваляванасць і абвостранасць. Палескі смутак павернуты слёзнымі вачыма да ўсяго свету:

У свеце зла
Ступіў на першапутак
Палескі смутак,
Самы горкі смутак…

Заве зямля, астыглая наўсцяж,
Вярніся ў горы,

Хоць магілай ляж!
Я смерці шлях зваротны баслаўлю.
О, могілкі,
Няхай тут мякка спіцца.
Хоць прах агорне цэзіем зямліца,
Дзяды абралі родную зямлю
Бязбоязна —
У вечнасці з ёй зліцца!

Некалі ў маладосці я спрабаваў уявіць сабе франтавіка, які вяртаецца ў родныя мясціны, задумліва стаіць на папялішчы роднай хаты, выцірае на вачах горкую слязу. Так і ўяўляў, як чыталася гэта ў вершах саміх франтавікоў, з якімі быў нават знаёмы, браў нават чарку. Дзіўна, але яны і ў сумным умелі знаходзіць вясёлае. Напэўна, таго вымагала само жыццё, якое калісьці не шкадавала самых неверагодных выпрабаванняў чалавеку, а цяпер змушала забыцца на ўсё і радавацца таму, што наперадзе павінна быць усё інакш, так, як яны і планавалі ў свае маладыя гады. Бо за імі была перамога, імі здабытая. У гэтай жа бядзе пераможцаў не было, як не было і саміх баёў, наступленняў. Тут было толькі адно адступленне. Паэтычнага героя Міколы Мятліцкага нельга параўноўваць з франтавіком, які вярнуўся на папялішча і руіны бесхацінцам. Таму, абраніўшы і выцершы слязу, было ўсё зразумела: трэба пачынаць будаваць новы зруб, трэба звязаць новым вузлом парваную аднойчы нітку жыцця. Тут жа і парог, і хата як быццам цэлыя ды некранутыя, але ўсё яно назаўсёды чужое і смяротнае. Гэтыя снарады білі і траплялі адразу ў дзве мішэні: у сённяшняе і будучае нашага краю. І нам пра гэта варта не забывацца. Пра тое і папярэджвае нас паэт.

На другім беразе жыцця, у хаце над Віліяй яго цяпер лечыць удумлівая цішыня. На тым, першым беразе, была таксама свая цішыня, магчыма, больш чуйная, чым на гэтым, але сёння яна ў аблічча смерці, на гэтым жа, другім, — у вобразе жыццядайкі і лекаркі. Такія вось метамарфозы і нечаканасці новага часу!

Дарогі нашы бываюць цікавыя і тым, што яны могуць паўтарацца. Падзеі, радасці, шчаслівыя хвіліны і сустрэчы паўтараюцца рэдка, хоць у памяці чалавечай яны застаюцца. Паўтарылася і мая даўняя дарога на стромы бераг Віліі, але ўжо не было той лодкі без вёслаў, берагі ракі злучыў новы мост. Тады я прыйшоў працаваць у «Полымя» і неяк, згадваючы гады маладзейшыя, мы зноў узнавілі ў памяці далёкія прыгоды на экзатычным астравецкім беразе і дамовіліся паўтарыць пройдзенае. Праз дваццаць гадоў такім самым цёплым летнім вечарам мы зноў сядзелі ля вогнішча на тым самым беразе, прыслухоўваліся, як гамоніць на мове хваляў Вілія і, раз-пораз углядаючыся ў сінявую далечыню, згадвалі далёкае. На тым беразе, дзе я некалі пакідаў начаваць свае «Жыгулі», чырванеўся новым дахам нейкі будынак, мітусіліся якіясьці постаці, там было сваё жыццё. І нам туды не хацелася — мы хораша пачуваліся пры сваім вогнішчы. Нехта спускаў з берага лодку, ці не тую, нашу, без вёсел. «Хата за ракой», якая яшчэ два дзесяцігоддзі назад мела вакол сябе нейкае драўлянае суседства, зусім асірацела і цяпер выглядала сапраўднаю хутаранкаю на ўзбярэжжы. Цяпер гэта мясціна называлася памежжам, бо недзе там, за соснамі, Літва, суседняя і ўжо чужая краіна. Пра гэта нагадваюць і блізкія пагранічныя дазоры, якія пільна сочаць за тутэйшымі абсягамі. Маладыя сасонкі, якія ў першы наш прыезд выглядалі то цыбатымі, то прыземістымі, цяпер падраслі і сталіся больш цяністымі. А тыя, што ўжо мелі нейкія камлі, дабавілі новых гадавых кругоў, падраслі, памужнелі і замядзяніліся. Штосьці новае з'явілася і ў абрысах ляснога возера. Зялёны вянок верхавін, што абвівае яго блакітнае люстэрка, здаецца, паярчэў і стаўся больш гусцейшым. Падраслі і памажнелі ў ствалах і разбегі тутэйшых бяроз. Мы і зараз весела частаваліся ўжо закваснелым іх сокам, запіваючы нешта больш гарчэйшае і гарачэйшае, што прывезлі з сабой са сталіцы. А Вілія была ўсё тая ж, разгоністая, плыткая і загадкавая. Асабліва там, ля чужых берагоў.

Ужо звечарэла, і полымя лёгка высвечвала абрысы суседняй вёскі Быстрыцы, дахі дамоў і вострыя вежы тутэйшага касцёла. У сагане кіпела юшка з двух лінёў, якіх падаравала нам тое самае лясное возера, і мы ад сумнага пераходзілі да вясёлага. Мікола, як заўсёды, з досціпам расказваў пра блізкія і далёкія прыгоды свайго швагра, таго самага, што калісь на матацыкле заязджаў у сені. Цяпер ён на сваім «Запарожцы» завітаў з суседняй вёскі, дзе, як казаў, жыве ў паэтавай хаце. Паэт Станіслаў Валодзька, які, здаецца, назаўсёды атабарыўся ў суседняй Латвіі, прадаў бацькоўскую хату ў надзейныя зямляцкія рукі. Мы не пазналі адзін аднаго — час з’іначыў у тварах, пакрамсаў маршчынамі і мяне, і яго — але дужа смяяліся, прыгадваючы нашы даўнія лясныя прыгоды. Я, чалавек пушчанскі, таксама здатны на вандроўніцкія жарты і выхадкі. Згадвалі, смеючыся, як я пазнаёміўся калісьці з тутэйшымі леснікамі, якія ладзілі пляцоўку адпачынку пры самым беразе ляснога возера. Пакуль астатнія купаліся, абтупвалі нагамі залатое пясчанае азёрнае дно ды закідвалі вуды, я ўжо сядзеў пры агні ў гурце вясёлых мужчын і частаваўся з трохлітровіка тутэйшай аржаной моцы, маладыя леснікі запісвалі ў нейкія сшыткі вершаваны гумар з будучай кнігі эпіграм. Тады мы занадта доўга засядзеліся пры агні, падкідвалі ў яго бясконца новыя бярэмцы голля і ўсё ніяк не маглі развітацца. Падзейнічала на хлопцаў, напэўна, і маё шчырае прызнанне, што я і сам некалі марыў падацца ў леснікі, бо вырас і нарадзіўся ў пушчы і многія сваякі мае даўно носяць леснікоўскія кукарды. На развітанне мы пасядзелі на свежых з добрым смольным водарам лаўках, якія змайстравалі леснікі, і неахвотна разышліся, бо ўжо вечарэла.

Усё тое мы згадвалі таксама пры вогнішчы, але ўжо на другім рачным беразе бліз хаты. Дровы гарэлі хутка, гэтаксама незаўважна бег час, а вуголле то цемнавата дымілася, то пры подыху ветрыка-свежака ўспыхвала чырванаватым гарачым ашчэрам, схіляла да ўспамінаў, да ціхага роздуму. І тады мне падумалася, што Перавознікі — гэта не толькі лёсавая, а і паэтычная знаходка Міколы Мятліцкага. Яны і сапраўды падаравалі паэту не адну кнігу. Тады я забыўся, а мо і не адважыўся сказаць яму пра гэта. І вось якраз да нагоды яно прыгадалася. І ягоным жа вершам адразу і сцвердзілася:

Трыццаць плыткіх гадоў — з іх чарнобыльскіх дваццаць —
Ўжо на беразе гэтым пражыта і мной.
Стрэчай новаю жыць, а пасля расставацца,
Каб вяртацца сюды зноў дарогай лясной.

Супакою душа тут ніколі не чула,
У палоне дзівоснай надрэчнай красы
Узлятала, як птах; рэхам гулкім вярнула
Мне памерлае вёскі маёй галасы.

Тут прыдбаў я куток — пажыццёва адзіны,
Пераżыўшы другога трагічную смерць,
Каб пад небам святліста гаючым Радзімы
Шмат падумаць аб чым і чаго зразумець.

Ёсць, вядома, паэту «шмат падумаць аб чым і чаго зразумець». Думае ён перш за ўсё пра лёс нашчадкаў, пра нашу будучыню, думкі перарастаюць у трывогу за тое, каб зямля наша, якую мы часта называем калыскай, па нашай жа нядбайнасці не ператварылася ў прысак. Не такая ўжо і неабсяжная яна, наша Айкумена. Бо нават і ў адным малым яе закутку, як бачым, свет часта дзеліцца на два супрацьлеглыя берагі — бераг жыцця і бераг смерці. Людзі могуць папраўляць штосьці ў часе і самі папраўляцца ў ім. Толькі заўсёды трэба быць асцярожным у дачыненнях з прамаці нашай Прыродай. Які б нясцерп перамагчы яе «міласць» ні даймаў нас, трэба ў першую чаргу навучыцца перамагаць сябе. Тое, што акаляе нас, — стварэнне боскае, а значыць і непарушнае. Пра гэта чалавек мусіць памятаць ад нараджэння. А задача паэта — дапамагаць яму ў гэтым. Вернасць М. Мятліцкага сваёй «галоўнай тэме» змушае яго звяртацца да ўсяго чалавецтва з надта ўжо несуцяшальнай высновай:

На планеце, бы ў газавай камеры,
Задыхаемся болей і болей.
Свет атруцілі Божы ўсё ж самі мы,
Па сваёй жа расхрыстанай волі.

Мы капалі, палілі і пляжылі,
Скаланалі абсяг пудкім гулам.
Хто ж усцешнае слова хоць скажа нам,
Калі сыдзем у прошласць агулам?

Калі «ўсцешнага слова» не кажуць самі паэты, ці варта чакаць яго ад усіх астатніх?! Скептыкі могуць сцвярджаць, што нічога новага тут аўтар нам не адкрывае. Людзі даўно ведаюць пра свае памылкі і тут жа паўтараюць іх, насуперак паэтам і нават насуперак самой логіцы. Вядома ж, чалавеку ўласціва памыляцца. Але недаравальныя тыя памылкі, якія не могуць потым паправіць ні людзі, ні сам Час. Можа, праўдзівае слова паэта і ёсць тое пакаянне ад імя ўсіх перад сваімі нашчадкамі? Бо каму ж спавядацца, як не ім?! Сваю зямлю трэба найперш зберагчы ў самой душы, сцвярджае паэт. І мы з ім цалкам згодны.

На другім лёсавым беразе Мікола Мятліцкі пачувае сябе ў добрай гармоніі з роднай прыродай, у якой яшчэ шмат першароднага, а яшчэ ў добрым душэўным паразуменні з усім тым, што можа паэт адшукаць у кожным новым ранні, дні і вечары. Гэта не толькі захапляюча — хадзіць кожны раз аднымі і тымі ж сцяжынамі і адкрываць кожны раз новае, гэта яшчэ і ўзбагачэнне самой душы новымі паэтычнымі вобразамі ці пошук тых самых вобразаў праз свежыя ўражанні і назіранні.

Часам задумваешся, ці варта так ужо апантана імкнуцца ў тое самае замежжа, каб адкрываць ужо даўно адкрытыя амерыкі. Ніяк не магу пагадзіцца з думкай, згодна з якой, каб любіць свой родны край, трэба ў розных краях пабываць. Вакол нас жывуць тысячы людзей, якія не былі ніколі і нідзе ў іншых краях, апроч свайго. Няўжо яны менш ад іншых любяць родную Беларусь? І хіба няма за што яе любіць? Вунь колькі, і тут, і там, у адным толькі куточку сапраўднай прыгажосці і адкрыцця!.. Гэта ж бачна і з вершаў М. Мятліцкага. Здаецца, і наш паэтычны настаўнік прытрымліваўся таго правіла: няма чаго шастаць па заграніцах і чужых узбярэжжах, сваё трэба шукаць у сябе дома. Паэт, калі ён сапраўдны шукальнік, і шукаць павінен у межах Радзімы ды сэрца.

Што ж тычыцца творчага настаўніцтва, дык тут, калі паразважаць, таксама вымалёўваецца сама па сабе свая тэорыя. Ёсць настаўнікі, якія вучаць, а ёсць і тыя, у якіх вучацца. Хіба не прыклад для вучобы пачаткоўцаў той або іншы выдатны верш папярэдніка?! Дзясяткі творцаў вучыліся і будуць вучыцца на лепшых узорах радкоў Купалы, Коласа, Багдановіча, Панчанкі, Куляшова, Танка… Вялюгін належаў да тых, якія вучаць. Ён паказваў алоўкам на тое ці іншае слова ў радку, а потым хітраватым позіркам сачыў за тым, што ты будзеш з ім рабіць. Ён і паказваў і падказваў. Калі дамагаўся таго, чаго хацеў, і нават большага, тады быў задаволены. Іншага, старэйшага, мог бязлітасна крэсліць, «перелапачваць», ад маладзейшых патрабаваў самастойнасці. Але вучню нельга ўсё жыццё заставацца толькі вучнем. Патрэбен не толькі рост, трэба і сябе рыхтаваць у настаўнікі. Стары паэтычны заклік, кінуты калісьці рускім паэтам Я. Вінакуравым, «Художник! Научи ученика, чтоб было у кого потом учиться!..» надзённы і сёння. Гэта добра разумее і Мікола Мятліцкі. Узначаліўшы старэйшы літаратурны часопіс «Полымя», паэт па прыкладзе сваіх папярэднікаў шмат увагі аддае пошуку маладых талентаў. Вось і адно, і другое, і трэцяе імя мільганула на старонках паважанага выдання: Р. Малахоўскі, А. Бараноўскі… І яшчэ нехта. Невядома, ці апраўдаюць настаўніцкія спадзяванні маладыя вучні. Запытальна гляджу на час. Ён усё потым пакажа. Але намаганні варты таго, каб спадзявацца. Можа, ён прыйдзе, і ўжо ідзе той, хто скажа так, як ніхто яшчэ не казаў. Пачакаем…

Паэты часта параўноўвалі свае сталыя набыткі з багатым сялянскім жнівом. Сёння можна з упэўненасцю сцвярджаць, што творчы жнівень Міколы Мятліцкага надзвычай багаты. Уважыстую творчую ношу аўтара складаюць вядомыя кнігі «Палескі смутак» (1991), «Бабчын» (1996), адзначаная Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы, «Жыцця глыбінныя віры» (2001), «Замкнёны дом» (2005). А крыху пазней з'явіліся зборнікі «На беразе маім» і «Цяпло буслінага крыла». Гэтыя ўжо напісаны тут, на другім перавозніцкім беразе. Кожны набытак, як вядома, дае падставу разважаць і пра сакрэты майстэрства самога аўтара. Сама паэзія дае на ўзбраенне творцу цэлае багацце самых розных, напрацаваных за стагоддзі мастацкіх сродкаў і прыёмаў, але кожны выбірае сабе тыя, дзе ён адчувае сябе найбольш зручна і ўпэўнена. Аднак не кожнаму ўдаецца выпрацаваць сваю манеру, свой асабісты почырк, па якіх і пазнае яго заўсёды чытач.

У Міколы Мятліцкага свая, даўно адпрацаваная мадэль верша, у якім, як правіла, усё пачынаецца з нейкага ўражлівага малюнка прыроды. Дзесьці адразу ж прыроднае, маляўнічае асацыятыўна суадносіцца з нейкім фактам ці падзеяй, а ўсё завяршаецца нечакана падкрэсленай думкай, прычым думка часта вынікае ўжо з першых радкоў, хоць можа ўзнікнуць і нечакана як лагічнае падсумаванне нейкіх развагаў. Добры прыклад таго хаця б і гэты верш пра далёкае сяброўства («Рыжыкі») і пра страту сяброў. Верш, у якім шмат прыгадкавага і малюнкавага, завяршаецца наступнымі радкамі:

І будуць рыжыкі хвалёныя
Закускай слаўнай акурат.
Ды ўжо здаецца мне: салёныя
Яны ўсё больш ад нашых страт.

Гэта прыём, які ўжо напрацаваны гадамі. Але нельга лічыць яго нейкай застыглай формай, з якой аўтар даўно звыкся і не жадае ні на крок саступаць сабе самому. Не, ён у пастаянным пошуку. Ад верша да верша мяняецца нават інтанацыя, як таго патрабуе сама тэма ці першапрычына гаворкі. Невыпадкова ў лёгкую лірычную плынь час ад часу ўрываюцца і матывы мужнай і напорыстай публіцыстыкі. Таго, як правіла, патрабуе рух самога верша.

Паэзія, як вядома, — гэта вялікая магчымасць жывапісання словам. Уменне знаходзіць у звычайнасці слова яго незвычайныя адценні — вось што гарантуе мастаку поспех і робіць яго непадобным. Гэта добра разумее М. Мятліцкі, і таму ледзь не ў кожным яго вершы адчуваеш аўтарскую заклапочанасць наконт таго, каб патрэбнае слова высвечвалася самым нечаканым чынам, каб чытач звяртаў на яго ўвагу і каб яно запаміналася. Асабіста мне даспадобы яго: «паўнахатая вёска», «чысцюткая да блішчынкі», «грыбовішча», «верасовішча», «завалунелы», «санцажары», «скакун-абцас», «рассваволіцца» і г. д. Гэта далёка не ўсё, што выпісвалася па меры чытання. Паэт любіць уласныя словатворы і не цураецца каларытных забытых слоў, якіх так шмат у нашай мове, але якія яшчэ не сталіся фактам літаратурнага ўжытку. Тут мне бачыцца і добры ўрок свайго таленавітага земляка Івана Мележа, пра якога паэт аднойчы напіша разгорнутае эсэ «Мой Мележ» («Полымя», № 2, 2011). Дазволю сабе невялікую вытрымку з тае публікацыі, дзе гаворка ідзе пра сустрэчу маладога тады аўтара з прызнаным класікам: «— Адкуль? — пільна зірнуў Мележ. — З Бабчына! — усхвалявана выдыхнуў я. — Быў там! Там і лес ёсць, здаецца! — Мележ азарыўся лагоднай усмешкай. — А я з Глінішча, мо чуў?.. Пажадаў мне Іван Мележ працаваць у літаратуры сур'ёзна, па-паляшуцку настойліва. Колькі мне дорыць святла і сягоння водгалас гэтай нашай адзінай сапраўднай сустрэчы».

Працуе паэт і сапраўды, як пажадаў класік, сур'ёзна і настойліва. Вось тут хацелася б згадаць і добрую перакладчыцкую стараннасць М. Мятліцкага. Пачалося ўсё, здаецца, з верша Расула Гамзатава «Жаночая ноша», надрукаванага ў 1973 годзе. Паэт мне шмат распавядаў пра свае асабістыя стасункі з вялікім

паэтам Каўказа. Было ў тых прыгадках шмат вясёлага, нават дзівацкага. Паэты любяць дзівацтвы і прыгоды. Мікола Мятліцкі і сам ад прыроды не абдзелены гумарам, любіць вастраватае, нават афарыстычна-жартоўнае слова. У творчых сябрынах часта згадваюць яго трапныя гумарыстычныя экспромты часоў маладосці, кшталту гэтага: «Кожны п'е ў меру свайго таленту». Чуў, як двое спрачаліся: «Адкуль гэта ў яго — ад Гамзатава ці Вялюгіна?» Давялося паправіць калег: «Гэта ў яго ад Мятліцкага!»

Дарэмна многія думаюць, што гумар толькі прэрагатыва сатырыкаў і гумарыстаў. Я ведаў такіх лірыкаў, што ім у досціпе пазайздросціў бы самы каранаваны гумарыст. Але гэта ўжо іншая тэма. А мы ў сваёй гаворцы закранулі перакладчыцкую дзейнасць М. Мятліцкага. Перакладчыцкая ніва паэта выглядае зайздросна ўраджайнай. За чатыры дзесяцігоддзі перастворана столькі сусветнага класічнага і сучаснага багацця, што яго хапіла б на некалькі важкіх тамоў. Адзін пералік паэтычных імён, да якіх звяртаўся М. Мятліцкі, заняў бы не адну друкаваную старонку. Тут ужо варта весці гаворку пра паэтычны сусвет беларускага аўтара. Прэзентуючы кнігу ста кітайскіх паэтаў «Пад крыламі Дракона», паэт казаў: «Марыў з дзяцінства перасягнуць Вялікую Кітайскую сцяну, каб убачыць, чым жыве гэты народ, што ён даў чалавецтву ў культурным вымярэнні. Бярэш любую страфу кітайскага аўтара любога стагоддзя — быццам у пакой, азораны святлом, уваходзіш у гэтую прастору, якой няма на зямлі, але ёсць духоўна». Відаць, паэты-перакладчыкі і закліканы, хай не рушыць, але пераадольваць тыя сцены, якія шкодзяць узаемапаразуменню самых розных народаў і краін, аб'ядноўваць і лучыць іх калі не адной сям'ёй, дык адным разуменнем хараства, гармоніі, справядлівасці і праўды. Бо няма нічога больш дзейсна гуманістычнага, як паэтычная дыпламатыя. Ніхто не будзе аспрэчваць і тое, што пераклады для паэта — гэта і своеасаблівая школа паэтычнага майстэрства, узбагачэнне тым самым вопытам, які напрацавала і напрацоўвае паэзія ў межах сусветнага ахопу.

Паэты ўмеюць здзіўляць. Сёння я з прыемнасцю згадваю вечарыну ў музеі Якуба Коласа, куды нас М. Мятліцкі запрасіў на прачытанне сваёй паэмы, прысвечанай памяці сярэдняга сына песняра Юркі Міцкевіча. Надоўга засядзеліся мы тым вечарам у Коласавай хаце. Усхвалявана, а дзесьці і пафасна, з запалам, прамаўляў наш сябра радкі, якія даваліся яму, магчыма, не проста. Я сачыў за прысутнымі і бачыў па іх тварах, што твор іх, як кажуць, зачапіў. Я разумеў, як з'явілася паэма, хоць і не здагадваўся, што аўтар возьмецца за яе напісанне. У той час я працаваў у «Полымі» і мне выпала першаму прачытаць, а потым і рыхтаваць да друку ўспаміны Міхася Міцкевіча, малодшага сына Якуба Коласа, пра свайго брата. Трагічны лёс Юркі Міцкевіча, думаю, варты ўвагі і паэтаў, і даследчыкаў. Ужо тады я заўважыў, як загарэліся вочы М. Мятліцкага вялікай задумай. Але ж задум сваіх паэты амаль ніколі не агучваюць. Пакуль рэч не напісана, пакуль не пастаўлена апошняя кропка, для іншых яна не існуе. Тых, хто яшчэ не нарадзіўся, загадзя не хрысцяць.

Не кожны паэтычны твор, акрамя хіба публіцыстычнага, адразу ўспрымаецца на слых, тым больш у аўтарскім выкананні. Удумлівая паэзія патрабуе і ўдумлівага, а значыць, і непаспешлівага прачытання. Прысуд вечарыны быў адназначны: твор удаўся. Гэта потым пацвердзіла і публікацыя паэмы ў часопісе «Маладосць». Ухвальная сама па сабе і задума вынесці свой новы твор на суд сяброў. Некалі нашы старэйшыя калегі так і рабілі: усё толькі напісанае прачытвалася і абмяркоўвалася ў коле сяброў і ніхто ніколі не крыўдаваў на шчырую заўвагу сябра.

«Патрэбны глабальны зрух, каб вярнуць паэзіі правы. Каб з'явіўся на свет дужы, жывы верш!» — жадаў некалі А. Вялюгін. Хіба ж не надзённае і сёння тое пажаданне?! Зрухаў у жыцці, здаецца, хапае, а ў літаратуры іх штосьці не бачна. Можа, мала сёння ўвагі ёй, паэзіі? Баюся, што гэта так. Правы паэзіі трэба вяртаць. Гэта абавязак і саміх паэтаў.

…Была ў нас і яшчэ адна цікавая паездка ў Перавознікі. Калі памятаецца, значыць цікавая. Тады, у ліпені 2005-га, мы ўчатырох — ён, Мікола Мятліцкі,

Уладзімір Саламаха, ды Уладзімір Марук, ды я, грэшны, наведалі радзіму Максіма Танка. Пакланіліся магіле паэта, заехалі ў Пількаўшчыну, сустрэліся з братам паэта Фёдарам Іванавічам Скурко. Але адна дарога заўсёды кліча за сабой дарогу іншую. Падумалі-падумалі мы, ды завярнулі на Нарач, у Мікольцы, да майго сябра паэта Міколы Маскевіча, схілілі галовы на могільніку пад бярозамі, дзе пахаваны наш сябра пісьменнік і мастак Адольф Варановіч. А ўжо надвячоркам кіраваліся туды, у Перавознікі. Балазе мой сябра паклаў нам у багажнік нарачанскай рыбы, і ўжо недзе перад самым заходам сонца на знаёмым беразе Віліі палаў агонь і ў сагане варылася юшка. Загаманіліся мы тады ля той юшкі, прасядзелі да сярэдзіны ночы. Калі ўжо зусім даняў вастраваты рачны свяжак, пачалі збірацца на сон. Мікола, як гаспадар, падаўся пад кросны ў хату, У. Саламаха па звычцы ўладкаваўся ў сваёй машыне, а мы з У. Маруком знайшлі прытулак у гумне на сене. Ноч была здаровая, холад даставаў і на сене, давялося падымацца і будзіць кіроўцу — у таго ў багажніку меўся нейкі дарожны сугрэў. Тады з той дарогі мы прывезлі цэлую паласу ўражанняў для «ЛіМа». Ды было яшчэ адно, пра што хацелася б згадаць сёння.

Вяртаючыся ў Мінск, мы заехалі ў Крэва. Крыху паблудзіўшы па старых вулках, выехалі да муроў старажытнага замка. З руін яго аддавала нейкай вусцішнасцю, нязвыклаю здавалася сама цішыня, якую боязна было парушаць. Рэзала вочы крывяністая чырвань старой цэглы. Веяла нечым далёкім, страчаным, але не забытым. Я назіраў за тварам М. Мятліцкага, на ім прачытвалася нейкая ўзрушаная засяроджанасць. Напэўна, дзесьці на душы былі тыя самыя адчуванні, якія маглі б быць і там, у роднай прычарнобыльскай вёсцы. Мы шукалі, выкалупвалі са сцен нейкія аскепкі цэглы, каб потым узнаўляць у памяці падзеі далёкіх часоў, а ён, паэт, вяртаў нас у гісторыю, распавядаў пра падзеі даўно мінулых дзён так узрушана, быццам сам быў іх непасрэдным удзельнікам. Тая дарога нібыта звязала далёкія і блізкія часы, бо на ёй хораша, светла і трывожліва думалася і пра нашу мінуўшчыну, наш дзень сённяшні і будучы таксама. Такія думкі мне заўсёды прачытваліся і ў самой творчасці Міколы Мятліцкага.

Разгаманіліся нечакана пра грыбы (як жа без гэтага?!). І я згадаў, як у снежні 1983 года мы ўшаноўвалі маладым гуртам шасцідзесяцігоддзе нашага слыннага настаўніка Анатоля Вялюгіна на яго кватэры па вуліцы Купалы, «пад каскай пажарніка», як называў класік дах цырка, што высвечваўся ў ягоным акне. Самым запамінальным на той вечарыне было віншаванне Міколы Мятліцкага. Ён нечакана падняўся і ахінуў шыю юбіляра вянком з 60 маладых сушаных палескіх баравічкоў. Капнула і пацякла па вяночку сляза расчулення. Тое мог прыдумаць толькі паэт.

Сёння і яму столькі ж, колькі было тады нашаму настаўніку. Палескі бор, на жаль, не падорыць яму вяночка з 60 баравікоў. Можа, гэта здзейсніць той іншы бор над Віліяй? Магчыма, на святочным стале паэта будуць і рыжыкі, падобныя на тыя, што калісьці вёдрамі прывозіў у Мінск і частаваў нашых вядомых пісьменнікаў. А што тычыцца саміх дарог, пра якія давялося тут згадваць і якіх шмат засталося «за кадрам», дык яны змушаюць згадаць нядаўнія радкі паэта:

Пагукай іх з беззваротнасці,
Узышоўшы на грудок,
І пачуеш зыкі роднасці
Ты, сягонняшні хадок.

А Мікола Мятліцкі ў нашай літаратуры паэт адметны. Прамаўляць ён звыкся толькі сваім голасам. Набытак яго ў нашай літаратуры, як мы ўжо адзначалі, даволі важкі. Ужо шмат гадоў узначальваючы часопіс «Полымя», паэт шмат увагі аддае сённяшняму стану нашай літаратуры. Рэдакцыя часопіса працуе ў добрым сяброўстве з вучонымі нашай краіны. Шматлікія «круглыя сталы», дыскусіі, ініцыятарам якіх з’яўляецца сам паэт, даюць свой плён, маюць добры розгалас. З добрай жыццёвай ношай ды ў добрай хадзе хай і надалей працягваецца творчая сцяжына паэта!

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# ТОЙ ЛЕЙТЭНАНТ МАЛАДЗЕНЬКІ...

*Нямала ў нашага цудоўнейшага паэта Аляксея Пысіна вершаў, але ў памяці маёй часта ўсплывае гэты:*

*Сцяжынкі лясныя стаптаны да дзір,*
*Сышлі ўжо грузды і апенькі.*
*Сустрэча з дубамі:*
*— Вунь дзед-брыгадзір.*
*А той —*
*лейтэнант маладзенькі.*
*Яшчэ ты кагосьці ўявіў і спазнаў*
*У дрэве з густымі брывамі.*
*Дняпроўская пушча з траншэй і канаў*
*Паўстала*
*братамі,*
*сябрамі.*
*Ўзнялася з трывожных узвеяных сноў,*
*Пад небам калыша балады.*
*Праходзіш нябачна світаннямі зноў*
*Праз маршы,*
*атакі,*
*блакады...*
*Зазімкам сняжыначка ўпала на след,*
*Цікуе вавёрачка з елкі...*
*Атлантамі ў неба —*
*задумлівы дзед,*
*І ты, — лейтэнант маладзенькі.*

*Прыгадваю яго тады, калі ўспамінаю Аляксандра Капусціна. Гэта яму, сваему сябру, калі адзначалася яго 60-годдзе, Аляксей Васільевіч прысвяціў гэты верш, што быў змешчаны ў жлобінскай раённай газеце. Месца менавіта такой першай публікацыі было ўзята невыпадкова: А. Капусцін нарадзіўся 12 лютага 1924 года ў вёсцы Старая Рудня Жлобінскага раёна. Землякі вельмі шанавалі А. Капусціна, а ў 1983 годзе прысвоілі яму званне ганаровага грамадзяніна горада Жлобіна.*

*Аляксандр Пятровіч на ўвагу адказваў увагай. З задавальненнем пісаў пра сваіх знакамітых землякоў, у тым ліку і пра тых, хто быў не толькі нашым сучаснікам, а і жыў раней. З гэткім жа задавальненнем і наведваўся да іх. Нярэдка не толькі сам прыязджаў, а і запрашаў з сабой і сяброў-пісьменнікаў. Асабліва тады, калі адзначаў які-небудзь свой чарговы юбілей. У адной з такіх паездак пашчасціла ўдзельнічаць і мне. Тады адзначалася, здаецца, ягонае 70-годдзе. Выглядаў А. Капусцін не па гадах маладым, жыццярадасным. Калі б не ведаў пра яго ўзрост, то цяжка было б паверыць, што Аляксандр Пятровіч на той час ужо дасягнуў такога, больш чым сталага ўзросту. Дый нямала пераcжыў. Выступаў хораша, а гэта рабіць ён таксама ўмеў. Гаварыў шчыра — што ж, адкрытасць, даверлівасць яшчэ адна рыса ягонага характару. Але нямала сведчыць тое, што напісана ім. Гэта і не дзіўна.*

## Памяць не маўчала

У кожнага пісьменніка ёсць творы, якія шмат гавораць і пра яго самога, дый пра людзей, з якімі ён сустракаўся, і пра тое, як адбывалася фарміраванне ягонага характару, як праходзіў ён сваімі дарогамі — падчас няпростымі, складанымі, а можа, у чымсьці і супярэчлівымі. Нямала такіх твораў і ў А. Капусціна. Найперш тых, што ўзнаўляюць падзеі Вялікай Айчыннай вайны — дзейнасць падпольшчыкаў, народных мсціўцаў, франтавыя будні ўчарашніх бязвусых юнакоў, якія адразу пасля вызвалення родных мясцін ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў уліліся (многія добраахвотна, не чакаючы прызыву) у рады дзеючай арміі. Канечне, у гэтых творах нямала народжанага аўтарскай фантазіяй, тыпізаванага, але на першы план усё ж выходзіць уласна перажытае, выпакутаванае.

Як, напрыклад, у апавяданні «Дождж». На карысць падобнага меркавання сведчыць ужо нават тое, што галоўнага героя завуць Алесь. Алесь і яго сяброўка Тоня паказаны ў час чарговай баявой аперацыі. Хоць, магчыма, «баявая аперацыя» сказана і загучна, але ж гаворка ідзе праз сямнаццаці-васямнаццацігадовых падлеткаў, якія ўжо неаднойчы «салілі» фашыстам. Гэтым жаданнем яны прасякнуты і цяпер: «У той раз яны паехалі пад Хальч — невялікую лясную станцыю на перагоне Жлобін—Гомель. Зноў «сваволіць» непадалёку ад ад сваёй вёскі нельга было. Гэта навяло б немцаў на думку, што дыверсантаў трэба шукаць тут, у Старой Рудні. А так — можа, у Хальчы яны жывуць, можа, далей, у Калыбаўцы ці Антонаўцы… Шукай у полі ветру».

Пісьменнік праўдзіва раскрывае ўнутраны свет маладых людзей, якія з рызыкай для свайго жыцця змагаюцца з ворагам, дакладна схоплівае і перадае іх душэўныя перажыванні. Не абыходзіць увагай ён і некаторыя сумненні юных герояў. Усё ж не на прагулку накіраваліся яны, а дзеля таго, каб помсціць ворагам. У такіх жа абставінах вайны кожны неасцярожны крок можа каштаваць жыцця. Таму такі абачлівы Алесь. Нямала пра яго гаворыць і тое, што якраз цяпер, у такі адказны момант ён па-сапраўднаму ўсведамляе сябе мужчынам, які задумваецца ўжо не толькі над уласнымі ўчынкамі і дзеяннямі, а і клапоціцца пра лёс іншага чалавека — хоць і смелай, але, па сутнасці, такой безабароннай (і перад самімі абставінамі, і перад лютасцю і недарэчнасцю вайны) дзяўчыны. Да таго ж у адносінах да Тоні ў Алеся яшчэ ў школьныя гады з’явілася першае, такое нясмелае, можа нават кволае каханне і разам з тым — яно шчырае, непасрэднае.

Наступае момант, калі здаецца, што небяспека, прынамсі, на гэты час, мінулася: «Немцы кіраваліся да Хальча. Агледзелі ўчастак і вярталіся на пост. Калі яны адышлі, Алесь кінуўся да падводы. Пад нагамі трэснуў сук, але гэта для яго ўжо не мела ніякага значэння — далёка, не пачуюць. Бег ён лёгка, быццам не дакранаўся зямлі, а ляцеў у паветры. Здаля махнуў Тоні рукой: «Хутчэй!» Цяпер неабходна як мага хутчэй зрабіць самае галоўнае, дзеля чаго, уласна кажучы, і ехалі за колькі вёрст, каб далей ад роднай вёскі паваліць як мага болей тэлеграфных слупоў: «Пілавалі яны хутка. Тонка звінела сталь, іржавае пілавінне пругка пырскала пад ногі. Пабычыўшы, што слуп ужо ледзь ліпіць, выхапілі пілу, перабеглі да другога. Потым да трэцяга, да чацвёртага, да пятага… Спыніцца б, перадыхнуць… Не, трэба хутчэй, хутчэй…»

Увачавідкі ўспрымаеш гэтае імгненне рызыкі, адвагі і адказнасці. Такое не прыдумаеш. Падобнае неабходна самому перажыць, адчуць душой, сэрцам. Да трапяткога болю ў ім, да парывістага дыхання, калі і радасць (удалося тое, што задумалася), і трывога (вось-вось гатовы з’явіцца немцы) зліваюцца разам. Спрацоўвае ўжо не толькі талент пісьменніка, а і сваю работу «выконвае» памяць. Яна ўзнаўляе колішняе, адбіраючы найбольш важнае, істотнае, асобныя эпізоды з дзясяткаў, дачыненне да якіх меў сам аўтар апавядання ў час барацьбы з нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

## Сябар сябру давярае

Пачалася ж гэтая барацьба для А. Капусціна ў чэрвені 1942 года, калі ён арганізаваў у сваёй роднай вёсцы камсамольска-маладзёжную падпольную групу. Аднадумцаў знайшоў сярод колішніх школьных сяброў, з якімі перад вайной вучыўся ў Жлобінскай дзесяцігодцы. Падштурхнула да таго, што нельга далей сядзець склаўшы рукі, ягоная старэйшая сястра Вера. Вось што ўспамінаў ён пра гэта ў сваім нарысе «Нас вадзіла маладосць…»:

«Аднойчы мы … капалі на гародзе бульбу. Яна (Вера. — **А. М.**), увогуле не замкнутая дзяўчына, на той час усё маўчала. Напоўніўшы сваё вядро, разагнулася, тыльным бокам далоні адкінула з ілба пасму валасоў, уважліва паглядзела на мяне.

— Не, братка, не быць на нашай зямлі фашыстам, не быць, — сказала нейкім пагрубелым, нібы не сваім (а голас у яе быў звонкі, спеўны) голасам».

Пасля, калі з сябрамі Мішам Таўсцялёвым, Юркам Хількевічам праходзіў міма бярозавага крыжа, пастаўленага гітлераўцамі на магіле забітага іхняга салдата, А. Капусцін не прамінуў недвухсэнсоўна заўважыць: «Прыгожы крыж, але яму чагосьці не хапае». Не здагадваўся, што Міша і Юра гэтыя ягоныя словы ўспрымуць заклікам да канкрэтнага дзеяння. Неўзабаве хлопцы павесілі на крыж дошку, на якой дзёгцем напісалі, што ўсіх ворагаў чакае гэткая ж бясслаўная смерць.

Само сабой у А. Капусціна ўзнікла думка аб стварэнні падпольнай групы. Тым больш, што сякі-такі арганізатарскі вопыт ён меў: калі вучыўся ў школе, з'яўляўся сакратаром камсамольскай арганізацыі, а ў першыя дні вайны ў вёсцы ўзначальваў групу народнага апалчэння.

Позні́м вечарам сябры сабраліся на яго кватэры. Юрка, Міша і яшчэ адзін сябрук Сяргей. Вырашылі даць клятву на змаганне з ворагам, а тэкст яе аднагалосна даручылі напісаць самому ініцыятару. Калі тэкст быў гатовы, па прапанове А. Капусціна, хлопцы, прамаўляючы яго, левую руку паклалі на разасланую на стале чырвоную хусцінку, якую яго сястра перад самай вайной купіла ў Жлобіне. Недзе праз два тыдні ў групу залічылі Веру і Тоню Войстрыкаву. Яны таксама прынялі прысягу.

Ніхто з іх і не ведаў тады, колькі давядзецца кожнаму пражыць. Сяргей, ужо ў партызанскім атрадзе, прастудзіўся і памёр. Юрка загінуў на фронце. Недарэчна пайшла з жыцця Тоня Войстрыкава. Яна пачала агітаваць у групу сябровак і стала паказваць ім, як абыходзіцца з пісталетам. Рабіла гэта неасцярожна, таму прагучаў стрэл. Баючыся, што гітлераўцы расстраляюць маці (чутка пра гэта пайшла па вёсцы), а таксама непакоячыся аб правале падпольнай групы, дзяўчына скончыла жыццё самагубствам, выстраліўшы з таго ж пісталета сабе ў скронь.

Пасля прыняцця прысягі разыходзіліся па адным, каб не падгледзела іх хіжае вока, каб злы чалавек ні пра што не даведаўся. І як ні цяжка было гэта рабіць, стрымлівалі радасць. Яшчэ б! Усіх іх аб'ядноўвала адна, няхай і не такая вялікая, але гэткая важная тайна. Не адкладваючы надоўга, узяліся за справу. Напачатку трэба было распаўсюдзіць як мага болей лістовак, каб расказаць людзям праўду пра тое, што дзеецца ў ваенным тыле і на далёкім фронце. Найчасцей тэксты лістовак складаў сам А. Капусцін, а перапісвалі потым іх ягоныя сябры. Рабілі гэта ноччу, пры свечках, загадзя завесіўшы вокны коўдрамі, каб ніхто нічога не бачыў, альбо, схаваўшыся дзе-небудзь, днём. І левай рукой спрабавалі пісаць, і друкаванымі літарамі.

Калі ж надараліся вольныя хвіліны, А. Капусцін любіў пабыць сам-насам. Ішоў за ваколіцу, туды, дзе далёка наперадзе неба быццам злівалася з зямлёй, ператвараючыся ў нешта цэласнае, адзінае, непарыўна звязанае. Далеч клікала, вабіла да сябе. Але адначасова прымушала і супыніцца. Палюбавацца хараством наваколля, сабрацца з думкамі. Нязменна ў такія моманты прысутнічала адна і тая ж: «Калі закончыцца гэтая ненавісная вайна і зноў можна будзе жыць спакойна, мірна». Але былі і іншыя думкі. Мройныя, што вярталі назад. І ў даваеннае юнацтва, і яшчэ далей — у маленства.

## Сяргей Ясенін і савецкія … селекцыянеры

Не памятаў ужо дакладна, у якім узросце, хутчэй за ўсё яшчэ ў малодшых класах, упершыню адкрыў для сябе непаўторнасць паэзіі Паўлюка Труса. Неяк познім вечарам прыйшоў з хаты-чытальні бацька, трымаючы ў руках невялічкую кніжачку.

— Во, добра, вершы Паўлюка Труса! — сказала маці.

Яна на той час займалася на курсах лікбезу, таму адразу папрасіла:

— Прачытай, калі ласка што-небудзь!

Саша таксама з нецярпеннем дадаў:

— Пачытай, татка, пачытай!

Яго, відаць, больш зацікавіла прозвішча паэта — нейкае нязвыклае і разам з тым такое простае. Наскае… А вершы адразу запаланілі шчырасцю, лірычнасцю. Радкі клаліся лёгка і хутка, адразу запаміналіся. З той часіны і нарадзілася ў А. Капусціна любоў да паэзіі П. Труса. Нездарма аўтабіяграфічныя нататкі «У свеце цудоўным і трывожным» ён пачаў менавіта з гэтага прызнання: «Як цудоўная казка, як дзіўны свет чароўных слоў увайшло ў маю дзіцячую душу: «Падаюць сняжынкі — дыяменты-росы, падаюць бялюткі за маім акном…»

Пасля была паэзія Аляксандра Пушкіна. Зноў красамоўнае прызнанне: «Памятаю, той зімой так незвычайна салодка ўзрушыла мяне і пушкінскае: «У лукоморья дуб зеленый, златая цепь на дубе том…» А потым «прыйшоў» да А. Капусціна Сяргей Ясенін. «Прыйшоў» ён да яго, як і да многіх прадстаўнікоў ягонага пакалення (ды хіба толькі ягонага, апальным паэтам ён з’яўляўся недзе ажно да сярэдзіны пяцідзясятых гадоў мінулага стагоддзя, дый тады не надта ахвотна трапляў у выдавецкія планы) забаронены.

Спачатку з вершамі С. Ясеніна яго пазнаёміў аднафамілец Мікола Капусцін, які ўжо вучыўся на рабфаку ў Мінску і на канікулы нязменна завітваў у родную вёску. Аднойчы ў коле вясковых хлопцаў і дзяўчат, сярод якіх былі і школьнікі, ён прадэкламаваў некалькі вершаў С. Ясеніна. Творы ўразілі многіх, у тым ліку і А. Капусціна. Іншай думкі прытрымліваўся сакратар камсамольскай ячэйкі Міхась Кузьмін. Дзейнічаў ён хутка, як гэта і рабілася ў трыццатыя гады. Назаўтра сабраў камсамольцаў у адным з пакояў сельсавета. А. Капусціну даручыў знайсці Міколу і таксама запрасіць яго.

Мікола ахвотна згадзіўся. І не толькі прыйшоў, але і гэтым разам прадэкламаваў С. Ясеніна. Калі М. Кузьмін пачуў: «Я теперь скупее стал в желаньях. Жизнь моя, иль ты приснилась мне? Словно я весенней гулкой ранью проскакал на розовом коне», не прамінуў кінуць: «Упадніцкія настроі! Песімізм».

Цяжка сказаць, як бы разгортваліся падзеі далей, калі б непрыкметна ў пакой не зайшоў старшыня калгаса Войстрыкаў. Ён аказаўся чалавекам разумным, а да ўсяго належаў да тых, хто разбіраўся ў сапраўднай паэзіі. Папрасіў яшчэ раз прачытаць урывак, які яму спадабаўся, а пасля прадэкламаваў на памяць: «Словно я весенней гулкой ранью проскакал на розовом коне» і дадаў: «Здорава!». На запытанне М. Кузьміна, а хіба бываюць ружовыя коні, жартам адказаў: «Могуць быць, савецкія селекцыянеры, калі спатрэбіцца, і такіх выведуць!»

Магчыма, і забыўся б гэты выпадак А. Капусціну, калі б пасля і сам ён ні далучыўся б душой да паэзіі С. Ясеніна. Адразу і назаўсёды. Не стрымаўся, падтакнуў Войстрыкаву: «Ага, здорава!» А пасля знаёмства з творчасцю П. Труса, А. Пушкіна, С. Ясеніна прыйшло і жаданне самому паспрабаваць пісаць вершы. У той жа аўтабіяграфіі чытаем: «Неўпрыкмет у маім вучнёўскім сшытку пачалі з’яўляцца свае рыфмаваныя радкі. Былі яны пра зіму і лета, пра піянерскі гальштук і варанога даўгагрывага каня».

Паэзія паэзіяй, але знаходзіў жаданне і час, каб паспяхова займацца па ўсіх прадметах — і гуманітарных, і дакладных. Ягоныя старанне і поспехі не засталіся незаўважанымі. Летам 1940 года па рашэнні Гомельскага абласнога аддзела народнай адукацыі жлобінскі школьнік А. Капусцін быў уключаны ў вучнёўскую

групу экскурсантаў, якая накіроўвалася на Усесаюзную сельскагаспадарчую выстаўку ў Маскву. Паездка, безумоўна, цікавая, а калі ўлічыць, што А. Капусцін быў адзіным прадстаўніком Жлобінскага раёна, то і ганаровая. Не мог, канечне, і думаць-гадаць, што неўзабаве давядзецца развітацца з паэзіяй.

## Пераадольванне… самога сябе

Не сказаць, праўда, каб перадваенныя жлобінскія падлеткі, не адчувалі трывожнай атмасферы, што панавала на той час у краіне і нагадвала сабой пераднавальнічную. Але адна справа пра нешта здагадвацца, і зусім іншая на самай справе сутыкнуцца з суровай рэальнасцю. З ёю неабходна было звыкнуцца, успрымаць яе, як тое незваротнае, без чаго не абысціся.

Дарэчы, пра гэтыя свайго роду ўваходзіны ў вайну А. Капусцін праўдзіва расказаў у апавяданні «Бомба». Яно напісана ад першай асобы, больш за тое, героя-апавядальніка завуць Алесь, таму не даводзіцца сумнявацца ў пэўнай дакументальнасці асновы. Падзеі ж адбываюцца ліпеньскім ранкам сорак першага года, калі нечакана з’явіліся ў небе фашысцкія самалёты, якія «неспадзявана… развярнуліся над вёскай (Старой Рудняй. — **А. М.**), узялі кірунак на чыгунку, па якой у бок Жлобіна ішоў цягнік. Выстраіліся ланцугом, і з іх пасыпаліся бомбы».

Убачанае каго хочаш пазбавіць спакою, а тут жа юнак, нядаўні школьнік: «Ніколі ў жыцці не даводзілася мне адчуваць такога жаху, як тады: падалося, што бомбы ляцяць якраз на нашу хату. Гэта ж сыплецца мая смерць!.. Не памятаючы сябе, я кінуўся за плот, стаў шыцца ў лоўж з калючага галля сухой грушы, якую мы з сястрой спілавалі надоечы, шыўся, быццам мог там уратавацца».

Са здранцвення Алеся вывеў сябрук Сяргей Аскерка: «Вылазь ужо са свайго бамбасховішча…» Хлопцы накіраваліся туды, да пшанічнага палетка, дзе падалі бомбы, не пацэліўшы ў цягнік. Нечакана яны ўбачылі адну з іх, якая не разарвалася:

— Мо яна незараджаная? — сказаў я ў роздуме.

— Выдумляй… Што яна табе — стрэльба дзядзькі Сідара, з якой ён калгасны сад вартаваў.

— Ды ты паслухай… Нямецкія рабочыя, што з антыфашыстаў, замест толу ў бомбы сыплюць пілавінне. Зразумеў? І яшчэ запіскі розныя туды кладуць».

Цікаўнасць узяла верх над небяспекай, і Сяргей асмеліўся разабраць бомбу. Хіба ж думаецца пра небяспеку ў такім узросце, асабліва, калі хочаш упэўніцца ў пацвярджэнні правільнасці сваіх меркаванняў?! Аднак, як і трэба было чакаць, бомба была самая што ні ёсць сапраўдная. Не аказалася ў ёй ні пілавіння, ні запіскі ад нямецкіх рабочых, як таго хацелася сябрам. Больш за ўсё расчараваўся Сяргей. У Алеся ж з’явіліся свае думкі: «Я пазіраў на яго і не мог зразумець, чаго больш было ў маёй душы: радасці, што смерць абмінула яго, ці болю ад таго, што не спраўдзілася такая жаданая надзея».

Апошні эпізод у апавяданні нясе найбольш значную сэнсавую нагрузку. У ім, як у фокусе, бачацца падлеткі саракавых гадоў — з іх непадрыхтаванасцю да вайны і з жаданнем пераканаць — найперш саміх сябе — вайна гэтая антычалавечная. Не могуць жа людзі добрай волі, дзе б яны ні жылі, у тым ліку і ў самой Германіі, змірыцца з ёй, пагадзіцца з насіллем. Калі многае не пацвердзілася ў сапраўднасці, гэтыя падлеткі, не чакаючы прызыўнога ўзросту, па загадзе сэрца, сумлення і ўзяліся за зброю.

## Калі смелы — страх мінае

Само ж ваеннае жыццё, а калі дакладней — баявое камсамольскае юнацтва неаднаразова сутыкала А. Капусціна з выпадкамі, якія самі па сабе маглі стаць сюжэтам захапляльных твораў. Хоць бы знаёмства з савецкім падпольшчыкам

Уладзімірам Капусціным, ягоным аднафамільцам. Той, не з'яўляючыся ні таварышам Сашы, ні ягоным сваяком, раптам пачаў часцяком наведвацца ў іхнюю хату. Пасядзіць, пагаворыць. Аднойчы прапанаваў пазнаёміцца з лістоўкай. А. Капусцін падумаў, ці не правакацыя гэта?

Толькі звычайная цікаўнасць ды жаданне даведацца, што робіцца на фронце, пераадолелі страх. Тым больш, што адразу ўбачыў напісаны вялікімі літарамі загаловак «Весткі з Савецкай Радзімы». «Але ж Уладзімір працуе дзяжурным па чыгунцы, значыць, служыць фашыстам?» — не давала спакою думка. Той, бадай, здагадваючыся, што на душы ў Алеся, прапанаваў: «Калі хочаш, перапішы…»

З таго моманту і пачалі з'яўляцца ў наваколлі лістоўкі, якія распаўсюджвалі члены падпольнай групы пад кіраўніцтвам А. Капусціна. Пасля вайны ён даведаўся, што працаваў разам з яшчэ адным разведчыкам, у якога была мянушка Арол. Той дзейнічаў на тэрыторыі Рагачоўскага раёна. У. Капусцін жа меў мянушку Воран. На Жлобіншчыне доўга многія думамі, што ён, палітрук Чырвонай Арміі, здрадзіў Радзіме і служыў немцам.

Маладосць ёсць маладосць. Надаралася, члены падпольнай групы дзейнічалі безаглядна, не думалі, чаго гэта будзе каштаваць і для іх саміх, дый для блізкіх ім людзей. Нездарма, азіраючыся на пройдзены шлях, А. Капусцін дзяліўся такімі развагамі: «Па юнацкай нявопытнасці, а часам і па легкадумнай саманадзейнасці мы, здаралася, дапускалі ўчынкі, якімі выкрывалі сябе. І ратавала нас толькі тое, што людзі не выдавалі: здагадваліся, бачылі, але маўчалі. Жылі ж мы сярод сваіх людзей, якія таксама ненавідзелі фашыстаў».

Адзін з падобных учынкаў… А. Капусцін з Мішам Таўсцялёвым паехаў на станцыю Салтанаўка, дзе яшчэ ў чэрвені сорак першага года згарэў склад сельпо. Вяскоўцы ведалі, што там засталася плаўленая, змешаная з зямлёй, соль і часта наведваліся туды. Набралі такой солі ў мяшок і Саша з Мішам, а яшчэ яны прыхапілі з сабой тармазны башмак, які валяўся побач. Хто-хто, а яны, якія выраслі каля чыгункі, добра ведалі, што пры дапамозе такога няхітрага прыстасавання, калі патрэбна, спыняюць рух цягніка. Значыць, калі башмак з'явіцца на рэйках там, дзе ніхто яго не чакае, крушэнне немінучае. Праз некалькі дзён задуму ажыццявілі. Паставілі тармазны башмак на адным з пуцей Жлобін—Гомель. Па дарозе назад трапілі пад дождж, таму вярнуліся дамоў не толькі змораныя, але і мокрыя.

Капусцін заснуў адразу, як бы праваліўся ў нейкую вялікую яміну. З абдымкаў сну яго вырваў голас фашысцкага паслугача, якога ўсе празвалі Гусачок, даўно забыўшы яго сапраўднае прозвішча. Той клікаў на чыгунку разбіраць завал — цягнік усё ж сышоў з рэек. Саша пачаў збірацца. Але тут Гусачок заўважыў яго мокры пінжак. Маці, адчуваючы, што бяды не абмінуць, хуценька растлумачыла:

— Гэта ж я пыл выбівала з пінжака, ды забылася яго ў хату забраць… Ноччу ж дождж пайшоў…

Такі адказ Гусачка як быццам задаволіў. Праўда, нездарма кажуць: адна бяда не ходзіць. Калі хлопцы, разбіраючы завал, сабраліся кінуць башмак — ён, як на тое ліха, ляжаў на самым бачным месцы — у яміну з вадой, перад імі, як з-пад зямлі, вырас … Гусачок.

З хвіліны атарапеласці ўсіх вывеў голас А. Капусціна. Адкуль і смеласць узялася?! А мо смеласць гэтую і падказала выключнасць становішча? Як у народзе кажуць: ці то пан, ці то прапаў… Саша ўшчыльную наблізіўся да Гусачка і прама заявіў, не віляючы:

«— Калі што, запомні гад, знойдуцца людзі, якія табе не даруюць даносу!»

Пранясло… Як і неаднойчы праносіла, калі трапляў у смяротна небяспечныя сітуацыі, працягваючы барацьбу з фашысцкімі акупантамі ў партызанскім атрадзе імя С. Будзённага брыгады імя К. Варашылава. Народнымі мсціўцамі сталі многія з руднянцаў — і маладзейшыя, і людзі сталага ўзросту. Усіх аб'ядноўвала жаданне помсціць ворагу. І А. Капусцін добра ведаў і мог паручыцца за кожнага, як і яны за яго… Юрка Хількевіч, Міша Таўсцялёш, Барыс Андрушкевіч, Сяргей Каласоўскі, Міша Старавойтаў…

## З партызан — на фронт

Гады партызанства сталі для А. Капусціна і пачаткам ягонай літаратурнай дзейнасці. Летам 1943 года ў падпольнай абласной газеце «Гомельская праўда» была змешчана яго першая карэспандэнцыя. Паведамлялася ў ёй пра тое, як разведчыкі атрада, нечакана трапіўшы ў варожую засаду, не разгубіліся. Дзейнічалі па ўсіх законах армейскага майстэрства. Кожны выбраў найбольш зручнае месца — балазе, мясцовасць дазваляла гэта — і закідалі фашыстаў гранатамі.

Для супрацоўніцтва з газетай А. Капусціна падахвоціў сам галоўны рэдактар яе Мікалай Пахомаў, які пабываў у атрадзе. Камандаванне і параіла яму пагутарыць з ім, бо ўсе ведалі, што спрабуе сёе-тое пісаць. Дый аўтарытэтам карыстаецца сярод таварышаў па зброі, з'яўляецца камандзірам аддзялення, хоць і не вайсковец.

Вызваленне Гомельшчыны, як вядома, пачалося ў 1943 годзе. У канцы яго скончылася і партызанства А. Капусціна. Колішніх народных мсціўцаў, якія падыходзілі па ўзросце, прызывалі ў дзеючую армію. Яму ж прапанавалі службу ў рэчыцкай міліцыі, што аднаўляла сваю дзейнасць. Прапанова радавала, але адначасова і засмучала. Радавала, бо ведаў, што яму і гэтым разам давяраюць, ускладаюць надзеі як на чалавека сумленнага, прынцыповага. Засмучала, бо ў той час, калі хлопцы з яго аддзялення праз некалькі дзён прадоўжаць барацьбу з ворагам, давядзецца знаходзіцца ў тыле ворага. Унутраны голас, канечне, спрабаваў пераканаць, што і тут лёгка не будзе. Давядзецца і пад кулі трапляць — усё ж нямала рознай погані за гады вайны развялося. Аднак перавагу браў разлік больш цвярозы: «Тваё месца на фронце!» Таму на адным дыханні напісаў рапарт аб адпраўцы на фронт. Зрабіў тое, што падказала сэрца.

Былі баі на 1-м Украінскім фронце ў складзе 140-й стралковай дывізіі. Была кантузія, быў тройчы паранены. І працягваліся, працягваліся франтавыя сцяжыны-дарогі…

Увесь гэты час А. Капусцін не развітваўся з паходным сшыткам у сіняй вокладцы, куды запісваў няхітрыя паэтычныя радкі. Нараджаліся яны па-руску. І таму, што доўга не чуў роднай мовы. І таму, што так напісанае лепей даходзіла да таварышаў, сярод якіх былі прадстаўнікі розных нацыянальнасцей, а на фронце ўсіх аб'ядноўвала руская мова. Адзін з вершаў А. Капусцін прысвяціў сябру дзяцінства Міхасю Старавойтаву, які ў яго аддзяленні быў кулямётчыкам, другім нумарам ручнога кулямёта. Так і назваў твор проста, немудрагеліста — «Другу».

## Два словы многае значаць

Шмат што з баявой біяграфіі А. Капусціна знайшло сваё ўвасабленне ў творах, напісаных параўнальна нядаўна, але зместам сваім звязаных з падзеямі, якія адбываліся тады, калі савецкія войскі, разграміўшы фашыстаў на роднай зямлі, вызвалялі краіны Усходняй Еўропы. З такіх твораў вылучаецца апавяданне «Два словы па-польску» — адзін толькі штрышок з мастацкага летапісу Вялікай Айчыннай вайны, які пішацца прадстаўнікамі розных творчых пакаленняў.

Сітуацыя, здавалася б, лакальная... Лёсы герояў таксама, не сказаць, каб нечым асабліва вызначаліся. Ды толькі за знешняй прастатой — глыбокі роздум мастака слова аб бесчалавечнасці вайны і вечнасці самога жыцця, якое, нягледзячы ні на што, працягваецца. Насуперак смерці, пралітай крыві, нявыплаканым слёзам доўжыцца і каханне, разгараючыся, распальваючыся з маленькіх іскрынак у зыркае цяпельца, здатнае сваім полымным святлом развеяць скруху, патушыць людскі недавер, знішчыць моўныя межы, калі справа тычыцца агульных памкненняў.

У гэтым апавяданні А. Капусцін таксама ішоў ад перажытага. Адчувальна прысутнасць не толькі самога апавядальніка, але і колішняга юнака з далёкіх і

незабыўных ваенных гадоў: «Мы ўжо каторы дзень мясілі салдацкімі кірзачамі расквашаны суглінак нешырокага бальшака — нашу часць перакідвалі пад Жэшуў. Ішлі ў зацятым маўчанні, было толькі чуваць, як ліпка чвякалі падэшвы па раскоўзанай дарозе ды зрэдку сярдзіта бубнеў даўгалыгі сібірак Сцёпка Варламаў, які лаяў і надвор’е, і дарогу, і праклятага бандыта Гітлера».

На вайне многае нечакана, калі не ўсё… Нечаканай была і гэтая сустрэча на кватэры гасціннага паляка з яго дачкой Вандай, якая, як бачна з твора, аднолькава спадабалася і самому сібіраку Сцёпку Варламаву, і апавядальніку, дарэчы, імя яго, як і пісьменніка — Алесь. Гэткім жа раптоўным было і развітанне — загады не абмяркоўваюцца дый ідуць гэтыя загады часта зверху. А далей…

Збег абставін, ужо ракавых. Гіне Сцёпка, прамовіўшы напаследак словы, якія амаль аднолькава гаварылі ці не ўсе франтавікі, заўчасна адыходзячы з жыцця — «Вось не дайшоў я да іхняга логава… Ты дайдзі…» Аднак у свядомасці Алеся застаюцца і іншыя словы, два словы, напісаныя Вандай па-польску. Такія чужыя, не зразумелыя і гэткія свае, чутыя, бо ён здагадваецца, пра што яны. Як і ў сапраўдным мастацкім творы, у апавяданні прысутнічае тая недасказанасць, што і вылучае высокапсіхалагічную прозу з шэрагу літаратурных падробак пад само жыццё, дый пад літаратуру таксама.

## Свая тэма, уласны падыход

Пасля дэмабілізацыі А. Капусцін у 1945 годзе быў выбраны сакратаром Жлобінскага райкама камсамола, з 1946 па 1965 год працаваў у органах юстыцыі. За гэты час завочна скончыў Мінскую юрыдычную школу, гістарычны факультэт тагачаснага Гомельскага настаўніцкага інстытута імя В. П. Чкалава, Вышэйшыя юрыдычныя курсы ў Маскве.

Майстэрства, вядома, прыйшло не адразу. У рэшце рэшт, як, бадай, да кожнага, хто вырашыў прысвяціць сябе літаратуры. Першае апавяданне А. Капусціна «Калгасны конюх» было змешчана ў «Гомельскай праўдзе» ў лістападзе 1948 года. Назва хутчэй за ўсё для звычайнай карэспандэнцыі, але віны ў гэтым самога аўтара не было. А. Капусцін назваў свой дэбютны твор інакш — «У нядзелю ўвечары», але ў рэдакцыі чамусьці палічылі, што новы загаловак лепшы. Не будзем забываць, які то быў час і як патрабавалі ад літаратуры праўдзівага адлюстравання сацыялістычнай рэчаіснасці, а на самай справе штурхаючы яе на шлях глянацавання, бесканфліктнасці.

Гэтых рыфаў не адразу пазбегнуў і А. Капусцін. Чаго не бракавала яму, дык добрага ведання жыцця. Так ужо атрымлівалася, што сюжэты твораў як бы нараджаліся самі сабой. Але неставала літаратурных стасункаў, часам даводзілася як бы «варыцца» ва ўласным саку. Таму з вялікім задавальненнем ехаў на семінар маладых пісьменнікаў, што праходзіў у верасні 1955 года. На ім запомнілася выступленне народнага песняра Беларусі Якуба Коласа, які прачытаў урывак са сваёй паэмы «На шлях волі», а затым сфатаграфаваўся з «семінарыстамі». Сярод іншых, маладых тады празаікаў і паэтаў, і ён, А. Капусцін. На семінары разам з ім былі тыя, чые творы сёння добра ведаюць аматары беларускай літаратуры — Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Ніл Гілевіч, Янка Сіпакоў, Васіль Зуёнак… А яшчэ запомніліся разгляды твораў, якія рабіў Іван Мележ. Да напісанага маладымі аўтарамі ён ставіўся патрабавальна і аб’ектыўна. Гэта надавала ім упэўненасці, жадання і далей пісаць, улічваючы заўвагі, раскрываючы свой талент.

З падобнай упэўненасці і нарадзілася першая кніга прозы А. Капусціна «Суд ідзе» (1959). Змест яе склалі аповесць «На крутых паваротах», а таксама шэраг апавяданняў, сюжэты якіх аўтару падказала яго судовая практыка. Не сказаць, аднак, каб аўтару ўдалося адразу пераадолець своеасаблівае супраціўленне фактычнага матэрыялу, выйсці з палону схематычнасці. Тым не менш, было відочна:

А. Капусцін знайшоў сваю тэму, да якой на той час не часта звярталіся іншыя пісьменнікі.

У наступных кнігах «Мерай закона і сумлення», «Суд вырашыў» адбывалася далейшае ўжыванне ў тэму. Калі чытаеш лепшыя з гэтых апавяданняў пад агульнай назвай «Запіскі суддзі Верасава» (атрымалася свайго роду аповесць у навелах), то ловіш сябе на думцы, што перад табой паўстаюць не проста складаныя жыццёвыя характары, а менавіта лёсы людзей. Так, людзей, хоць пісьменнік і расказвае пра многіх з тых, хто спатыкнуўся, а то і ўчыніў злачынства. Але А. Капусцін далёкі аднабакова падыходзіць да таго, што адбылося, ён імкнецца разабрацца ў тым, што ж рухала чалавекам у той ці іншы момант. І гэта Аляксандру Пятровічу ўдавалася, таму ягоныя творы прыцягвалі чытацкую ўвагу не толькі цікавымі, а і часам неардынарнымі сітуацыямі, што і бывае тады, калі адбываецца парушэнне закона, а і тым, наколькі пільна прыглядаўся пісьменнік да сваіх персанажаў, зазіраючы ў самую душу іхнюю, спрабуючы разабрацца ў паводзінах тых, хто парушыў закон.

## Бяда прыходзіць, калі яе не чакаеш

Жыццё падказвала новыя тэмы, але яно ж неспадзявана падставіла і падножку. Перажыванні ваенных гадоў, цяжкія раненні, кантузія не прайшлі бясследна — пачало здаваць сэрца. Спачатку не звяртаў на боль асаблівай увагі, не верылася, што ў такім узросце — і сарака няма! — хвароба зваліць. А яна, няўмольная, у канцы 1960 — пачатку 1961-га ўсё ж паклала ў ложак.

І калі знаходзіўся ў бальніцы, і калі вярнуўся дамоў, зразумела, было не да таго, каб нешта пісаць. Адзінае жаданне не пакідала, надавала сіл выстаяць: «Жыць!» У цяжкія хвіліны одуму прыгадвалася найбольш памятнае з ваеннай біяграфіі — і з той часіны, калі быў падпольшчыкам, і з партызанства, і, вядома, ажывалі ў памяці франтавыя ўражанні. У такія моманты, калі, як быццам, сам час не тое што спыняўся ў сваёй хадзе, а паварочваў назад, каб пачаць адлік дням, месяцам, гадам у зваротным накірунку, міжволі прыходзілі і словы даўняй, дадзенай на пачатку баявой маладосці, прысягі.

«Клянуся!» — цяпер гэта набывала зусім іншы сэнс, таксама значны, але куды больш асабісты. Ён, А. Капусцін, як бы знаходзіўся адначасова ў дзвюх асобах. Пакутаваў, змагаўся з хваробай пасталелы чалавек, які ўжо нямала пабачыў на сваім веку. Разам з тым, нябачна прысутнічаў і той ранейшы, рамантычна акрылены, бескампрамісны юнак. І гэты першы даваў клятву не толькі сабе сённяшняму, цяперашняму, а і колішняму.

Немач хоць не хутка, але адступіла. Прыйшло жаданне зноў узяцца за пяро. Па-ранейшаму выкройваў вольны час, ахвяраваў і выхаднымі днямі. Лягчэй стала, калі ў 1965 годзе пачаў працаваць загадчыкам аддзела газеты «Гомельская праўда». Лягчэй у тым сэнсе, што займаўся любімай творчай справай, хоць часу ўсё роўна неставала. Пісаць для душы выпадала рэдка і тады, калі перайшоў на працу ў рэдакцыю навукі і культуры Беларускага тэлеграфнага агенцтва (БелТА).

## З’явілася другое дыханне

Па сутнасці, новы этап у творчасці А. Капусціна пачаўся, калі ён звязаў свой лёс з «ЛіМам». На пасаду адказнага сакратара штотыднёвіка яго ў 1973 годзе рэкамендавалі Максім Танк і Іван Шамякін, тагачасныя кіраўнікі Саюза пісьменнікаў Беларусі. М. Танк, як вядома, тады з’яўляўся старшынёй праўлення СП БССР, а І. Шамякін — першым намеснікам старшыні. У сваёй рэкамендацыі яны не памыліліся. І на пасадзе адказнага сакратара, і на пасадзе намесніка галоўнага рэдактара (з 1974 года) Аляксандр Пятровіч праявіў сябе і вопытным журналі-

стам, і добрым арганізатарам. Умеў згуртаваць людзей, аб'яднаць іх агульнай задумай. Дый у калектыве прыйшлася даспадобы таварыскасць, чалавечнасць новага кіраўніка.

Новыя ягоныя кнігі «Размова ў дарозе», «Скажу праўду», «Белыя гусі лета прарочаць» і іншыя засведчылі, што талент уступіў у такую пару, калі пішацца лёгка, з'яўляюцца новыя значныя задумы і хутка знаходзяць сваё адпаведнае мастакоўскае вырашэнне. Прыхільна былі сустрэты чытачамі, крытыкай такія зборнікі прозы пісьменніка, як «Цвіў бэз, іграла скрыпка», «На хвалях Нявы», «Белыя гусі лета прарочаць»...

Працаваў Аляксандр Пятровіч плённа. Так актыўна, нібы ў яго з'явілася другое творчае дыханне. Сапраўды, так бывае нярэдка, калі пісьменнік, дасягнуўшы паважанага ўзросту, азіраючыся на пройдзены шлях, спяшаецца выказаць тое, чаго дагэтуль не паспеў сказаць, але яно не дае спакою, патрабуе споведзі. Тады цяжка адарвацца ад пісьмовага стала. Асабліва, калі разумееш, што часу, адпушчанага табе Усёвышнім, па днях менее і менее. Пасля таго ж, як з'явілася штосьці новае, абавязкова ўзнікае жаданне падзяліцца сваёй радасцю з тым, каму давяраеш, хто, у чым упэўнены, зразумее цябе, падзеліць тваю радасць.

Калі прыйшоў творчы вопыт, А. Капусцін усё часцей пачаў звяртацца да гісторыі свайго краю, родных мясцін. Падобную цікавасць ён праяўляў і раней. У прыватнасці, калі вучыўся ў Маскве, рэгулярна наведваў Дзяржаўную бібліятэку СССР імя У. І. Леніна, часта працаваў у архівах. І так з дня на дзень, на працягу некалькіх месяцаў. Збіраў звесткі, што тычыліся жыцця Жлобіншчыны ў розныя гістарычныя перыяды. Адзін з нарысаў — «Рэвалюцыйныя падзеі ў Жлобіне», калі вярнуўся на радзіму, апублікавала раённая газета «Камуніст». Але многае заставалася ў блакнотах, чакала свайго асэнсавання. Нарэшце, А. Капусцін задумаў шэраг мастацка-дакументальных аповесцей.

У аповесці «Салёная раса» расказаў пра капітана Баталава, якому ў жніўні 1941 года было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Батальён пад яго камандаваннем больш як месяц стрымліваў наступленне фашыстаў пад Жлобінам. На Жлобіншчыне праславіўся і генерал-лейтэнант Леанід Пятроўскі. Шэсцьдзясят трэці стралковы корпус пад яго камандаваннем у сярэдзіне ліпеня сорак першага перайшоў у контрнаступленне. Воіны фарсіравалі Днепр, вызвалілі Жлобін і Рагачоў, а таксама многія малыя населеныя пункты. Аповесці пра Л. Пятроўскага і яго баявых саратнікаў можна назваць «Салдаты першай перамогі». Менавіта на Жлобіншчыне ці не ўпершыню гітлераўцы павінны былі адступіць на такім вялікім адрэзку фронту. Чырвоная Армія не проста стрымлівала іх націск, а вызваліла акупіраваную тэрыторыю.

## Праўда бывае і рэзкай

Не было такога выпадку, каб мой старэйшы сябра (а для мяне Аляксандр Пятровіч быў не толькі аўтарытэтным творцам, літаратарам, а і, не пабаюся гэта сказаць, блізкім чалавекам, сустрэчы з якім заўсёды чакаеш з нецярпеннем), завітаўшы да мяне ў «ЛіМ», дзе я тады працаваў, шчыра ўсміхнуўшыся, задаволена прызнаваўся:

— А ведаеш, я напісаў…

Далей гаворка ішла ці то пра апавяданне, ці то пра гумарэску, а часам і пра накіды да аповесці. Тут жа прапаноўваў прачытаць колькі старонак, спісаных буйным почыркам. Не скажу, што я ахвотна згаджаўся. Толькі зусім не па ляноце. Тады лічыў, дый цяпер у гэтым пераканаšны, што падобнае чытанне пры самім аўтары, неяк скоўвае цябе, асабліва, калі адчуваеш, што сам ён настроены на тое, каб пачуць ад цябе ўхвальныя словы. Калі ўсё ж згаджаўся што-небудзь пачытаць з прапанаванага ім, Аляксандр Пятровіч з хваляваннем сачыў, як я роздумна ўзіраўся ў старонку за старонкай, чакаючы маёй думкі аб прачытаным. Ахвотна

згаджаўся штосьці падправіць (а гэта найчасцей тычылася дробных стылявых момантаў), пытаўся, у якое выданне гэты твор лепш прапанаваць. Хоць аднойчы пайшоў незадаволены.

Магчыма, і не трэба было мне так рэзка выказваць свае заўвагі пра адну яго гумарэску. Аднак на гэтую рэзкасць мяне, па сутнасці, настроіў сам А. Капусцін. У той дзень я быў нешта не ў гумары, дый неўзабаве трэба было ісці на рэдакцыйную планёрку. Таму, калі Аляксандр Пятровіч, прапанаваў мне прачытаць свой твор, я адмовіўся, сказаўшы, што няма часу. Капусцін працягваў настойваць. І тады я, як кажуць, псіхануўшы, пачаў гумарэску чытаць. На жаль, яна, як зразумеў, прабегчы паўстаронкі, яму не ўдалася. Іншым разам я б пастараўся змякчыць свае заўвагі. А тут мяне «панесла». Аляксандр Пятровіч такога водгуку, зразумела, не чакаў. Ён пачырванеў і ціха сказаў:

— Па-твойму слаба.

— Не проста слаба, — вырвалася ў мяне, а …

Пасля гэтага прагучала «моцнае» слова. Пакрыўдзіўшыся, А. Капусцін падняўся і пайшоў. Пасля гэтага мне, канечне, стала не па сабе, але праходзілі дні, аднак яму я не тэлефанаваў. Як і ён мне. Толькі недзе праз паўгода Аляксандр Пятровіч зноў з'явіўся ў рэдакцыі «ЛіМа». Абодва мы зрабілі выгляд, што нічога не адбылося, і, як ні ў чым не бывала, працягвалі размаўляць у тым жа духу, як неаднойчы.

Як усе пісьменнікі, А. Капусцін вельмі радаваўся, калі рухалася справа з выданнем чарговай кнігі. Праўда, трэба быць шчырым, радасці гэтай з развалам Савецкага Саюза з кожным годам менела: дзяржаўныя выдавецтвы, якія дагэтуль былі высокарэнтабельнымі (канечне, не за кошт беларускамоўнай літаратуры) пачалі ледзь трымацца на плаву. Тым не менш, новыя кнігі ў Аляксандра Пятровіча выходзілі. Ужо названыя «Цвіў бэз, іграла скрыпка» — у «Мастацкай літаратуры» і «На берагах Нявы» — у выдавецтве «Юнацтва» пабачылі свет з прысвячэннем. На першай з іх стаяла «Табе, слаўны Жлобін, у юбілей пяцісотгоддзя». З'явіўся і чарговы ягоны зборнік у «Бібліятэцы часопіса «Вожык», не кажучы пра кнігі, што выдаваліся ў Жлобіне.

Да кніжкі ў «Бібліятэцы…» я напісаў невялічкую жартаўлівую прадмову, накшталт таго, што А. Капусцін з тых людзей, якім ад нараджэння ўсё жыццё …хочацца. Меў на ўвазе, канечне, літаратурную творчасць. Праўда, рэдактар зборніка Нэла Тулупава ўсё ж асобныя месцы «змякчыла». Але такой бяды. Я і не да гэтага прывык.

## Як я быў… Міколам Гамолкам

У той жа «Бібліятэцы часопіса «Вожык» першая гумарыстычная кніга Аляксандра Пятровіча «Чалавек з пазіцыяй» выйшла яшчэ ў 1975 годзе. Я таксама пісаў да яе прадмоўку. Праўда, тыя, хто знаёмы з ёю, могуць запярэчыць, што пад гэтым невялічкім уступным словам пазначана іншае прозвішча. Сёй-той нават і аўтара назаве — Мікола Гамолка. Цяпер, калі прайшло столькі часу, магу сказаць праўду.

Сапраўды, прадмоўку пісаў я, а ніякі не Мікола Гамолка. Але хто я быў на той час?! Звычайны крытык-пачатковец. Кніг не выдаў, ніякіх званняў не меў. У тым сэнсе, што кандыдатам не быў, дацэнтам, ці прафесарам — тым больш. У Саюз пісьменнікаў Беларусі прымаць мяне не збіраліся. Хіба такія маюць права пісаць прадмоўку для сур'ёзнага выдання? Прынамсі, у рэдакцыі «Вожыка» былі пераканаtowards, што не маюць. Пасля гэтага і задумаліся мы з Аляксандрам Пятровічам, як ўратаваць становішча.

На наша шчасце, напісаную мною прадмоўку нікому не паказвалі. Значыць, выйсце было ў тым, каб знайсці такога пісьменніка, які згодзіцца пад ёй паставіць сваё прозвішча. Тады і ўспомніў А. Капусцін пра свайго сябра М. Гамолку.

Мікола Іванавіч, даведаўшыся, у якой сітуацыі мы апынуліся, засмяяўся, а пасля сказаў тое, чаго мы ад яго чакалі:

—Згодзен. Толькі…

— Што толькі? — ледзь не ў адзін голас запталіся мы.

— Каб ніхто нічога не ведаў.

— Маўчу, — адказаў я, бо, у сваю чаргу, Міколу Іванавічу давяраў, дый у мяне з ім таксама былі прыязныя адносіны.

Працяг гэтага творчага «супрацоўніцтва» аказаўся такім, як нам з А. Капусціным і хацелася. Прадмоўка «М. Гамолкі» «вожыкаўцам» спадабалася. Кніжка А. Капусціна «Чалавек з пазіцыяй» выйшла ў вызначаны тэрмін. Мікола Іванавіч атрымаў ганарар. І немалы па тым часе. Добра помню, што гэта было прыкладна 25 рублёў.

Падыходзіць да мяне А. Капусцін: так і так, маўляў, што рабіць будзем. І сапраўды — што?! Як быццам ганарар і мой, але ў той жа час ён і не мой. Пагадзіліся на тым, што паклічам Міколу Іванавіча (з атрыманымі грашыма, вядома) і пойдзем у рэстаран «Лета», які тады знаходзіўся каля трамвайнай лініі, насупраць дзіцячага парку імя Максіма Горкага. Вечар правялі цудоўна: хапіла і на гарэлку, і на закусь. А гэта яшчэ адно сведчанне таму, як «цяжка» жылося ў так званыя «застойныя часы». Асабліва творчым работнікам…

## Шлях да апошняй кнігі, ён самы цяжкі

А вось апошнюю сваю кнігу «Усяму беламу свету», рукапіс якой прапанаваў выдавецтву «Мастацкая літаратура», А. Капусцін чакаў з такім вялікім нецярпеннем, як, бадай, ні адну папярэднюю. Спачатку ўсё было добра. Справа з падрыхтоўкай рукапісу да выдання рухалася як быццам няблага. Але з кожнай нашай новай сустрэчай у Аляксандра Пятровіча аптымізму менела. Нарэшце, ён паведаміў мне, што кнігу паабяцалі выдаць толькі пры ўмове, калі будзе сабраны неабходны тыраж. І тут жа па сакрэце прызнаўся, што землякі-жлабінчане гатовы пасля выхаду кнігі выкупіць значную частку яе тыражу.

— Тады ўсё ў парадку, — запэўніў я яго.

— Будзем спадзявацца.

Спадзяванне, на жаль, аказалася марным. Праз колькі часу высветлілася, што абяцанне землякоў А. Капусціна забраць частку тыражу ягонай кнігі, — не выйсце. Яе ж трэба спачатку надрукаваць, а сродкаў на гэта ў «Мастацкай літаратуры» неставала.

— І ўсё ж выйсце ёсць, — абнадзеіў я Аляксандра Пятровіча.

— Праўда? — узрадаўся ён і тут жа папрасіў: — Кажы хутчэй, якое?

— Вы ганаровы грамадзянін Жлобіна?

— Ты сумняваешся ў гэтым? — ён паспрабаваў усміхнуцца.

Не зважаючы на гэта, я прадоўжыў:

— Чаму б вам не звярнуцца да кіраўніцтва некаторых прадпрыемстваў. Тым больш, што сярод іх ёсць і такія, якія ўпэўнена стаяць на нагах. Няўжо яны не знойдуць колькі мільёнаў, каб перавесці іх на рахунак выдавецтва «Мастацкая літаратура»?

Аляксандр Пятровіч уважліва, не перабіваючы, выслухаў маю прапанову. Адчувалася, што яна яго зацікавіла. Аднак нічога пэўнага наконт гэтага не сказаў, толькі на развітанне прамовіў:

— Трэба падумаць.

Праўда, калі мы зноў сустрэліся, ён да гэтай размовы не вяртаўся. Падумаўшы, што і выхад на жлобінскія прадпрыемствы аказаўся марным, каб ні раніць Аляксандра Пятровіча сваім напамінкам, нічога пытацца пра гэта не стаў. Так было яшчэ пры некалькіх нашых сустрэчах. І толькі праз колькі месяцаў

высветлілася, што А. Капусцін усё ж звярнуўся па дапамогу да сваіх землякоў. А расказаў ён мне пра гэта падчас нашай апошняй сустрэчы.

Што ёй наканавана стаць апошняй, канечне, ніхто з нас у той час пра гэта не здагадваўся. У рэшце рэшт так бывае заўсёды. Сустрэўся, пагаварыў з кім-небудзь, а потым, калі яго не стала, прытым раптоўна, пачынаеш прыгадваць некаторыя дробязі, якія тады, пры той сустрэчы, маглі б насцярожыць, калі б да ўсяго аднёсся больш пільна, прыглядзеўся больш уважліва.

І пры нашых сустрэчах, што папярэднічалі гэтай, Аляксандр Пятровіч выглядаў ужо, зразумела, далёка не колішнім «лейтэнантам маладзенькім». Канечне, гады бралі сваё. Ды толькі і цяпер, на адлегласці часу, магу пацвердзіць тое, што неаднойчы казаў самому А. Капусціну, а ў сувязі з ягоным 70-годдзем зазначыў і ў матэрыяле пра яго, змешчаным у «ЛіМе»: ён па-ранейшаму выглядаў маладжавым, падцягнутым. Ды гэта нельга было не заўважыць, калі ён адчуваў сябе добра.

Калі ж зайшоў да мяне ў «ЛіМ» пасля доўгага перапынку, яго было не пазнаць. Нейкі сутулены, без пастаяннай іскрынкі ў вачах. Наадварот, у іх прачытваліся сум і журбота. Твар быў бледны, хваравіты. Аляксандр Пятровіч цяжка дыхаў. Мабыць, здагадаўся, што гэта не прайшло для мяне незаўважна.

— Давялося ў бальніцы паляжаць, — сказаў, цяжка ўздыхнуўшы.

— Чаму не патэлефанавалі? — здзівіўся я, бо заўсёды, калі Аляксандр Пятровіч трапляў у так званую «лечкамісію», стараўся паведаміць мне.

— Я не ў «лечкамісіі» ляжаў.

— А дзе?

— Сэрца прыхапіла на дачы.

Дача яго знаходзілася ў Пухавіцкім раёне. Таму, калі ягоная жонка Эмілія Іванаўна выклікала «хуткую», А. Капусціна завезлі ў раённую бальніцу.

— І доўга там былі?

— Тры дні.

— Можа б яшчэ паляжалі?

— А што там рабіць? — павесялеў Аляксандр Пятровіч і дадаў аптымістычна, з упэўненасцю на лепшае: — Здароўе паправіцца, а ў мяне такая нагода для радасці, — прадаўжаючы ўсміхацца, ён палез у сваю скураную папку і выцягнуў з яе стос паперы: — Гэта дзякуючы табе…

— Дзякуючы мне? — здзівіўся я, здагадваючыся, што ў руках А. Капусціна нейкая карэктура. «Няўжо кніга «Усяму беламу свету»? — мільганула ў мяне думка.

— А каму ж яшчэ! —- працягваў Аляксандр Пятровіч. —Ты ж падказаў мне звярнуцца па дапамогу да землякоў. І вось, калі ласка, забраў сёння карэктуру. Малайцы землякі мае! — з гонарам прамовіў ён, называючы прадпрыемства, якое пераявяло грошы выдавецтву «Мастацкая літаратура» на выданне яго кнігі. Паведаміў і пераведзеную суму і паабяцаў: — Як толькі выйдзе, падпішу табе.

## Сэрца не вытрымала…

Не падпісаў... А дагэтуль дарыў з аўтографамі ўсе свае кнігі, што выходзілі на працягу нашага сяброўства, якое пачалося ў 1973 годзе, калі А. Капусцін прыйшоў на працу ў «ЛіМ». На апошняй ягонай кнізе, праўда, таксама стаіць даравальны надпіс, але зрабіла яго Эмілія Іванаўна Капусціна — дарагая, любая ягоная жанчына, жонка, якую ён кахаў усё сваё жыццё надзвычай моцна і аддана.

І ў сваёй апошняй кнізе Аляксандр Пятровіч піша пра дарагія сэрцу мясціны, адштурхоўваючыся ад уражанняў падчас наведвання землякоў, згадвае перажытае ў гады вайны. Гэта ўгадваецца па дакладных рэаліях з таго часу, ва ўменні тонка адчуць унутраны стан учарашніх партызан і франтавікоў, якім у сённяшнім жыцці даводзілася нялёгка. І не толькі матэрыяльна, а і маральна. Ім балюча было

з-за таго, што ідэалы, за якія яны змагаліся, многімі абясцэньваліся. Тым самым у творах прысутнічае яшчэ адна тэма — маральна-этычная, што знаходзіла водгалас ва ўсім, што А. Капусціным пісалася.

Гэтую сваю кнігу Аляксандр Пятровіч чакаў з такім нецярпеннем, як, бадай, ні адну папярэднюю. Быццам прадчуваў, што яна будзе ў яго апошняй. Тады, як паказаў мне карэктуру, мы неўзабаве развіталіся: ён хацеў уладзіць у Саюзе пісьменікаў сякія-такія справы да пачатку сходу, які неўзабаве меўся адбыцца. Угаворваў пайсці разам, але такога жадання ў мяне не было. Прычына гэтага нежадання была ў тым, што на той час рэдка якое мерапрыемства, што праходзіла ў Доме літаратара, абыходзілася без палітыканства.

Што і гэтым разам ўсё адбывалася менавіта так, неўзабаве ўпэўніўся і я. Усё ж-такі праз некаторы час, як мы развіталіся з А. Капусціным, я вырашыў наведацца ў Дом літаратара. Не ведаю, чаму нечакана ўсё ж з'явілася такое жаданне. Магчыма, узнікла нейкае нядобрае прадчуванне? Можа, і так, але катэгарычна сцвярджаць не бяруся.

Зайшоў у Дом літаратара, пачаў падымацца на другі паверх, але толькі ступіў у фае, як пераканаўся, што адбываецца тое, што і павінна было адбывацца. Праз адчыненыя дзверы, што вялі ў залу, чуліся шум, выкрыкі, на сцэну адзін за адным ірваліся «праўдалюбцы».

Увайшоў у залу, агледзеўся па баках: хацелася ўбачыць Аляксандра Пятровіча. Але яго не заўважыў, таму пайшоў назад. А ў гэты час А. Капусціну было блага. Вельмі блага. Несумненна, што яму з абвостраным пачуццём сумленнасці, балюча было ад усведамлення таго, што самыя лепшыя намеры зводзяцца да навешвання адзін аднаму палітычных бірак, зноў назіраецца непрыманне чужых думак і меркаванняў. Таму і паспяшаўся да выхаду.

Паспеў з цяжкасцю дайсці да вестыбюля, у якім паваліўся на падлогу. Тэрмінова выклікалі «хуткую». Аднак яна ехала да Дома літаратара ажно трыццаць хвілін. І гэта ў той час, калі падстанцыя яе знаходзіцца за некалькі соцень метраў ад яго.

Так 16 кастрычніка 1996 года і стала апошнім днём у жыцці Аляксандра Пятровіча.

* * *

Калі пішуцца гэтыя радкі, за акном — зіма. Кажуць, што яна сёлета — ранняя. Не, зусім не раняя. Проста мы прывыклі апошнім часам, што яна затрымліваецца, а тут наступіла своечасова. Ведаю, як бы ўзрадаваўся яе прыходу А. Капусцін. Адразу ўзяў бы лыжы і паспяшаўся ў лес, які быў непадалёку ад яго дома, што па вуліцы Гамарніка ў Мінску. А адпачыць на прыродзе ён любіў. З ранняй вясны, калі прагрэецца вада, — да позняй восені плаваў. А зімой, канечне ж, лыжы. Здавалася, што яго, нягледзячы на перажытае — у гады вайны, хопіць яшчэ не на адзін год.

Здавалася…

Хараша цяпер у лесе. Марозна, свежа. Так прыемна блукаць, удыхаючы свежае паветра. А яшчэ міжволі ажываюць у памяці радкі А. Пысіна, прысвечаныя Аляксандру Пятровічу:

> Зазімкам сняжыначка ўпала на след,
> Цікуе вавёрачка з елкі…
> Атлантамі ў неба —
> задумлівы дзед,
> І ты, — лейтэнант маладзенькі.

Астатняе ж — у кнігах самога А. Капусціна, якія так шмат могуць расказаць пра тое, як гэты маладзенькі лейтэнант праз усё сваё жыццё застаўся салдатам. Тым салдатам, які годна абараняў Радзіму ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, а, узяўшыся за пяро, упісваў свае старонкі ў сучасную беларускую літаратуру.

Віталь ВОЙТКА

# КУВП «МАНЬКАВІЧЫ»: ЗАВІТАЎ БЫ РАДЗІВІЛ, ЗДЗІЎЛЯЦЦА НЕ ХАПІЛА Б СІЛ

*Знакамітае Пімена Панчанкі з ягонага верша «Край паэтаў»: «Ёсць яшчэ адзін куточак запаветны, // Дзе растуць, нібы грыбы, здаўна паэты», успомніць ці не кожны, хто знаёмы са згаданым творам Пімена Емяльянавіча, калі пабывае ў вёсцы Манькавічы Столінскага раёна. Праўда, як мне здаецца, гэтыя радкі ён прыгадае і з іншай нагоды. П. Панчанка, як вядома, з гонарам пісаў пра тое, наколькі багатая наша зямля на паэтычныя таленты, а ў тамашніх мясцінах міжволі прыходзіць у галаву думка, у чымсьці блізкая, выказанай паэтам: у які куточак Беларусі ні зазірнеш, абавязкова застанешся ўражаны хараством, непаўторнасцю тамашняй прыроды, якая так радуе тваё вока.*

*У Манькавічах жа яна настолькі адметная, што ёю проста нельга не захапляцца. Гэтая мясціна, без перабольшвання, жывапісная — нібы сам Усявышні пастараўся, аздабляючы яе. Узяў вялізны пэндзаль і стаў наносіць мазок за мазком, а з кожным узмахам гэтага чароўнага пэндзля пачалі з'яўляцца дрэвы і кусты, рэкі і азёры… Асабліва ж рупна працаваў ён, калі наносіў раку-прыгажуню Гарынь. Атрымалася яна па-свойму свавольная, дый на тое яна харашуня, каб мець своеасаблівы характар. Але Гарынь, разам з тым, і спакойная, роздумна-разважлівая, бо ведае сабе цану, як і здагадваецца пра тое, што тут яе любяць і паважаюць.*

*Менавіта прысутнасць Гарыні, не ў апошнюю чаргу, і прывабіла сюды людзей яшчэ ў даўнія часы. Гэта, безумоўна, калі мець на ўвазе ўзнікненне Манькавіч, а так край гэты, што сёння называецца Століншчынай, увогуле спаконвечна багаты на рэчкі і рачулкі, на азёры, не кажучы ўжо пра лясы. Таму і палюбілі гэтыя мясціны нашы прашчуры. Упадабалі яны і месца, дзе знаходзяцца сённяшнія Манькавічы. Аб гэтым, у прыватнасці, сведчыць знойдзены каля вёскі курганны могільнік. У саміх жа Манькавічах археолагі знайшлі сляды так званай зарубінецкай культуры, а гэта жалезны век — дзве тысячы гадоў назад. Праўда, як тады называлася гэтае паселішча, невядома. Вядома толькі, што ў летапісах Манькавічы ўпамінаюцца ўпершыню ў XIV стагоддзі. Але адкуль узялася менавіта такая назва гэтага населенага пункта? Ёсць такое вытлумачэнне паходжання яе.*

*Некалі месца, дзе потым узнікла паселішча Манькавічы, было сервітутам. Так называўся зямельны ўчастак, што выдзяляўся ў часовае карыстанне. Такой зямлі вакол цяперашніх Манькавіч мелася 40 дзесяцін. Яе збіраліся размеркаваць сярод 40 чалавек, каб кожнаму дасталося па аднолькавым надзеле. Але адзін з будучых уладальнікаў сваёй часткі сервітуту па нейкай прычыне не з'явіўся. Тады нічыйны надзел падзялілі паміж усімі астатнімі. Кавалачкі зямлі атрымаліся вельмі малымі. Цягам часу з-за гэтага і паселішча, якое ўзнікла, пачало называцца Малькавічы. А пазней па нейкай прычыне ў дакументах «л» выпала, замест яго нехта памылкова напісаў «н» і, калі ласка, — Манькавічы.*

*Хоць больш праўдападобная іншая версія. Некалі ў гэтых мясцінах жыў нехта Манькові́ч. Ці то панам ён быў, ці проста нейкі чалавек. Ён і заснаваў паселішча, у аснову назвы якога пазней і лягло ягонае прозвішча. Дарэчы, вёска Манькавічы ёсць і ў Пастаўскім раёне, а ў Валожынскім блізкая да іх па сваім гучанні Манькоўшчына. Навуковае вытлумачэнне гэтых назваў падобнае на тое, якое даў і сам народ у другім варыянце. Манькавічы і Манькоўшчына, і сапраўды, хутчэй за ўсё, з'яўляюцца вытворнымі ад прозвішча Манькові́ч. Хоць, можа, у аснове назвы вёскі ляжыць і прозвішча Манькоў, аднак ад гэтага сутнасць не мяняецца.*

*Землі ў наваколлі Манькавіч некаторы час належалі князю Фёдару Яраслававічу. Аднак, паколькі ён быў бяздзетным, дык потым усе ягоныя ўладанні былі перапісаны на караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта І Старога. Ад яго яны перайшлі да ягонага сына, таксама караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта ІІ Аўгуста, па-ранейшаму з'яўляючыся каралеўскім уладаннем.*

*Жыгімонт ІІ Аўгуст таксама аказаўся бяздзетным, ва ўсякім разе такім ён лічыўся афіцыйна. Калі ягоная жонка Барбара з роду Радзівілаў рана памерла (магчыма, была атручана свекрывёй Бонай Сфорца), ён перадаў землі, якія належалі яму, гэтаму самаму магутнаму магнацкаму роду на тэрыторыі Беларусі, Літвы і Польшчы. Манькавічы пачалі ўваходзіць у іхнюю Давыд-Гарадоцкую ардынацыю. Больш за тое, з'яўляліся яе цэнтрам. І належалі Радзівілам да 1939 года, 400 гадоў належалі...*

*Асабліва шмат для развіцця Манькавіч зрабіў генерал артылерыі, князь Антоній Вільгельм Радзівіл, да якога Давыд-Гарадоцкая ардынацыя перайшла ў 1875 годзе. Праўда, да жаніцьбы ён у гэтых мясцінах не паказваўся, жыў у Берліне, дзе пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай Марыяй Даротай дэ Кастэлян. Наведаўшыся сюды, яна прыйшла ў захапленне ад гэтых мясцін. Найбольш спадабаліся ёй Манькавічы, што знаходзіліся непадалёку ад Століна. Дый было чым захапіцца.*

*На самым ускрайку вёскі захавалася ў сваёй нерушавасці агромністая дуброва, куды, здавалася, не ступала нага чалавека. Рака ж Гарынь прыдавала гэтай мясцовасці яшчэ большай прыгажосці. Марыя Дарота адразу ўпэўнілася, што гэта найлепшае месца, дзе можна закласці парк, які, несумненна, стане вылучацца сваёй прыгажосцю і непаўторнасцю сярод аналагічных паркаў у іншых месцах. Важным было і тое, як пераканалася яна, што для добраўпарадкавання гэтай тэрыторыі не патрабавалася шмат намаганняў. Дый лепшае месца для размяшчэння палаца наўрад ці можна было знайсці. Заставалася толькі падшукаць спецыяліста, які б удала спалучыў прыродныя асаблівасці з архітэктурнымі памкненнямі. Свой выбар уладальніца Манькавіч спыніла на вядомым берлінскім дойлідзе Венцэлі.*

*Венцэль пастараўся на славу. І пажаданні ўплывовай заказчыцы прыняў пад увагу, дый найлежным чынам праявіў свае веданні як архітэктара. Па старым русле Гарыні, якое захавалася, быў пракладзены водны канал. Сам жа палац будаваўся так, каб, маючы велічны выгляд, адначасова сродкамі архітэктуры адлюстроўваць усю магутнасць роду Радзівілаў, падкрэсліваючы іх даўняе паходжанне.*

*Як выглядаў гэты Радзівілаўскі палац, сёння, на жаль, можна даведацца толькі па макеце яго, што знаходзіцца ў Столінскім краязнаўчым музеі, які, дарэчы, размешчаны на тэрыторыі гэтага ж парку. Сам жа палац быў амаль цалкам разбураны ў гады Вялікай Айчыннай вайны, а пасля вызвалення тое, што засталося ад яго, мясцовыя жыхары разбіралі. Асабліва цэглу, якая як будаўнічы матэрыял была вельмі запатрабавана ў гаспадарцы. Затое па сённяшні дзень захаваліся некаторыя гаспадарчыя пабудовы, у тым ліку і колішняя канюшня, а таксама піваварня, што працягвае працаваць. У парку стаіць валун, які напа-*

*мінае, што гэты парк быў закладзены ў 1885 годзе Марыяй Даротай з роду Кастэлянаў для яе малодшага сына Станіслава Вільгельма.*

*Сам Станіслаў Вільгельм гэты валун з памятным надпісам і ўстанавіў. Валодаць Давыд-Градоцкай ардынацыяй ён пачаў у 1904 годзе пасля смерці свайго бацькі. Удзельнічаў у руска-японскай і Першай сусветнай войнах. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі вітаў беларускі нацыянальны рух. Загінуў у 1920 годзе ва Украіне. Паколькі сыноў не меў, Манькавічы перайшлі да ягонага пляменніка Караля Радзівіла, якому і наканавана было стаць іх апошнім уладальнікам. Пасля вераснёўскіх падзей 1939 года Кароль Вільгельм Радзівіл выехаў у Афрыку, дзе ягоныя сляды згубіліся.*

## Ісці ў народ, каб быць… з народам

У заходніх рэгіёнах Беларусі, як вядома, калектывізацыя праходзіла ў пасляваенны час. Століншчына, зразумела, не стала выключэннем. Калгас у Манькавічах быў утвораны толькі ў 1949 годзе і пачаў насіць імя вядомага на той час партыйнага і савецкага дзяржаўнага дзеяча Андрэя Жданава. Гэтая гаспадарка ў 1965 годзе была ператворана ў саўгас «Манькавічы», які ў снежні 2000 года паводле дэкрэта Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 22 ад 16 лістапада 2000 года і быў ператвораны ў Камунальнае ўнітарнае вытворчае прадпрыемства «Манькавічы». Дырэктарам КУВП «Манькавічы» працуе доктар эканамічных навук Аляксей Мікуліч.

Аляксей Васільевіч — тамашні, ураджэнец Столінскага раёна. Можна сказаць, чалавек ад зямлі. Зямлю любіць, а ў працы на ёй бачыць сваё прызванне. Скончыў Гродзенскі сельскагаспадарчы інстытут і Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. А што такое быць кіраўніком, адчуў у дваццацісямігадовым узросце, калі стаў намеснікам старшыні калгаса «1-е Мая» тут жа, на Століншчыне. Здавалася б, асноўная кіраўнічая нагрузка кладзецца на старшыню. Канечне, гэта так. Але намеснік ягоны знаходзіцца з боку прыпёку толькі тады, калі не жадае праяўляць ініцыятыву, а задавальняецца тым, што знаходзіцца як бы ў цені. Чаго нельга было сказаць пра Мікуліча.

Працаваў Аляксей Васільевіч з поўнай выкладкай сіл, у кабінеце не заседжваўся, а стараўся пастаянна знаходзіцца сярод працаўнікоў гаспадаркі. Дый іначай і быць не магло. Да ўсяго ж ён з'яўляўся і сакратарам партыйнай арганізацыі. Калі прыклад паказваць, дык ва ўсім. Сваім чалавекам быў і на палетках, і на фермах... Хтосьці з кіраўнікоў стараўся хадзіць у чаравіках. Калі і дабіраўся куды, дык толькі да таго месца, да якога можна пад'ехаць на службовай аўтамашыне. А Мікуліч боты з доўгімі халявамі на ногі і наперад. На той жа ферме ці з даяркамі пагутарыць, ці ў даглядчыкаў буйной рагатай жывёлы пацікавіцца, як працуецца ім. Калі ёсць якія праблемы, абяцае дапамагчы.

Слова сваё заўсёды стрымліваў, бо разумеў, што гэта працуе толькі на карысць ягонага аўтарытэту, спрыяе павышэнню яго. Аднак, вучачы іншых, і сам імкнуўся вучыцца. Дарэчы, цяпер вучыць іншых і як спецыяліст-прафесіянал высокага класа, выкладаючы студэнтам эканоміку ў Віцебскай акадэміі ветэрынарнай медыцыны і ў Палескім дзяржаўным універсітэце. А тады сам Аляксей Васільевіч вучыўся ў людзей вопытных, практыкаў. Дый цяпер ніколі не лічыць гэта лішнім. Прыгадваючы той час, прызнаецца:

— Магчыма, каму-небудзь гэта падасца дзіўным, аднак самыя яркія ўспаміны ў мяне засталіся ад партыйных і савецкіх сходаў, калі на трыбуну для справаздачы перад аўдыторыяй падымаліся такія знакамітыя кіраўнікі, як Герой Сацыялістычнай Працы Іван Дзмітрыевіч Янкоўскі. Ён у раёне з'яўляўся бясспрэчным лідарам, узроўню якога нам, маладым спецыялістам, здавалася немагчымым дасягнуць. Я назіраў за яго паводзінамі, уважліва слухаў яго развагі, аналізаваў прапановы. Словам, вучыўся.

Несумненна, Мікуліч аказаўся старанным вучнем. Іначай наўрад ці атрымаў бы медаль «За трудовое отличие». Тады звычайна гэтай аўтарытэтнай усесаюзнай узнагародай адзначалі тых, хто знаходзіўся бліжэй да вытворчасці. Калі мець на ўвазе сельскагаспадарчую вытворчасць, дык згаданым медалём узнагароджвалі аграномаў, інжынераў, даярак, механізатараў. На каго звярнуць першаступенную ўвагу, загадзя ўказвалася. «Уніз», у тыя ж раёны спускалася разнарадка, якой мясцовыя ўлады мусілі ў абавязковым парадку прытрымлівацца. Дый калі б асмеліліся парушыць яе, то на абласным узроўні праяўлялася яшчэ большая пільнасць. Прозвішча кандыдата на гэтую ўзнагароду, які сваім месцам работы не падыходзіў, абавязкова выкраслілі б. Мікуліч жа, хоць і быў намеснікам старшыні калгаса і сакратаром партыйнай арганізацыі, прайшоў.

Ды наперадзе яго чакалі цяжкасці, якія загадзя, безумоўна, не мог прадугледзець. Пачаліся яны для Аляксея Васільевіча пасля таго, як яго ў 1986 годзе прызначылі дырэктарам саўгаса «Манькавічы». Безумоўна, Мікуліч ведаў, што гэтая гаспадарка — адна з адстаючых у Столінскім раёне. Здагадваўся і пра тое, што многія цяжкасці звязаны з тым, што гэты саўгас знаходзіцца непадалёку ад раённага цэнтра. Таму многія вясковыя жыхары ўладкоўваліся працаваць у Століне. Ішлі ў будаўнічыя, дарожныя арганізацыі, падшуквалі іншыя месцы, дзе за работу больш плацілі. Не ў меншай ступені прыцягвала і тое, што ў горадзе былі два гарантаваныя законам дні адпачынку.

Ды адно пра ўсё здагадвацца і куды іншая справа з усім гэтым сутыкнуцца, можна сказаць, сам-насам. А так і адбылося, калі стаў бліжэй знаёміцца са становішчам спраў у саўгасе. Высветлілася, што праблема з кадрамі не тое, што стаіць востра, а архівостра. У гаспадарцы назіраўся сапраўдны голад на жывёлаводаў, механізатараў, будаўнікоў. Выйсце Мікуліч убачыў у тым, каб пастаянна пра тое, як быць, што рабіць, раіцца з людзьмі. Для гэтага штодзённа пачаў праводзіць адкрытыя пашыраныя планёркі, на якія запрашаліся рабочыя саўгаса. Хацелася выслухаць думку простых людзей па тых пытаннях, якія аднолькава хвалявалі і яго самога, і іх.

Нямала далі таксама штомесячныя сходы ў брыгадах і на фермах. Зноў жа гаворка ішла шчырая, адкрытая. Як з боку яго, кіраўніка, так і з боку ягоных падначаленых. Хацеў, каб людзі паверылі яму, каб пераканаліся, што ўсе цяжкасці, з якімі сутыкаецца калектыў, часовыя. Абавязкова наступяць лепшыя часы, але гэта адбудзецца толькі пры ўмове, калі ўсе будуць працаваць з поўнай аддачай.

Шмат дало паляпшэнне жыллёвых умоў для работнікаў. На жаль, пабудаваць жыллё тым, хто ў гэтым меў патрэбу, за кошт гаспадаркі не маглі. Затое выдзялялі зямельныя ўчасткі, давалі фінансавую дапамогу ў пяць тысяч рублёў. Для свайго часу гэта было шмат. Такой сумы ставала для набыцця ўсіх неабходных будаўнічых матэрыялаў. Праўда, у тых, хто пачынаў будаваць уласны дом, бралі абавязацельства, паводле якога трэба было адпрацаваць у саўгасе дзесяць гадоў. Людзі ішлі на падобныя ўмовы. Праз некаторы час з такіх новых дамоў у Манькавічах з'явілася цэлая вуліца, якой далі імя Пятра Міронавіча Машэрава.

## Па-навуковаму, значыць — па-дзелавому

Не лішне з КУВП «Манькавічы» пазнаёміцца бліжэй. Сёння гэта шматпрофільная буйнатаварная вытворчасць, што ўключае ў сябе тры раней самастойныя суб'екты гаспадарання: саўгас «Манькавічы», Столінскі спіртзавод і СВК «Белавуша». Сельскагаспадарчая вытворчасць у «Манькавічах» развіваецца стабільна. Агульная зямельная плошча складае 4 994 гектары. Сельскагаспадарчыя ўгоддзі

займаюць 4 199 гектараў, з іх ворыва — 1 830, сенакосы і пастбішчы — 2 369 гектараў. У сельскагаспадарчай вытворчасці прадпрыемства спецыялізуецца па адкорме буйной рагатай жывёлы, вытворчасці малака, зерня, кармоў для жывёлагадоўлі. Функцыяніруе 5 фермаў, у тым ліку тры па адкорме буйной рагатай жывёлы, ферма па вырошчванні цёлак, ёсць малочна-таварная ферма.

Ва ўсім парадак, што дазваляе атрымліваць штогод стабільна высокія ўраджаі. Парадак і на жывёлагадоўчых фермах. Чысты прыбытак ад рэалізацыі прадукцыі вагаецца ў межах 17 мільярдаў рублёў, а ў кансалідаваным бюджэце Столінскага раёна доля адлічэнняў КУВП «Манькавічы» складае 37 працэнтаў. Рэнтабельнасць знаходзіцца на ўзроўні 32 працэнтаў.

Як кіраўнік, у якога ступень доктара эканамічных навук, Мікуліч у сваёй дзейнасці прытрымліваецца навуковага падыходу да сельскагаспадарчай вытворчасці, улічвае ўсё тое лепшае, што ёсць у гэтым накірунку не толькі ў Беларусі, а і за яе межамі. Аляксей Васільевіч упэўнены, што менавіта эканамічная мадэль, узятая на развіццё ў нашай краіне, найбольш эфектыўная. Праўда, Мікуліч удакладняе, што за ўсю эканоміку гаварыць не збіраецца, а што тычыцца сельскай гаспадаркі, дык курс на яе развіццё ў краіне ўзяты правільны.

— Будучыня за буйнатаварнай вытворчасцю, — упэўнена гаворыць дырэктар КУВП «Манькавічы», — бо яна дае якасную і канкурэнтаздольную на ўнутраным і знешнім рынку прадукцыю. Альтэрнатывы тут няма. На дадзеным гістарычным этапе фермер краіну не накорміць. Я часта бываю за мяжой, — працягвае Аляксей Васільевіч, — і бачу, што робіцца ў Расіі, ва Украіне, у Прыбалтыцы. Ёсць з чым параўнаць. Харчовая бяспека краіны — вось тое, пра што ніколі нельга забываць, а яе і стварае, забяспечвае тая ж буйнатаварная вытворчасць.

Праўда, гэта не значыць, што Мікуліч не даацэньвае на сучасным этапе ролю прыватнага бізнесу. Тым больш, што Аляксей Васільевіч пераканаўся ў гэтым не толькі па родзе сваёй асноўнай дзейнасці. Мікуліч, апроч усяго, з'яўляецца членам Столінскага раённага выканаўчага камітэта, дэпутат Брэсцкага абласнога Савета. Неаднаразова ўпэўніўся, як востра стаіць праблема працоўнай занятасці. На Століншчыне — не ў апошнюю чаргу.

Адна з прычын таго, што з'яўляюцца лішнія рукі, — мадэрнізацыя сельскай гаспадаркі. На палетках з'явілася сучасная высокапрадукцыйная тэхніка. Для прыкладу, там, дзе працавалі чатыры трактары, з гэткім жа аб'ёмам работы лёгка спраўляецца адзін. Тое ж самае назіраецца і на жывёлагадоўчых фермах, куды таксама прыйшла сучасная тэхніка. Той, хто застаўся без работы, стараецца шукаць сабе іншы занятак. Хтосьці займаецца агратурызмам, нехта ідзе ў прыватны сектар. Многія ж мужчыны выйсце бачаць у тым, каб выязджаць на работу за межы Беларусі. А многія кінуліся вырошчваць агуркі, якія здаюць перакупшчыкам, па сутнасці, за бясцэнак. Ды найбольш ініцыятыўныя і маглі б заняцца прыватным бізнесам.

## Няпросты шлях… да спірту

Гісторыя спіртзавода ў Манькавічах пачыналася з вінакурнага завода, які, па праўдзе кажучы, заводам назваць і язык не паварочваецца. Ды гэта калі падыходзіць да ўсяго з агледзін сённяшняга дня. У свой жа час ён усё ж лічыўся заводам, як і іншыя прадпрыемствы — і не толькі падобнага профілю, колькасць працуючых на якіх у лепшых выпадках складала пару дзясяткаў чалавек. На Манькавіцкім вінакурным заводзе было і таго меней: калі ён адкрыўся, на ім працавала ўсяго сем чалавек. Дый ніякае не віно атрымлівалі, а выпускалі спірт-сырэц. Зразумела, з бульбы, якой у тамашніх мясцінах ставала. Аб'ём вытворчасці складаў каля шасці тысяч вёдраў. Як быццам, і нямала, калі мець

на ўвазе адзін працоўны дзень. Нядрэнны паказчык атрымаецца і тады, калі падобны аб'ём вымяраць, скажам, тыднем. Але ў дадзеным выпадку маецца на ўвазе год.

Прынамсі, такую лічбу можна напаткаць у сацыяльна-гістарычным даведніку Беларусі за перыяд з 1860 па 1908 год. Здавалася б, такому аўтарытэтнаму выданню не давяраць нельга. Хоць, хто яго яшчэ ведае, наколькі гэтыя падлікі правільныя, бо гэты ж даведнік сцвярджае яшчэ і літаральна наступнае: «У жніўні 1881 года ў вёсцы Манькавічы Пінскага павета заснаваны вінакурны завод…»

У сапраўднасці гэта адбылося трыма гадамі раней. Князь Антоній Радзівіл, калі браўся за нешта задуманае ім, ажыццяўляў гэта вельмі хутка. Паспяшацца ж у яго былі ўсе падставы. Загадзя знайшоў надзейных пакупнікоў будучай прадукцыі. І не дзе-небудзь у правінцыі, а ў самой Варшаве. Калі ж упэўнены, што праблем са збытам не будзе, то і будаўніцтва завода нельга зацягваць. Балазе, гэтым кіраваліся і варшаўскія заказчыкі, якія не сумняваліся ў тым, што прадукцыя, якую паставіць уладальнік Манькавіч, будзе высокай якасці. У гэтым яны не памыліліся: Антоній Радзівіл ніколі іх не падводзіў, таму прэтэнзій да выробленага ў Манькавічах спірту-сырцу не паступала.

Так працягвалася да 1939 года, калі Заходняя Беларусь уз'ядналася з Усходняй. Вінакурны завод у Манькавічах, як і іншыя прыватныя прадпрыемствы ў Заходняй Беларусі, быў нацыяналізаваны, стаў дзяржаўнай уласнасцю. Безумоўна, ён ужо з'яўляўся зусім не тым, як на пачатку свайго існавання. Усё ж за дзесяцігоддзі, што прайшлі з дня ягонага адкрыцця, многае змянілася. Не ў апошнюю чаргу гэта тычылася тэхнічнага пераўзбраення прадпрыемства.

Аднак асабліва паскоранымі тэмпамі пераўзбраенне завода пачало весціся пасля таго, як завод стаў дзяржаўным. Першы ягоны «савецкі» дырэктар — вядома толькі, што прозвішча яго было Зубарык — прыехаў у Манькавічы з Заходняй Беларусі і дзякуючы падтрымцы дэрэктыўных органаў шмат зрабіў па мадэрнізацыі вытворчасці. Завод аснасцілі сучасным для свайго часу тэхналагічным абсталяваннем, што дазволіла многія аперацыі, якія дагэтуль выконваліся ўручную, даверыць машынам. Адпаведна павялічылася і прадукцыйнасць вытворчасці: выпуск спірту дасягнуў 1000 дал у суткі. Тым, хто гэтага не ведае, патлумачу: адзін дэкалітр, ці дал роўны дзесяці літрам.

Новае жыццё ў завода пачалося пасля заканчэння Вялікай Айчыннай вайны. Хоць, правільней, бадай, сказаць: другое нараджэнне, бо ў час акупацыі нямецка-фашысцкімі захопнікамі прадпрыемства было цалкам разбурана. Усё давялося рабіць, па сутнасці, на голым месцы. А што з пастаўленай задачай справіліся хутка, вялікая заслуга, безумоўна, першага пасляваеннага дырэктара завода Г. Васільчанкі. Нядаўні франтавік, ён аднаўленне прадпрыемства ўспрыняў як барацьбу на пярэднім краі, а з пярэдняга краю, як вядома, тыя, хто ўсведамляе свой абавязак, ніколі не адступаюць.

Гэткімі ж патрыятычнымі памкненнямі былі прасякнуты і ўсе, хто тады працаваў на аднаўленні завода. Немалаважна і тое, што манькаўцы не засталіся сам-насам са сваімі праблемамі. Як аднаўленню разбуранай вайной гаспадаркі Беларусі дапамагала ўся краіна, так і ў дадзеным выпадку ўсё адбывалася гэткім жа чынам. У прыватнасці, неабходнае абсталяванне паступіла з Калінінграда, дапамагалі і іншыя рэгіёны. Усё гэта, разам узятае, і дазволіла пусціць завод у строй дзеючых у першы ж пасляваенны год.

Паспяхова прадпрыемства працавала да жніўня 1986 года, пакуль ні з'явіўся чарговы ўказ ЦК КПСС аб барацьбе з п'янствам і алкагалізмам. Падобныя ўказы, як вядома, неаднаразова з'яўляліся і дагэтуль. Сумнявацца ў правільнасці таго, на што звярталася тады такая пільная ўвага, наўрад ці даводзіцца. Ды ўся бяда ў тым, што самім указам усё неаднаразова і заканчвалася. Для прыліку папалохалі народ барацьбой з п'янствам і алкагалізмам, а праз некаторы час усё працягвалася, як і раней. Праўда, вялікі дэмагог і так званы рэфарматар Гарбачоў дзейнічаў з

куды большым размахам. Па прынцыпе: калі нешта ламаць, дык «до основания». Выконваючы гэты ўказ, столінскаму райкаму партыі нічога не заставалася, як спіртзавод закрыць. Прадпрыемства было перададзена на баланс саўгаса «Манькавічы» і перапрафіліравана на выпуск кармавых дражджэй.

Што ж, прадукцыя таксама неабходная, асабліва, калі прыняць пад увагу тое, што кармавых дражджэй у краіне, у тым ліку і ў Беларусі, нехапала. Як і тых жа камбікармоў, дый шмат чаго іншага, што так неабходна для паспяховага вядзення сельскай гаспадаркі, прынамсі, для эфектыўнага ўтрымання буйной рагатай жывёлы. Але ж усё гэта можна вырабляць і не разбураючы таго, што і так ужо давала належны прыбытак. Хто разумеў гэта, хто не разумеў. Былі і такія, хто зусім не збіраўся ўнікаць у сутнасць справы, дзейнічаючы па прынцыпе: загады, якія паступаюць зверху, не абмяркоўваюцца, а выконваюцца. І чым хутчэй, тым лепш. У першую чаргу для самога сябе.

Аднак Манькавіцкаму спіртзаводу ўсё ж пашанцавала, бо ў тым жа 1986 годзе, як ужо гаварылася, саўгас «Манькавічы» ўзначаліў Мікуліч. Аляксей Васільевіч, канечне, разумеў, што барацьбу з п’янствам і алкагалізмам неабходна весці. Але і быў перакананы, дый у гэтым сёння ўпэўнены, што нельга ўсё рабіць валюнтарысцкімі метадамі, а закрыццё таго ж завода ў Манькавічах іначай і нельга ўспрымаць. Таму ў душы Мікуліча жыло спадзяванне, што рана ці позна прыйдзе час, калі прадпрыемства зноў зможа выдаваць тую ж прадуцыю, якую выпускала і дагэтуль. Але гэта будзе зрабіць прасцей, калі завод захаваць, наколькі можна, у ранейшым выглядзе.

Не абмяжоўваючыся выпускам кармавых дражджэй, Аляксей Васільевіч прыняў усе захады для таго, каб пусціць у эксплуатацыю цэх па вытворчасці кандытарскіх вырабаў. Справа, безумоўна, клапотная, але і выгадная. Асабліва, калі гэта будзе такая прадукцыя, якой на рынку нестае, таму можна быць упэўненым у яе пастаяннай запатрабаванасці. З арыентацыяй менавіта на такую прадукцыю і ўзводзілі на заводзе свой кандытарскі цэх. Загадзя запланавалі выпуск цукерак «Кароўка», ірысу «Прыма», пячэння «Аўсянае», «Сялянскае». І размахнуліся на прыстойную магутнасць гэтага цэха — ажно на 500 тон прадукцыі ў год.

Сваё слова стрымалі: колькі хацелі выпускаць далікатэсных кандытарскіх вырабаў, столькі і пачалі іх выпускаць. Іншы б на месцы Мікуліча, застаўшыся задаволены, што ўсё атрымалася так, як і хацелася, на гэтым і спыніўся б, працягваючы асноўную ўвагу надаваць сельскагаспадарчай вытворчасці. Але сама рэчаіснасць падказвала яму, што Манькавіцкі спіртзавод трэба аднаўляць. Антыалкагольная кампанія хутка «захлынулася». Дый не было ўжо той краіны, у якой яна аб’яўлялася. У незалежнай жа Беларусі пачалі з’яўляцца ахвочыя загрэбці пабольш грошай, выпускаючы розныя алкагольныя напіткі сумніцельнай якасці, зусім не дбаючы аб здароўі спажыўцоў такой сваёй прадукцыі.

Зразумела, што так бясконца працягвацца не магло. Абавязкова мусіў прыйсці час, калі будзе пастаўлены належны заслон тым, хто дбаў толькі аб уласнай кішэні. Выйграе той, хто загадзя зразумее гэта. Мікуліч аказаўся сярод такіх кемных вытворцаў. Але, каб пачынаць нешта важнае, неабходна мець сродкі. Іх Аляксей Васільевіч атрымаў, аднавіўшы ў 1992 годзе вытворчасць спірту-сырцу.

Грошы, зробленыя ад продажу яго, накіраваў на будаўніцтва цэха рэктыфікацыі, што дазваляла б ужо атрымліваць не спірт-сырэц, а высакаякасны рэктыфікат, каб не толькі прадаваць яго, а і ў перспектыве выкарыстоўваць для вытворчасці ўласнай гарэлкі. Такой, якая па сваёй якасці магла б паспрачацца са шмат якімі аналагічнымі гарэлкамі, што даўно ўжо заваявалі ўнутраны і знешні рынак, стаўшы брэндавымі.

Такая вытворчасць і была ў задумках Мікуліча. Таму з гэткай сур’ёзнасцю і паставіўся Аляксей Васільевіч да будаўніцтва цэха рэктыфікацыі. Ідэя, безумоў-

на, была смелай і патрабавала да яе здзяйснення самага сур'ёзнага стаўлення. Ні ў якім разе нельга забываць, што поспеху можна дасягнуць толькі пры ўмове ўстаноўкі сучаснага тэхналагічнага абсталявання. Другая перадумова такога поспеху — падрыхтоўка спецыялістаў, якія будуць добра ведаць новую для іх справу, прасякнуцца жаданнем працаваць так, каб не было праблем са збытам гатовай прадукцыі. Таму і не спяшаўся Мікуліч, а старанна ўсё ўзважваў, перш чым прыняць нейкае важнае рашэнне. У прыняцці кожнага з іх ён раіўся з тымі, на каго асабліва спадзяваўся, а гэта як спецыялісты самога завода, так і намеснік старшыні канцэрна «Белдзяржспажыўпрам» А. Рубец.

За будаўніцтва цэха ўзяліся ў 1993 годзе, а ў эксплуатацыю ўвялі 17 лютага 1995 года. Першая працоўная перамога ў выхадзе на перадавыя рубяжы ў вытворчасці гарэлак! Першая і адначасова вельмі важная. У цэху ўстанавілі брага-рэктыфікаваную ўстаноўку БРУ-1500 так званага ўскосна-праматочнага дзеяння. Дзякуючы гэтай устаноўцы манькаўцы першымі ў нашай краіне адачасова атрымалі на патоку два спірты, назвы якіх гавораць самі за сябе — «Люкс» і «Экстра». З чаго атрымліваць іх, праблем не было — годам раней пабудавалі склад для захоўвання зерня ўмяшчальнасцю 3500 тон.

Калі першыя тоны рэктыфікату, атрыманыя ў «Манькавічах», паступілі спажыўцам, тыя хутка ўпэўніліся ў яго высокіх спажывецкіх якасцях, а добрая слава, як вядома, хутка разносіцца. Прайшло не так і шмат часу, як манькавіцкі спірт-рэктыфікат з задавальнннем пачалі набываць многія лікёра-гарэлачныя заводы Беларусі. Сярод спажыўцоў апынуўся і Брэсцкі, прадукцыя якога даўно па вартасцях ацэнена і спецыялістамі гарэлачнай справы, і спажыўцом. У жніўні 1995 года ў магазіны краіны паступіла і першая партыя манькавіцкай гарэлкі з традыцыйнай на той час назвай «Сталічная».

Каб выйсці на свае, уласныя гатункі, безумоўна, патрабаваўся пэўны час. Дый далейшае ўдасканаленне вытворчасці. Дзеля гэтага ў 1996 годзе ўзяліся за рэканструкцыю кацельнага абсталявання цэха вытворчасці спірту, якую завяршылі ў 1998 годзе. Яшчэ праз два гады правялі мадэрнізацыю дражджавога аддзялення. Так званыя дражджаванкі ўстанавілі са сталі-нержавейкі. У 2002 годзе адмовіліся ад соладу як ацукроўваючага матэрыялу. Замест яго пачалі выкарыстоўваць ферментныя прэпараты. Затраты на вытворчасць зменшыліся з пераводам у 2004 годзе кацельных на прыродны газ.

Кожны год, бадай, прыносіў штосьці новае ў вытворчасць. Так па праграме развіцця арганізацый Рэспублікі Беларусь, якія ажыццяўляюць вытворчасць і экспарт алкагольнай прадукцыі на 2005—2007 гады, у 2007 годзе была праведзена мадэрнізацыя брадзільнага аддзялення, у выніку чаго брадзільныя чаны замянілі аўтаматычнымі мыйкамі. Правялі таксама мадэрнізацыю і поўную аўтаматызацыю брагарэктыфікацыйнай устаноўкі БРУ-1500, а гэта павялічыла выхад спірту этылавага рэктыфікаванага «Люкс» да 98 працэнтаў.

У тым жа, 2007 годзе, устанавілі і новы камплект абсталявання для падрыхтоўкі вады, а гэта чатыры вугальныя калонкі, два пясочныя фільтры на ўваходзе і два на выхадзе, сартавальны чан, напорная ёмістасць, два даводзячыя чаны, мернік для спірту і мернік для выпраўленай вады. Нарэшце 2007 год знамянальны і тым, што была распрацавана і ўкаранёна сістэма менеджменту якасці ISO 9001 — 2009, а таксама сістэма кіравання якасцю і бяспекай харчовых прадуктаў на аснове аналізу рызык і крытычных кантрольных кропак HACCP.

Праз год у цэху разліву алкагольнай прадукцыі ўстанавілі другую лінію вытворчасці Італіі, магутнасць якой складае 6 тысяч бутэлек у гадзіну. Было ўстаноўлена імпартнае абсталяванне і для водападрыхтоўкі. А ў 2010 годзе пачаў працаваць цэх па вытворчасці каньяку з каньячных спіртоў. Разам з тым удасканалілі варачнае аддзяленне, дзеля чаго ўкаранілі падпрацоўкі зерня і мягкую схему разварвання сыравіны, а таксама абсталявалі цэх падрыхтоўкі гарэлкі сярэбранай фільтрацыяй.

## Піць ці не піць — вырашаць самому

Спіртагарэлачны завод у Манькавічах, як і ў цэлым КУВП «Манькавічы», развіваецца стабільна. Гэта адно з самых сучасных аналагічных прадпрыемстваў у Беларусі, што карыстаецца нязменнай рэпутацыяй як у работнікаў гандлю, так і ў спажыўцоў. Прытым не толькі ў беларускіх: прадпрыемства ўсё больш упэўнена заваёўвае новыя рынкі збыту, выходзячы на замежны рынак.

Манькавіцкая прадукцыя карыстаецца папулярнасцю ў такіх краінах, як Літва, Латвія, Канада, Германія. Гэта невыпадкова, бо яна не толькі высокай якасці, а і шырокага асартыменту. Асабліва гэта тычыцца гарэлак, якія выпускаюцца на розныя густы. Нязменным поспехам карыстаюцца «Беларусачка», «Беларусачка Плюс», «Князь Давыд», «Сялянская», «Пікант», «Дыпламат Люкс». Асобныя ж з гарэлак — так званыя «лінейкі». Гэта калі пад адной і той жа назвай выпускаецца некалькі відаў гарэлак. Напрыклад: Хлебная сляза — «Чыстая», «Ржаная», «Пшанічная»; Тры кроплі — «Элітная», «Мяккая», «Класічная»; Агонь ды вада — «Традыцыйная», «Святочная», «45$^0$». Апроч таго, выпускаецца «лінейка» і асобых гарэлак: Тры кроплі: «Лімон», «Апельсін», «Лімон-Лайм». На экспарт распрацаваны і спецыяльныя гарэлкі «Diamond», «Vodka Russifn Gold», «Vodka Russian Cilver», «Vodka Russian Platinum», «Vodka Pussian Lemon», «Vodka Pussian Blackcurrant».

У 2011 годзе распачаты разліў малдаўскага каньяку «Залаты год». Дарэчы, у перспектыве плануецца распачаць і самастойны выпуск каньякоў з каньячных спіртоў. У гэтым, безумоўна, акажуць дапамогу тыя спецыялісты, якія гэтым даўно займаюцца. Так, спецыялісты з Малдовы дапамаглі манькаўцам распрацаваць рэцэптуру арыгінальных настоек горкіх «Гарыныч» і «Гарыныч на рыбалцы», а таксама бальзаму «Князь Давыд».

А што тамашняя прадукцыя нязменна высокай якасці, сведчаць і шматлікія ўзнагароды буйнейшых выставак і конкурсаў. Сярод іх «Interdrink-1999» — г. Масква, «Interdrink-2000» — г. Санкт-Пецярбург, «Віно-гарэлка-тытунь-2002» г. Сочы, «Экспаформ» — г. Мінск, «Міжнародны конкурс залаты грыфон-2010» г. Ялта, на якіх прадукцыя завода КУВП «Манькавічы» была адзначана больш як 30 медалямі, з якіх 8 залатых, 16 сярэбраных і 8 бронзавых.

З'яўляючыся магутным прадпрыемствам, завод, дасягнуўшы многага, не стаіць на месцы, а пастаянна вядзе вялікую работу па тэхнічным пераўзбраенні прадпрыемства, прычым, пастаянная ўвага надаецца ўкараненню новых распрацовак. У гэтым накірунку асабліва шмат далі работы, праведзеныя па рэалізацыі навукова-тэхнічнай праграмы Саюзнай дзяржавы «Павышэнне эфектыўнасці харчовых вытворчасцей за кошт перапрацоўкі іх адходаў на аснове прагрэсіўных тэхналогій і тэхнікі».

Мэтай гэтай праграмы было павышэнне эфектыўнасці спіртавой вытворчасці, паскарэнне працэсу біялагічнай канверсіі зерневай сыравіны, павялічэнне выхаду спірту. Не былі абыдзены ўвагай і такія аспекты, як павелічэнне якасці другасных прадуктаў, зніжэнне цеплавых затрат. Было дадзена жыццё мяккай схеме безупыннага разварвання сыравіны. Дзеля гэтага мадэрнізавалі і аўтаматызавалі варачнае аддзяленне, устанавіўшы ў ім сучаснае абсталяванне, якое зроблена з нержавеючай сталі, а таму разлічана на доўгую работу.

Пасля ажыццяўлення згаданай праграмы Саюзнай дзяржавы павялічыўся выхад спірту з адначасовым паляпшэннем ягонай якасці. Сутачная прадукцыйнасць завода павялічылася з адной тысячы дал да паўтары. І гэта ў той час, што паменшыліся затраты на выкарыстанне цеплаэнергіі. Да ўсяго атрымалі істотны вынік: значна аблегчыліся ўмовы працы, якія на падобных прадпрыемствах, трэба сказаць, не з лёгкіх. Але на заводзе, зразумела, стараюцца не толькі дзеля высокіх паказчыкаў і адпаведна вялікага прыбытку, а і каб спіртныя напіткі атрымліваліся высокай якасці, не шкодзілі здароўю чалавека.

Пры ўжыванні спіртных напіткаў прынцып мусіць заставацца нязменны: усё павінна быць у меру. Таму на бутэлечных этыкетках манькавіцкай прадукцыі абавязкова прысутнічае надпіс: «Чрезмерное употребление алкоголя вредит Вашему здоровью». Адным словам, кожны гаспадар свайго здароўя. Яму самому і вырашаць: піць ці не піць, а калі ўжываць, дык колькі. Адно пэўна можна сказаць, што аддаць усё ж трэба перавагу таму, што адпавядае стандартам і лічыцца лепшым. У гэтым сэнсе манькаўцам канкурэнтаў мала.

Думаецца, што канкурэнтаў яны не будуць мець і пасля таго, як ажыццявяць яшчэ адну добрую справу. У планах Мікуліча — наладзіць выпуск бутэляванай пітной вады. На сённяшні дзень у многіх краінах, як вядома, адчуваецца дэфіцыт яе, а ў Манькавічах — колькі душа пажадае. Галоўнае, каб своечасова запоўніць тут сваю нішу, апярэдзіць іншых.

## Людзі — асноўнае багацце

Як ты да чалавека ставішся, гэтаксама ён адносіцца і да цябе. Гэтае разуменне даўно стала для Мікуліча свайго роду правілам. З таго яшчэ моманту, як ён узначаліў саўгас «Манькавічы». Пры гэтым як кіраўнік прадпрыемства, дбаючы аб ягоным эканамічным росце і развіцці, адначасова пастаянна дбаў і дбае і пра тое, каб на якасна новы ўзровень падымалася і праца спецыялістаў КУВП.

— Мы, — расказвае Аляксей Васільевіч, — даўно і актыўна ўкладваем інвестыцыі ў сваіх жа супрацоўнікаў. І гэта сказваецца пазітыўна. Эфектыўная вучоба кадраў усіх узроўняў дае належныя вынікі. Адбываецца гэта дзякуючы таму, што галоўныя спецыялісты і спецыялісты сярэдняга звяна наведваюць курсы павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі. Не забыты і працаўнікі масавых прафесій. Для іх штогод са студзеня па сакавік арганізоўваем навучанне на вытворчасці з абавязковай атэстацыяй. Гэта цалкам апраўдана і карысна, таму што навучанне праводзіцца па спецыяльных праграмах, распрацаваных нашымі спецыялістамі. Тым больш ганарова для нас тое, што многія нашы работнікі ўдзельнічалі ў міжнародных семінарах, на розных курсах, выстаўках.

Развіваючы думку Мікуліча аб тым, наколькі важна пашырэнне свайго кругагляду, набыццё новых ведаў па прафесіі, трэба сказаць, што кожны жадаючы гэта можа зрабіць і самастойна. Дастаткова толькі зазірнуць у тэхнічную бібліятэку, якая працуе ў гаспадарцы. У ёй багаты выбар спецыялізаванай літаратуры, колькасць якой даўно перавысіла дзве тысячы экзэмпляраў. Да ўсяго штогод выпісваецца каля 30 прафесійных тэхнічных выданняў, у якіх, як вядома, можна атрымаць навейшую інфармацыю па той ці іншай галіне развіцця сельскагаспадарчай вытворчасці. Ды, зразумела, набытыя веды становяцца дзейснай і выніковай падмогай у паўсядзённай працы толькі ў тым выпадку, калі для яе створаны спрыяльныя ўмовы. А гэта значыць, што добра працаваць — выгадна, бо гэта сказваецца і на выніках аплаты, і на тым, якую прэмію атрымлівае чалавек, у рэшце рэшт ад самаадданай, бездакорнай працы залежыць і яго статус у калектыве.

Калі каму-небудзь тэрмінова спатрэбяцца грошы, ён можа разлічваць на матэрыяльную дапамогу. Не застаецца КУВП «Манькавічы» ў баку і ад такога віду дапамогі, як спонсарская. У прыватнасці, гаспадарка поўнасцю ўзяла на сябе ўтрыманне Столінскай раённай аматарскай хакейнай каманды. Гэта ж тычыцца і арэнды лядовай арэны Палескага дзяржаўнага ўніверсітэта ў горадзе Пінску. Аказваецца спонсарская дапамога і некаторым спартыўным клубам. Па просьбе аргкамітэта па каратэ былі выдзелены грошы для набыцця кубкаў для пераможцаў і прызёраў.

Такое ўважлівае стаўленне ў Мікуліча адносна таго, што тычыцца спорту і фізкультуры, невыпадковае. Аляксей Васільевіч прыхільнік здаровага ладу

жыцця. Калі быў малады, актыўна гуляў у футбол, валейбол, захапляўся спартыўнай арыенціроўкай на мясцовасці. Цяпер жа штодня раніцой робіць фізічную зарадку. Дзейнічае па прынцыпе: у здаровым целе — здаровы дух. Але не абыходзіць КУВП «Манькавічы» падтрымкай і ўстановы культуры, адукацыі, разумеючы, што на тым, што звязана з духоўнасцю, эканоміць недаравальна, дый нават грэшна.

Дарэчы, у Манькавічах паважнае стаўленне да рэлігіі яшчэ з таго часу, калі развалілася вялікая краіна. Тады і сабралася ініцыятыўная група на чале з Мікалаем Арцёмавічам Бандарчуком і вырашыла ўзводзіць праваслаўны храм св. Серафіма Сароўскага. Мікуліч ахвотна пайшоў насустрач. Быў выдзелены зямельны ўчастак, аказана дапамога будаўнічымі матэрыяламі, тэхнікай. А калі храм быў пабудаваны, адбыўся ўнікальны выпадак не толькі ў гісторыі саміх Манькавіч, а і ўсёй Брэстчыны: мясцовы праваслаўны прыход наведаў патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Алексій II. Ніколі дагэтуль духоўная асоба такога высокага рангу не ступала на тамашнюю зямлю.

Аднак у Манькавічах ніхто не дзеліць людзей па нацыянальнасці і прыналежнасці да той ці іншай рэлігійнай канфесіі. Таму пабудаваны малітоўны дом і мясцовай абшчыны хрысціян-баптыстаў. А яшчэ ў 80-я гады мінулага стагоддзя разам з меліяратарамі было прыведзена ў парадак месца масавага расстрэлу яўрэяў ва ўрочышчы Стасіна, што заходзіцца на тэрыторыі гаспадаркі. Там загінула дванаццаць з паловай тысяч чалавек.

Надаючы вялікую ўвагу матэрыяльнаму стымуляванню, не забывае кіраўніцтва і пра маральную, псіхалагічную падтрымку. Але і ў першым, і ў другім выпадках дзейнічае да кожнага выразна акрэслены індывідуальны падыход. Пры гэтым асаблівае стаўленне да маладых спецыялістаў, якія ніколі не застаюцца па-за ўвагай. Калі нешта не атрымліваецца ў іх, то і добрым словам могуць дапамагчы ім, а то і прыкладам з уласнага жыцця, які нагадвае пра тое, як, не пасуючы перад цяжкасцямі, годна пераадольваючы іх, можна дасягнуць многага.

Усё гэта тым больш важна, што, працуючы выкладчыкам у ветэрынарнай акадэміі і ўніверсітэце, Аляксей Васільевіч мог неаднойчы пераканацца, наколькі больш трэба надаваць увагі паляпшэнню вытворчай практыкі студэнтаў. А паколькі не ўсё адразу робіцца, то, калі прыязджаюць у гаспадарку маладыя спецыялісты, даводзіцца навёрстваць упушчанае, па сутнасці, у нечым навучваць іх, але ўжо непасрэдна на вытворчасці. Пры гэтым працаваць і на перспектыву. У тым сэнсе, каб пасля абавязковай двухгадовай адпрацоўкі ў нядаўняга студэнта з’явілася жаданне застацца працаваць там, куды яго размеркавалі.

Для гэтага, як упэўніўся Мікуліч, трэба, каб была ў маладога спецыяліста дастатойная зарплата і хоць бы адзін выхадны на тыдзень. Але гэта ні ў якім разе не тычыцца важных сельскагаспадарчых кампаній, той жа ўборкі, калі на ўліку не тое, што кожны дзень, а і кожная гадзіна. Дый тыя, хто заняты на ўборцы, самі гэта добра разумеюць. А так выхадны дзень, лічыць Мікуліч, павінен быць не толькі ў маладых спецыялістаў, але і ў прадстаўнікоў рабочых прафесій. Моладзь ёсць моладзь, хочацца адпачыць, заняцца якой-небудзь любімай справай. Дый калі сям’я ёсць, аддаць ёй больш увагі. Як гэта рабіў і сам Аляксей Васільевіч.

Цяпер жонка Мікуліча займаецца хатняй гаспадаркай. Старэйшы сын у Брэсце працуе дырэктарам філіяла «Белнафтастраху», малодшы жыве ў Мінску, заняты ў банкаўскай сферы. Абодва скончылі Беларускі дзяржаўны эканамічны ўніверсітэт, маюць сем’і.

* * *

Многае змянілася ў Манькавіцкім парку. Як-ніяк, а ягоны ўзрост дасягнуў амаль 130 гадоў. Даўно ўжо няма ў ім многіх з экзатычных дрэў. Адны з іх састарэлі, аджылі свой век, многія ў вайну былі пашкоджаны снарадамі і асколкамі,

а калі быць дакладным, дык гэта каля 20 працэнтаў, якія меліся ў той час у наяўнасці. Ды па-ранейшаму пралягае сярод паркавых насаджэнняў асноўная алея, працягласць якой складае каля кіламетра. Праз кожныя дзесяць метраў на ёй растуць у радок клёны, быццам узяўшы яе аберуч у абдымкі.

Па гэтай алеі прыемна крочыць у любую пару года. Толькі асаблівы настрой апаноўвае цябе, калі прагульваешся па ёй восенню. У тую часіну, калі клёны пачынаюць ужо скідваць сваю лістоту і яна, ярка-барвовая, пры лёгкім павеве ветрыку паволі апускаецца на зямлю, усцілаючы яе сваім убраннем. Гледзячы на гэта, настрой становіцца журботным, бо ведаеш, што ў прыродзе нішто не вечнае, а тым больш не вечнае яно ў тваім жыцці. Ды хоць настрой і самотлівы, але не гнятлівы, бо, усведамляючы не вечнасць свайго існавання, адначасова напаўняешся і іншым пачуццём: як бы там ні было, а жыццё працягваецца. Дый будзе працягвацца для іншых людзей, хто гэтаксама напаткае свае вёсны і зімы, свае радасці і расчараванні.

Непадалёку ад будынка краязнаўчага музея, можна ўбачыць камяні. Яны прывезены са Століна. Пад алтарнай часткай колішняга касцёла іх было знойдзена сорак. На кожным з іх відаць разныя крыжы. Хутчэй за ўсё — гэта надмагільныя камяні. Праўда, ёсць і іншае меркаванне. Маўляў, яны з’яўляюцца даўнімі-даўнімі абярэгамі. А чаму б і не паверыць у гэта. Столькі ж віхурных вятроў у розныя часы пранеслася над гэтай зямлёй, а яна па-ранейшаму засталася маладой і жыццядайнай. Дый багатай таксама, бо працуюць на ёй людзі, якія ведаюць, што яны — гаспадары яе і ад таго, наколькі плённа будуць рабіць сваю справу, залежыць не толькі іхні дабрабыт, але і дабрабыт, шчасце іхніх дзяцей, а калі глядзець шырэй, то і ўсёй Беларусі.

Пры наведванні Манькавіч яшчэ адна думка прыходзіць. Калі б мог адбыцца цуд і сюды завітаў бы хто-нібудзь з колішніх іхніх уладальнікаў, хоць бы апошні, Станіслаў Вільгельм, здзіўляцца тым пераменам, што адбыліся на гэтай зямлі, у яго не хапіла б сіл. Вядома, гаворка ідзе не пра тое, што страчана, а пра тое, што дасягута. Канечне, з’явіўся б і настальгічны настрой, што заканамерна для кожнага чалавека, які вяртаецца ў сваё былое. Толькі верыцца, што цягам часу шмат што тут і адновіцца. Для гэтага, безумоўна, трэба грошы. Шмат грошай, але калі паўсюдна працаваць так, як працуюць у КУВП «Манькавічы», яны калі-небудзь знойдуцца.

Барыс ЛУК’ЯНОВІЧ

# СВЕТ ДАБРЫНІ І ШЧЫРАСЦІ

***Віктар Гардзей. Мудры воран. Легенды. Паданні. Прымхі. Павер’і. Казкі.*** *Мн.: Выдавецкі дом «Звязда», 2013.*

Неяк Віктар Гардзей, дасягненні якога ў галіне «дарослай» літаратуры на дзіва значныя, аб чым, у прыватнасці, сведчыць тое, што ён з’яўляецца лаўрэатам літаратурных прэмій імя Івана Мележа і «Залаты Купідон», прызнаўся: «Для дзяцей звычайна пішу тады, калі хочацца далучыцца да свету дабрыні і шчырасці, па-свойму загадкавага і вабнага, напоўненага пастаяннай таямнічасцю. Тым самым адбываецца своеасаблівае душэўнае і духоўнае ачышчэнне, пазбаўленне, няхай толькі і на пэўны момант, усяго дробязнага, неабавязковага, чаго заўсёды хапала ў нашым паўсядзённым жыцці і, на жаль, сёння не паменшала, а, наадварот, пабольшала».

Гэтае шчырае прызнанне знакамітага пісьменніка ўспрымаеш як яшчэ адно пацвярджэнне правільнасці той думкі, што дзіцячая літаратура — гэта Храм у духоўнасці, у які сапраўднаму таленту абавязкова — рана ці позна — хочацца ўвайсці. Іншая справа, што далёка не ўсе пісьменнікі пасля гэтага пастаянна працуюць для дзяцей. Нярэдка, пачаўшы пісаць для іх, яны абмяжоўваюцца некалькімі вершамі ці апавяданнямі, замалёўкамі або артыкуламі, публіцыстычнымі развагамі. Але бывае і так, што некаторыя знаходзяць у дзіцячай літаратуры сваё другое прызванне. Менавіта да такіх пісьменнікаў і адносіцца В. Гардзей.

Яго першая кніга вершаў для дзяцей «Чырвоны грабеньчык» выйшла ў 1976 годзе, калі паэт ужо меў зборнік «дарослых» твораў «Касавіца», выдадзены годам раней. Пасля гэтага, паверыўшы ў свой талент, з аднолькавым творчым імпэтам, мастакоўскім натхненнем пачаў працаваць у абодвух літаратурных накірунках. Аб тым, наколькі сёння набыткі В. Гардзея важкія і ў галіне дзіцячай літаратуры, сведчаць такія яго кнігі, як «На арэхавай палянцы», «Коцікі на вярбе», «Мой тата — трактарыст», «Зай, які лічыў варон», «Зайкава балалайка», «У бары на зары» і іншыя. Асабліва шырокі рэзананс мела ягоная «Малая дзіцячая Чырвоная кніга» ў двух тамах, адпаведна прысвечаная рэдкім прадстаўнікам фаўны і флоры, што патрабуюць да сябе асабліва ўважлівага стаўлення. Да з’яўлення згаданага двухтомніка ніхто з такой заклапочанасцю (безумоўна, і на высоком мастакоўскім узроўні) не расказваў дзецям, як трэба ашчадна ставіцца да ўсяго жывога на зямлі.

Лепшыя творы В. Гардзея для дзяцей даўно сталі хрэстаматыйнымі, уключаюцца ў розныя калектыўныя зборнікі, падручнікі, дапаможнікі. Адзін жа з іх — «Зайчыкавы ноты» — без перабольшання можна назваць класічным у беларускай дзіцячай літаратуры:

У музычнай школе
Зайчык дзень прабыў.
— До-Рэ-Мі — фасоля!
Ноты ён вучыў.

Потым ля загона
Рваў струкі за трох
І спяваў натхнёна:
— До-Рэ-Мі — гарох!

Рэдка каму з паэтаў удаецца так арыгінальна, непаўторна і ў той жа час дасціпна вымавіць тое, што, безумоўна, нікога з хлопчыкаў і дзяўчынак не пакіне абыякавымі. Дый персанаж гэтага верша — такі знаёмы дзецям, і, несумненна, любімы імі, што спрыяе яшчэ лепшаму ўспрыманню твора. Дарэчы, заяц, як пераконваюць кнігі В. Гардзея, — любімы персанаж і яго самога. У гэтым лішні раз упэўнівае і кніга «Мудры воран», у якую ўвайшлі легенды, паданні, прымхі, павер'і і казкі. Усе гэтыя творы аб'яднаны ў тры раздзелы, адзін з якіх называецца «Чаму ў зайца хвост кароткі».

Адказ жа на гэтае пытанне можна знайсці ў казцы «Курчаты Зай», якую пісьменнік чамусьці паставіў на самае завяршэнне сваёй новай кнігі. Хто ведае, чым ён пры гэтым кіраваўся, але, няма сумнення, што гэты твор у яго атрымаўся цікавым і, безумоўна, дзецям ён спадабаецца. Дый, шчыра прызнацца, і мне самому гэтая казка прынесла нямала радасці. І ад таго таксама, што В. Гардзей лішні раз пераканаў у тым, што ёсць у яго яшчэ, як кажуць, порах у парахаўніцах. Не растраціў свайго таленту, па-ранейшаму трымае пяро ў руках упэўнена. Дый хіба можна растраціць талент, калі ад нараджэння так многа дадзена яго, а мастакоўскі вопыт, набыты з гадамі, дапамае яшчэ больш шчодра выкарыстоўваць закладзеныя прыродай творчыя магчымасці, каб усё было арыгінальна, нязменна прыцягвала чытацкую ўвагу.

У гэтым і пераконвае казка «Куртаты Зай», якая чытаецца лёгка і гэтаксама лёгка запамінаецца, што ў творах для дзяцей вельмі важна. Асабліва, калі знойдуцца сярод іх ахвочыя прадэкламаваць гэтую казку на якім-небудзь вечары ці ранішніку. А што яны абавязкова будуць, сумнявацца не даводзіцца. Надта ж цікавую гісторыю расказвае пісьменнік, знаёмячы з Зайцам, які спачатку, канечне, быў такім, як і ўсе зайцы. У тым сэнсе, што ён нічым асаблівым сярод сваіх суродзічаў не вылучаўся, хоць, праўда, выглядаў раней зусім не так, як цяпер:

Зай даўней не быў куртаты.
Кажуць, быў і ён хвастаты.
Не хаваўся зай калісьці —
З чым было на людзі выйсці.
Хвост ён меў такі пушысты,
Што зайздросцілі ўсе чыста.

Праўда, у тыя далёкія часы лясныя насельнікі не заўсёды насілі з сабой хвасты: «Ды ў звяроў быў даўні звычай: // Без хвастоў яны хадзілі//, Толькі ў святы іх насілі. // Адсвяткуюць — // Трэба зноўку // Здаць убор свой у кладоўку». Гэтую ж кладоўку вартаваць даручылі зайцу. Ён, вядома, рад старацца: «Зай з дзвярэй не зводзіў вока, // Не хадзіў у лес далёка». Звяры ж, ведаючы гэта, не турбаваліся пра свае хвасты, будучы ўпэўненыя ў тым, што яны знаходзяцца ў належным схове. Але зай стараўся-стараўся, ды, бадай, перастараўся, бо, як гэта, ні дзіўна, сам застаўся без хваста. Усім параздаваў хвасты, а свайго ў каморы не ўбачыў. Бадай, нехта забраў яго, а Заяц не заўважыў, што той бярэ зусім не свой хвост, а ягоны. Ва ўсякім разе такі варыянт быў магчымы і ў гэтым пераконвае завяршэнне казкі, што адначасова і дае адказ на пытанне, чаму ў зайца хвост кароткі.

Зай, пачуўшы нагаворы,
Ключ закінуў ад каморы,
У журбе пабег з дубровы
Па сцяжынках верасовых.
Белы месяц засвяціўся.
Зай, здзівіўшыся, спыніўся.
Ён убачыў раптам хвосцік,
Што згубіў на сцежцы хтосьці.
Скасавурыў зай наш вока:
Ці няма звяроў навокал?
Прычапіў ён хвост куртаты,
Весялей пабег дахаты.

Юныя чытачы, а кніга «Мудры воран» у першую чаргу адрасуецца дзецям малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту, напаткаюць і іншыя творы, ужо ў назве каторых закладзена пытанне: «Скуль узяўся бусел», «Адкуль мядзведзь?», «Адкуль пайшлі ваўкі», «Чаму кнігаўка просіць піць», «Чаму лютуе расамаха?», «Адкуль рэчка Лань», «Адкуль рэчка Ведзьма», «Чаму суслік рабы»... Усе гэтыя легенды, паданні, казкі напісаны так, што, з'яўляючыся займальнымі, несучы ў сабе пазнаваль-

ную інфармацыю, яны, разам з тым, вызначаюцца і моцным выхаваўчым эфектам, бо вучаць дзяцей таму, што коратка можна выказаць словамі Уладзіміра Маякоўскага»: «Что такое хорошо, а что такое плохо».

Калі ж глядзець шырэй, дык В. Гардзей выступае і ў ролі таго настаўніка, які добра ведае псіхалогію хлопчыкаў і дзяўчынак, які гэтаксама добра знаёмы і з іхнімі запатрабаваннямі. Калі ж дае якую-небудзь параду, то робіць гэта нязмушана, хоць, безумоўна, элементы дыдактыкі прысутнічаюць, таму што без гэтага ў творах для дзяцей немагчыма абысціся, але рэч у тым, як гэта рабіць. У лоб, пасля чаго дзіця наўрад ці захоча чытаць пра тое, што яго само па сабе ўжо як бы адштурхоўвае. Ці так, калі павучанню хоць і адведзена належнае месца, але свае парады, як рабіць і як жыць пісьменнік выказвае так, як старэйшы таварыш, ці бацька — тактоўна, без празмернага павучання.

Найлепшае пацвярджэнне таму твор, які даў назву кнізе — «Мудры воран»:

Воран, што пражыў гадоў за дзвесце,
Стомлена ў садку прысеў на сук.

— Прэч адсюль! Благія носіш весці, —
Замахнуўся на яго хлапчук.

— Разумнейшы твой дзядок сівенькі. —
Мудры воран хлопчыку сказаў. —

Помніцца, калі ён быў маленькі, —
Камянямі ў птушак не кідаў.

Коратка, ясна і, што немалаважна, з вялікім выхаваўчым эфектам пададзена. Гэтаксама В. Гардзей робіць у шмат якіх сваіх творах, напісаных па душэйшай неабходнасці, а яна, у сваю чаргу, узнікла таму, што пісьменніку ёсць пра што сказаць сваім юным сябрам і ён ведае, як гэта зрабіць так, каб дзеці станавіліся ягонымі аднадумцамі, у іх з'явілася жаданне чытаць ягоныя творы, якія, думаецца, падштурхнуць іх да таго, што выклічуць і любоў да паэзіі, а гэта сёння вельмі важна.

Калі глядзець праўдзе ў вочы, паэзія ўсё ж не ў пашане ў хлопчыкаў і дзяўчынак. Канечне, увогуле сёння менш чытаюць, чым, скажам, яшчэ некалькі дзесяцігоддзяў назад, зборнікі вершаў у рукі бяруць вельмі рэдка. Такія ж кнігі, як «Мудры воран» В. Гардзея, хочацца верыць, паспрыяюць таму, што ў тых, хто пазнаёміцца з імі, узнікне любоў да паэтычнага слова. Не ў апошнюю чаргу і таму, што В. Гардзей, пры ўсім іншым, як і ў многіх творах са сваіх ранейшых кніг, падаючы тую ці іншую гісторыю, піша не толькі дасціпна, але і з тонкім гумарам. Як, для прыкладу, у вершы «Сучасная курыца».

Як і шмат якія творы ў кнізе, ён кароткі, таму да месца яго прывесці цалкам:

Бяжыць чубатка ў крыўдзе змрочнай:
Турнулі з градкі агурочнай.

Ды, зноў жа, вабную сабою
Назвалі курыцай рабою.

— Жыць не хачу ў хляве сялянскім,
Хачу пажыць у доме панскім!

Развею там бяду і скруху,
Дадуць там лепшую «клікуху».

Тут падняла чубатка голаў:
Імчыць аўто між частаколаў.

— Шафёр, мацней трымай баранку,
Не раздушы Галіну Бланку!

Нехта з вялікіх сказаў: «Калі дзіцячы пісьменнік хоча даказаць, наколькі шмат варты ён як мастак слова, то абавязкова павінен напісаць хоць бы адзін такі значны твор, якога яму самому неставала ў маленстве. Калі гэты твор прынясе яму найвялікшае задавальненне ў сталым узросце, то можна не сумнявацца ў тым, што ён як дзіцячы пісьменнік адбыўся». У В. Гардзея ж падобных твораў нямала, а гэта ўжо само па сабе сведчыць на карысць таго, што яго па праве можна лічыць адным з правафланговых сучаснай беларускай дзіцячай літаратуры. Кніга «Мудры воран» гэта яшчэ раз пацвердзіла.

Яраслаў РАДЗІМІЧ

# КАБ ПАЛАНІЛАСЯ ДУША

***Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры».*** *Мн. Харвест, 2012.*

Славуты Вальтэр неяк зазначыў: «Айчына там, дзе палонніца душа». Развіваючы гэтую думку, можна засведчыць, што само паняцце Айчына, Бацькаўшчына, калі глядзець шырэй, ставіцца да яго, зыходзячы з розных ракурсаў, — гэта не толькі гісторыка-культуралагічнае і філасофскае паняцце, што азначае пэўную этнакультурную супольнасць, адносіны чалавека да яе, у чым праяўляецца патрыятызм, а і куток, дзе чалавек нарадзіўся і вырас, адкуль ён пайшоў у вялікі свет. Больш за тое, акамулюе гэтае паняцце і набытак папярэднікаў. Дый ні ў якім разе нельга забываць, што з паняццем Айчына звязана і жыццё тых знакамітых людзей, якія жыццём сваім, дзейнасцю рабілі ўсе дзеля таго, каб праславіць яе, годна прадставіць у свеце, сярод іншых народаў. Таму, несумненна, паважнае стаўленне да тых, хто з'яўляецца гонарам і сумленнем нацыі, — адно з пацвярджэнняў яе сталасці, якая праяўляецца і ў тым, што адначасова не забываецца і месца, дзе душа палоніцца.

Дасягнуць жа гэтага можна праз памяць, а яна стане як бы матэрыялізавацца, калі расказваць пра лепшых з лепшых. І не толькі пра тых, хто рабіў так званую «новую гісторыю», што не без поспеху ажыццяўлялася ў гады савецкай улады. Балазе, асабліва значныя зрухі ў гэтым накірунку, калі мець на ўвазе Беларусь, былі зроблены, пачынаючы з сярэдзіны 80-х гадоў мінулага стагоддзя (маю на ўвазе выданне кніг). У прыватнасці, тагачаснае выдавецтва «Навука і тэхніка» пачало выпускаць серыю «Нашы славутыя землякі». Дарэчы, сёння многія ўжо і не ведаюць, што яна была міжвыдавецкай: да гэтай важнай справы спрычынілася і выдавецтва «Полымя», таксама, на жаль, былое. Праўда, хоць серыя была і адна, але афармленне яна мела рознае. Аднак папоўнілася перш за ўсё менавіта кніжачкамі аб'ёмам да чатырох улікова-выдавецкіх аркушаў у вокладцы сталёвага колеру, што выдавала «Навука і тэхніка».

Цяпер гэтую серыю і ў тым жа афармленні працягвае выпускаць выдавецтва «Тэхналогія». Калі хто забыўся, дык нагадаю: першынцам у серыі «Нашы славутыя землякі» стала кніга В. Грыбоўскага, В. Гапоненкі і У. Кісялёва «Прафесар электраграфіі і магнетызму», што пабачыла свет у 1988 годзе, а героем яе быў Якуб Наркевіч-Ёдка, які першым у свеце стварыў правобраз радыёпрыёмніка. Так, Я. Наркевіч-Ёдка, а не Аляксандр Папоў, як гэта афіцыйна лічыцца. Ужо гэтага факта дастаткова, каб упэўніцца ў тым, наколькі неардынарныя людзі нарадзіліся на беларускай зямлі. Але калі Я. Наркевіч-Ёдка, па сутнасці, быў вернуты з небыцця, дык іншыя, пра каго расказваецца ў серыі «Нашы славутыя землякі», а колькасць іх складае ўжо не адзін дзясятак, не сказаць, каб з'яўляліся невядомымі. Тым не менш, аматары даўніны з нецярпеннем чакаюць кожную новую кнігі. Чаму? Канечне, у першую чаргу таму, што нават пра тых, пра каго чуў нямала, абавязкова даведаешся нешта. Дый яшчэ таму, што матэрыял падаецца даходліва, кніжкі

багата ілюстраваныя. Істотна таксама і тое, аўтары гэтых кніжак — людзі аўтарытэтныя і дасведчаныя, якім ёсць што сказаць.

Праўда, не адмаўляючы значнасці кніжак «Нашы славутыя землякі», трэба сказаць, што летась у іх з'явіўся сур'ёзны канкурэнт — серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры». Гэта новы выдавецкі праект Інстытута беларускай гісторыі і культуры і выдавецтва «Харвест», а заснавальнікам, каардынатарам і рэдактарам серыі з'яўляецца Анатоль Тарас, які апошнім часам плённа даследуе шмат якія моманты нацыянальнай гісторыі, надаючы вялікую ўвагу тым з іх, у ацэнцы якіх існуюць розныя погляды, а таксама не абыходзіць сваім позіркам тое, што патрапляе пад вызначэнне «белыя плямы». Мяркуецца, што ў серыі будуць прадстаўлены імёны тых дзеячаў культуры, літаратуры і мастацтва XIX — XX стагоддзяў, якія не проста плённа працавалі, пакінуўшы пасля сябе глыбокі след, а «ўвасаблялі нацыянальныя погляды на гісторыю, літаратуру, выяўленчае мастацтва, народную і прафесійную культуру».

Ужо выйшла пятнаццаць кніжак, аб'ём якіх, праўда, у параўнанні з тымі, што папаўняюць серыю «Нашы славутыя землякі», удвая меншы. Толькі, думаецца, гэта не істотна. Куды важней іншае: наколькі новая кніжная бібліятэчка адпавядае свайму прызначэнню. Дакладней сказаць, ці дазваляюць выданні яе ўбачыць, як кажуць, у поўны рост постаці тых, пра каго расказваецца. Адказ можа быць толькі адзін, прытым такі, які не можа не радаваць. Гэта той выпадак, калі сцісласць выкладання матэрыялу ніколькі не шкодзіць глыбокаму спасціжэнню жыцця і творчасці, дзейнасці пэўнага дзеяча беларускай культуры.

Гэта добра відаць з першых ужо дзвюх кніг, якія і пачалі серыю: «Беларускі мастак з Вільні» Вітаўта Чаропкі і «Бацька беларускай гісторыяграфіі» Анатоля Тараса, у якіх расказваецца адпаведна пра Міхала Андрыёлі і Мітрафана Доўнар-Запольскага. Абедзве фігуры, як вядома, для Беларусі знакавыя. І абодва гэтыя дзеячы зноў жа, не сказаць, каб былі на слыху многіх. Самае цікавае, што гэта ў аднолькавай ступені тычыцца, як М. Андрыёлі, які жыў і тварыў у XIX стагоддзі, так і М. Доўнар-Запольскага, які, хоць родам і з XIX стагоддзя, але плённа працаваў і ў XX. У асобных выпадках пра М. Доўнар-Запольскага вядома нават менш, чым пра М. Андрыёлі.

Імкнучыся ліквідаваць гэты прабел, А. Тарас уважліва прагледзеў многія крыніцы, у выніку чаго ў ягонай кніжцы і з'явілася інфармацыя, якая дазваляе даведацца пра М. Доўнар-Запольскага нямала такога, што, безумоўна, з'яўляецца выйгрышным, бо яшчэ больш прыцягвае ўвагу чытача пра асобу таго, пра каго ідзе гаворка. У кніжцы ж В. Чаропкі выйгрышны момант звязаны з расказам пра тое, як М. Андрыёлі ў свой час афармляючы кнігі многіх пісьменнікаў (ягонымі лепшымі ілюстрацыямі лічацца тыя, што зроблены да «Пана Тадэвуша» Адама Міцкевіча) не абмінуў і раман Фенімора Купера «Апошні з магікан», выканаўшы за чатыры месяцы да яго ажно 150 малюнкаў. Як сведчыць В. Чаропка, «Андрыёлі не проста дапоўніў тэкст ілюстрацыямі, але стварыў візуальны свет рамана. Нават не чытаючы кнігі можна па ілюстрацыях адчуць атмасферу рамана». Што ж: ведай «нашых»!

Дарэчы, і Алесь Марціновіч расказваючы пра Рыгора Шырму («З песняй праз усё жыццё») ва ўступе заінтрыгоўвае чытача: «… не было б Р. Шырмы, не з'явіўся б і лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР Г. Траяпольскі (аўтара вядомай аповесці «Белы Бім Чорнае вуха», якая разам з аднайменным мастацкім фільмам зрабіла Гаўрыіла Мікалаевіча знакамітым на ўвесь Савецкі Саюз. — **Я. Р.**). Наконт гэтага Гаўрыіл Мікалаевіч у 1967 годзе прама сказаў: «Наўрад ці стаў бы я пісьменнікам, калі б не сустрэў у жыцці Рыгора Раманавіча». Г. Траяпольскі назваў Р. Шырму «святлом свайго юнацтва». Як сведчыць А. Марціновіч, «сышліся ж жыццёвыя

шляхі Р. Шырмы і Г. Траяпольскага ў 1919 годзе, калі Рыгор Раманавіч настаўнічаў у сяле Навагольскае Навахапёрскага павета Варонежскай губерні. Там ён арганізаваў школу II ступені. Адным з вучняў яе стаў будучы пісьменнік Г. Траяпольскі». Р. Шырма быў першым настаўнікам літаратуры Г. Траяпольскага.

Што ні кніжка серыі «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры» — гэта расказ пра тых, хто на нацыянальным небасхіле ззяе зоркай першай велічыні. Як скажам, Фларыян Ждановіч. Свой аповед пра яго Алесь Мінскі назваў так, што адразу відаць, кім быў, як і ў выпадку з М. Доўнар-Запольскім, Фларыян Паўлавіч — «Творца беларускага тэатра». Як працаваў ён, чаго дасягнуў, а што і не паспеў зрабіць, бо ў 53 гады загінуў у сталінскіх засценках, і можна даведацца з гэтай кніжкі, якая, як і іншыя выданні серыі, добра ілюстравана, што дазваляе яшчэ глыбей і лепш спасцігнуць і жыццё самога Ф. Ждановіча, і тое, што стала справай ягонага жыцця, а, увогуле, і паспрыяла таму, што яму вечна жыць у памяці народнай.

Сярод тых, пра каго ўжо расказала серыя, — Ігнат Буйніцкі, Уладзіслаў Галубок, Карусь Каганец, Мечыслаў Карповіч, Напалеон Орда, Цётка (Элаіза Пашкевіч), Ігнат Канчэўскі, Яўхім Карскі, Вацлаў Ластоўскі, Міхаіл Пташук, Уладзіслаў Сыракомля. Акрамя згаданых аўтараў над кніжкамі працавалі Анатоль Валахановіч, Ірына Шумская, Алесь Тамковіч і іншыя. Наперадзе ж яшчэ 85 кніг пра выдатных дзеячаў беларускай культуры, прозвішчы пераважнай большасці якіх загадзя названы. Я далёкі ад думкі, што ўсе гэтыя імёны будуць сустрэты адназначна. Камусьці падасца, што нехта трапіў у прапанаваны спіс выпадкова. Хтосьці палічыць, што абыдзены ўвагай тыя, хто заслугоўвае першапачатковай увагі. Што наконт гэтага сказаць? Правільнай, здаецца, будзе такая выснова. Усё ж нешта рабіць куды больш значна, чым нічога не рабіць, а проста спрачацца. Галоўнае, што робіцца добрая справа, за што застаецца сказаць толькі дзякуй і А. Тарасу і выдавецтву «Харвест». А наконт пажаданняў?

Чаму б якому-небудзь іншаму выдавецтву не ўзяцца за ажыццяўленне ў нечым падобнага праекта. Скажам, адно з іх распачне выпуск серыі «100 выдатных беларускіх жанчын», другое — «100 выдатных гістарычных і дзяржаўных дзеячаў». Якую хочаш серыю можна прыдумаць, было б толькі жаданне. Канечне, можа стацца і так, што некаторыя прозвішчы стануць пераклікацца. Дый што з гэтага?! Выйсце ж простае: пра іх змогуць напісаць іншыя аўтары. Па-свойму раскажуць, магчыма, і з прыцягненнем фактаў, што не названы ў серыі «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры». Таму, яшчэ раз ухваляючы з'яўленне гэтай серыі, так і хочацца запытацца, якое яшчэ выдавецтва гатова праявіць добрую ініцыятыву па вяртанні нацыянальнай памяці праз лёсы знакамітых сыноў і дачок Беларусі?